

Беларускі інстытут навукі й мастацтва



Бібліятэка Бацькаўшчыны
Міжнароднае грамадскае аб'яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 33

**Наталля Гардзіенка**
**Лявон Юрэвіч**

# Хронікі БІНіМу

Гісторыя
Беларускага інстытуту навукі і мастацтва
ў дакументах, лістах і ўспамінах

Пад наглядам і з каментаваннем доктара
*Вітаўта Кіпеля*

Мінск
«Кнігазбор»
2017

УДК 008(=161.3)(73)
ББК 71(4Беи)
Г20

*Серыя «Бібліятэка Бацькаўшчыны»*
*заснаваная МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» ў 2004 годзе*

**Гардзіенка Н., Юрэвіч Л.**

Г20 Хронікі БІНіМу : Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў дакументах, лістах і ўспамінах / Н. Гардзіенка, Л. Юрэвіч; прадм. В. Кіпель. — Мінск : Кнігазбор, 2017. — 352 с. : іл. (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 33).

ISBN 978-985-7180-34-9.

Кніга Наталлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча “Хронікі БІНіМу” — 33-я ў серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” — прысвечаная 65-гадовай гісторыі Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Пра дзейнасць аднаой з найстарэйшых існых сёння эміграцыйных інстытуцый распавядаюць лісты, успаміны, пратаколы і іншыя дакументы з архіваў двух старшыняў — Вітаўта Тумаша і Вітаўта Кіпеля. Праблемы і дасягненні БІНіМу, умовы працы і роля асобаў — усё гэта знайшло сваё адлюстраванне ў кнізе, дапоўненай бібліяграфіяй альманаху “Запісы” і біяграфічным даведнікам.

**УДК 008(=161.3)(73)**
**ББК 71(4Беи)**

**ISBN 978-985-7180-34-9**

# Пачынаем збіраць<br>інтэлектуальна-даследчую спадчыну

Беларуская нацыянальная творчая думка, скаваная цэнзурна-бюракратычнымі путамі Расейскай імперыі, аддаўна імкнулася *“прабіцца”* ў шырокі свет ды заявіць, што рэгіён у цэнтры Еўропы, часта безназоўны, а ў найлепшым выпадку званы *“Северо-Западный край”*, патрабуе даследавання: *“край балот”* багаты на гістарычныя падзеі, мае ўнікальную этнаграфію, багатую мову і г. д.

Аднак прабівацца, заяўляць пра сябе было няпроста і нялёгка! На нашую думку, толькі па з’яўленні ў 1904 годзе ў лонданскім часопісе *“The Anglo-Russian”* артыкулу-аналізу Гэб. Палісандра аб стане рэгіёну, эканамічна-культурным профілі краю пасля падзелаў і захопу ліцвінска-беларускіх тэрыторыяў Вялікага Княства Літоўскага Расеяй, на Захадзе пачалі публікаваць артыкулы-даследаванні пра культуру, пісьменнасць г. зв. *“Северо-Западного края”*, ці Літвы-Беларусі ў мінулым.

Зацікаўленне рэгіёнам значна ўзмацнілася пасля падзеяў 1917–1918 гадоў ды стварэння дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі. З’явіліся глыбейшыя аналітычныя артыкулы ў нямецкай, французскай ды англійскай мовах.

Эмігранты, згрупаваныя ў Празе, таксама ладна спрычыніліся да даследаванняў.

Даследча-творчы інфармацыйны аспект нагэтулькі ўзняўся, што па Другой сусветнай вайне, у пачатку 1950-х гадоў, у ЗША быў створаны Беларускі інстытут навукі і мастацтва, асноўным заданнем-планам якога было вывучэнне Беларусі — эміграцыі ды тэмаў, якія не вывучаліся (рэлігія), фальшаваліся (гісторыя) у БССР. Планавалі таксама ў Інстытуце ў меру магчымасці рэгістраваць усю замежную беларусіку. Наваствораная арганізацыя, у скароце БІНіМ, згуртавала па-над сотню навукоўцаў, і праца, як кажуць, *“паехала”*! Дзейнасць БІНіМу адлюстроўвалася ў яго органе: “Запісах” (выдаецца з 1952 года).

Пастугова пачалі супрацоўнічаць з БІНіМам даследчыкі, маладзейшыя навукоўцы з Бацькаўшчыны. Да пачатку 1990-х гадоў БІНіМ

апублікаваў тысячы старонак новых даследаванняў, навязаў лучнасць з соткамі амерыканскіх установаў, каледжаў, бібліятэк, універсітэтаў. Але! Як пісала Наталля Арсеннева, першы і доўгагадовы сакратар БІНіМу, *"час няўмольны"* — пакаленне пачынальнікаў адыходзіла. Іх падмянялі новыя пакаленні — новыя планы, цяснейшае супрацоўніцтва з Бацькаўшчынаю.

Паступова БІНіМ стаўся агульнабеларускай (г. зн. дыяспарна-метрапольнай) арганізацыяй.

Чытачу прапаноўваецца першая гісторыя развіцця даследчыцкай, творчай думкі ў дыяспары: дзеячы тае эпохі, дакументы, імкненні-крокі БІНіМу да працы на карысць Беларусі ды супрацоўніцтва з Бацькаўшчынаю. Спадзяемся, што гісторыя Інстытуту будзе пісацца і надалей, будуць ствараццa новыя працы, доследы, будуць знаходзіцца новыя дакументы — у творчай працоўнай еднасці дыяспары і метраполіі, — што будзе заснаваны Беларускі навукова-даследчы архіўны фонд, адзіны для ўсёй нацыі[1].

*Вітаўт Кіпель,*
*старшыня Беларускага інстытуту навукі і мастацтва*

[1] З увагі на дакументальны характар наступных тэкстаў кнігі ў іх захаваны арыгінальны класічны беларускі правапіс.

# Раньнія навукова-дасьледчыя беларускія арганізацыі на эміграцыі

Арганізацыйнае аб'яднаньне беларускае эміграцыі пачынаецца ў першай чвэрці XX ст., калі зь Беларусі выяжджаюць сьведамыя беларускія дзеячы: Аляксандар Сянкевіч, Сьцяпан Бубешка, крыху пазьней — Іван і Антон Чарапукі, Язэп Варонка, а. Ян Тарасэвіч ды шэраг іншых. Гэтак паўсталі грамадзкія, палітычныя ды культурна-дасьледчыя арганізацыі эмігрантаў у ЗША, Празе, Францыі, Нямеччыне.

У Вялікай Брытаніі ў Ньюнэм-каледжы Кеймбрыдзкага ўнівэрсытэту ўтварыўся гурток, які Гай Пікарда[2] назваў "Кеймбрыдзкай хеўрай". У гэтым аб'яднаньні, што складалася пераважна з ангельскай арыстакратыі, брала ўдзел Алена Іваноўская[3], сястра Вацлава Іваноўскага[4]. Удзельнікі суполкі, трэба разумець, пад яе ўплывам, цікавіліся

2 **Гай Пікарда** (фр. *Guy Reginald Pierre Picarda*, 1931–2007), беларусіст, музыказнаўца, юрыст. У Лёндане пазнаёміўся з а. Чеславам Сіповічам, а разам з тым і зь беларускай музыкай, культурай ды гісторыяй і заняўся беларусістыкай. У канцы 1950-х адправіўся з экспэдыцыяй на Падляшша, дзе зьбіраў старажытныя беларускія царкоўныя сьпевы. Актыўны сябра Англа-беларускага таварыства. Дапамагаў у арганізацыі беларусаведных лекцыяў, выданьні *"The Journal of Byelorussian Studies"*, стварэньні Беларускага музэю ў Лёндане й пашырэньні фондаў бібліятэкі.

3 **Алена Іваноўская** (у шлюбе *Скіндарова*, 1885(6)–1973), сястра вядомых братоў Іваноўскіх: Вацлава, Юрыя (1876–1965), Тадэвуша (1882–1970) і Станіслава (1887–?). Каля 1905 г. прыехала на навучаньне ў Ньюнэм-каледж Кеймбрыдзкага ўнівэрсытэту. Падзеі Першай сусьветнай вайны вымусілі яе зьехаць на радзіму, дзе да 1939 г. займалася конегадоўляй. З прыходам савецкай улады Алена Іваноўская выехала зь Лябёдкі ў Вільню, адкуль у 1944 г. перабралася ў Варшаву, а далей працавала перакладніцай для місіі ангельскіх квакераў.

4 **Вацлаў Іваноўскі** (1880–1943), палітычны й грамадзкі дзеяч. Адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады, стваральнік і кіраўнік выдавецкай суполкі "Заглядне сонца і ў наша ваконца" ў Пецярбурзе. У 1918 г. быў міністрам асьветы ва ўрадзе БНР А. Луцкевіча. У 1920 г. як упаўнаважаны Найвышэйшай Рады БНР удзельнічаў у беларуска-польскіх перамовах, імкнуўся перадухіліць падзел Беларусі, выступаў за стварэньне фэдэрацыі Польшчы й Беларусі. Пасьля Рыскага міру жыў у Польшчы, займаўся выкладчыцкай дзейнасьцю ў Варшаўскім політэхнічным інстытуце. У 1939–1942 гг. жыў у Вільні, у 1942 г. быў прызначаны на пасаду бурмістра гораду Менску. Кіраваў Беларускай народнай самапомаччу.

беларускім фальклёрам, а адзін зь іх, Рупэрт Брук[5], напісаў п’есу “Літва”, падзеі якой адбываюцца ў сялянскай хаце блізу Магілёва.

Затрымаемся на арганізацыях навукова-дасьледчага профілю — фактычна, папярэдніцах Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.

У траўні 1925 г. у Празе створанае *Беларускае (крывіцкае) культурнае таварыства імя Францішка Скарыны*, якое ўзначаліў гісторык Мікола Ільляшэвіч. Адным зь сябраў Таварыства быў студэнт Праскага ўнівэрсытэту Ян Станкевіч, што пазьней дало яму падставу сьцьвярджаць, нібыта заснаванае зь ягонае ініцыятывы ў Рэгенсбурзе ў 1946 г. Навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны ёсьць працягам праскага Таварыства імя Францішка Скарыны.

У той жа Празе ў 1927 г. быў арганізаваны *Беларускі навуковы кабінэт*, кіраўніком якога стаўся Тамаш Грыб.

Праз год там жа быў створаны *Беларускі замежны архіў*. Заснавальнікам і кіраўніком Архіву быў Мікола Вяршынін.

Гэтыя тры арганізацыі запачаткавалі па-за Беларусьсю навукова-дасьледчую ды бібліяграфічна-ўліковую дзейнасьць у беларусаведзе. Колькасьць сябраў тых арганізацыяў у розных крыніцах падаецца па-рознаму, ад 50 да больш як 100 чалавек.

Лідэрам зьбіраньня беларусікі, наладжваньня бібліяграфічнага ды інфармацыйнага банку за мяжой стаўся Беларускі замежны архіў, які пасьля сьмерці Міколы Вяршыніна ачоліў Тамаш Грыб. Грыб меў шырокія стасункі зь іншымі эміграцыйнымі дзеячамі й арганізацыямі ды праз свае ўнівэрсытэцкія кантакты трымаў сувязь з такімі дасьледнікамі беларусікі, як, прыкладам, Рэнэ Мартэль[6] ды Барыс Унбэгаўн[7].

Іншых арганізацыяў навукова-дасьледчага профілю па-за Беларусьсю перад Другой сусьветнай вайной не было, хоць, паводле сьведчаньня Станіслава Грынкевіча, гутаркі пра стварэньне гэткай суполкі вяліся ў Бэрліне падчас вайны.

---

[5] **Рупэрт Брук** (анг. *Rupert Brook*, 1887–1915), ангельскі паэт. Вучыўся ў Каралеўскім каледжы ў Кеймбрыджы. Стаў вядомы ідэалістычнымі ваеннымі санэтамі часу Першай сусьветнай, хоць не пасьпеў паўдзельнічаць у ніводнай бітве.

[6] Маецца на ўвазе аўтар адной зь першых кніг пра Беларусь у францускай мове: Martel, René. Les Blancs-Russes, etudes historique, géographique, politique at économique. Paris, 1929. — 174 p.

[7] **Барыс Унбэгаўн** (расейск. *Борис Унбегаун*, 1898–1973), расейскі лінгвіст і філёляг нямецкага паходжаньня, спэцыяліст у славянскіх мовах. Удзельнік Белага руху. Выкладаў ва ўнівэрсытэтах Францыі, Вялікай Брытаніі й ЗША. Закранаў у сваіх працах і беларускую тэматыку.

# Арганізацыя дасьледчай працы па Другой сусьветнай вайне

У выніку падзеяў Другое сусьветнае вайны значная колькасьць беларусаў, як і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў з тэрыторыяў СССР, Польшчы, балтыйскіх краінаў, апынулася ў Заходняй Эўропе. Для іх быў створаны адмысловы тэрмін: Ды-Пі (ад анг. *displaced person* — ‘перамешчаная асоба’). Гэтых уцекачоў узялі пад апеку спачатку вайсковыя ўлады, потым *UNRRA*[8]. Людзей разьмясьцілі ў шматнацыянальных лягерах. Нацыянальна арыентаваная інтэлігенцыя арганізоўвала ў лягерах школы, тэатры, літаратурныя суполкі, выдавала пэрыёдыкі, стварала ўласную адміністрацыю. Найбольш беларусаў было ў амэрыканскай і ангельскай акупацыйных зонах, а таму там зьявілася некалькі ўласнабеларускіх лягераў.

У горадзе Рэгенсбурзе, дзе зь лета 1945 г. працавалі беларускія арганізацыі, сканцэнтравалася інтэлігенцыя: было шмат настаўнікаў, інжынэраў, па-над дзясятак дактароў ды наагул асобаў з вышэйшай адукацыяй савецкіх, польскіх і заходнеэўрапейскіх унівэрсытэтаў. Таму акурат у Рэгенсбурзе ў 1945 г. паўстаў *Беларускі народны ўнівэрсытэт*, які ачолілі доктар Янка Станкевіч, Антон Адамовіч, доктар Аляксандар Багдановіч, прафэсар Сяргееў. Акрамя таго, прыяжджалі выкладчыкі зь Мюнхэну й Аўгсбургу. Заняткі адбываліся ў памяшканьнях беларускага селішча, а таксама ў галоўным будынку *UNRRA*, дзе месьцілася *Беларуская гімназія.* Адмыслоўцы чыталі лекцыі з гісторыі, мовы, этнаграфіі, грамадазнаўства. Праўда, пасьля зімовага сэзону 1946–1947 гг. Беларускі народны ўнівэрсытэт не аднавіў сваіх лектарскіх праграмаў.

У Бэрліне 5 студзеня 1945 г. была створаная пісьменьніцкая арганізацыя *“Шыпшына”* пад кіраўніцтвам Юркі Віцьбіча. Ваенныя падзеі не дазволілі згуртаваньню хоць неяк праявіцца, але крыху больш як праз год, 9 красавіка 1946 г., суполка аднавілася ў Рэгенсбурзе й пачала выдаваць аднайменны часопіс (1946–1950).

---

[8] ***UNRRA, United Nations Relief and Rehabilitation Administration*** — Адміністрацыя ААН дзеля дапамогі і рэабілітацыі. Міжнародная арганізацыя апекі над насельніцтвам вызваленых ад нямецкіх войскаў тэрыторыяў. Створаная на прапанову прэзыдэнта ЗША Фрэнкліна Рузвэлта ў 1943 г., займалася пераважна падтрыманьнем уцекачоў, апекавалася лягерамі бежанцаў і г. д. У Эўропе спыніла дзейнасьць у 1947 г., калі клопат пра ўцекачоў пераняла *IRO*. У Азіі працягвала працаваць да 1949 г.

У чэрвені 1946 г. тамсама было закладзенае *Крывіцкае (беларускае) навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны.* Пры канцы 1940-х гг. Таварыства перамясьцілася ў ЗША разам з большаю часткаю яго сябраў.

У 1946 г. у беларускім лягеры Міхэльсдорф стварылі *Таварыства беларускіх настаўнікаў.*

У Марбурзе ў 1947 г. арганізавалі прафэсійнае мэдычнае *Аб’яднаньне беларускіх лекараў на чужыне*, на чале якога стаў доктар Вітаўт Тумаш. Таварыства выдавала часопіс “Мэдычная Думка”.

На пачатку 1950-х гг. у Мадрыдзе стварылі *Інстытут імя Лява Сапегі* — установу для беларускіх дасьледаваньняў, дзейнасьць якой, аднак, спынілася пасьля друку некалькіх публікацыяў, пераважна адозваў.

## Мюнхэнскі інстытут вывучэньня СССР

На пачатку 1950-х гг. пры фінансавым падтрыманьні Амэрыканскага камітэту вызваленьня ад бальшавізму[9] ў Мюнхэне пачала працаваць значная навуковая ўстанова: Інстытут вывучэньня гісторыі й культуры СССР.

Дзейнасьць гэтай установы да нядаўняга часу была дасьледаваная мала. Зьяўляліся асобныя артыкулы, пераважна расейскіх аўтараў (А. Папова, Д. Канстанцінава[10]), ды ў 1990 г. у Пітсбурскім унівэрсытэце амэрыканскі навуковец Чарлз О’Конэл абараніў дысэртацыю “Мюнхэнскі інстытут вывучэньня СССР. Паходжаньне й сацыяльны склад”[11], прысьвечаную, праўда, выключна часу стварэньня ўстановы. Пры гэтым варта адзначыць прынцыповую розьніцу ў пагля-

[9] **Амэрыканскі камітэт вызваленьня народаў Расеі** (з 1953 г. — **Амэрыканскі камітэт вызваленьня ад бальшавізму**) быў заснаваны на ініцыятыву Дзярждэпартамэнту ЗША як прыватная ўстанова ў штаце Дэлаўэр. Галоўнай задачай арганізацыі было стварэньне каардынацыйнага цэнтру змаганьня народаў СССР супраць бальшавікоў.

[10] Попов, А. Мюнхенский институт по изучению истории и культуры СССР и вторая волна эмиграции // Новый исторический вестник. № 1 (10). Москва, 2004. С. 54–70; Константинов, Дмитрий. Мюнхенский институт (Из истории второй российской политической эмиграции) // Константинов, Дмитрий. Через туннель XX столетия / Под ред. А. В. Попова, В. С. Карпова. Москва, 1997. С. 537–559.

[11] O’Connel, Charles T. The Munich Institute for the Study of the USSR. Pitsburg, 1990. — 46 p.

дах на паўстаньне цэнтру з боку расейскіх і амэрыканскага аўтараў. Першыя даводзілі, што Інстытут вывучэньня гісторыі й культуры СССР быў арганізаваны выключна з ініцыятывы расейскіх навукоўцаў, а амэрыканскія спонсары, што зьявіліся пазьней, спакваля падпарадкавалі сабе дзейную ўстанову ды ўрэшце вызначылі яе лёс. Амэрыканскі ж дасьледнік, выкарыстоўваючы сярод іншага й архівы *CIA* (*Central Inteligence Agency*), якая мела непасрэднае дачыненьне да працы Амэрыканскага камітэту, даводзіць, што стварэньне Інстытуту заініцыявалі амэрыканцы, найперш каб падтрымаць праект Цэнтру расейскіх дасьледаваньняў Гарвардзкага ўнівэрсытэту дзеля зьбіраньня сьведчаньняў уцекачоў з СССР[12]. Прамежкавую пазыцыю займае Яўген Кодзін, аўтар адзінай на сёньня цэласнай манаграфіі, прысьвечанай Мюнхэнскаму інстытуту. У сваёй працы ён адзначае, што ініцыятыва сапраўды належала прадстаўнікам расейскай эміграцыі, але без падтрыманьня з боку “Гарвардзкага праекту” задума фактычна ня мела шанцаў на рэалізацыю[13].

Мюнхэнскі інстытут быў заснаваны 8 ліпеня 1950 г. Абдурахман Аўтарханаў (у той час Аляксандар Кунта)[14], адзін з стваральнікаў, наступным чынам апісваў ажыцьцяўленьне гэтай ініцыятывы (і гэта адпавядае высновам Кодзіна):

*“Калі да мяне ў Рэгенсбург прыехаў зь Мюнхэну Барыс Аляксандравіч Якаўлеў*[15] *(Троіцкі), тагачасны кіраўнік Уласаўскай арганізацыі, з прапановай стварыць супольна эміграцыйны Інстытут вывучэньня СССР, я адразу даў згоду быць адным зь яго заснавальнікаў.*

*Устаноўчы сход адбыўся ў 1950 г. у Богенгаўзэне ў расейскай бібліятэцы. Нас было некалькі былых савецкіх навуковых працаўнікоў — Якаўлеў,*

---

[12] O’Connel, Charles T. The Munich Institute for the Study of the USSR... P. 3–10.

[13] Кодин, Евгений. Мюнхенский институт по изучению СССР, 1950–1972 гг.: европейский центр советологии. Смоленск, 2016. С. 16–17.

[14] **Абдурахман Аўтарханаў** (расейск. *Абдурахман Авторханов*, 1908–1997), гісторык-саветоляг, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч, доктар палітычных навук, ганаровы грамадзянін Чачэна-Інгушэціі. Адзін з заснавальнікаў Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне, а таксама Паўночнакаўкаскага антыбальшавіцкага нацыянальнага аб’еднаньня й ягонага часопісу “Паўночны Каўказ”. Арганізатар Паўночнакаўкаскай рэдакцыі радыё “Вызваленьне”.

[15] **Барыс Якаўлеў** (сапр. расейск. *Николай Троицкий*, 1903–2011), расейскі інжынэр, архітэктар, празаік, палітычны дзеяч, бібліятэкар. Ініцыятар стварэньня й першы кіраўнік Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне. З 1955 г. жыў у ЗША. Аўтар працы *“Концентрационные лагери СССР”* (1955).

*праф. К. Штэпа*[16]*, праф. А. Філіпаў*[17]*, праф. К. Крыптан*[18]*, праф. Німан*[19]*, палкоўнік Генэральнага штабу Савецкай арміі Няранін*[20] *і аўтар гэтых радкоў. Мы ўзьнёсла абвесьцілі сябе “Інстытутам вывучэньня гісторыі й культуры СССР”. Абралі дырэктарам Б. А. Якаўлева, намесьнікам дырэктара А. Аўтарханава й навуковым сакратаром В. Марчанку*[21]*. Пазь-*

[16] **Канстанцін Штэпа** (укр. *Кость Штепа*, 1896–1958), украінскі гісторык, дасьледнік і выкладчык антычнай гісторыі й культуры, рэлігійнай гісторыі, клясычнай філялёгіі. Адзін з заснавальнікаў Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне. З 1952 г. жыў у ЗША. Аўтар працаў: *“Нариси з історії античної й християнської демонології”* (1926), *“Проблеми античного релігійного синкретизму в зв’язку з мотивами староукраїнської легендарної творчості”* (1927), *“Russian Historians and the Soviet State”* (1962) і інш.

[17] **Аляксандар Філіпаў** (расейск. *Александр Филипов*, 1891–1967), украінскі дасьледнік-саветоляг. Выпускнік юрыдычнага і фізыка-матэматычнага факультэтаў Харкаўскага ўнівэрстытэту. Працаваў ва Ўкраінскай псыханэўралягічнай акадэміі й Харкаўскім мэдычным інстытуце. У 1944–1945 гг. — прафэсар сацыялёгіі ў Карлавым унівэрсытэце ў Празе. Адзін з заснавальнікаў Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне. З 1952 г. жыў у ЗША.

[18] **Канстанцін Крыптан** (сапр. расейск. *Константин Молодецкий*, 1902—?), расейскі дасьледнік Арктыкі, пазьней саветоляг. У 1930-х гг. быў кіраўніком эканамічнага аддзелу Ўсесаюзнага арктычнага інстытуту ў Ленінградзе. Адзін з заснавальнікаў Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне. Пазьней жыў у ЗША. Аўтар працаў: *“Осада Ленинграда”* (1952), *“История советского образования и его изучения в США”* (1978) і інш.

[19] **Юры Німан** (сапр. расейск. *Игорь Боголепов*, 1902(04)—1977), расейскі дасьледнік-саветоляг. У 1930-х працаваў у Інстытуце сусьветнай гаспадаркі й палітыкі Акадэміі навук СССР, пазьней — ва Ўсесаюзным радыёкамітэце. Пасьля вайны стаў адным з заснавальнікаў Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне. Аўтар кнігі *“В отмщение за Мадрит: Мемуары жертв холодной войны”* (1977).

[20] **Андрэй Няранін** (пасьля вайны — *Михаил Алдан*, 1902–1957), расейскі вайсковец, удзельнік Уласаўскага руху, адзін з кіраўнікоў Саюзу барацьбы за вызваленьне народаў Расеі. Адзін з заснавальнікаў Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне. З 1953 г. жыў у ЗША. Аўтар кнігі *“Армия обречённых”* (1969).

[21] **Васіль Марчанка** (1903–1974), дасьледнік-саветоляг украінскага паходжаньня, грамадзкі дзеяч. У даваенны час быў працаўніком Інстытуту эканомікі Ўкраінскай акадэміі навук. Стаў адным з заснавальнікаў Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне, выконваў функцыі сакратара. У 1952 г. выехаў у Канаду. Аўтар працаў: *“Планирование научной работы в СССР: на примере Украинской академии наук”* (1953), *“Soviet population trends (1926–1939)”* (1953), *“Основные черты хозяйства послесталинской эпохи”* (1959) і інш.

*ней да нас далучыліся праф. Мілер*[22]*, праф. Каванкоўскі*[23]*, праф. Буданаў*[24]*, праф. Іваноў*[25]*, праф. Даўлетшын*[26]*, доктар Шульц*[27]*. Зразумела, не было ў нас ні памяшканьня для Інстытуту, ні капейкі грошай, ні высокага апекуна ці багатага мэцэната. Было толькі невымернае й шчырае жаданьне распавесьці Захаду пра тэорыю й практыку савецкай сыстэмы, якую Захад дасюль ведаў толькі паводле савецкіх кніг, часопісаў ды газэтаў. Была ў нас і непрыхаваная надзея, што калі мы ўласнымі намаганьнямі*

---

[22] **Міхайла Мілер** (укр. *Михайло Міллер*, 1885—1968), украінскі гісторык, археоляг. У 1930-х — прафэсар Растоўскага ўнівэрсытэту. З 1946 г. — сябра Ўкраінскай вольнай акадэміі навук. Быў вучоным сакратаром Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне. Аўтар працаў: *"Археология в СССР"* (1954), *"Дон и Приазовье в древности"* (1958—1961), *"Первобытный период в истории Нижнего Днепра (до появления железа)"* (1965) і інш.

[23] **Пятро Каванькоўскі** (укр. *Петро Коваськівскій*, 1876—?), украінскі эканаміст, дасьледнік-саветоляг. З 1919 г. — доктар фінансавага права. Выкладаў у Кіеўскім унівэрсытэце, Кубанскім політэхнічным інстытуце. З 1948 г. — сябра Ўкраінскай вольнай акадэміі навук. Быў працаўніком Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне. Аўтар працаў: *"Финансы СССР во вторую мировую войну"* (1951), *"Финансы СССР после второй мировой войны (в сравнительном освещении)"* (1954), *"Бюджет СССР (Историко-критический обзор)"* (1956).

[24] **Якаў Буданаў** (укр. *Яків Буданов*, 1897—1988), украінскі эканаміст, дасьледнік-саветоляг. Да вайны быў прафэсарам машынабудаўніцтва і эканомікі ў Харкаве. Сябра расейскай эміграцыйнай арганізацыі *Народно-трудовой Союз* (НТС). Працаўнік Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне. Аўтар працаў: *"Система коммунистического властвования"* (1951), *"Technical institutes in the USSR"* (1952) і інш.

[25] Магчыма, маецца на ўвазе працаўнік Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне Б. Іваноў, які з 1955 г. стаў рэдактарам выданьня *"Вестник Института по изучению истории и культуры СССР"*.

[26] **Тамурбек Даўлетшын** (1904—1983), татарскі гісторык, правазнаўца, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Казанскім і Маскоўскім унівэрсытэтах, займаўся навуковай і выкладчыцкай дзейнасьцю, быў кіраўніком юрыдычнага аддзелу Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Татарскай АССР. Пасьля вайны жыў у Мюнхэне. Адзін з стваральнікаў і кіраўнікоў Татарска-башкірскага нацыянальнага камітэту (1947—1953). Быў працаўніком Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне. Аўтар працы *"Советский Татарстан: теория и практика ленинской национальной политики"* (1974).

[27] **Генадзій (Генрых) Шульц** (укр. *Геннадій Шульц*, 1907—1992), украінскі лекар-эпідэміёляг нямецкага паходжаньня. Скончыў Кіеўскі мэдычны інстытут. У 1930-х займаўся навуковай і выкладчыцкай дзейнасьцю на Данбасе, у Кіеве й Харкаве: быў загадчыкам хімічна-біялягічнай лябараторыі, эпідэміёлягам, кансультантам санітарнай станцыі, сябрам Цэнтральнага санітарна-тэхнічнага савету пры Народным камісарыяце аховы здароўя УССР і інш. Пасьля вайны апынуўся ў Мюнхэне, стаў працаўніком Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР, а ў 1959—1972 гг. быў яго дырэктарам. Аўтар працы *"Санитарная и противо-эпидемическая работа в СССР"* (1951).

*пачнем рабіць нешта карыснае й патрэбнае для разуменьня савецкага мінулага й сучаснасьці, то зьявіцца й мэцэнат. Сапраўды, так сталася, што стварэньне Інстытуту супала з прыездам у Мюнхэн гэтак званай “Гарвардзкай экспэдыцыі” ў справе вывучэньня савецкага грамадзтва. “Экспэдыцыя” прапанавала Інстытуту супрацу, і мы яе з энтузіязмам прынялі”*[28].

Такім чынам, Інстытут ствараўся як карпарацыя навукоўцаў, што займаліся вывучэньнем СССР. Асноўнымі кірункамі працы Рады (ці дырэкцыі) былі арганізацыя канфэрэнцыяў, выдавецкая дзейнасьць, стварэньне бібліятэкі й архіву, усталяваньне навуковых сувязяў. У кіраўніцтва ўваходзілі пераважна расейцы (за выключэньнем чачэнца Аўтарханава і ўкраінца Штэпы)[29], большай часткай удзельнікі нацыянальных расейскіх арганізацыяў на эміграцыі. З гэтага зразумела, чаму з 1951 г. фінансавую дапамогу Інстытут пачаў атрымоўваць ад Амэрыканскага камітэту вызваленьня народаў Расеі.

Установа знайшла сабе асобнае памяшканьне на Аўгустэнштрасэ 46 (*Augustenstraße*), паступова павялічваўся штат працаўнікоў. З 1951 г. праходзілі навуковыя канфэрэнцыі, што зьбіралі сотні дасьледнікаў, наладзілася выданьне *“Вестника института”*. Да 1953 г. кола карэспандэнтаў дасягнула тысячы асобаў з 48 краінаў сьвету[30]. І тым ня менш, гэтая ўстанова заставалася менавіта расейскай паводле свайго зьместу. А гэта было ня надта даспадобы нерасейскім эміграцыйным арганізацыям народаў СССР, што намагаліся наладзіць супрацоўніцтва з Амэрыканскім камітэтам. Сярод зацікаўленых была й Рада БНР. Паводле дамовы з Камітэтам менавіта Рада стала займацца падборам беларускіх працаўнікоў Інстытуту.

Пад уплывам патрабаваньняў прадстаўнікоў нерасейскіх народаў СССР 13 ліпеня 1954 г. у Мюнхэне правялі генэральную асамблею сябраў Інстытуту, прынялі новы статут і новы склад навуковай рады, дзе сярод сямі чалавек быў і адзін беларус — Станіслаў Станкевіч.

---

[28] Авторханов, Абдурахман. Мемуары. Frankfurt/Main, 1983. Цытата паводле электроннага выданьня, зьмешчанага на сайце http://www.moreandr.narod.ru/.

[29] Варта згадаць, што некалькі сябраў дырэкцыі папярэдне мелі некаторае дачыненьне да Беларусі. Гэтак, Барыс Якаўлеў у часе вайны быў у лягеры ваеннапалонных на тэрыторыі Беларусі, адкуль трапіў у Віцебск, дзе ўваходзіў у рэдкалегію акупацыйнага пэрыёдыку “За Родину”. Іншы з дырэктараў — былы савецкі вайсковы дзеяч Андрэй Нэранін — у 1930-х служыў у Мазырскім умацаваным раёне.

[30] Попов, А. Мюнхенский институт по изучению истории и культуры СССР и вторая волна эмиграции...

Рэарганізацыя адбывалася за кошт увядзеньня новых “нерасейскіх” працаўнікоў. У выніку колькасьць “нацыяналаў” у праектах установы істотна павялічылася.

Інстытут даваў магчымасьці эміграцыйным інтэлектуалам зарабляць пэўныя грошы на навуковых праектах. Газэта “Бацькаўшчына” ў 1954 г. паведамляла:

*“Важнай галінай дзейнасьці Інстытуту зьяўляецца выдаваньне стыпэндыяў на навуковыя працы на савецкія й падсавецкія тэмы. Мы ўжо адзначалі той непажаданы факт, што раней параўнальна мала Беларусаў старалася атрымаць гэтыя стыпэндыі і тым самым пасьвяціцца навуковай дзейнасьці. Гэтак на 64 стыпэндыі, што былі прызнаныя яшчэ перад успомненай асамблеяй, было толькі пяць беларускіх кандыдатаў, і ўсе яны былі Інстытутам закваліфікаваныя на стыпэндыі, а толькі адзін зь іх потым ня быў зацьверджаны амэрыканскім дарадНікам інстытуту. У вапошні мамэнт зьявілася вялікая колькасьць новых кандыдатаў на стыпэндыі, пераважна зь нерасейскіх асяродзьдзяў, у тым ліку й некалькі Беларусаў. Як даведваемся, тром Беларусам зь іх стыпэндыі ўжо прызначаныя, а заявы іншых кандыдатаў яшчэ чакаюць на разгляд Стыпэндыяльнай Калегіі Навуковай Рады. Для арыентацыі, падаём пры гэтай нагодзе аб вышыні стыпэндыяў: для ЗША і Канады — 200 амэр. даляраў у месяц, для іншых краінаў Амэрыкі і Аўстраліі — 150 дал., для Эўропы, Азіі й Афрыкі — 100 амэрыканскіх даляраў. Першы раз стыпэндыі выдаюцца толькі на тры месяцы. Але калі стыпэндысты за гэты час добра вывяжыцца з узятага на сябе заданьня, дык у далейшым стыпэндыя можа быць яму прызнаная на даўжэйшы пэрыяд часу, але не даўжэй як на адзін год”*[31].

Акрамя атрыманьня стыпэндыі, былі й іншыя магчымасьці зарабляць інтэлектуальнай працай. Гэтак, істотна пашыралася выдавецкая дзейнасьць Інстытуту, плянавалася выданьне пэрыёдыкаў на нацыянальных мовах, а таксама навуковых манаграфіяў. Паведамлялася: *“...для беларускіх навукоўцаў адкрываюцца шырокія магчымасьці друкаваньня іхных навуковых працаў, і гэта тым болей, што за надрукаваныя працы выплачваецца ганарар у разьмеры 200 ням. марак за друкаваны аркуш, а для пражываючых у Амэрыцы — 300 марак”*[32].

[31] Р.С. У Інстытуце для Вывучэньня СССР // Бацькаўшчына. № 35 (217). 26.09.1954.

[32] Тамсама.

Беларусы, як і прадстаўнікі іншых “нацыяналаў”, ад рэарганізацыі Інстытуту толькі выйгралі. Ужо да канца 1954 г. пры актыўным спрыяньні Міколы Абрамчыка й Антона Адамовіча быў створаны Беларускі аддзел, які заняўся рыхтаваньнем уласных навуковых выданьняў. Узначаліў яго радны БНР Станіслаў Станкевіч. Сталымі работнікамі Беларускага аддзелу былі выпускнікі Лювэнскага ўнівэрсытэту Аляксандар Марговіч і Паўла Урбан ды старэйшы беларускі дзеяч Сымон Кандыбовіч (Кабыш). Пазаштатна супрацоўнічалі зь Мюнхэнскім інстытутам, друкаваліся ў ягоных беларускіх выданьнях Антон Адамовіч, Мікола Куліковіч, Вацлаў Пануцэвіч, а. Леў Гарошка, Янка Станкевіч, Алесь Карповіч, Уладзімер Глыбінны, Гіпаліт Паланевіч, Ізыдар Гуткоўскі, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель ды іншыя беларусы[33].

Пад шыльдаю Мюнхэнскага інстытуту пачалі выходзіць два навуковыя пэрыёдыкі: ангельскамоўны *“Belorussian Review”*[34] ды пераважна беларускамоўны “Беларускі зборнік”[35]. У апошнім даволі часта публікаваліся беларускамоўныя варыянты ангельскамоўных публікацыяў зь першага. Аднак нельга сьцьвярджаць, што гэта былі цалкам ідэнтычныя паводле зьместу выданьні[36].

Акрамя таго, Інстытут выдаваў і паасобныя выданьні. Ці ня першым зь іх было дасьледаваньне Антона Адамовіча (падпісанае псэўданімам Н. Недасек), прысьвечанае ўсталяваньню бальшавіцкай улады ў Беларусі, што пабачыла сьвет ужо ў 1954 г.[37] Потым выйшлі іншыя працы Антона Адамовіча, у тым ліку такія ведамыя, як “Супраціў саветызацыі”[38], а таксама Вацлава Пануцэвіча, Міколы Куліковіча,

---

[33] Паводле сьведчаньня Я. Запрудніка ў лісьце да Н. Гардзіенкі ад 25.07.2011. Захоўваецца ў архіве Н. Гардзіенкі.

[34] ***“Belorussian Review”*** — ангельскамоўны альманах, які выдаваўся беларускім аддзелам Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхэне пад рэдакцыяй Станіслава Станкевіча ў 1950–1960 гг. Пабачыла сьвет 8 нумароў.

[35] **“Беларускі зборнік”** — альманах, які выдаваўся Беларускім аддзелам Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхэне пад рэдакцыяй Станіслава Станкевіча ў 1950–1960 гг. Частка матэрыялаў у перакладзе на ангельскую мову перадрукоўвалася ў *“Belorussian Review”*. Пабачыла сьвет 12 выпускаў.

[36] Падрабязьней пра зьмест пэрыёдыкаў гл.: Бібліяграфія беларускіх пэрыёдыкаў Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхене // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 439–455.

[37] Недасек, Н. Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией. Очерки истории большевизма в Белоруссии. Мюнхен,1954. — 68 с.

[38] Adamovich, A. Opposition to the Sovietization in Belorussian Literature (1917–1957). München, 1958. — 204 p.

Уладзімера Сядуры-Глыбіннага, Янкі Станкевіча, Гіпаліта Паланевіча, Паўлы Урбана й іншых беларускіх навукоўцаў[39].

Дасьледаваньні, складаньне бібліяграфіяў, клопат пра выданьні, побач з удзелам у канфэрэнцыях, былі асноўнымі кірункамі працы Беларускага аддзелу Мюнхэнскага інстытуту. Можна сьцьвярджаць, што 1955–1960 гг., калі выходзілі згаданыя беларускія пэрыёдыкі Інстытуту ды багата выдавалася беларускіх дасьледаваньняў паасобнымі выданьнямі, былі значнымі й плённымі для беларускай навукі на эміграцыі. Гэтак, цягам колькіх гадоў на пачатку 1960-х старшынём генэральнай асамблеі Інстытуту вывучэньня СССР быў Антон Адамовіч[40]. Але з пачатку 1960-х праца Беларускага аддзелу пайшла на спад. Немалую ролю тут адыграла зьмена вонкавапалітычнай дактрыны ЗША, скарачэньне фінансаваньня інстытуту й неспрыяньне ўладаў Заходняй Нямеччыны. У 1963 г. выехаў у ЗША старшыня аддзелу Станіслаў Станкевіч. У гэты час ягонаму калегу Сымону Кабышу-Кандыбовічу было 72 гады. У 1967 г. пасьля цяжкай хваробы памёр Алесь Марговіч. У 1960-х адышлі ці перабраліся ў ЗША іншыя беларусы, што супрацоўнічалі з установаю. Беларускі аддзел фактычна спыніў існаваньне. Зь яго работнікаў да канца дзейнасьці Інстытуту заставаўся толькі Паўла Урбан. Аднак і ён ужо працаваў у іншай структуры — у Біяграфічным аддзеле.

Пасьля росквіту дзейнасьці Мюнхэнскага інстытуту другой паловы 1950-х прыйшла стагнацыя 1960-х. А ў 1972 г. паводле пагадненьня амэрыканскага ўраду з СССР установа спыніла сваё існаваньне.

Пазьней у 1970-х у Заходняй Нямеччыне ў горадзе Ляймэне Юры Попка (Жывіца) абвесьціў пра стварэньне *Інстытуту беларускіх дасьледаваньняў*. Пад шыльдай гэтай арганізацыі яе асноўны (калі не адзіны) працаўнік, якім быў сам заснавальнік, выдаваў бюлетэні, некалькі ўласных кніжак, займаўся зборам і публікацыяй спадчыны Хведара Ільляшэвіча, факсымільна перавыдаў кнігу Аляксандра Цьвікевіча "«Западно-руссизм»: нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в." (1982). Інстытут, а таксама створаны разам зь ім музэй, спынілі сваё існаваньне зь сьмерцю Юрыя Попкі.

[39] Гл.: Kipel, Vitaut, Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. — XVI+841 p.

[40] Супрацавень. XV Канфэрэнцыя й Асамблея Інстытуту вывучэньня СССР // Бацькаўшчына. № 9 (609). 01.08.1963.

# Пачаткі БІНіМу

Калі побыт вялікае хвалі эміграцыі ў паваеннай Эўропе ў 1948–1949 гг. падыходзіў да канца, арганізацыя *IRO*[41], што пераняла кіраўніцтва над уцекачамі й "праблемаю ўцекачоў" у паваеннай Эўропе, дамаўлялася з урадамі розных краінаў, улучна з ЗША, наконт паэтапнага расьсяленьня сем'яў. Гэтак пачалася наступная фаза эміграцыі — выезд на сталае жыхарства ў розныя краіны. Беларусы, пачынаючы з канца 1948 г., сталі перасяляцца ў Канаду, Аўстралію, а найбольш у ЗША ды засноўваць новыя арганізацыі, у тым ліку й дасьледчага кірунку. Так, напрыклад, пры канцы 1940-х — у сярэдзіне 1950-х у Таронта (Канада) працаваў *Беларускі дасьледчы інстытут імя К. Каліноўскага*, што выдаў некалькі бюлетэняў.

У ЗША эмігранты расьсяляліся досыць шырока, кіруючыся найперш пошукамі працы, але па нейкім часе пераяжджалі ў Нью-Ёрк ды ў сумежныя штаты Нью-Джэрзі й Канэтыкут. Пад канец 1950 г. у Нью-Ёрку сабралася досыць ладная грамада беларускае інтэлігенцыі, а зь ёю распачалося й культурніцкае жыцьцё: ладзілі літаратурныя вечарыны, чыталі даклады з гісторыі, запрашалі дасьледнікаў ад іншых нацыянальнасьцяў на дыскусійныя вечары. Рабілася гэта часта па-за межаміісных тады арганізацыяў. У згаданай дзейнасьці вызначыліся найбольш Натальля Арсеньнева, Мікола Куліковіч, Янка Шакун, доктар Вітаўт Тумаш. Гэтак у Нью-Ёрку склалася група інтэлігентаў, у якой паўстала ідэя стварэньня інтэлектуальна-навуковае беларускае структуры.

Ад гутарак-нарадаў дзеячы — Вітаўт Тумаш, Натальля Арсеньнева, Янка Ліманоўскі, Мікола Дарашэвіч, Аляксандар Орса — пастанавілі перайсьці да справы й склікаць арганізацыйны сход навукоўцаў, пісьменьнікаў, мастакоў, каб абмеркаваць далейшыя крокі ў стварэньні валкаванага ў размовах аб'яднаньня. Сход быў пакліканы на 26 жніўня 1950 г. Паводле архіўных матэрыялаў — не афіцыйных пратаколаў, а прыватных занатовак — магчыма аднавіць наступнае: на сход зьявіліся каля 20 асобаў. Адбылася дыскусія — ня столькі на-

[41] ***IRO, International Refugee Organization*** — Міжнародная арганізацыя ў справах уцекачоў. Заснаваная ў 1946 г. міжурадавая арганізацыя, якая займалася расьсяленьнем уцекачоў з Эўропы пасьля Другой сусьветнай вайны. У 1948 г. стала спэцыялізаванай структурай Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, замяніўшы ранейшую *UNRRA*. Працавала да 1952 г., забясьпечыўшы перасяленьне на сталае жыхарства на падставе адмысловых пагадненьняў з урадамі розных краінаў больш як мільёна чалавек.

конт патрэбы стварэньня арганізацыі, у чым ніхто не сумняваўся, колькі пра кірунак дзейнасьці. Пераважная большасьць схілялася да таго, што кірунак мусіць быць літаратурна-мастацкі, абдымаючы ўсё беларускае эміграцыйнае грамадзтва (трэба мець на ўвазе, што падзел эміграцыі на "крывічоў" і "зарубежнікаў" быў у самым зэніце). З падобным паглядам усе згаджаліся, але Вітаўт Тумаш, Лёў Акіншэвіч, Мікола Дарашэвіч уважалі, што арганізацыя павінна быць шырокага дасьледчага профілю: мусіць распрацоўвацца гістарычная тэматыка, мовазнаўства, этнаграфія. На тым сходзе абралі групу, якой даручылі зрабіць улік беларускіх навукова-дасьледчых кадраў найперш у ваколіцах Нью-Ёрку, а паралельна й сярод усяе беларускае эміграцыі на Захадзе, падрыхтаваць праект статуту, магчымыя пляны дзейнасьці ды адначасна празандаваць грамадзкую думку наконт успрыняцьця яшчэ аднае арганізацыі.

У лістападзе 1951 г. выдалі "Зварот да навуковых працаўнікоў Беларусаведы!":

*"З пачаткам 1952 году пачынае выходзіць друкам у Злучаных Штатах Амэрыкі Беларускі Навуковы Часапіс, орган Беларускага Вольнага Інстытуту Мастацтваў і Навук (Інстытут цяпер у стадыі арганізацыі і ягоны канчальны назоў яшчэ можа зьмяніцца).*

*Мэта часапісу — прычыніцца да ажыўленьня навуковай працы аб беларускім народзе і беларускай зямлі, падтрымліваць зацікаўленьне гэтаю працаю паміж сваіх і чужых, стала рупіцца аб далейшым разьвіцьці вольнай, аб'ектыўнай навукі аб Беларусі, прасьледаванай і нішчанай сяньня на радзіме Масквою.*

*Часапіс будзе друкаваць матар'ялы з усіх галінаў беларусаведы. Знойдуць там месца працы з геаграфіі Беларусі, геолёгіі, гаспадаркі, статыстыкі, дэмаграфіі, прыроды, краязнаўства, археолёгіі, этнаграфіі, моваведы, бібліяграфіі; працы з гісторыі Беларусі, гісторыі беларускай эміграцыі, гісторыі нашае Царквы, літаратуры, мастацтва, музыкі, культуры, нашай вайсковай справы і г. д.*

*Асаблівая ўвага ў часопісе мае прыдзяляцца найнавейшай гісторыі, высьвятленьню колёніяльнай эканамічнай палітыкі чужынцаў на беларускіх землях, іхнай асыміляцыйнай палітыцы ды справе масавага сыстэматычнага фізычнага выніштэньня беларускага народу (геносыдызму).*

*Да сталага супрацоўніцтва ў часапісе заклікаецца навуковых працаўнікоў з усіх галінаў беларусаведы. Просьба прысылаць да друку: арыгінальныя навуковыя працы, кароткія запіскі, рэцэнзіі працаў аб Беларусі*

*ў іншамоўнай навуковай літаратуры, актуальныя весткі з галіны беларусаведы, справаздачы з навуковых рэфэратаў і дыскусыяў, што кранаюць пытаньні беларусікі і г. д.*

*Рэдагаваць часапіс будзе Рэдакцыйная Калегія, прызначаная Інстытутам. Выходзіць ён мае на пачатак як квартальнік. Матар'ялы да першага нумару трэба прыслаць у бліжэйшых тыднях.*

*Беларускае грамадзтва на эміграцыі заклікаецца да маральнага і матар'яльнага падтрыманьня так важнай нашай новай культурна-нацыянальнай пазыцыі як праз помач у пашырэньні часапісу, так і праз збор грошаў на падпіску і выдавецкі фонд".*

Пасьля падрыхтоўчае працы 16 сьнежня 1951 г. адбылося першае паседжаньне, на якім прысутнічалі Вітаўт Тумаш, Масей Сяднёў, Мікола Дарашэвіч, Янка Юхнавец, Мікола Гарошка, Францішак Кушаль, Часлаў Ханяўка, Аляксандар Махноўскі, Натальля Арсеньнева, Лявон Савёнак, Апалёнія Савёнак, Іна Рытар, Станіслаў Грынкевіч, Натальля Орса, Аляксандар Орса, Уладзімер Клішэвіч, Мікола Цэлеш, Мікола Панькоў, Уладзімер Сядура, Гіпаліт Паланевіч, Леў Акіншэвіч, уладыка Васіль, Барыс Данілюк, Пётра Манькоўскі, Антон Адамовіч, Баляслаў Грабінскі. Доктар Вітаўт Тумаш абвесьціў, што прысутныя на сходзе — закладчыкі Інстытуту.

*П Р А Т А К О Л*[42]
*арганізацыйнага сходу*
*Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНіМу)*
*у Нью-Ёрку*

*дня 16 сьнежня 1951 г.*

*<u>Парадак дня</u>:*

*1. Адкрыцьцё сходу.*

*2. Уступнае слова прафэсара М[іколы] Дарашэвіча.*

*3. Прыймо Статуту БІНіМу.*

*4. Выбары Ўраду БІНіМу.*

*5. Бягучыя справы.*

[42] Гэты й наступныя пратаколы захоўваюцца ў фондзе БІНіМу ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры і мастацтва (далей — БДАМЛМ).

*Арганізацыйны сход БІНіМу адкрыў старшыня БАЗА*[43] *інжынэр М[ікола] Гарошка.*

*На старшыню арганізацыйнага сходу БІНіМу быў выбраны аднагалосна доктар Аляксандар Орса, які запрасіў у Прэзыдыюм сходу: япіскапа БАПЦ уладыку Васіля, прафэсара Л[ява] Акіншэвіча, Натальлю Арсеньневу й доктара В[ітаўта] Тумаша. Пісаць пратакол даручылі Ч[аславу] Ханяўку.*

*Ва ўступным слове прафэсар М[ікола] Дарашэвіч адзначыў, што яму давялося быць сьведкам адкрыцьця шэрагу навуковых установаў на Бацькаўшчыне, як Тэхнічны й Пэдагагічны інстытуты, Інстытут Сельскае Гаспадаркі, Беларускае Акадэміі Навук і інш. Глеба да гэтага была цалкам падрыхтаваная, але ўзьнікалі супярэчнасьці між партыяй і навуковымі працаўнікамі. З часам супярэчнасьці паглыбляліся. Прафэсар М[ікола] Дарашэвіч прыводзіць чарод прыкладаў і ўспамінаў, якія характарызуюць цяжкія ўмовы навуковай працы ў БССР. Тут, у ЗША, зусім іншыя абставіны. Калі падлічыць колькасьць беларускіх навуковых працаўнікоў на эміграцыі, дык іх акажацца каля сотні. Бальшыня зь іх працуе фізычна й зрабіць шмат ня можа, але будзе добра, калі зробіцца й хоць трошкі, бо ў нас ёсьць шэраг пытаньняў, якія мы тут можам і мусім вырашыць.*

*Сп. П[ётра] Манькоўскі прачытаў праект Статуту БІНіМу, апрацаваны прафэсарам Л[явом] Акіншэвічам і ўзгоднены ў статутовай камісіі, пакліканай да гэтага праз БАЗА. У дыскусіі над праектам Статуту прыняло ўдзел шмат прысутных. Спн. Н[аталья] Арсеньнева зьвярнула ўвагу, што ў праекце Статуту амаль нічога ня кажацца пра мастацтва, на што прафэсар Л[еў] Акіншэвіч выясьніў, што пачаткова Статут быў апрацаваны толькі для навуковае ўстановы. Сп. М[ікола] Цэлеш і Сп. М[ікола] Панькоў даюць свае заўвагі наконт неабходнасьці ўзгадненьня назову й структуры Інстытуту й больш дакладнай апрацоўкі Статуту. Сп. А[нтон] Адамовіч заўважае, што пакуль няма яшчэ сяброў Інстытуту, дык няма каму й прымаць Статут. На гэта доктар В[ітаўт] Тумаш выясьняе, што ўсе тыя асобы, якія бяруць актыўны ўдзел у арганізацыйным сходзе БІНіМу, зьяўляюцца аўтаматычна сябрамі-закладчыкамі. Сп. А[нтон] Адамовіч уважае справу сяброўства БІНіМу справай навуковага ці мастацкага цэнзу дадзенай справы. Прафэсар Л[еў] Акіншэвіч кажа, што калі мы сяньня нічога ня прымем, дык і нічога ня зробім, бо нельга будзе зрабіць і выбараў Ураду. Ініцыятыўная група можа прыняць часовы Статут.*

[43] **БАЗА**, **Беларуска-Амэрыканскае задзіночаньне** — арганізацыя беларусаў у ЗША, заснаваная ў 1949 г.

*Больш доўгая дыскусія ўзьнікла над справай назову ўстановы. Быў пададзены цэлы шэраг прапанаваных назоваў, якія ў канцы зьвяліся да 4-х: 1) Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва; 2) Беларускі Інстытут Навукі й Культуры; 3) Беларуская Вольная Акадэмія Навук; 4) Беларускі Інстытут Культуры. У галасаваньні найбольш галасоў (14) было пададзена за першы назоў. Іншыя прапановы атрымалі па парадку 3, 2 і 8 галасоў. У справе Статуту была прынятая 20-цю галасамі пры 2-х тых, хто ўстрымаўся, пачатковая прапанова доктара В[ітаўта] Тумаша: арганізацыйны сход прымае зачытаны праект Статуту БІНіМу як часовы, даручаючы абранаму Ўраду апрацаваць канчатковы тэкст Статуту да прыняцьця на наступным паседжаньні БІНіМу.*

*Доктар В[ітаўт] Тумаш прапануе абраць пяціасабовы Прэзыдыюм БІНіМу. За прапанову выказалася 15 асобаў, а 5 устрымалася ад галасаваньня. Гэтымі ж 15-цю галасамі сход пастанавіў абіраць асобна старшыню БІНіМу супроць 5 галасоў, якія выказаліся за сумеснае абраньне Прэзыдыюму й старшыні БІНіМу. На старшыню БІНіМу былі пададзеныя наступныя кандыдатуры: 1) Прафэсар Л[еў] Акіншэвіч; 2) Прафэсар М[ікола] Дарашэвіч; 3) Япіскап БАПЦ уладыка Васіль 4) Доктар В[ітаўт] Тумаш 5) Доктар Б[аляслаў] Грабінскі й 6) Доктар А[ляксандар] Орса. За выняткам уладыкі Васіля ўсе кандыдаты зракліся сваіх кандыдатураў, падаючы да гэтага адпаведныя прычыны. За кандыдатуру ўладыкі Васіля галасавала 18 асобаў пры аднэй "супраць". У Прэзыдыюм былі абраныя наступныя асобы: доктар В[ітаўт] Тумаш (21 голас), прафэсар Л[еў] Акіншэвіч (20 галасоў), прафэсар М[ікола] Дарашэвіч (20 галасоў), Н[аталья] Арсеньнева (15 галасоў) і як кандыдат Сп. Ул[адзімер] Клішэвіч (9 галасоў).*

*У бягучых справах доктар В[ітаўт] Тумаш зьвярнуўся да прысутных з заклікам дасылаць на адрас Ураду БІНіМу матэрыялы для праектаванага беларускага навуковага часопісу. Матэрыялы могуць быць дасыланыя ў дзьвюх мовах: беларускай і ангельскай, але калі толькі ў беларускай, дык неабходна яшчэ й рэзюмэ артыкула ў ангельскай мове. Прысутны на арганізацыйным сходзе старшыня Ўкраінскага Навуковага Інстытуту імя Тараса Шаўчэнкі*[44] *прафэсар Чубатый*[45] *раіць выдаваць навуковы часопіс*

[44] **Навуковае таварыства імя Т. Шаўчэнкі** — сусьветная ўкраінская акадэмічная арганізацыя. Заснаваная ў Львове ў 1873 г. як Літаратурнае таварыства, у 1892 г. атрымала назву Навуковага таварыства. У 1939 г. было ліквідаванае савецкай уладай, але ў 1947 г. адноўленае на Захадзе, дзе стала вядомае яе *Shevchenko Scientific Society*. З 1989 г. дзее ізноў на тэрыторыі Ўкраіны.

[45] **Мікола Чубаты** (укр. *Микола Чубатий*, 1889–1975), украінскі грамадзкі й рэлігійны дзеяч, гісторык украінскай царквы й права, публіцыст. Заснавальнік і першы старшыня Амэрыканскага аддзяленьня Навуковага таварыства імя Т. Шаўчэнкі.

*толькі ў ангельскай мове. Калі ж будуць матэрыяльныя магчымасьці, дык можна будзе выдаваць непэрыядычныя працы БІНіМу й на беларускай мове.*

*Першым прывітаў БІНіМ як новапаўсталую беларускую навуковую ўстанову на эміграцыі ўладыка Васіль. Прафэсар Чубатый вітаў ад Украінскага Навуковага Таварыства імя Тараса Шаўчэнкі, зьвяртаючы ўвагу, што сяньня беларуская навука мусіць быць на службе вызваленьня Беларускае нацыі. Інжынэр Ярэменка*[46] *вітаў ад імя казакаў, а Сп. А[нтон] Адамовіч ад Крывіцкага Навуковага Таварыства імя Пранціша Скарыны. Прафэсар Л[еў] Акіншэвіч падчыркнуў неабходнасьць аб'яднаньня ўсіх беларускіх навуковых і мастацкіх сілаў у імя інтарэсаў беларускага народу, а генэрал Ф[ранц] Кушаль зьвяртае ўвагу на патрэбу гістарычных досьледаў і гістарычнага абаснаваньня беларускае дзяржаўнасьці. Сп. Б[арыс] Данілюк вітае ад імя Беларускага Студэнцкага Таварыства, Сп. А[ляксандар] Махноўскі — па даручэньні Прэзыдыюму Рады БНР, доктар В[ітаўт] Тумаш — ад Аб'яднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне, а Сп. Ул[адзімер] Клішэвіч — ад свайго імя. Заключнае слова сказаў доктар А[ляксандар] Орса. На гэтым арганізацыйны сход БІНіМу закончыўся.*

Такім чынам, паводле пратаколу, на старшыню БІНіМу быў абраны ўладыка Васіль (Уладзімер Тамашчык), а ў кіраўніцтва арганізацыі ўвайшлі доктар Вітаўт Тумаш, прафэсар Леў Акіншэвіч, прафэсар Мікола Дарашэвіч, Натальля Арсеньнева ды як кандыдат Уладзімер Клішэвіч.

Першае паседжаньне новаабранага кіраўніцтва адбылося праз колькі дзён, 21 сьнежня 1951 г. На гэтым жа сходзе была афармленая ўправа Інстытуту ў наступным складзе: уладыка Васіль — старшыня, прафэсар Леў Акіншэвіч — першы заступнік старшыні, прафэсар Мікола Дарашэвіч — другі заступнік старшыні й скарбнік, доктар Вітаўт Тумаш — генэральны сакратар, Натальля Арсеньнева-Кушаль — заступніца сакратара, альбо другі сакратар.

Гэтымі адміністрацыйна-арганізацыйнымі крокамі аформіўся Беларускі інстытут навукі й мастацтва. Далейшае дзеяньне было ў руках арганізатараў-піянэраў ды новаабранага кіраўніцтва.

Ліст Вітаўта Тумаша да інж. Міколы Гарошкі (26 студзеня 1952 г.):

---

46 Магчыма, маецца на ўвазе казацкі дзеяч на эміграцыі **Георгі Яроменка**, старшыня Казацка-Амэрыканскага народнага саюзу ў ЗША. Таксама выступаў ад імя Казацкага нацыянальнага вызваленчага руху за мяжой.

*“Вельмі паважаны Старшыня! Сяньня атрымаў поўны каштарыс з Канады на навуковы часапіс. Нажаль, цана будзе некалькі дзясяткаў вышэйшая за 200 — апошні час, відаць, і ў Канадзе цэны крыху падняліся ўгару.*

*У кажным выпадку ў прыраўнаньні да цэнаў Нью Ёрку заўсёды яны будуць на нейкіх 50 дал. ніжэйшыя, і таму, па-мойму, часапіс друкаваць трэба ўсё-ж такі ў Канадзе. Матар’ял у васнаўным ужо ёсьць на ўвесь часапіс за выняткам драбніцаў, якія за некалькі дзён можна зрабіць. Чакаю толькі яшчэ на пару абяцаных рэчаў, якія маюць надыйсьці гэтымі днямі — і тады справу можна пачынаць пад умовай, ясна, што будзе капітал.*

*З грашыма, ведаю, ня так проста. Але на адзін, хаця-б першы, нумар трэба канечна здабыцца, накш уся арганізацыя “сядзе на лёдзе”. Вы ўспаміналі, што з БАЗА нейкіх 100 даляраў можна было-б атрымаць. Прасіў-бы тыя грошы перараказаць ужо на фонд часапісу. Таму што часапісам практычна прыйдзецца займацца найболей мне, дык ці лепш было-б мо й накіраваць іх адразу на мой адрыс, правёўшы толькі фармальна праз сп. Дарашэвіча фінансавыя кнігі Інстытуту (калі ён іх ужо мае). Калі будуць у ягонай касе, баюся, што ня выцярпіць скарбнік ды яшчэ пачне распускаць на іншыя драбнейшыя патрэбы Інстытуту, а гэта-ж мае быць фонд выдавецкі, зь якога няможна на іншыя справы пусьціць ані цэнта. У канцы канцоў рабеце, як хочыце, абы толькі яны якнайхутчэй былі вольныя на прызначаную патрэбу.*

*Расказваў мне сп. інж. Абрамчык, што нейкі год таму падчас арганізацыйнага сходу тады яшчэ Акадэміі яна ня была закладзеная толькі таму, што Вы, інжынэру, згубілі ці забыліся дома прыгатаваны статут. Калі гэта праўда, дык праз гэта відаць было згублена разам прынамся 3000 даляраў, якія атрымала сяньня Крывіцкае Т-ва, а якія маглі-б хіба мець зь няменшым правам і Акадэмія, калі-б яна існавала. Хто позьніцца, той сам сабе шкодзіць, і таму асабліва трэба панатужыцца, каб змарнаваны час нагнаць ды цяпер якнайхутчэй змабілізаваць фонд часапісу. Прафэсар Станкевіч*[47]*-жа амаль сам адзін выдаваў часапіс*[48] *цэлы год, няма прычыны, каб не магла-б зрабіць гэтага і куды большая грамада людзей. А калі ўсёж-такі не патрапіш зрабіць, дык гэта будзе знак сумны абсалютнай няжыцьцяздольнасьці.*

*Я хацеў адначасна прасіць Вас крыху памагчы спадарыні Арсеньневай. Я ёй як фактычнаму сакратару на месцы ў Нью Ёрку ўжо пару тыдняў*

[47] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

[48] Маецца на ўвазе часопіс “Веда” (*“Veda”*) Янкі Станкевіча.

*як накіраваў апрацаваныя формы заяваў, апытальнікаў, адмысловых лістоў-зваротаў у справе запісу ў сябры Інстытуту з просьбай якнайхутчэй пусьціць іх на рататар, а таксама якнайхутчэй адбіваць друкам фармуляры Інстытуту, якія вельмі патрэбныя на кажным кроку. Таксама пераслаў ёй частку матар'ялаў у часапіс для перагляду ды даньня каму-небудзь для перапіскі кірыліцаю начыста для друку. Ужо пару тыдняў, як няма нейк ніякога адказу. Нядаўна прышлося бачыць старшыню Ўладыку, ён таксама нічога пра гэта ня ведае, калі што будзе гатова. Я баюся, што спн. Арсеньнева ня ведае, да каго зьвярнуцца з просьбаю аб адбіцьці на рататары патрэбных матар'ялаў. На сходзе дэкляравалі сваё поўнае падтрыманьне і сп. Манькоўскі, і, здаецца, іншыя — пара гэтую добрую волю паказаць. Нажаль, я ня ведаю, хто на рататары ўмее працаваць і да каго ў гэтай справе найлепш павінна спн. Арсеньнева зьвярнуцца. Дык прасіў-бы вельмі пры першых цяжкіх тэхнічных кроках памагчы спн. Арсеньневай — пазьней хіба ўсё само пойдзе сваім парадкам. […]"*[49].

Неўзабаве пасьля ўтварэньня БІНіМу былі выдадзеныя "Запісы", у перадавіцы якіх яшчэ раз каротка выказвалася думка наконт патрэбы стварэньня інтэлектуальнае творчае арганізацыі на эміграцыі ды акрэсьленыя напрамкі працы.

У прыватнасьці, там пісалася:

*"Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва паўстаў летась з мэтаю гуртаваньня працаўнікоў беларускае навукі, літаратуры й мастацтва за межамі Беларусі дзеля падтрыманьня, ажыўленьня й каардынаваньня беларускае культурна-навуковае працы на эміграцыі.*

*Інстытут быў закладзены з насьпелай нутраной сьведамасьці беларускіх культурна-навуковых працаўнікоў пра неабходнасьць і нацыянальны абавязак весьці далей ва ўмовах вольнага дэмакратычнага сьвету тую працу пакаленьняў нашых вучоных, пісьменьнікаў і мастакоў, натугамі й рупнасьцяй якіх расла й шырылася беларуская навука й культура на працягу мінулых дзесяцігодзьдзяў.*

*Папярэднія пакаленьні не шкадавалі на гэта сваіх здольнясьцяў, сілаў, а часта й свайго жыцьця. Не адзін стаўся мучанікам ахвярнай працы на службе роднае навукі й культуры. Такія імёны, як Вацлаў Ластоўскі*[50],

[49] Ліст захоўваецца ў БДАМЛМ.

[50] **Вацлаў Ластоўскі** (1883–1938), грамадзкі дзеяч, празаік, паэт, этнограф, мовазнаўца, мэмуарыст.

*Усевалад Ігнатоўскі*[51]*, браты Максім*[52] *і Гаўрыла Гарэцкія*[53]*, Аркадзь Смоліч*[54]*, Мітрафан Доўнар-Запольскі*[55]*, Браніслаў Эпімах-Шыпіла*[56]*, Мікола Шчакаціхін*[57]*, Сьцяпан Некрашэвіч*[58]*, Язэп Лёсік*[59]*, Язэп Пушча*[60]*, Уладзімер Дубоўка*[61]*, Уладзімер Тэраўскі*[62]*, Еўстыгней Міровіч*[63]*, Уладзіслаў Галубок*[64] *— і тысячы іншых заслужаных вучоных, пісьменьнікаў і мастакоў застануцца ўзорным прыкладам ахвярнасьці й шчырае адданасьці як мастацтву й навуковай праўдзе, так і свайму народу, за што яны й загінулі.*

*На Бацькаўшчыне сяньня ўся вольная, аб'ектыўная навуковая праца над вывучэньнем навуковых пытаньняў беларускага народу й беларускае зямлі перасьледуецца й караецца. Таму якраз беларускія працаўнікі навукі й культуры, што апынуліся сяньня за межамі Беларусі, павінны пераняць цяжар гэтае працы ды весьці яе на эміграцыі.*

*Дзеля спаўненьня гэтага вялікага заданьня, ускладзенага гісторыяй на плечы тых нашых сьціплых культурна-навуковых кадраў, што захаваліся ад зьнішчэньня, нам неабходна цясьней згуртавацца, нягледзячы на*

---

51 **Усевалад Ігнатоўскі** (1881–1931), дзяржаўны дзеяч, гісторык, публіцыст. Наркам асьветы (1921–1926), стваральнік і старшыня Інбелкульту (1926–1929), першы прэзыдэнт Беларускай акадэміі навук (1929–1930).

52 **Максім Гарэцкі** (1893–1938), пісьменьнік, крытык, літаратуразнаўца, лексыкограф, фальклярыст.

53 **Гаўрыла Гарэцкі** (1900–1988), геоляг, географ, эканаміст, грамадзкі дзеяч, брат Максіма Гарэцкага.

54 **Аркадзь Смоліч** (1891–1938), палітык, навуковец, дзеяч культуры, міністар сельскай гаспадаркі БНР. Аўтар першага падручніку "Геаграфія Беларусі" (1919).

55 **Мітрафан Доўнар-Запольскі** (1867–1934), гісторык, этнограф, фальклярыст і літаратуразнаўца.

56 **Браніслаў Эпімах-Шыпіла** (1859–1934), пэдагог, выдавец, грамадзкі дзеяч, бібліёграф. Кандыдат філялёгіі (1887). Доўгі час працаваў у бібліятэцы Пецярбурскага ўнівэрсытэту.

57 **Мікола Шчакаціхін** (1896–1940), гісторык мастацтва.

58 **Сьцяпан Некрашэвіч** (1883–1937), мовазнаўца, адзін з арганізатараў акадэмічнай навукі Беларусі.

59 **Язэп Лёсік** (1883–1940), мовазнаўца, палітык, пэдагог.

60 **Язэп Пушча** (сапр. *Плашчынскі*, 1902–1964), паэт, крытык, перакладнік.

61 **Уладзімер Дубоўка** (1900–1976), паэт, празаік, перакладнік, крытык.

62 **Уладзімер Тэраўскі** (1871–1938), кампазытар, дырыжор. У 1920-я гг. (зь перапынкамі) працаваў галоўным хормайстарам БДТ-1, кіраваў харавымі калектывамі пры БДУ, Менскім пэдтэхнікуме, прафсаюзе паштавікоў-тэлеграфістаў.

63 **Еўсьцігней Міровіч** (сапр. *Дунаеў*, 1878–1952), драматург і тэатральны рэжысэр.

64 **Уладзіслаў Галубок** (сапр. *Голуб*, 1882–1937), драматург, празаік, рэжысэр, актор, мастак.

*розьніцу палітычных паглядаў ды арганізацыйную прыналежнасьць, да чаго й заклікае Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ўсіх нашых культурна-навуковых працаўнікоў як у Злучаных Штатах Амэрыкі, так і па ўсіх іншых краінах сьвету.*

*З мэтаю большага зацікаўленьня найважнейшымі пытаньнямі беларусаведы сваіх і чужых, з мэтаю публікаваньня працаў у гэтай галіне Інстытут пачынае выдаваць свой навуковы орган — «Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва»"*[65].

Пра заснаваньне ў Нью-Ёрку беларускае навукова-дасьледчае арганізацыі шырока паведамляў друк, як беларускамоўны, гэтак і іншамоўны, ды было разаслана шмат спэцыяльных прэс-камунікатаў. Трэба сказаць, што заснаваньне беларускае арганізацыі дасьледчанавуковага профілю беларускае і навукова-амэрыканскае грамадзтва ўспрыняло з задавальненьнем і зычлівасьцю. Стварэньне БІНіМу віталі ня толькі прыязныя беларусам групы, як, прыкладам, украінцы, але й расейскія ды польскія арганізацыі. Некаторыя амэрыканскія бібліятэкі паведамілі Інстытуту пра сваё жаданьне займець у новапаўсталай арганізацыі дарадцу ў разбудове беларускіх кнігазбораў. Прывітальныя лісты даслалі такія навукоўцы, як Юры Шавялёў[66] (ён стаўся сябрам Інстытуту), Барыс Унбэгаўн, Нікалас Вакар[67], Аляксандар Далін[68] ды шмат іншых. З самага пачатку БІНіМ пачаў атрымоўваць запросіны ўдзельнічаць у навуковых канфэрэнцыях, прэсавых сустрэчах у Нью-Ёрку й Вашынгтоне ды паведамляць беларускі пункт гледжаньня на праблемы. Гэткім чынам, БІНіМ замацаваў за сабою апінію беларускае нацыянальнае ўстановы. На той час гэта было піянэрскае зьявішча, бо нацыянальнае навуковае грамадзкасьці Беларусі ў замежжы, па сутнасьці, не было, а сувязі з афіцыйным навуковым асяродкам у БССР былі ўскладненыя.

---

[65] Ад рэдакцыі й выдавецтва // Запісы БІНІМ. № 1. Нью Ёрк, 1952. С. 1–2.

[66] **Юры Шавялёў** (укр. *Юрій Шевельов*, 1908–2002), украінскі лінгвіст і літаратуразнаўца, пісьменьнік, дасьледнік літаратуры. Працаваў у СССР, Нямеччыне й ЗША. Сябра Навуковага таварыства імя Т. Шаўчэнкі, Украінскай вольнай акадэміі навук, НАН Украіны.

[67] **Нікалас Вакар** (анг. *Nicholas P. Vakar*, 1894–1970), амэрыканскі дасьледнік, аўтар працы *"Belorussia: The Making of a Nation"* (Harvard U. Press, 1956).

[68] **Аляксандар Далін** (анг. *Alexander Dallin*, 1924–2000), амэрыканскі саветоляг, палітоляг, спэцыяліст у пытаньнях Усходняй Эўропы, прафэсар Стэнфарду і Калюмбійскага ўнівэрсытэту. З 1971 г. кіраваў Цэнтрам расейскіх і ўсходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў у Стэнфардзе.

У самой жа беларускай грамадзе ўсё было не настолькі адназначна. Пра гэта сьведчыць ліст Вітаўта Тумаша да Юркі Віцьбіча (17 сакавіка 1952 г.):

*“Вельмі Паважаны Рэдактару! Паведамляюць мяне, што некаторыя асобы, якім залежыць моцна на тым, каб Інстытут ня змог разгарнуць нейкай паважнейшай працы, пашыраюць хвальшывыя весткі аб тым, быццам Урад Інстытуту дзеліць сяброў на розныя — лепшыя й горшыя — катэгорыі.*

*Варожыя Інстытуту людзі выкарыстоўваюць для гэтага праэкт статуту старой “Акадэміі”, які нейкага паўтара году назад быў апрацаваны праф. Акіншэвічам і ў якім былі прадбачаныя сябры звычайныя, сябры-карэспандэнты ды сябры супрацоўнікі.*

*На арганізацыйным сходзе Інстытуту 16 сьнежня 1951 г. праэкт гэты сходам было даручана дапрацаваць часоваму ўраду як дзеля пашырэньня рамак (з чыста навуковай у навукова-літаратурна-мастацкую арганізацыю), так, міжіншым, і дзеля завядзеньня адналітай сыстэмы сяброўства як больш адпаведнай для нашых эміграцыйных умоваў (хаця й папярэдняя сыстэма ў нармальных дзяржаўных умовах шырака ў сьвеце тарнуецца).*

*Паўтара году таму нехта рабіў нават пробу і сагрэгаваць эвэнтуальных сяброў Акадэміі на звычайных, супрацоўнікаў ды карэспандэнтаў ды такі сьпіс быў перададзены для паўсталага Ўраду Інстытуту (укладзены, між іншым, вельмі пабежна ды непрадумана). Але адказнасьці за якой Інстытут ня можа паносіць ніякой, паколькі ніхто зь сяброў ураду яго не ўкладаў нават тады.*

*Праўдападобна нехта з прынцыповых ворагаў Інстытуту сьпіс гэты й бачыў ды цяпер выкарыстоўвае ў хвальшывым насьвятленьні як злосную прапаганду супроць арганізацыі.*

*Чуюся ў абавязку паведаміць Вас аб гэтым як сябру Інстытуту ды перасьцерагчы перад эвэнтуальнай падобнай прапагандай, якая можа дайсьці і да Вас”*[69].

[69] Ліст захоўваецца ў БДАМЛМ.

# Разбудова БІНіМу. Пашырэньне сяброўства

Праца дзеля разбудовы БІНіМу пачалася адразу пасьля ягонага афіцыйнага заснаваньня. Разаслалі каля сотні анкетаў на сяброўства ў новай інстытуцыі беларускім навукоўцам і грамадзкім дзеячам дыяспары, якія цягам шэрагу наступных гадоў (ці дзесяцігодзьдзяў) запоўнілі Мікола Абрамчык, Антон Адамовіч, Леў Акіншэвіч, Кастусь Акула, Натальля Арсеньнева, Мікола Арцюх, Вольга Арэхва, Тамара Аўдзей (Карповіч), др. Аляксандар Багдановіч, Уладзімер Бортнік, Уладзімер Брылеўскі, Часлаў Будзька, Томас Бэрд, архіяпіскап Васіль (Уладзімер Тамашчык), Дзьмітры Верасаў, Барбара Вержбаловіч, Аляксей Вініцкі, Юрка Віцьбіч, Аўген Вярбіцкі, Мікола Галоўка, а. Леў Гарошка, Мікола Гарошка, Расьціслаў Гарошка, а. Язэп Гэрмановіч, Язэп Гладкі, Баляслаў Грабінскі, Станіслаў Грынкевіч, Аляксей Грыцук, Язэп Гуткоўскі, Барыс Данілюк, Мікола Дарашэвіч, Юльяна Дубейкаўская, Аўген Дубовік, Уладзімер Дудзіцкі, Уладзімер Дудко, Віктар Жаўняровіч, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Раіса Жук-Грышкевіч, Янка Запруднік, Эльза Зубковіч, Рыгор Казак (Крушына), Аляксандар Калодка, Сымон Кандыбовіч (Кабыш), Алесь Карповіч, Мікола Касак, Аўген Каханоўскі, Вітаўт Кіпель, Зора Кіпель, Сьцяпан Кісель, Уладзімер Клішэвіч, Тамара Стагановіч-Кольба, Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Мікола Кунцэвіч, Францішак Кушаль, Янка Ліманоўскі, др. Язэп Лапошка, Язэп Лешчанка (Міхась Кавыль), Язэп Малецкі, Пётра Манькоўскі, Аляксандар Марговіч, а. Міхась Маскалік, Аляксандар Махноўскі, Васіль Мельяновіч, мітрапаліт Мікалай (Міхась Мацукевіч), Пётра Мірановіч, Лявон Мурог, Уладзімер Набагез, Міхась Наўмовіч, Аўген Несьцяровіч, Марыя Несьцяровіч, Мікола Нікан, Аляксандар Орса, Ала Орса-Рамана, Натальля Орса, Гіпаліт Паланевіч, Мікола Панькоў, Валянціна Пашкевіч, Мікола Прускі, Ян Пятроўскі, Мікола Равенскі, Ірына Рагалевіч, Барыс Рагуля, Аляксандар Раманоўскі, Аляксандар Ружанец-Ружанцоў, Васіль Русак, Галіна Русак, Лявон Рыдлеўскі, Іна Рытар, Вера Рыч, Апалёнія Савёнак, Лявон Савёнак, Янка Садоўскі, Алесь Салавей, Міхал Саўка-Міхальскі, Віктар Сянкевіч, Юры Сянькоўскі, Алекс Сільвановіч, Мікола Сільвановіч (Вярба), біскуп Часлаў Сіповіч, Яўхім Скурат, а. Аўген Смаршчок, др. Мітрафан Смаршчок, Станіслаў Станкевіч, Пётра Сыч, Масей Сяднёў, Уладзімер Сядура, а. Пётра Татарыновіч, Лявон Трусэвіч, Вітаўт Тумаш, Паўла Урбан, Часлаў Ханяўка, Васіль Шчэцька, Антон Шукелойць, Дзьмітры Чайкоўскі, Уладзімер Цьвірка,

Мікола Цэлеш, Эміль Цяўлоўскі, а. Франук Чарняўскі, Янка Шакун, Юры Шавялёў, Уладзімер Шыманец, Янка Юхнавец, Мікола Ягаўдзік ды іншыя[70].

Зь лістоў Вітаўта Тумаша да новых сябраў Інстытуту:

*“Вельмі паважаны сп. Сяднёў! Інстытут ужо пачынае разгортваць сваю працу, і паўстае неабходнасьць укласьці наперад праграму навуковых ды іншых зборак, а для гэтага трэба ведаць, хто што можа даць. Выбачайце, што на першы дыскусыйны вечар 8 сакавіка Вам ня было высланае паведамленьне, што здарылася дзеля гэтага, што ў апошнюю хвіліну прыйшлося мяняць тэму рэфэрата і чаму паведамленыя былі толькі вусна.*

*Калі-б самым ня прыйшло на думку, за якую тэму ўзяцца, у мяне паўстаюць некаторыя прапановы: 1. Ці ня згадзіліся-б чытаць рэфэрату на тэму, якую Вы закранулі летась у двох нумарох “Беларускай Трыбуны”*[71] *— прычыны застою на нашым літаратурным фроньце*[72]*? Могбы быць адчытаны і гэты артыкул з эвэнтуальнымі дапаўненьнямі, калі-б Вам ня было часу рэч перапрацоўваць нанава ды пашыраць. У гэтых артыкулах Вы першыя закранулі глыбака ды паважна балючыя пытаньні нашай сучаснай літаратуры на эміграцыі, чаго не зрабіў ніхто з нашых “спэцаў” літаратураведаў. Не з зусім там сказаным можна згаджац-*

---

[70] Вітаўт Кіпель: *Забягаючы наперад, выкажам заўвагу аб сяброўстве БІНіМу. Найперш гэта тое, што сяброўства гэтай арганізацыі абмяжоўваецца статутовымі вымогамі як вышэйшая адукацыя, наяўнасьць мастацкіх, літаратурных ці беларусаведных твораў, рэкамэндацыя сябраў ды канчатковая апрабата ўправы арганізацыі. А па-другое, сяброўства БІНіМу, вядомая справа, — зьява зьменлівая: прыходзяць новыя сябры, адыходзяць “старыя” — з розных прычынаў (паміраюць, сварацца!). Ясна адно: лік сябраў мяняецца. У сяброўстве БІНіМу можна вызначыць як бы хвалі: першая, як казалася ў першым пратаколе, — заснавальнікі-стваральнікі БІНіМу. У той “першай хвалі сябраў” былі прадстаўнікі старых расейскіх унівэрсытэтаў (Л. Акіншэвіч) ды найбольш выпускнікоў унівэрсытэту Віленскага ды з ВНУ раньняе БССР. У сярэдзіне 1950-х сяброўства БІНіМу папаўняецца найбольш прадстаўнікамі заходнеэўрапейскіх і амэрыканскіх унівэрсытэтаў. З другой паловы 1970-х новыя сябры Інстытуту — гэта зноў прадстаўнікі ВНУ СССР, а з пачатку 1990-х актыўную дзейнасьць БІНіМу пераймаюць выпускнікі менскіх ВНУ, ды пачынаецца цалкам новы пэрыяд у працы: сябры арганізацыі, якія жывуць і дзеюць у Беларусі. У першых дэкадах XXI ст. БІНіМ, можна асьцярожна сьцьвярджаць, — гэта амэрыканска-беларуская навукова-дасьледчая арганізацыя, цалкам адпаведная назову: беларусы-амэрыканцы і беларускія дасьледчыкі ў Беларусі. Правідловы кірунак разьвіцьця!*

[71] **“Беларуская Трыбуна”** — газэта, “орган Незалежнае Беларускае Думкі”, якая выдавалася ў ЗША (пераважна ў Нью-Джэрзі) у 1950–1951 гг. пад рэдакцыяй Міколы Шчорса і Язэпа Лешчанкі (Міхася Кавыля).

[72] Маецца на ўвазе публікацыя: Сяднёў, Масей. Зацемкі аб літаратуры // Беларуская Трыбуна. 1951. №№ 2 (5) — 3 (6).

*ца — дзеля гэтага варта і цікава было-б і падыскутаваць у паважным, акадэмічным тоне. Я лічыў-бы, што на такі рэфэрат трэба было-б перадусім змабілізаваць нашых усіх пісьменьнікаў, што дало-б найбольшую грамадзкую карысьць зь яго. У сувязі з заметнаю тэндэнцыяй, асабліва сярод пісьменьнікаў, да "згоды", ня думаю, каб на такой навуковай зборцы Інстытуту гразіла тое, што дыскусыя сасьлізьнецца з пастаўленых паважных пытаньняў на нейкія асабістыя ці партыйныя спрэчкі"*[73].

*"Вельмі Паважаны Маэстро! [М. Наўмовіч]*

*БІНіМ прыступае да арганізацыі сэкцыі выяўленчага мастацтва (малярства, скульптура, архітэктура і г. д. У ЗША знаходзяцца цяпер два ведамыя й прызнаныя маляры немалога таленту — Пётра Мірановіч і Мікола Касак. Апрача гэтага яшчэ пара здольных мастакоў вучыцца тут на мастацкіх школах. Існуюць беларускія мастакі і ў іншых краінах беларускай эміграцыі. Сэкцыя выяўленчага мастацтва БІНіМ намагаецца ўсе гэтыя расьцярушаныя сілы зьвязаць у вадну беларускую сям'ю мастакоў эміграцыі.*

*Дзеля гэтага ад імяні Ўраду Інстытуту зьвяртаюся да Вас з просьбаю далучыцца да гэтай сэкцыі, выпаўніць і пераслаць гэты фармуляр, прыслаць свае заўвагі і праэкты ў справе цясьнейшай лучнасьці й супрацоўніцтва беларускіх мастакоў"*[74].

*"Вельмі Паважаны Войча Рэшэць!*

*Хоць афіцыяльна да гэтай пары й не належыце да нашага Інстытуту, аднак усё-ж пасылаем на ўсякі выпадак запросіны на зьезд, а таксама тэкст прапанаванага новага статуту. Падпісаньне далучанага "паўнамоцтва" й перасланьне на зьезд (калі-б асабістае прыбыцьцё было немагчымае) мы ўжо лічылі-б за фармальнае ўступленьне ў сябры Інстытуту. Калі-ж нічога не атрымаем — будзем разумець, што існуюць нейкія перашкоды для гэтага й будзем надзеіцца ўсё-ж хоць у будучыні бачыць Вас сябрам БІНіМ.*

*Разам высылаюцца запросіны й для др. Тарасэвіча*[75] *з просьбай перадаць іх і пазнаёміць з тэкстам статуту.*

*Так нейк складаецца, што самы інтэлектуальны цьвет беларускага каталіцкага духавенства ў ЗША — два дактары-прафэсары — трымаюцца воддаль ад беларускага культурна-духовага жыцьця ў Амэрыцы.*

[73] Ліст В. Тумаша да М. Сяднёва ад 23.03.1952. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[74] Ліст В. Тумаша да М. Наўмовіча ад 14.10.1952. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[75] Відаць, маецца на ўвазе Ян Хрызастом Тарасэвіч.

*Ня думаю, што гэтая абсалютная ізаляцыя (калі ня мыляюся) ёсьць добраю як для беларускай эміграцыі, так асабліва й для беларуска-каталіцкай справы тут, і лепш было-б зь ёю пакончыць”*[76].

*“Дарагі Леанід [Галяк]!*

*Перасылаю праектаваны новы статут Інстытуту й запросіны на зьезд. Прапаную спыніць свой “пасыўны апор” адносна БІНіМ і ўключыцца ў канкрэтную пазытыўную працу”*[77].

У гэты ж час былі закладзеныя картатэкі беларускіх арганізацыяў на эміграцыі й дасьледнікаў беларусаведы (як беларусаў, гэтак і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў). БІНіМ увайшоў у дзелавы кантакт зь юрыдычнаю кантораю Купчыных, якая залагоджвала Інстытуцкія бюракратычныя патрэбы, былі зробленыя неабходныя ў такіх выпадках адміністрацыйныя захады для рэгістрацыі ўстановы ў штаце Нью-Ёрк:

*П Р А Т А К О Л*
*паседжаньня Ўраду БІНіМу*

*дня 20 кастрычніка 1952 г.*

*Присутныя: прафэсар Л[еў] Акіншэвіч, прафэсар М[ікола] Дарашэвіч, уладыка Васіль, доктар В[ітаўт] Тумаш, Н[атальля] Арсеньнева.*

*Парадак дня:*

1. *Справа Зьезду.*
2. *Народны Ўнівэрсытэт.*
3. *Бягучыя справы.*
4. *Легалізацыя Інстытуту.*

*Да пункту 1 пастаноўлена: склікаць Зьезд БІНіМу 14 сьнежня 1952 г. а 14.30. Дзеля гэтага не пазьней як 14 лістапада кожнаму сябру БІНіМу павінен быць высланы праект Статуту й адмысловы ліст, які далучаец-*

---

[76] Ліст В. Тумаша да Я. Рэшаця ад 01.12.1952. Захоўваецца ў БДАМЛМ.
[77] Ліст В. Тумаша да Л. Галяка ад 07.12.1952. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*ца да пратакола. Сп. М[ікола] Дарашэвіч мае падрыхтаваць фінансавую справаздачу. Сп. В[ітаўт] Тумаш мае зрабіць справаздачу наконт часопісу “Запісы”. Уступнае слова даручаецца старшыні БІНіМу ўладыку Васілю. Паклікаецца рэвізійная камісія ў асобах: Сп. [Пётры] Манькоўскага й Сп. [Міколы] Гарошкі. Справу Статуту зрэфэруе Зьезду Сп. прафэсар Л[еў] Акіншэвіч.*

*Да пункту 4 пастаноўлена: легалізацыю БІНіМу вырашана даручыць старшыні ўладыку Васілю, абмеркаваўшы гэтую справу з адвакатам.*

*Да пункту 3 пастаноўлена: па бягучых справах даручана зрабіць даклад Сп. [Міколу] Куліковічу 8 лістапада 1952 г. у памяшканьні Ўкраінскага літаратурна-мастацкага клюбу. У гэтай справе мае быць дадзеная абвестка ў наступным нумары “Беларуса”.*

*Да пункту 2 пастаноўлена: па абмеркаваньні яшчэ раз справы й жывое дыскусыі пачаць арганізацыю Ўнівэрсытэту неадкладна тым часам з гэткаю праграмай:*

1. *Эканамічная й фізычная геаграфія Беларусі. Месяцова — 4 гадзіны.*
2. *Гісторыя й культура Беларусі — 6 гадзінаў.*
3. *Гісторыя літаратуры й літаратура — 6 гадзінаў.*
4. *Гісторыя Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня.*
5. *Беларускае мастацтва.*
6. *Амэрыканаведа.*

*На лектараў прапануецца запрасіць: Сп.Сп. А[ляксандра] Орсу, Л[ява] Гарошку, М[іколу] Дарашэвіча, Л[ява] Акіншэвіча, Г[іпаліта] Паланевіча, А[нтона] Адамовіча, доктара В[ітаўта] Тумаша, Я[нку] Ліманоўскага, Ул[адзімера] Клішэвіча, М[іхася] Тулейку.*

*На гэтым паседжаньне было скончанае.*

*Сакратар Н[аталья] Арсеньнева*

## Вынікі першага году й пляны

Першы гадавы сход адбыўся, згодна з пастановай, 14 сьнежня 1952 г. у Нью-Ёрку. Паводле пратаколу, у ім узялі ўдзел 40 сябраў БІНіМу ды каля дзясятка ўпаўнаважаных. Інфармацыю пра падзею надрукавалі ў "Беларусе":

*"У нядзелю 14 сьнежня сёлета ў Беларускай Хатцы адбыўся гадавы сход сяброў заснаванага год таму Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.*

*Леташні, першы сход, на якім БІНіМ быў закладзены, шмат шырэйшы й больш урачысты, з запрошанымі гасьціма й дакладчыкамі, не патрапіў, аднак, абмеркаваць, правесьці й зацьвердзіць таго, што ўдалася зладзіць сёлетняму, першаму сходу сяброў гэтае маладое, а гэтак патрэбнае арганізацыі.*

*У справаздачы з працы, праробленай за гэты першы, арганізацыйны пэрыяд тымчасовым Урадам БІНіМу, выявілася, што, хоць умовы працы былі вельмі цяжкія, у асноўным усе заданьні, ускладзеныя леташнім сходам на тымчасовы Ўрад, — выкананыя. На запросіны тымчасовага Ўраду Інстытуту, які разаслаў у гэтай справе каля ста адмысловых анкетаў і запросінаў блізу ўсім, бяз розьніцы палітычных перакананьняў, беларускім навукоўцам і мастакам, вакол Інстытуту задзіночылася ўжо ладная грамада (звыш 50 сяброў).*

*Апрацаваны Статут арганізацыі, выдадзены коштам ахвяраў, сабраных сярод беларусаў добрае волі, два нумары часопісу БІНіМу — "Запісы", цалкам падрыхтаваныя да друку, вялікі зборнік вершаў Янкі Купалы, зборнік вершаў Максіма Багдановіча, кніжка "Ахвяры бальшавізму" з імёнамі звыш 500 беларускіх дзеячаў, пісьменьнікаў, навукоўцаў і патрыётаў, зьнішчаных бальшавікамі й інш. У асноўным, усё падрыхтаванае патрэбнае дзеля адчыненьня паасобных сэкцыяў Інстытуту; наладжаныя два навуковыя рэфэраты й абыход 10-х угодкаў сьмерці Янкі Купалы з рэфэратам і мастацкай часткай; апрацаваная праграма й падабраныя лектары для Беларускага Народнага Ўнівэрсытэту, што будзе адчынены, як толькі знойдзецца належнае памяшканьне, ды заладжана яшчэ шмат больш дробных справаў, працу ля якіх мо' не заўсёды й відаць, але якая забірае шмат часу й безь якое нельга абысьціся.*

*Пасьля ўступнага слова дасюлешняга старшыні БІНіМу ўладыкі Васіля й справаздачы з працы за мінулы год, зробленай першым сакратаром Ураду*

*доктарам Вітаўтам Тумашам, прысутныя выказалі старому Ўраду абсалюторыюм з падзякай.*

*Пасьля гэтага пачалося чытаньне Статуту й дыскусія зь яго. Статут быў прыняты з колькімі, тут жа выпраўленымі, невялічкімі зьменамі.*

*Скончыўшы з Статутам і кіруючыся ім, сабраныя сябры прыступілі да выбараў новага першага сталага Ўраду БІНІМу.*

*Тайным галасаваньнем, бальшынёю галасоў у новы ўрад выбраныя: на старшыню — дацэнт Янка Ліманоўскі, сябрамі — доктар Вітаўт Тумаш, доктар Уладзімер Сядура, Натальля Арсеньнева (Кушаль) і Мікола Панькоў. Апрача гэтага, выбраныя тры кандыдаты да Ўраду й Наглядная рада ў складзе старшыні прафэсара Лява Акіншэвіча, уладыкі Васіля й паэты Рыгора Крушыны.*

*Дарма што арганізацыйны пэрыяд працы Інстытуту ў асноўным скончаны, на плечы новага Ўраду ўскладзена ці мала важных абавязкаў. Адным з найважнейшых — стварэньне матэрыяльнае базы для працы нашае навуковае арганізацыі, без чаго яна ніколі не патрапіць набраць належнага імпэту, арганізацыя паасобных сэкцыяў, выдавецкая праца, навязаньне трывалых сувязяў зь іншанацыянальным ды амэрыканскім навуковым сьветам і шмат чаго іншага.*

*Беручы на ўвагу матэрыяльнае становішча нашае маладое эміграцыі й цяжкасьці ў атрыманьні дапамогі на беларускую навуковую працу з боку розных пакліканых да гэтага інстытуцыяў, — кожнаму ясна, што ня толькі ахвярнасьць Ураду ці сяброў інстытуту, якія не шкадуюць ні грошай, ні часу для разьвіцьця сваё ўстановы, — але й усяго нашага грамадзтва можа адно прычыніцца да належнага росту Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва — адзінае шырока разбудаванае навуковае інстытуцыі на эміграцыі”*[78].

Як пісаў Вітаўт Тумаш у лісьце да Аўгена Вярбіцкага:

*“Першы год Інстытуту, лічу, быў перадусім годам арганізацыйным, годам гуртаваньня сілаў, што не адбывалася й безь перашкодаў. Другі й далейшыя гады павінны быць перадусім гадамі ўпорыста-сталай працы й разьвіцьця. І вось таму некаторыя справы адразу, у першы год, Інстытут ня мог зладзіць, ня мог нават брацца за іх. Трэба было (і трэба яшчэ) усё змагацца за сам аўтарытэт Інстытуту, трэба гуртаваць людзей часта сьмяротна пасвараных між сабой або капрысных, з выбуялай індывідуальнай «самабытнасьцяй» — і на гэта ўсё патрэбныя сілы,*

[78] Беларус. 1952. 25 сьнежня.

*час, якога кажнаму не хапае, цярплівасьць, тактычнасьць. Лічу, што бальшыня гэтых перашкодаў напярэдадні другога году існаваньня ўжо шчасьліва пераможаная. Цяпер будучы ўрад павінен з адпаведным асьцярожным падыходам заняцца й справамі іншымі, у першую чаргу прапанаванаю Вамі адналітнасьцяй тэрміналёгіі, магчыма спрабаваць — пры агульнай згодзе — давясьці да ўмовы аб адналітным правапісе, якога-б меліся тут трымацца ўсе выдаўцы і г. д. «Асьцярожна», бо справу заместа паправіць можна лёгка яшчэ пагоршыць, калі толькі мала абдуманымі крокамі будуць зробленыя паважнейшыя памылкі”*[79].

27 сьнежня адбылося наступнае паседжаньне, на якім нямала ўвагі надалі канчатковай рэдакцыі Статуту БІНіМу ды плянам на будучыню. У прыватнасьці, было запратакалявана выдрукаваць у 1953 г. чатыры нумары “Запісаў” памерам 60 бачынаў, падрыхтаваць праект бюджэту на “Запісы” й зборнік твораў Янкі Купалы для падаваньня ў Фордаўскі фонд[80], рэдакцыйную калегію часопісу паклікаць у складзе доктара Вітаўта Тумаша, Язэпа Гуткоўскага, Натальлі Арсеньневай. Пастанавілі таксама дзеля агляду іншамоўных кніжак, у якіх закранаецца пытаньне Беларусі, стварыць групу дасьледнікаў у складзе Міколы Панькова, Іны Рытар, Вітаўта Тумаша, Аўгена Вярбіцкага, Лява Акіншэвіча.

З стыпэндыямі беларускім арганізацыям (ня толькі Інстытуту), у параўнаньні з аналягічнымі расейскімі, было вельмі складана. 29 сьнежня 1952 г. Вітаўт Тумаш пісаў:

*“Дарагі Старшыня! [...] Ці ня быў-бы добры тэкст ліста ў справе Купалавага зборніка падобнага зьместу: «Як ведама, дзякуючы фінансавай падмозе Іст Юроп Фонд*[81] *разгорнутае сяньня вельмі прыгожае выдавецтва расейскіх кнігаў, якіх, паводле паведамленьняў у прэсе, выдадзена ўжо болей 100.000 тыражу. Пакольні Іст Юроп Фонд ня раз зазначаў, што ён ставе сабе за мэту дапамогу ўсім нацыянальнасьцям СССР, дык Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва гэтым зьвяртаецца з просьбаю да сп. Ды-*

[79] Ліст В. Тумаша да А. Вярбіцкага ад 03.12.1952. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[80] ***Ford Foundation***, **Фордаўскі фонд** — амэрыканская дабрачынная арганізацыя, заснаваная ў 1936 г. Фінансуе праекты дзеля падтрымання дэмакратыі, скарачэньня беднасьці, пашырэньня міжнароднага супрацоўніцтва і чалавечага разьвіцця.

[81] ***East European Fund, Inc.***, **Усходнеэўрапейскі фонд** — падразьдзяленьне Фордаўскага фонду. Займалася дасьледчымі праектамі на базе Калюмбійскага ўнівэрсытэту.

*рэктара даць дапамогу на друк спачатку хаця-баднэй адзінай беларускай кніжкі: тому выбраных твораў Янкі Купалы на бачынаў 500 у тыражы 3000 экз. коштам агульным каля 5000 даляраў (кошты друку + кошты прыгатовы машынопісу). Зазначаем, машынопіс кнігі Інстытут мае ўжо прыгатаваны, і друк яе можна было-б распачаць безадкладна. Янка Купала займае ў беларускай літаратуры асобную пазыцыю нацыянальнага паэты, падобную, якую мае Шаўчэнка*[82] *ў літаратуры ўкраінскай ці Міцкевіч*[83] *у польскай, і беларуская эміграцыя ўсяго сьвету была-б вельмі ўдзячная, калі-б Іст Юроп Фонд сапраўды дапамог у выдачы гэтай важнай для беларусаў кнігі"*[84].

16 ліпеня 1952 г. Інстытут атрымаў ліст ад працаўніка *East European Fund, Inc.* Мэлвіла Раглза[85]. Зьвяртаючыся да ўладыкі Васіля, той пісаў:

*"Вашая прапазыцыя па выданьні публікацыі ў беларускай мове ў традыцыях вольнага дэмакратычнага грамадзтва бясспрэчна ўхвальная і, як Вы зазначылі, падобная да праграмы Выдавецтва імя Чэхава*[86]*. Але фонды, якія будуць у нашым распараджэньні ў наступным годзе, будуць значна лімітаваныя. Таму як на сёньня для мяне немагчыма даць Вам хоць які пазытыўны адказ, але магу запэўніць Вас, што Вашая прапанова будзе мець нашыя сымпатыі пры складаньні пляну на наступны год"*[87].

Цягам далейшага году ўжо новы старшыня, Янка Ліманоўскі, вёў ліставаньне з прадстаўнікамі Фонду, дасылаючы запатрабаваныя імі

[82] **Тарас Шаўчэнка** (укр. *Тарас Шевченко*, 1814–1861), украінскі пісьменьнік, мастак, грамадзкі дзеяч; заснавальнік новай украінскай літаратуры.

[83] **Адам Міцкевіч** (1798–1855), беларуска-польскі паэт, публіцыст, дзеяч польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

[84] Ліст В. Тумаша да ўладыкі Васіля ад 29.12.2952. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[85] **Мэлвіл Раглз** (анг. *Melville J. Ruggles*, 1915–2005), амэрыканскі дасьледнік, аўтар шэрагу публікацыяў, прысьвечаных СССР, у тым ліку *"Russian and East European publications in the libraries of the Unites States"* (1960), *"The Soviet Union and the atom: the early years"* (1956), *"The Soviet image of the US"* (1953), *"Soviet libraries and librarianship"* (1961, 1962) ды інш.

[86] **Выдавецтва імя Чэхава**, ***Chekhov Publishing House of the East European Fund, Inc.*** — амэрыканскае выдавецтва. Працавала ў 1952–1956 гг. у Нью-Ёрку, друкавала літаратурныя, гістарычныя, мэмуарныя й навуковыя працы расейскіх аўтараў, якіх не публікавалі ў СССР. Выдавецтва было падразьдзяленьнем Усходнеэўрапейскага фонду.

[87] Ліст захоўваецца ў БДАМЛМ.

ня толькі асобнікі “Запісаў”, але й копіі статуту, бюджэту, сплочваньня падаткаў, датаваны сьпіс рэфэратаў і паседжаньняў *etc*. І нарэшце ў кастрычніку 1953 г. Інстытут атрымаў чэк на 2500 даляраў[88].

## Усебеларускі архіў ды іншыя праекты

Тым часам праца разбудовы БІНіМу вялася надалей. На паседжаньні 10 сьнежня 1953 г. пастанавілі закласьці ***Ўсебеларускі архіў***, аб’яднаўшы ў ім прыватныя архівы Міколы Панькова й архівы Беларускае бібліяграфічнае службы, пра што ў “Беларусе” было напісана:

*“Выконваючы даручэньне Агульнага Зьезду з 14 сьнежня 1952 г., Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва прыступіла да арганізацыі ў Нью-Ёрку Ўсебеларускага Архіву беларускае эміграцыі.*

*Дзякуючы ахвярнасьці архівара Інстытуту Сп. Міколы Панькова, які аддае пад Архіў адпаведнае памяшканьне, сталася магчымым прыступіць да арганізаваньня Архіву безадкладна, каб так патрэбная ўстанова была як найхутчэй адчыненая й аддадзеная для карыстаньня ўсяму беларускаму грамадзянству бяз розьніцы палітычных паглядаў ці груповае прыналежнасьці.*

*Ужо праведзеная пачатковая праца паказала, што арганізаваньне Архіву — справа насьпелая, і ўжо шмат хто згадзіўся перадаць у Архіў свае прыватныя зборы для агульнага карыстаньня ці то на собскасьць Архіву, ці на ўмовах дэпазыту.*

*Усебеларускі Архіў будзе складацца з трох галоўных аддзелаў: архіўнага, музэйнага й бібліятэкавага. Архіўны аддзел зьбірае й перахоўвае акты, дакумэнты, рукапісы, успаміны, фатаграфіі, біяграфічныя й іншыя падобныя матэрыялы з гісторыі Беларусі й з гісторыі й жыцьця беларускае эміграцыі.*

*Музэйны аддзел зьбірае памяткі й прадметы, што маюць гістарычную, навуковую, этнаграфічную, мастацкую вартасьць для нашых будучых пакаленьняў. Сюды будуць належаць і творы беларускіх мастакоў, як*

---

[88] Вітаўт Кіпель: *У кнізе “The East European Fund, Inc. Third Annual Report 1953–1954” (New York, 1954) на с. 82 паведамляецца, што фінансаваныя наступныя праекты: “A History of Communism in Byelorussia” (кніжкі пад такім назовам, наколькі нам ведама, выдадзена не было. Ці быў рукапіс?), “Byelorussian Theater and Drama” і “Oppositional Trends in Byelorussian Literature” (былі напісаныя й выйшлі кніжкамі). Таксама зазначаецца, што стыпэндыя часткова прызначаная на кнігу па гісторыі беларускай мовы.*

*абразы, скульптура, замалёўкі, а таксама творы чужых мастакоў зь беларускаю тэматыкай.*

*Бібліятэкавы аддзел будзе намагацца канцэнтраваць ды ахоўваць усе друкі беларускія й пра Беларусь, як кнігі, брашуры, часопісы, газэты, ноты, паштоўкі, улёткі й г. д.*

*Інстытут бярэ на сябе абавязак і адказнасьць за справу аховы збораў ды за даступнасьць іх для навуковых і грамадзкіх патрэбаў. Дзеля сталай рупнасьці пра ахову сабраных каштоўнасьцяў і пра разьвіцьцё Архіву паклікаецца з прадстаўнікоў грамадзянства адумысловая Архіўная рада як наглядна-дарадчы орган для кіраўніцтва Архіву.*

*Паведамляючы пра закладзіны Ўсебеларускага Архіву, Урад Інстытуту даручае гэтую так важную й неабходную з грамадзка-нацыянальнага гледзішча ўстанову ўвазе й маральнай ды матэрыяльнай апецы беларускай эміграцыі ўсіх краінаў сьвету ды заклікае да перасланьня ў Архіў вышэй пералічаных матэрыялаў. Просім усе беларускія выдавецтвы перасылаць па 3 экзэмпляры ўсіх сваіх выданьняў для Архіву. За большую колькасьць Архіў будзе заўсёды вельмі ўдзячны, бо лішнія экзэмпляры будуць выкарыстаныя для вымены з чужамоўнымі архівамі й бібліятэкамі, лучнасьць зь якімі ўжо навязваецца”* [89].

На тым самым паседжаньні 10 студзеня дыскутавалася справа правапісу эміграцыйнага друку й была пакліканая камісія для апрацаваньня пляну ўніфікацыі артаграфіі: Янка Ліманоўскі, Уладзімер Сядура, Ізыдар Плашчынскі, Язэп Гладкі. Таксама зноў была пакліканая камісія для крытычнага агляду й аналізу іншамоўных кніг, прысьвечаных праблемам, зьвязаным зь Беларусьсю. У гэтую камісію цяпер увайшлі Мікола Панькоў, Леў Гарошка, Вітаўт Тумаш, Іна Рытар, Леў Акіншэвіч, Аляксей Сянкевіч, Часлаў Сіповіч, Мікола Сільвановіч, Мікола Нікан, Аўген Вярбіцкі[90].

Асобна дыскутавалася напісаньне ангельскамоўнага нарысу пра Беларусь. У камісію для апрацоўваньня нарысу ўвайшлі Леў Акіншэвіч, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Юрка Віцьбіч, Уладзімер Сядура, Леў Гарошка, Гіпаліт Паланевіч, Аўген Кахаsuccеўскі, Аўген Вярбіцкі,

---

[89] Беларус. 1953. 21 лютага.

[90] Вітаўт Кіпель: *Калі ў гадох 1980-х я пераглядаў пратаколы, выступы паасобных сябраў Інстытуту на сходах, дзе часта ўзьнімалася справа правапісу ды лямантавалася-шкадавалася, што няма “пад рукамі” граматыкі Б. Тарашкевіча, тагачасны ўрад БІНіМу пастанавіў перавыдаць яе, што й было зроблена ў 1992 г. з зазначэньнем: “У памяць выдатных беларускіх настаўнікаў др. Аляксандра Орсы і Натальлі Орсы з Наваградчыны”. Дадам цяпер: належалі да ліку заснавальнікаў Інстытуту.*

Сымон Кандыбовіч (Кабыш), Іна Рытар[91]. Ляву Акіншэвічу таксама прапанавалі ўтварыць гістарычную сэкцыю, а Ўладзімеру Сядуру — сэкцыю выяўленчага мастацтва. Пастанавілі стварыць і сэкцыю літаратурную, што даручылі Янку Ліманоўскаму з дапамогаю Ізыдара Плашчынскага (Гуткоўскага), Натальлі Арсеньневай, Рыгора Крушыны, Юркі Віцьбіча, Уладзімера Сядуры. Гэтая сэкцыя забавязалася з 1954 г. выдаваць літаратурна-мастацкі часопіс і абвесьціла конкурс на найлепшае апавяданьне[92].

У чэрвені 1953 г. выйшаў першы нумар "Абежніка":

*"Каб навязаць цясьнейшую лучнасьць паміж расьцярушанымі па сьвеце сябрамі Беларускага Інстытуту для мэтаў актывізацыі навукова-беларусаведнай і беларускай культурнай працы, Управа Інстытуту пачынае выдаваць «Абежнік БІНіМ», які будзе выходзіць у меру патрэбы, але не радзей, як 4 разы на год. Управа Інстытуту заклікае ўсіх сяброў да супрацоўніцтва ў «Абежніку» праз дасылку прапановаў, заўвагаў, паведамленьняў".*

У гэтым нумары фармуляваўся і важны аспэкт дзейнасьці Інстытуту, які, асабліва ў пазьнейшы час, будзе адыгрываць вялікую ролю для беларускай эміграцыі:

*"Управа Інстытуту зьвяртае ўвагу на неабходнасьць збольшанай актыўнасьці сяброў ня толькі сярод свайго, але і асабліва чужога грамадзянства. Неабходна асабліва пры кажнай нагодзе браць удзел у навуковых паседжаньнях і дыскусыях іншанацыянальных арганізацыяў і ўстановаў, на якіх закранаюцца й беларускія пытаньні. Такі сталы жывы кантакт з чужанацыянальнымі навукова-інтэлектуальнымі кругамі можа прынясьці толькі двустароньняю карысьць, пашырыць ды паглыбіць веду й зразуменьне беларусаведных пытаньняў ды падыйме аўтарытэт беларускіх навуковых кадраў у вачох чужынцаў"*[93].

---

[91] Вітаўт Кіпель: *Плян англамоўнага нарысу пра Беларусь быў зроблены др. Аўгенам Вярбіцкім і пададзены ўправе, дзе й затрымаўся: др. Тумаш тады пачаў рыхтавацца да мэдычных экзамэнаў, а Вярбіцкі аддаўся цалкам хіміі. На тым справа й скончылася.*

[92] Беларус. 1953. 28 лістапада.

[93] Вітаўт Кіпель: *"На поўную пару" гэта зьдзейсьнілася ў 1960–1980-х гадох: удзел у розных канфэрэнцыях быў вельмі значны.*

# Крывіцкае навуковае таварыства ды іншыя складанасьці

Атручваў, замінаў стваральнай дзейнасьці шэраг фактараў, і вонкавых, і нутраных, але найперш трэба згадаць тут стасункі ці, хутчэй, варажнечу зь іншаю навуковаю арганізацыяй беларускай эміграцыі, Крывіцкім навуковым таварыствам імя Пранціша Скарыны й непасрэдна з доктарам Янкам Станкевічам, заснавальнікам. Вітаўт Тумаш пісаў да Янкі Ліманоўскага:

*“Паведамляю, што нягледзячы на Вашае даручэньне на скліканую нараду ген. Кушалем у справе акадэміі па нябожчыку Равенскім*[94] *аднак не пайшоў. Лічыў лепш так паступіць пасьля таго, як даведаўся, што на гэтую нараду сп. Кушаль запрасіў і др. Станкевіча (відаць, як старшыню Крывіцкага Т-ва). Лічу, што пасьля афіцыяльных публічных паклёпаў др. Станкевіча на Інстытут і спэцыяльна на Вас як старшыню Інстытуту як на “камуністых”, ня маю права без адумысловай пастановы Ўправы Інстытуту прыймаць удзел у нейкіх нарадах з асобамі падобнай маральнай вартасьці. Аб гэтым тэлефанічна паведаміў сп. Кушаля.*

*Па-мойму, да ніякога практычнага выніку гэтая нарада ня можа давясьці й таму яшчэ, што браць удзел у ёй на адрэз адмовіўся (дзеля прыблізна тых самых прычынаў) і сп. Куліковіч, а безь ягонага ўдзелу ніякой канцэртнай часткі арганізаваць немагчыма”*[95].

Варта прывесьці тэкст Тумашава выступу на адной з зборак Інстытуту; выступленьня, важнага для разуменьня тагачасных адносінаў і раскладу сілаў у эміграцыйнай грамадзе:

*“Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва быў арганізаваны з мэтай аб’яднаньня ўсіх беларускіх навуковых і мастацкіх сілаў для навуковатворчай працы. Гэтых заданьняў не магло выканаць Крывіцкае Навуковае Таварыства імя Праньціша Скарыны дзеля пэўных прычынаў, зь якіх падамо тут толькі некаторыя. Старшыня гэтага Таварыства Сп. Др. Я[нка] Станкевіч аставаўся «нязьменным» старшынёю пераважна за кошт галасоў тых сяброў Таварыства, якія на зьезды Таварыства самі ніколі не прыяжджалі і якія даручалі свае галасы самаму Сп. Др. Я[нку] Станкевічу.*

[94] Мікола Равенскі памёр 9 сакавіка 1953 г. у Лювэне (Бэльгія).

[95] Ліст В. Тумаша да Я. Ліманоўскага ад 12.04.1953. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*Нецярплівасьць Сп. Др. Я[нкі] Станкевіча да тых, хто крытыкаваў ягоныя погляды (асабліва ў галіне беларускай мовы) перашкаджалі стварэньню навуковай атмасфэры ў Таварыстве. «Веда»[96] запаўнялася пераважна артыкуламі самога Сп. Др. Я[нкі] Станкевіча і зьвярталася тэматычна пераважна да далёкай мінуўшчыны Беларусі.*

*Ад самага пачатку існаваньня Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва Сп. Др. Я[нка] Станкевіч распачаў «зімнюю вайну» супроць Інстытуту, забараняючы сябром Таварыства прыймаць удзел у працы Інстытуту і г. д. Як паказала, аднак, практыка, гэтая «зімняя вайна» не знайшла водгуку сярод сяброў Таварыства за выняткам бліжэйшых «дарадчыкаў» і аднадумцаў Сп. Др. Я[нкі] Станкевіча.*

*Узьнятая Сп. Др. Я[нкам] Станкевічам «зімняя вайна» ператварылася зь ягонага боку ў брудную вайну. Так, на апошнім годнім зьезьдзе Таварыства Сп. Др. Я[нка] Станкевіч зрабіў зласьлівы выпад супроць Інстытуту і старшыні Інстытуту Сп. Янкі Ліманоўскага. (Сказаў падобнае: Інстытутам кіруе камуністы, і сябры Таварыства павінны адыйсьці ад Інстытуту, каб не набыць сабе клопату.)*

*Беспрынцыповасьць Сп. Др. Я[нкі] Станкевіча ў вышэй пададзеным выпадзе выглядае вельмі яскрава, калі ўзяць пад увагу наступныя факты. Сам Сп. Др. Я[нка] Станкевіч запрапанаваў Сп. Я[нку] Ліманоўскаму ўступіць у склад сяброў таварыства (1951 г.). Сп. Я[нка] Ліманоўскі згадзіўся і быў аднагалосна прыняты ў сябры Таварыства. На прадапошнім зьезьдзе Таварыства вясной 1952 году Сп. Я[нка] Ліманоўскі быў завочна (тады ён быў у Чыкага) абраны сябрам Управы Таварыства. Аднак Сп. Я[нка] Ліманоўскі не падтрымаў ідэі бяссэнсоўнай «зімняй вайны». Запрошаны Інстытутам, ён прачытаў рэфэрат, прысьвечаны 10-м угодкам сьмерці Янкі Купалы, і надрукаваў артыкул на гэтую тэму ў «Запісах» Інстытуту[97]. Пазьней Сп. Я[нка] Ліманоўскі ў заяве, перасланай Сп. Др. Я[нку] Станкевічу, зрокся свайго сакратарства і сяброўства ў Таварыстве. (Сп. Др. Я[нка] Станкевіч інфармаваў дэлегатаў годняга зьезду Таварыства, што Таварыства змусіла Сп. Я[нку] Ліманоўскага выступіць з Таварыства. Сапраўды, кепска выглядае тактыка «зімняй вайны», калі старшыня Таварыства ня можа сказаць праўду сваім дэлегатам.)*

[96] **“Веда”** (*“Veda. Навукова-літаратурны часапіс. Brooklyn, New York. Выдаець Крывіцкае (Беларускае) Навуковае Таварыства Праньціша Скарыны”*) выходзіла ў 1951–1954 гг. У 1973 г. перыёдык быў адноўлены як *“Веда-Vieda (Science)”*. Цікава зазначыць, што Янка Станкевіч для назвы часопісу скарыстаў ідэю, не зрэалізаваную, што праўда, свайго былога апанэнта ў Празе — Тамаша Грыба.

[97] Маецца на ўвазе артыкул: Равіч, Антон. Янка Купала // Запісы БІНіМ. Вып. 2. Нью Ёрк, 1952. С. 65–76.

*Сп. Я[нка] Ліманоўскі прысутнічаў у якасьці госьця на годнім зьезьдзе Інстытуту. І хоць Сп. Я[нка] Ліманоўскі адмаўляўся, ён быў абраны старшынёй Інстытуту*[98]*. Каб не паўтараць шкадлівай практыкі Таварыства, на прапанову Сп. Я[нкі] Ліманоўскага Ўправа Інстытуту прыняла папраўку да адпаведнага пункту Статуту такога зьместу, што ніводзін сябра Інстытуту ня можа мець на годнім зьезьдзе Інстытуту больш, чымся пяць davераных яму іншымі сябрамі Інстытуту галасоў. Сп. Я[нка] Ліманоўскі, адчуваючы шкоднасьць «зімняй вайны», заклікаў на першым паседжаньні Ўправы Інстытуту да супрацоўніцтва зь сябрамі Таварыства, сам асабіста зьвярнуўся да некаторых зь іх, атрымаў іхнюю згоду. Дык можа гэта вывела з роўнавагі аўтара «зімняй вайны» Сп. Др. Я[нку] Станкевіча?*

*Ня цяжка здагадацца, што гэтая «зімняя вайна» Сп. Др. Я[нкі] Станкевіча супроць Інстытуту мае ў сваёй падставе матар'яльныя прычыны. Сп. Др. Я[нка] Станкевіч непакоіцца, што няспынны ўзрост Інстытуту можа выклікаць уплывы на амэрыканскую ўстанову ў тым кірунку, што гэтая ўстанова палічыць за патрэбнае перадаць Інстытуту значную частку тэй датацыі, якую дагэтуль атрымлівала Крывіцкае Таварыства і якая (датацыя) забясьпечвала Сп. Др. Я[нку] Станкевічу спагадныя мажлівасьці да самарэклямы празь «Веду».*

*Можна адзначыць тут, што меркаваньні матар'яльнага парадку ўплываюць вельмі адчувальна на палітыку (ці, праўдзіва кажучы, палітыканства) Сп. Др. Я[нкі] Станкевіча. На пачатку мінулага году ў Радзе БНР стварыўся гэтак званы блёк «непадзельнасьці і незалежнасьці Беларусі». Асноўным пунктам актыўнасьці гэтага блёку было апратэставаньне ўдзелу беларускіх арганізацыяў у перагаворах з расейскімі арганізацыямі ў справе стварэньня супольнага антыбальшавіцкага фронту*[99]*. Калі прыйшоў час*

[98] Зь ліста Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 28.05.1953: *"Мне хочацца думаць, што пытаньне, якое я цяпер парушу, застанецца паміж намі, але маю свой асабісты погляд наконт сучаснага складу Ўраду Інстытуту. Мы, бязумоўна, ня можам заглядацца на сваіх суродзічаў праз акуляры МэкКарана, але... Ліманоўскі добры чалавек і ўсё-ж ён былы камуністы, а не нацыянал-камуністы, як, напрыклад, Ігнатоўскі, Язэп Адамовіч, Міхась Чарот, Чарвякоў, Галадзед, Баліцкі, Прышчэпаў, Цішка Гартны і г. д. Уся літаратарская творчасьць Ліманоўскага наскрозь камуністычная, а таму калі яго (не па нацыянальных прычынах) выкінулі з партыі, дык і творчасьць гэная назаўсёды скончылася. У сувязі з гэтым Ліманоўскі меў рацыю, калі адмаўляўся ад старшыянаваньня ў Інстытуце".* Ліст захоўваецца ў фондзе БІНіМу ў БДАМЛМ.

[99] Маецца на ўвазе гэтак званая праблема "непрадрашэнства" ў дачыненьнях паміж беларускімі і расейскімі эміграцыйнымі арганізацыямі, што выклікала крызіс у Радзе БНР і выхад зь яе складу групы дзеячаў на чале з Аўгенам Каханоўскім.

*разгляду новага бюджэту ва ўспамянёнай амэрыканскай установе ды ў іншай амэрыканскай установе, якая прызначае навуковую стыпэндыю Сп. Др. Я[нку] Станкевічу, і паколькі гэтым установам рабіліся закіды, што быццам яны больш спачуваюць расейцам, — Сп. Др. Я[нка] Станкевіч пасьпяшаўся адмежавацца ад вышэй спамянёнага блёку. Бюджэты былі зацьверджаныя, і Сп. Др. Я[нка] Станкевіч ізноў пачаў востра выступаць супраць БАФ'у*[100] *за ягоны ўдзел у перагаворах з тымі самымі расейскімі арганізацыямі ў справе стварэньня г. зв. каардынацыйнага фронту. Ізноў лінія таго-ж самага «блёку», ад якога Сп. Др. Я[нка] Станкевіч толькі так нядаўна адмежаваўся. Можна, ня будучы прарокам, прадказаць, што «лінія» Сп. Др. Я[нкі] Станкевіча ў гэтай справе грунтоўна зьменіцца, калі наблізіцца час разгляду новых бюджэтаў у вышэй спамянёных амэрыканскіх установах. А тымчасам аб'ектам гэткага манэўраваньня Сп. Др. Я[нкі] Станкевіча і ягонай брыдкай «зімняй вайны» зьяўляецца Інстытут.*

*У сваім часе Сп. Др. Я[нка] Станкевіч напісаў прэзыдэнту аднаго з амэрыканскіх унівэрсытэтаў брудны данос на беларускую дзяўчыну-студэнтку, што паводле ягоных меркаваньняў павінна было прычыніцца да выключэньня яе з унівэрсытэту*[101]*. Аднак прэзыдэнт унівэрсытэту ня толькі зігнараваў данос, але абурана запытаўся ў дзяўчыны, ці не камуністы той, хто пісаў гэты данос.*

*Напады на Інстытут з боку Сп. Др. Я[нкі] Станкевіча і ягоная «зімняя вайна» як сродак змаганьня зь нібыта «канкурэнтам», заўсёды, пэўна-ж, падтрыманая Сп. А[нтонам] Адамовічам*[102]*, гэта толькі частка тэй*

---

Падрабязьней пра гэта глядзі: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск, 2013. С. 57–64.

[100] **БАФ**, **Беларускі антыбальшавіцкі фронт** — арганізацыя, створаная на пачатку 1950-х гг. у Нямеччыне пад кіраўніцтвам Янкі Жыткі для вядзеньня перамоваў з расейскімі і іншымі нацыянальнымі арганізацыямі дзеля стварэньня агульнага антыкамуністычнага руху.

[101] Маецца на ўвазе Галіна Ганчарэнка (у шлюбе Руднік), якая здымала ў Янкі Станкевіча ў Нью-Ёрку жытло разам з сваёй цёткай, сьпявачкай Барбарай Вержбаловіч. Згадкі пра гэтую справу гл.: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970... С. 213.

[102] Зь ліста Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 25.03.1955: *"Надысь атрымаў ліст зь Нью-Ёрку, дзе Ікса абураецца з тае прычыны, што Сп. Адамовіч трапіў у склад Ураду Інстытуцыі, да якое некалі вельмі няпрыхільна ставіўся. Між тым цалкам разумею Сп. Адамовіча і вітаю яго ў складзе Ўраду БелІНіМ. Запраўды, гэта яшчэ адзін доказ таму, што ніхто ня ў стане доўгі час супрацоўнічаць з Сп. Др. Ян[кам] Станкевічам. Сп. Адамовіч зьяўляўся абраным старшынёй Таварыства, і падпарадкаваны яму, паводля перш-лепшага статуту, рэдактар «Веды» збэсьціў яго пе-*

*актыўнасьці, якая мае ўсе адзнакі разбуральнасьці. Асабістыя інтарэсы, матар’яльныя фактары і некантраляваная амбіцыя пераважаюць над агульнымі нацыянальнымі заданьнямі”*[103].

Хапала праблемаў і іншага пляну, пра што Вітаўт Тумаш асьцярожна пісаў Юрку Віцьбічу:

*“Што да справы асобы старшыні Інстытуту, дык вельмі неахвотна дыскутую гэтую справу лістоўна, хоць і шмат пра гэта ёсьць да сказаньня вуснага. Аднак карціць мне зрабіць некаторыя заўвагі да гэтага пытаньня. 1. Вельмі важна й цікава адцеміць, што пакуль сп. Ліманоўскі быў другою асобаю пасьля старшыні ў Крывіцкім Таварыстве, сакратаром, датуль быў першаякасным, бяз закідаў, чалавекам, і ніхто ў яго ня кідаў каменем. Як толькі апынуўся ў Управе Інстытуту — адразу пачалася нагонка. Гэты характэрны факт быццам рэфлектарам асьвятляе і аснаўную фактычную прычыну нагонкі, і паказвае бы пальцам на асобы галоўных яе пачынальнікаў-рэжысораў. 2. Гарантую Вам, што кажны з прапанаваных Вамі старшыняў адразу пасьля выбараў будзе засыпаны паклёпамі падобнага характару. Дык справа зусім ня ў тым, што нехта мае тыя ці іншыя слабыя староны (хто іх ня мае?), а толькі ў тым, што некаму за ўсякую цану трэба перашкаджаць у працы Інстытуту. На выпадак, калі-б Вы згадзіліся ачоліць Інстытут, магу Вам нават наперад падаць і ўжо два прынамся галоўныя «казырныя тузы», якімі пачнуць «казыраць» гэтыя малыя духам людзі, што ходзяць сяньня каля паважных навуковых нашых справаў, бо пра гэтыя «казыры» людзі гэтыя прагаворваюцца, лічачы, што імі перадусім могуць трымаць таго ці іншага «ў жаху». 3. Інстытут арганізацыя дэмакратычная ва ўсіх сваіх асновах (ды сапраўды), ён ня мае «неадменных» старшыняў, як некаторыя іншыя арганізацыі, і калі-б нават і была зробленая памылка ў той ці іншай асобе (чаго, на мой пагляд, ня было), дык справа гэтая пры першай нагодзе паправіцца. Аднак, па-мойму, немагчыма прынцыпова беларускаму грамадзянству гадзіцца на такую пастаноўку справы, што ня*

*рад усёй эміграцыяй. Наш добры Юхнавец паспрабаваў надрукаваць у «Ведзе» свой верш і даставў: «Дзень ёмка ходзіць па зялезных сторах». Высокашаноўны рэдактар з уласьцівым яму мастацкім густам надаў гэтаму вобразу бадай што клясычнае гучэньне. Аднак ня ўсім мець арганізацыйныя здольнасьці ды мастацкі густ — з самай шчырай пашанай стаўлюся да навуковых працаў Сп. Др. Ян[кі] Станкевіча і лічу яго добрым беларусам”*. Ліст захоўваецца ў БДАМЛМ.

[103] Тэкст захоўваецца ў БДАМЛМ.

*можна выбіраць на вышэйшыя становішчы з Усходняй Беларусі, паколькі кажны зь іх мусіў рабіць пісаныя ці вусныя пахвалы для бальшавіцкага рэжыму (тыя, што гэтага не рабілі — сяньня нябожчыкі). А між іншым ёсьць людзі, якія сядзяць па бібліятэках ды спэцыяльна вышукоўваюць такія пісаныя «довады» аб іншых, каб пры першай нагодзе шантажаваць таго ці другога. Слухаць іх, баяцца іх — справу беларускую завядзём у вузенькі сьляпы ашмянскі завулак"*[104].

У лісьце ж да Міколы Панькова Тумаш выказаўся больш рэзка: *"Да ніякой «ролі» я ня зьбіраюся ані буду яе выконваць на нічый загад — пераважаючая бальшыня такія дробненькія духова й маральна людцы, што толькі сумна глядзець, як яны займаюцца «дзяржаўнымі справамі». Раджу й Табе не марнаваць свайго імяні ў дробных інтрыгах і інтрыжках, а лепш і далей налягаць на сапраўды творчую ды прадуктыўную працу"*[105].

Праз усё сваё жыцьцё Вітаўт Тумаш, асоба надзвычай сьціплая, намагаўся трымацца ўбаку ад людзей, што, прыкрываючыся гучнымі й прыгожымі "сьведамымі" словамі, дбалі не пра справу, а гуляліся ў мізэрныя "партфэльныя" гульні; гэтак ён адмовіўся ад пасады бурмістра ў акупаваным Менску, гэтак ён сышоў і з пасады ў Прэзыдыюме Рады БНР. Праца — стваральная, культурніцкая — вабіла яго, і сёньня ўжо можна неаспрэчна сказаць, што меў у тым рацыю. Каталік, хоць і ня практык, ён насьледаваў словам зь Сьвятога Дабравесьця паводле Мацьвея: *"Асьцерагайцеся ілжывых прарокаў, якія прыходзяць да вас у авечай адзежы, а ўсярэдзіне — ваўкі драпежныя; па іхных пладах пазнаеце іх"* (7, 15–16)[106]. Што ж датычыць пладоў працы самога Вітаўта Тумаша — дык пра іх гэтая кніга.

## Нью-Ёрская публічная бібліятэка, Ларыса Геніюш ды іншыя

Разбудова Інстытуту працягвалася. Фармуляваліся й новыя аспэкты яго вонкавай дзейнасьці, у тым ліку й зь бібліятэкамі: найперш — Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкай, якой Натальля Арсеньнева прысьвяціла верш "Ільвы":

[104] Ліст В. Тумаша да Ю. Віцьбіча ад 12.06.1953. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[105] Ліст В. Тумаша да М. Панькова ад 28.12.1953. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[106] Сьвятое Дабравесьце паводле Мацьвея. Пераклад Васіля Сёмухі.

*Дзень*
*залаты, як мёд пчаліны.*
*Яму б —*
*васковая вуза*
*палёў асеньніх, дзераза*
*дарог і вогнішчы асінаў,*
*а не муры,*
*граніт сівы,*
*што сочаць ночна і надзенна*
*два львы на цокалях каменных,*
*із німбам грыў ля галавы.*
*Ім прыкра... горка... Лапай шэрай*
*сьляпыя вочы не накрыць,*
*ня рынуць глыбаю згары*
*на мора каркаў,*
*каб стамерна*
*сплаціць бяздумнай грамадзе,*
*што пнецца,*
*топчацца па пятах —*
*вось-вось сьляпыя кацяняты —*
*за ўсё —*
*за гон, за гуд, за дзень...*
*Мінаюць вёсны... Сушыць сьпека*
*бэтонны горад, ажно дно*
*відаць... Ураз кульгае зноў*
*аднекуль восень злым калекам...*
*Ледзь сьвет канчае асянець —*
*зіма,*
*і ў каменныя шыі*
*вянкі ўгрызаюцца важкія,*
*як зь церняў, ведамы, вянец...*
*Ільвы ж —*
*на варце: мур за імі —*
*вулей, дзе людзкіх думак мёд*
*зьбірае сьвет па годзе год,*
*аж сам із імі не загіне.*

І тут адным Скарынам — галоўным зацікаўленьнем Вітаўта Тумаша, дзякуючы якому з часам бібліятэка займела ня толькі мікрафільмы ўсіх

кніг першадрукара, але й сабрала бадай вычарпальную скарыніяну, — справа не абмяжоўвалася:

*“Вельмі Паважаны Старшыня! Неабходная паўторная інтэрвэнцыя ў Дырэкцыі «Паблік Лябрары»*[107] *ў справе выпіскі беларускіх часапісаў і газэт з БССР. Яшчэ летам мінулага году ад Інстытуту быў зложаны мною на рукі кіраўніка славянскага аддзелу бібліятэкі сп. Ярмалінскага*[108] *ліст з просьбаю выпісаць 8 часапісаў і газэт з БССР: «Летапіс Беларускага Друку», «Весткі Акадэміі Навук БССР», «Полымя», «Беларусь», «Літаратура і Мастацтва», «Зьвязда», «Советская Белоруссия» й «Бальшавік Беларусі» (цяпер пераназваны на «Камуніст Беларусі»). Ярмалінскі абяцаў парабіць стараньні ў гэтай справе, хоць згары зазначыў, што за вынік не ручаецца, бо ўсякая выпіска з СССР газэт вельмі цяжка йдзе. Я з сваёй стараны зазначыў, што прынамся некаторыя з газэт напэўна можна атрымаць, бо атрымліваюць іх нават прыватныя асобы. Хоць пасьля гэтай інтэрвэнцыі прайшло ўжо больш паўгоду часу, і я асабіста пытаўся сп. Ярмалінскага яшчэ два разы пра вынікі выпіскі, мне выглядае, што праўдападобна нічога ў гэтай справе аднак ня зроблена, хоць сп. Ярмалінскі й цьвердзіць, што даўно заказ высланы (ніколі копіі ліста мне не паказаў!).*

*У сувязі з гэтым лічу мэтазгодным яшчэ раз ды на пісьме накіраваць просьбу ў гэтай справе беспасярэдня да дырэктара Паблік Лябрары зь пералічэньнем часапісаў, з падчыркненьнем неабходнасьці іх выпіскі, з успомненьнем, што ў гэтай справе быў раз ужо намі высланы ліст (падаць дату — копія ў спн. Арсеньневай) і з паданьнем факту, што нават прыватныя асобы некаторыя газэты выпісваюць.*

*Думаю, такі «дэмарш» неабходны ды будзе мець добры вынік, бо друкі з БССР нам патрэбныя пры кажнай нагодзе”*[109].

Надышоў 1954 год. Як выглядае, і доктар мэдыцыны не цураўся рыфмы: ён піша верш “Ларысе Геніюш пад Новы год 1954”.

*Новы Год прыдзе сяньня паўноччу:*
*Спатыкаць яго будзе ўвесь сьвет.*

---

[107] Маецца на ўвазе Нью-Ёрская публічная бібліятэка, *The New York Public Library*.

[108] Маецца на ўвазе **А. Ермалінскі** (1890–1975), бібліятэкар. Вучыўся ў Санкт-Пецярбурзе і Швайцарыі. З 1913 г. — у ЗША. Скончыў Гарадзкі каледж Нью-Ёрку і Калюмбійскі ўнівэрсытэт. У 1921 г. абараніў дысэртацыю па гісторыі расейскай літаратуры. Працаваў у Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы.

[109] Ліст В. Тумаша ад 20.04.1953. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*Ўсім надзеі прынесьці захоча;*
*Кветкай папараці зацьвіце.*
*Тут Эффэль калярамі вясёлкі*
*Ў водах Сэны абмые свой твар.*
*Жозэфіны, пад пышнаю ёлкай,*
*Прамянець будзе палкі загар.*
*Ўсе артысты, на сцэнах шырокіх,*
*Прынясуць свой талент на паказ.*
*Адгукнецца у сьнежных аблоках*
*Із Вальдорфу Асторыі джаз.*
*Над Тамізай, у шэрых туманах,*
*Каля мокрых Вэнсьмінстэра сьцен,*
*Узарвецца "гурра" ўсхвалявана,*
*Як ударыць 12 Біг-Бэн.*
*І на чорных ад вуглях далінах,*
*У тумане густым, як кудзель,*
*У прыбранае ёлкі галінах*
*Захахоча нэонам Бруксэль.*
*Зашумяніць мяцеліца ў Фёрдах.*
*Закугліць у стэпах кангуру.*
*У Сахары, па скалах цьвёрдых,*
*Завіхурыць свавольна самум.*
*Пад страхой мігатлівых узораў*
*Скалыхнецца ў крышталах шампань.*
*У вачох, загарэўшых, як зоры,*
*Затанцуе ізь песьнямі п'янь.*
*Новы Год спатыкаюць сягоньня*
*Готэнтот і ў іглю Эскімос...*
*На прасторы зямнога улоньня*
*Новы Год усім нешта прынёс...*
*Не пайду я нікуды сягоньня.*
*Я спаткаю адна Новы Год...*
*І над кнігай Тваёй да сьвітаньня*
*Памалюсь за Цябе і Народ.*
*Памалюся за пояс дзявочы.*
*Памалюся за мілага сны.*
*Памалюся за сінія вочы,*
*Што пад сьнегам чакаюць вясны.*
*На якіх бездарожжах, прывалах,*

*Дзе спаткае Цябе Новы Госьць?*
*У пратухлых крывёю падвалах*
*Ты канчаеш сваю маладосьць...*
*Мо' пад лёдам павекі сьцяліся?..*
*Запяклася у жылах мо' кроў?*
*Маё сэрца з Табою, Ларыса,*
*У завеі сібірскіх сьнягоў!*

У той час Вітаўт Тумаш дапамагаў Станіславу Станкевічу ў працы над укладаньнем і выданьнем альманаху твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў "Ля чужых берагоў" (выйдзе ў Мюнхэне ў 1955 годзе), для якога падрыхтаваў нізку вершаў паэткі і напісаў ейную невялічкую біяграфію, што заканчвалася наступна: *"Восеньню 1948 году Ларыса Геніюш была арыштаваная бальшавікамі ў Чэхаславаччыне разам ізь сям'ёю й вывезеная ў вадзін з канцэнтрацыйных лягераў Савецкага Саюзу. Пасьля гэтага ўсякі сьлед аб ёй загінуў"*[110].

## "Конадні"

Вітаўт Тумаш адначасна працаваў над стварэньнем інстытуцкага літаратурнага часопісу, які станецца хіба найбольшым дасягненьнем эміграцыйнае літаратуры новага, 1954 году.

Гісторыя часопісу, тады пакуль яшчэ без назову, пачалася з канца красавіка, калі старшыня БІНіМу Янка Ліманоўскі й Антон Адамовіч як тагачасны старшыня Крывіцкага навуковага таварыства падпісалі супольную дамову:

*"Насьпела вострая патрэба стварэньня супольнымі натугамі ўсіх беларускіх пісьменьнікаў свайго літаратурнага часапісу на эміграцыі.*

*Дзеля гэтага:*

*1. Старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва забавязваецца пакрыць з фондаў Інстытуту кошты выданьня найменш двох нумароў гэткага часапісу, памеру 6-ці друкарскіх аркушоў нармальнай васьмёркі ў тыражы 1000 экзэмпляраў.*

*2. Старшыня Крывіцкага Навуковага Таварыства забавязваецца пераказаць для выдавецтва часапісу зь першых чарговых датацыяў для Та-*

[110] Ля чужых берагоў. Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. Мюнхэн: выдавецтва "Бацькаўшчына", 1955. С. 155.

*варыства суму ня меншую ад сумы ўплачанай на кошты друку часапісу Інстытутам.*

*3. На часапісе мае быць зазначана, што ён выдаецца коштам Інстытуту, а пасьля ўплочаньня сваёй часьці Таварыствам — што й коштам Таварыства.*

*4. У варганізацыйную рэдакцыйную калегію часопісу запрашаюцца: Натальля Арсеньнева, Антон Адамовіч, Юрка Віцьбіч, Рыгор Крушына, Язэп Менскі, Мікола Панькоў, Уладзімер Сядура. Склад рэдакцыйнай калегіі мае стала падавацца ў часопісе. У патрэбе ён можа быць пашыраны ці зьменены”*[111].

Здавалася б — цудоўная навіна, што мае аб’яднаць і пісьменьнікаў, і чытачоў ды стацца яшчэ адной, хай невялікаю, перамогай на шляху да тэй мэты, да якой крочыць уся грамада. Але замест гэтага навіна займела эфэкт уторкнутага ў мурашнік дубца.

Першым занэрваваўся Станіслаў Станкевіч, убачыўшы ў часопісе канкурэнта свайму альманаху. Вітаўт Тумаш зь лёгкай усьмешкаю пісаў да яго:

*“Не палохайся гэтак літаратурнага часапісу. Гэта тымчасам не такі вялікі й страшны зьвер, і матар’ялу з Твайго альманаху напэўна не перахопіць дзеля той простай прычыны, што выхад першага нумару мяркуецца толькі нейдзе на май месяц. Выходзіць ён мае непэрыядычна, прыблізна два разы ў год, сшыткамі па нейкіх 100 бачынаў, матар’яльна тым часам гварантаваныя тры такія нумары. Рэдакцыя (у якую я не ўваходжу) мае амбіцыю акурат зьмяшчаць толькі недрукаваныя яшчэ рэчы й рэчы саліднейшыя, а ня спробы пачынаючых. Твой альманах робіць тое добрае, што падабраў усё старое, і пісьменьнікі ў часапіс змушаныя даваць нешта новае, а не перадрукі, і пакольківі запас не такі й вялікі ў нашых пісьменьнікаў, дык і выхад часапісу павольны — усе пішуць. Называцца ён будзе не «Агні», а хіба «Конадзень» ці нейк яшчэ накш. Можа зробіш свой гасьцінны выступ у першым нумары? Хоць ад Цябе атрымаць нейкі матар’ял можна гэтак, як ад гусака аўса”*[112].

Чуткі разыходзіліся коламі, і наступнымі заварушыліся пісьменьнікі. Вітаўт Тумаш тлумачыўся і тлумачыў як мог — прыкладна, як у лісьце да Міколы Цэлеша:

[111] Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[112] Недатаваны ліст В. Тумаша да С. Станкевіча. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*“Вельмі Паважаны Сп. М. Люціч!*

*Зь вялікаю ўвагаю прачытаў Ваш цікавы ліст з выясьненьнем прычынаў Вашай адмовы супрацоўніцтва ў літаратурным часапісе, з крытыкай рэдакцыйнага складу ды зь некаторымі прапановамі што да рэдакцыйнай калегіі. Сам факт напісаньня гэтага ліста сьведчыць пра тое, што Вам — як і нам усім — ляжыць моцна на сэрцы справа гэтага часапісу.*

*Зусім магчыма, што частка Вашых дапушчэньняў пра рэдакцыйную калегію можа аказацца і абаснаванай. Сам факт, што калегія паўстала ў даволі вялікім складзе, ёсьць ускоснаю праяваю таго, што няма рэдактароў — «зораў першай вялічыні» — з большым дасьведчаньнем і аўтарытэтам. Сп. Віцьбіч, нажаль, даволі далёкі ад Нью Ёрку, каб мог удзяліць справе больш сваёй увагі й цэннай працы.*

*Тым ня менш, думаю, што трэба даць, аднак, сучаснай рэдакцыйнай калегіі аб’ектыўную магчымасьць таго, каб яна магла выявіць бесьперашкодна ўсё, што яна ўмее й патрапе, і на гэты час гарантаваць ёй сваё шчырае супрацоўніцтва бязь ніякога згары ўпярэджаньня. І толькі калі-б запраўды ў практычнай працы выявіліся паважнейшыя хібы, была-б тады прычына абмяркоўваць спосаб, як справу паправіць, палепшыць.*

*Вашыя прапановы што да іншых рэдактараў нажаль нерэальны. Я на гэтае становішча ніяк не магу згадзіцца. Сумняваюся вельмі, ці згодзіцца й сп. Ліманоўскі. У сваю пару ён не ўвайшоў у рэдакцыйную калегію галоўна дзеля таго, што ўсе лічылі, што ўжо ў скорым часе ён выедзе ў Эўропу*[113]*. І сам ён не праяўляў вялікай ахвоты часткова хіба й дзеля ведамай нагонкі на яго некаторых адзінак нашага грамадзянства, што ў працы рэдактара бязумоўна перашкаджала-б.*

*З гэтага відаць, што ня гэтак шмат мы маем і адпаведных людзей, каб замяніць адных другімі. З другога боку, таго, каго адзін уважае за адпаведнага, ня хоча іншы, і наадварот. Дык ня так і лёгка дагадзіць усім”*[114].

Галоўным рэдактарам пастанавілі абраць Уладзімера Сядуру — пісьменьніка, літаратуразнаўцу, прафэсара. Кандыдатура была ня першай, але й Антон Адамовіч, і Натальля Арсеньнева адмовіліся ад гонару — з розных прычынаў. Асоба Сядуры мелася стацца нэўтральнай і даць спакой усім бакам. Каб жа...

[113] Янка Ліманоўскі меўся выехаць у Мюнхэн для працы ў Беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленьне».

[114] Ліст В. Тумаша да М. Цэлеша ад 05.03.1954. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*“4 сакавіка 1954 г.*

*В[ельмі] Пав[ажаная] Сп. Арсеньнева!*

*Ветліва даводжу да Вашага ведама, што ніводны радок літаратурнага альманаху не павінен пасылацца ў друкарню да таго, як я асабіста яго перачытаю і зацьверджу. Для гэтага Рыгор Казак мусіць прывезьці мне ўвесь матар’ял для прагляду. Іначай я ня дам санкцыі на друкаваньне. Па-другое, дзеля літаратурнае, адукацыйнае і маральнае некампэтэнтнасьці некаторых сяброў рэдкалегіі й патрэбы ўзмацніць ейны склад кваліфікаванымі асобамі ды адсунуць палітычна й маральна няпэўных, прапаную неадкладна ўвесьці ў склад рэдкалегіі сп. Антона Адамовіча, надаўшы яму другі рашаючы голас у пытаньнях прыняцьця матар’ялаў. Прашу давесьці аб гэтым да ведама Ўправы Інстытуту.*

*З пашанай, У. Сядура.*

*ПС. Маю свае засьцярогі і адносна назову. Досыць нам, эмігрантам сярэдзіны веку, жыць старымі катэгорыямі пачатку дваццатых гадоў. Акрамя таго ніхто зы мною не ўзгадняў новага назову, таму я яго адкідаю”*[115].

Шок у рэшты рэдакцыйнай калегіі, відаць, быў немалы, бо толькі 14 красавіка, пасьля ажно двух адмысловых паседжаньняў рэдкалегіі, да Ўладзімера Сядуры скіравалі афіцыйны ліст:

*“Рэдакцыйная Калегія літаратурнага часапісу на сваім паседжаньні з 10 красавіка 1954 году разгледзела Ваш ліст з 4-га сакавіка 1954 г. і пастанавіла дамагацца ад Вас канкрэтных фактаў у справе пастаўленых Вамі сябром Рэдакцыйнай Калегіі закідаў «палітычнай няпэўнасьці, некампэтэнтнасьці і амаральнасьці».*

*Рэдакцыйная Калегія чакае ад Вас канкрэтных дадзеных на пісьме ў справе гэтых закідаў з паданьнем фактаў і прозьвішчаў, пасьля чаго Калегія займе ў гэтым пытаньні сваё становішча.*

*З даручэньня Рэдакцыйнай Калегіі Сакратар Рэдакцыі”*[116].

Адказу ад Уладзімера Сядуры не было, як і яго самога ў рэдакцыі. Вітаўт Тумаш пісаў да Міколы Панькова:

*“Шчыра дзякую за ліст і за копію іншага ліста. Ён вельмі цікавы, бо зь яго добра бачны й мэты й мэтады паступаньня нашага ведамага*

115 Ліст У. Сядуры да Н. Арсеньневай ад 04.03.1954. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

116 Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*«літаратурніка». Цікава, што сябра рэдкалегіі не разумеў неадпаведнасьць назову часапісу да яго выхаду, а гэта яму «выясьнела» толькі тры тыдні пасьля выхаду. Дый і тады ён ня чуецца зусім адказным за тое, што сам раней апрабаваў. Далей цікава, што ён выступае супроць папраўляньня мовы, хоць сам пісаў у лістох да іншых сяброў рэдкалегіі, што мова, напр[иклад], апавяданьня Люціча вельмі слабая й трэба яе выправіць. Далей ён пералічае сьведама добрую палавіну імёнаў пісьменьнікаў, якія ня былі запрошаныя, а якіх фактычна запрашалі. Таксама Сядуры ніхто не выдаляў — ён сам сябе практычна выдаліў: напісаў правакацыйны ліст у Рэдкалегію й пасьля ніколі не паявіўся, нягледзячы на запросіны, на паседжаньні калегіі, каб вытлумачыцца з сваіх правакацыйных закідаў пра «палітычную няпэўнасьць некаторых сяброў рэдкалегіі». Усё разам узятае — вялікая крывадушнасьць і інтрыга"*[117].

Калі першы нумар "Конадняў" выйшаў, на ім было пазначана, што рэдагуе часапіс калегія, безь пераліку імёнаў (згодна пратаколу паседжаньня рэдакцыі ад 10 красавіка 1954 г., абавязкі былі разьмеркаваныя наступна: крытыка й бібліяграфія — Ізыдар Гуткоўскі, проза — Юрка Віцьбіч, вершы — Натальля Арсеньнева, мова — Антон Адамовіч, карэкта й ломка — Ізыдар Гуткоўскі й Рыгор Казак). Толькі ўжо нічога не магло ўратаваць яго ад крытыкі.

*"8.VII.54 г.*

*Глыбапакаважаны сп. др Станкевіч!*

*Пачынаю гэны ліст да Вас з найбольш балючага, як для мяне асабіста, гэтак і для пераважнае бальшыні нашых паэтаў і пісьменьнікаў на чужыне. Маю на ўвазе № 1 часапісу «Конадні». Хаця я і сам у гэным нумары ўдзельнічаю й належу да Рэдакцыйнае Калегіі часапісу, але сёньня склаў заяву аб сваім выйсьці з Рэд[акцыйнае] Кал[егіі], бо лічу, што лінія, якую абраў часапіс, зусім не спрыяе развою й роскіту нашае літаратуры на чужыне.*

*Пачынаю з назову. Ён — штучны, кніжны, лябараторны. Прыпушчаю, што магчыма недзе ў адным з шматлікіх паветаў Беларусі і ўжываецца тэрмін — конадні, але затое для ўсіх іншых беларусаў гэны тэрмін незразумелы. І калі кажны запраўдны пісьменьнік вельмі асьцярожна ўводзіць ці спрабуе ўвесьці той ці іншы паветалізм у літаратурную мову, дык тым больш ці варта, каб паветалізм стаўся назовам літаратурна-мастацкага часапісу. З аднолькавым посьпехам можна назваць часапіс — Ка-*

[117] Ліст В. Тумаша да М. Панькова ад 31.07.1954. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*гадзе або Балазе. Уся штучнасьць назову «Конадні» яшчэ больш кідаецца ў вочы, калі параўняць яго з назовамі нашых ранейшых літаратурных часапісаў на чужыне, як «Пагоня»[118], «Шыпшына»[119], «Сакавік»[120], «Баявая Ўскалось»[121] — іхныя назовы сымбалічныя і разам з тым зразумелыя для кажнага шчырага беларуса.*

*Мова й стыль ва ўсім № 1 часапісу «Конадні» ня менш лябараторная за назоў — яны падагнаныя пад адзіна назоўнік дробу. Таму мімаволі ствараецца такое ўражаньне, што ў часапісу ўдзельнічаюць 1–2 аўтары пад рознымі псэўдонімамі. Гэтая казённая нівэліроўка забівае пісьменьніцкае апрычонае Я, бо дасьпелыя пісьменьнікі розьняцца паміж сабой ня толькі стылем (агульнавядома — стыль гэта чалавек), але і адметнасьцямі лексыкону. Таму менавіта літаратурна-мастацкі часапіс мусіць не забіваць, а, наадварот, дапамагаць кажнаму пісьменьніку цалкам выявіць або знайсьці сваё Я. Між тым, карыстаючыся мэтадам часапісу «Конадні», можна адразу з таго ці іншага маладога паэты ці пісьменьніка зрабіць эпігона. Можна нават старэйшага паэту ці пісьменьніка калі не зрабіць эпігонам, дык надаць яму ў вачох зьдзіўленых чытачоў выгляд эпігона.*

*Кажны літаратурна-мастацкі часапіс імкнецца да таго, каб згуртаваць вакол сябе як найбольш літаратараў, імкнецца да таго, каб не адштурхоўваць, а прыцягваць да сябе і вялікіх, і малых (у сэньсе стажу) паэтаў і пісьменьнікаў. Няхай яны розьняцца паміж сабой стылёва — у гэтым акурат і палягае багацьце літаратуры, няхай яны належаць да розных эміграцыйных палітычных плыняў — толькі па-за жалезнай заслонай існуе адна партыя. Усе гэтыя нібы разьбежнасьці пры наяве адпаведнага падыходу з боку рэдакцыі часапісу ні ў якім разе не перашкодзяць ім вычуваць сяброўскае «пачуцьцё локця». Між іншым, бальшыня беларускіх літаратараў на чужыне апынулася па-за часапісам «Конадні». Чаму? Па-першае, таму, што іхнія погляды на літаратуру і мову, а, значыцца, і іхняя творчасьць не адпавядаюць поглядам і густам гаспадароў часапісу*

---

118 **«Пагоня»** — мастацка-літаратурны часопіс, які выдаваўся ў Зальцбурзе ў 1945–1946 гг. Выйшла 4 нумары.

119 **«Шыпшына»** — літаратурна-мастацкі часопіс, орган аднайменнага літаратурнага аб'яднаньня, які выдаваўся Юркам Віцьбічам у 1946–1950 гг. спачатку ў нямецкім Міхэльсдорфе, а пасьля ў амэрыканскім Саўт-Рывэры. Выйшла 9 нумароў.

120 **«Сакавік»** — літаратурна-грамадзкі часопіс, які выдаваўся ў Остэргофэне пад рэдакцыяй Антона Адамовіча ў 1947–1948 гг. Выйшла 3 нумары.

121 **«Баявая Ўскалось»** — часопіс, орган Літаратурнай сустані «Баявая Ўскалось». Выдаваўся з 1949 г. у Ольдэнбурзе (Нямеччына), з 1954 г. — у Таронта. Выходзіў да 1981 г. пад рэдакцыяй Сяргея Хмары. Выйшла 18 нумароў.

*«Конадні». Па-другое, таму, што належаць да тае ці іншае палітычнае плыні, а значыць, выглядаюць у вачох гаспадароў часапісу «Конадні» бадай што як «ворагі народу». Па-трэцяе, таму, што да шэрагу нашых добрых літаратараў на чужыне проста адразу не зьвярнуліся з абавязковай у дадзеным выпадку ветлівай просьбай аб супрацоўніцтве. Маю на ўвазе — Хмару, Дудзіцкага, Клішэвіча, Ліманоўскага, Золака, Вярбу, Жывіцу*[122]*, Жамойду, Ніну Змагарку*[123]*, Міколу Вольнага*[124]*, Змагара, Козыра*[125]*, Грэскага*[126]*, літаратурны маладняк з «Наперад»*[127]*, «Моладзі»*[128]*, «Віці»*[129] *і інш. І пасьля ўсяго гэтага няма нічога дзіўнага, што часапіс «Конадні» спрычыніўся не да згуртаваньня, а да разьбіцьця пісьменьніцкае сям'і.*

*Яшчэ не пасьпеў выйсьці ў сьвет № 1 часапісу «Конадні», як зь ягонае Рэдакцыйнае Калегіі выдалілі Ўладзімера Сядуру, які, па-сутнасьці, заклаў фінансавы падмурак для выданьня часапісу. Супраціўляўся гэтаму выдаленьню толькі Віцьбіч, але бяз посьпеху. Сам пакінуў Рэд[акцыйную] Калегію М. Менскі*[130] *ў сувязі з прычынамі прынцыповага парадку. Калі выйшаў у сьвет № 1, ягонаму ўдзельніку Кавылю зусім беспадстаўна кінулі абвінавачваньне ў плягіяце аж двох аўтараў. Мартына Люціча карэктары ды стылізатары гэтак зьіначылі, што ён проста не спазнаў сваё апавяданьне ў друку й склаў заяву, што надалей нічога агульнага ня мае з часапісам «Конадні». Сёньня склаў сваю заяву аб выйсьці з Рэд[акцыйнай] Кал[егіі] Віцьбіч. Удзельніку № 1 Я[нку] Юхнаўцу (Я. Юхневічу) зусім недвухсэнсоўна зазначылі, што ён трапіў у гэны нумар у сувязі з бракам матар'ялу і г. д. і г. д.*

*Крый Божа, не зьбіраюся ў «крыжавы паход» супраць літаратурна-мастацкага часапісу «Конадні». Запраўды, хто можа ў дэмакратычных*

[122] **Жывіца** — псэўданім Юрыя Попкі.

[123] **Ніна Змагарка** — псэўданім Ніны Паньковай.

[124] **Мікола Вольны** — псэўданім Міколы Панькова.

[125] **Міхась Козыр** — псэўданім Кастуся Акулы.

[126] **Грэскі** — псэўданім Валера Навіцкага.

[127] **«Наперад!»** — моладзевы часопіс, орган «Дванаццаткі», які выходзіў у 1947–1953 гг., спачатку на шляху ў Вялікую Брытанію, потым у Брытаніі, а ў 1953 г. — у Бэльгіі. Выйшла 26 нумароў. Падрабязьней пра часопіс можна прачытаць у кнізе Янкі Запрудніка «Дванаццатка» (Нью-Ёрк, 2002).

[128] **«Моладзь»** — моладзевы часопіс, які выходзіў у Парыжы ў 1948–1954 гг. Рэдактарамі былі Янка Філістовіч, Міхась Наўмовіч. Выйшла 32 нумары. Часопісу прысьвечаная кніга «Месца выдання — Парыж» (Мінск, 2004).

[129] **«Віці»** — моладзевы часопіс, выдаваны ў Нью-Ёрку Згуртаваньнем беларускай моладзі і Беларускім студэнцкім таварыствам у ЗША ў 1952–1957 гг. Выйшла 10 нумароў.

[130] **М. Менскі** — псэўданім Міколы Шчаглова-Куліковіча.

*умовах забараніць 1—2—3 літаратарам мець свой уласны часапіс, а тым больш свае собскія погляды на літаратуру і мову. Аднак у тых-жа самых дэмакратычных умовах, дзеля якіх мы тым часам спакінулі сваю паняволеную Бацькаўшчыну, ніхто не прымусіць усіх іншых літаратараў падпарадкавацца «генэральнай лініі». Мой гэны ліст не для друку. Напісаў яго вылучна таму, што мне, дый ня толькі мне, вельмі хочацца, каб альманах «Бацькаўшчыны» не нагадываў часапіс «Конадні».*

*Спадзяюся, што Вы мяне зразумелі.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Прывітаньне ад нас усіх для Вас і Вашае Сям'і.*

*З глыбокай пашанай Юрка Віцьбіч"*[131].

Але часопіс дый рэдакцыйная калегія выстаялі: выйшла сем нумароў (пяты—шосты падвоены), і толькі фінансавыя складанасьці спынілі выданьне.

У немалым зборы беларускіх эміграцыйных выданьняў "Конадні" вылучаюцца як паліграфіяй, гэтак і зьместам: вершы й пераклады Натальлі Арсеньневай, Уладзімера Дудзіцкага, Алеся Салаўя, Міхася Кавыля, Масея Сяднёва, "Эротава скрыпка" Рыгора Крушыны, паэзія й проза Янкі Юхнаўца, артыкулы Антона Адамовіча, Вітаўта Тумаша, Ізыдара Гуткоўскага, успаміны мужа Цёткі[132] Сьцяпонаса Кайрыса[133] й Юльяны Вітан-Дубейкаўскай, пераклады Адама Міцкевіча, Яра Славутыча[134], Юзэфа Лабадоўскага[135], рэпрадукцыі твораў Міхася

---

131 Ліст Ю. Віцьбіча да С. Станкевіча ад 08.07.1954. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

Вітаўт Кіпель: *З пазьнейшых успамінаў-прыгадак др. Вітаўта Тумаша засталося такое. Зь лістом Юркі Віцьбіча пра "Конадні" былі азнаёмленыя сябры БІНіМу і рэдкалегіі. Былі выказаныя крытычныя думкі на адрас Віцьбіча, ягоную неасьвядомленасьць у справах Інстытуту і заўсёдную гатовасьць да крытыкі. Пастаноўлена было прадаўжаць "Конадні", пагатоў было каля дзясятка лістоў вельмі пазытыўных аб часапісе ды патрэбе літаратурнага пэрыёдыку на эміграцыі.*

132 **Цётка** (сапр. *Алаіза Пашкевіч*, 1876—1916), паэтка, грамадзкая дзяячка, публіцыстка.

133 **Сьцяпонас Кайрыс** (літ. *Steponas Kairys*, з 1944 г. **Юозас Камінскас**, 1879—1964), літоўскі палітычны дзеяч, сацыял-дэмакрат, інжынэр, адзін з падпісантаў Акту аб незалежнасьці Літвы 1918 г. У 1943—1945 гг. узначальваў Найвышэйшы літоўскі камітэт вызваленьня. Сьцяпонас Кайрыс быў мужам Алаізы Пашкевіч (Цёткі).

134 **Яр Славутыч** (сапр. укр. *Григорій Жученко*, 1918—2011), украінскі паэт і перакладнік, з 1960 г. жыў у Канадзе, быў прафэсарам Албэрцкага ўнівэрсытэту, аўтар ангельскамоўных падручнікаў украінскай мовы.

135 **Юзэф Лабадоўскі** (польск. *Józef Łobodowski*, 1909—1988), польскі паэт. Натальля Арсеньнева пераклала ягоны верш "Эротык".

Наўмовіча, аўтара вокладкі часопісу (як, дарэчы, і праекту інстытуцкай эмблемы), Міколы Касака, Міхася Сеўрука[136], Пётры Мірановіча. Тое, што будзе пазьней перавыдавацца й вывучацца на Бацькаўшчыне, – найлепшае з створанага.

## "Спадчына"

У гэты ж час была выдадзена кніга, якая на даўгія гады зробіцца візытнаю карткаю і БІНіМу, і выдавецтва "Бацькаўшчына", і разам з тым — культурніцкім дасягненьнем эміграцыі, якім можна ганарыцца й сёньня. Пра гэтую кнігу Станіслаў Станкевіч пісаў:

*"Якраз тады, калі выдаваўся ў Менску першы паваенны «Збор твораў у шасьці тамах» Янкі Купалы, у Нью Ёрку Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва зрыхтаваў на 563 бачыны вялікага фармату кнігу выбраных твораў Янкі Купалы «Спадчына», а выдавецтва «Бацькаўшчына» ў Мюнхэне выдала яе ў 1955 годзе. А коратка перад тым, у 1953 годзе ў тым-жа выдавецтве «Бацькаўшчына» выйшла асобнай кнігай Купалава п'еса «Тутэйшыя». У часе рыхтаваньня й выдаваньня абедзьвюх згаданых кнігаў яшчэ ня трапіла было на Захад першае паваеннае выданьне «Збору твораў у шасьці тамах» Янкі Купалы, пазначанае 1952–1954 гадамі.*

*Дык у сувязі з гэтым асаблівая каштоўнасьць выданьня на Захадзе п'есы «Тутэйшыя» й выбраных твораў «Спадчына» ў тым, што яны забясьпечылі, хоць і вонках бацькаўшчыны, у замежжы, цягласьць у друку забароненых у БССР твораў Янкі Купалы. Праўда, у зборнік «Спадчына» ня трапіла колькі із забароненых у БССР Купалавых вершаў — як «Пазвалі нас», «Ёсьць жа яшчэ...» ды некаторыя іншыя — праўдападобна з тае прычыны, што зьмест першага паваеннага выданьня «Збору твораў у шасьці тамах» Янкі Купалы наагул на Захадзе ня быў яшчэ ведамы. Дык выдаўцы «Спадчыны» ня бачылі патрэбы ўлучаць у рыхтаваную імі кнігу ўсіх чыста Купалавых твораў, забароненых у БССР. Тым ня менш, кніга Купалавых выбраных твораў «Спадчына» й мюнхэнскае выданьне п'есы «Тутэйшыя» адыгралі пачэсную ролю ў гісторыі выданьня літаратурнае спадчыны Янкі Купалы — ролю, пераацаніць якой ніяк нельга"*[137].

---

[136] **Міхась Сеўрук** (1905–1979), мастак, графік, заснавальнік Віленскага таварыства мастакоў, сябар Пётры Сергіевіча.

[137] Станкевіч, Станіслаў. Янка Купала. На 100-ыя ўгодкі ад нараджэньня. Нью Ёрк: выдавецтва газэты "Беларус", 1982. С. 47.

Кніжныя паліцы бібліятэкі Інстытуту папаўняліся не адно ўласнымі друкамі. Тумаш быў апантаным кніжнікам і нястомна паўсюль шукаў беларускую кнігу: у нью-ёрскіх кнігарнях – Камкіна[138] або “Чатырох кантынэнтах”[139], у Аляксандра Лашука ў Лёндане або ў айца Лява Гарошкі ў Парыжы, да якога пісаў:

*“Шкада, што «Слова»[140] расхапалі. А Пасьлядовіча[141] й Шамякіна[142] раманы купеце й вышлеце, хоць гэта й дрэнь, агіткі. Хай будуць для камплекту, тымбольш, што каштуюць у вас грашы. Толькі ня варта высылаць іх яшчэ заказным — гэткай дрэні й так ніхто не ўкрадзе. Каму (апрача нам!) яна патрэбная. Толькі лепш апакуйце мацнейшаю папераю, каб не парвалася апакоўка, дый не загубіўся адрыс, бо тады напэўна прападуць (некаторыя кніжкі прыйшлі з моцна патрапанаю апакоўкаю). Наагул закуплівайце ўсё зь беларускай літаратуры, калі гэта ў арыгінальнай беларускай мове (не расейскія пераклады). Навуковую літаратуру пра Беларусь закуплівайце незалежна ад мовы, на якой яны друкаваны. Можна купляць і пераклады на беларускую мову важнейшых твораў сусьветнай літаратуры, калі яны паявяцца (напр., «Ільяду» ці «Адысэю»[143], Шылера[144], Мальера[145] і г. д.), але не сучасныя агіткі камунізуючых пісьменьнікаў Захаду, а таксама не расейскіх аўтараў”*[146].

[138] **Віктар Камкін** (расейск. *Виктор Камкин*, 1902–1974), расейскі кнігавыдавец, кнігагандляр, у 1953 г. адчыніў у Нью-Ёрку першую краму расейскай кнігі.

[139] **“Чатыры кантынэнты”** (анг. *“Four Continents”*) — кнігарня ў Нью-Ёрку.

[140] Магчыма, маецца на ўвазе выданьне: Слово о полку Игоревъ, Игоря сына Святъславля, внука Ольгова. Москва: Гослитиздат, 1954. — 54 с.

[141] **Макар Пасьлядовіч** (1906–1984), пісьменьнік і перакладнік. Тут, відаць, маецца на ўвазе кніга: Паслядовіч, М. Святло над Ліпскам: Раман. Мінск, 1953. — 352 с.

[142] **Іван Шамякін** (1921–2004), пісьменьнік. Тут, відаць, маецца на ўвазе выданьне: Шамякін, Іван. У добры час: раман. Мінск, 1953. — 460 с.

[143] **«Іліяда»** і **«Адысэя»** — паэмы старажытнагрэцкага пісьменьніка Гамэра (VIII ст. да н.э.).

[144] **Фрыдрых Шылер** (ням. *Johann Christoph Friedrich von Schiller*, 1759–1805), нямецкі паэт, філёзаф, гісторык, драматург.

[145] **Жан-Батыст Мальер** (сапр. фр. *Jean Baptiste Poquelin*, 1622–1673), францускі драматург-камэдыёграф, стваральнік клясычнай камэдыі.

[146] Ліст В. Тумаша да Л. Гарошкі ад 17.01.1955. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

Вітаўт Кіпель: *Дапамагалі “набываць кнігі” і турысты — старыя эмігранты, якія наведвалі Беларусь, а ў Нью-Ёрку трымалі кантакты з “новымі” беларусамі. Сустрэчы старых-новых часта адбываліся ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы. Пра гэта расказвала Любоў Каварская — доўгагадовая, цягам 30 гадоў, працаўніца бібліятэкі, габрэйка зь Віцебску, але сьведамая беларускасьці.*

# Камісія Керстэна ды іншыя няўдачы

Зразумела, далёка ня ўсё атрымоўвалася, як плянавалася, і вынік не заўсёды залежаў ад Інстытуту і ўкладзеных высілкаў. Гэтак, напрыклад, адбылося з Камісіяй Керстэна.

У 1953 г. у Кангрэсе ЗША была заснаваная Спэцыяльная камісія для вывучэньня савецкай агрэсіі й захопу балтыйскіх краінаў Савецкім Саюзам. На чале яе стаяў кангрэсмэн ад штату Ўісконсін Чарлз Керстэн[147]. Ён быў вядомы дзякуючы таму, што ў 1951 г. унёс у Палату прадстаўнікоў Кангрэсу рэзалюцыю, якая прадугледжвала палітычную й матэрыяльную дапамогу для паняволеных СССР народаў у іх змаганьні за незалежнасьць. У выніку 10 кастрычніка 1951 г. Кангрэс ЗША прыняў Закон аб узаемнай бясьпецы, у якім ішлося пра вылучэньне 100 мільёнаў даляраў на арганізацыю вайсковых адзінак з палітычных уцекачоў для барацьбы з камунізмам[148].

Створаная ў 1953 г. Камісія Керстэна сабрала сотні сьведчаньняў відавочцаў аб усталяваньні савецкай улады ў Літве, Латвіі ды Эстоніі. А з сакавіка 1954 г. структура пашырыла сваю дасьледчую цікавасьць і на іншыя падсавецкія краіны (улучна з БССР). Адпаведна падкарэктавалася яе назва — на Спэцыяльную камісію ў справе камуністычнай агрэсіі. На працягу 1954 г. яна правяла дзясяткі паседжаньняў-слуханьняў, на якіх выступалі сьведкі камуністычных злачынстваў — прадстаўнікі розных паняволеных народаў.

БІНіМ вельмі сур’ёзна паставіўся да працы Камісіі. У інстытуцкім “Абежніку” пісалася:

*“Адмысловая Камісія амэрыканскага Кангрэсу пад старшынствам кангрэсмэна Керстана зьбірае матар’ялы пра бальшавіцкае народагубства. Матар’ялы гэтыя пазьней будуць апублікаваныя друкам. Маральным абавязкам беларускіх навукоўцаў, пісьменьнікаў і мастакоў падаць дакладныя весткі й пра нішчэньне беларускай навукі й культуры ў БССР, пра ліквідацыі, арышты й ссылкі ў канцлягеры беларускіх культурна-навуковых кадраў. Хто знае прыклады гэткай народагубнай палітыкі савецкага рэжыму на землях Беларусі, хай сьпісаныя факты перашле ці то*

147 **Чарлз Керстэн** (анг. *Charles Joseph Kersten*, 1902–1972), амэрыканскі палітык, кангрэсмэн-рэспубліканец. У 1953–1954 гг. узначальваў кангрэсавую Камісію камуністычнай агрэсіі.

148 (-іч). За падтрыманьне супрацьбальшавіцкіх рухаў // Бацькаўшчына. № 4 (83). 27.01.1952.

*беспасрэдна ў Кангрэс для Керстанавай Камісіі, ці праз Управу Інстытуту, ці празь беларускія палітычныя рэпрэзэнтацыі (напр., Рада БНР, БЦР і г. д.). Паасобных людзей Камісія можа паклікаць і да вусных сьведчаньняў. На жаданьне сьведкі пры публікацыі матар'ялу ягонае прозьвішча не падаецца"*[149].

Ад БІНіМу ў Камісіі Керстэна сьведчылі Вітаўт Тумаш і Антон Шукелойць, а таксама Інстытут падаў даклад з аналізам савецкай русыфікацыйнай палітыкі ў Беларусі. Аднак выдадзеныя матэрыялы не апраўдалі чаканьняў. Вітаўт Тумаш пісаў да Аўгена Каханоўскага:

*"Што да пагляду на выдадзеную Керстанавай камісіяй брашуру пра акупацыю Беларусі, у нас пагляды даволі розныя. У старагістарычнай частцы яна мае столькі вялікіх «быкоў», што відаць зь яе выразна, што пісалі яе людзі зусім мала кампэтэнтныя ў гісторыі Беларусі. Хаця-б аднаго такога факту хопіць, як тое, што ўжо за Міндаўга падаецца існаваньне Віленскага Княства! Калі ведама, што Вільня паявілася на гістарычнай арэне толькі з XIV ст. Паколькі там асьвятляецца ВКЛ як беларускае, супроць чаго, як ведама, летувісы, дык яны адразу падобныя факты падхопяць на довад, што пісаная гісторыя людзьмі няведаючымі гісторыі і як прыклад моцны могуць падаць акурат «існаваньне» Вільні за Міндаўга. Гэта толькі адзін факт, а іх ёсьць дзесяткі. Ня буду іх тут падаваць, бо яны часткова пададзеныя ў апошнім нумары «Беларуса»*[150]*. Паколькі ў асьвятленьні старой гісторыі відаць выразна няведа нашай гісторыі, дык у справах новай відаць выразная праведзеная партыйная лінія БЦР. І гэта ня дзіва — брашуру пісалі Іван Іванавіч Касяк ды др. Шчорс*[151]*. Гэта нам тут добра ведама, а перакладаў на ангельскую мову матар'ял праф. Джэрджтаун Унівэрсытэты Манінг (стуль у прадмове й прыплецены Ўнівэрсытэт), які сям там яго й скараціў.*

*Мне ведама ад сп. Тулейкі, што Вы яму выказалі свой пагляд аб брашуры, як аб «сьмяротным удары па БНР» таму, што там напісана аб «ліквідацыі» БНР і г. д. Гэта чыста паэтычная драматызацыя справы. Відаць, Вы лічыце, што зьмест брашуры гэта ўжо становішча амэрыканскага Кангрэсу — гэта зусім ня так. Як ужо ўспамінаў вышэй, пісаў яе не Керстан, а Іван Іванавіч [Касяк], і яна не зьяўляецца нейкім прынятым*

[149] Абежнік БІНіМ. № 2. Верасень 1954.

[150] Маецца на ўвазе артыкул Вітаўта Тумаша: С.Б. Брошура аб камуністычнай акупацыі Беларусі // Беларус. № 5 (51). 1955. С. 7.

[151] Маецца на ўвазе Мікола Шчорс.

*становішчам Кангрэсу, а толькі адбівае той стан, што для адной з камісіяў кангрэсу «зарубежнікі» патрапілі падсунуць сваю партыйную літаратуру ў выглядзе быццам навуковага аб'ектыўнага матар'ялу. Тая-ж самая Керстанавая Камісія надрукавала ў другім томе сваіх актаў поўнасьцю сьведчаньні, напр., інж. [Міколы] Абрамчыка, каторыя ідуць уразрэз з друкаваным тут матар'ялам. Дык гэта толькі прыклад таго, што камісія мала арыентуючыся ў нашых справах наагул, скарыстала матар'ял, які папаў пад руку. А папаў ён перадусім таму, што сакратар канцылярыі камісіі О'Конор*[152] *— даўнейшы знаёмы [Міколы] Шчорса, і празь яго ўся справа была зробленая.*

*Брашура таксама паказвае яўна, што зарубежнікі ў вонкавых справах ня здольныя ўзьнясьціся на агульную нацыянальную роўню, а пхнуць свае партыйныя матар'ялы. Што, напр[ыклад], скажаце пра тое, што аж у брашуру ўпхнулі др. [Івана] Ермачэнку ды яшчэ яго асьвятлілі ў ролі нейкага нацыянальнага героя, мучаніка за абарону беларускага народу? Усе-ж добра ведаюць, што было зусім ня гэтак. Даведаецца раней-пазьней гэта й камісія ці сябры камісіі — маральная адказнасьць за хвальш застанецца на тых, хто такі матар'ял падаў даверлівым амэрыканцам"*[153].

Ня выйшла нічога й з кнігаю пра дзейнасьць Рады БНР, пільную патрэбу, неабходнасьць якой і ў тагачасны момант, і на гістарычную пэрспэктыву выдатна разумелі і ў Радзе, і ў Інстытуце:

*"Другая думка: нядаўна пераглядаў выдадзеную зарубежнікамі кнігу «ІІ Усебеларускі Кангрэс»*[154]*. Гэта, зразумела, не гістарычная дакумэн-*

[152] Магчыма, маецца на ўвазе **Гэрбэрт О'Конар** (*Herbert O'Conor*, 1896–1960), амэрыканскі палітык, сэнатар-дэмакрат у Кангрэсе ЗША ад Мэрылэнду ў 1947–1953 гг. У газэце «Бацькаўшчына» ён згадваўся як адзін з тых сэнатараў, што падтрымлівалі нацыянальныя памкненьні паняволеных СССР народаў (гл.: Каранеўскі, Язэп. Лёд памалу праломваецца // Бацькаўшчына. № 4 (83). 27.01.1952).

[153] Ліст В. Тумаша да А. Каханоўскага ад 22.03.1955. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

Вітаўт Кіпель: *У вялікай меры гэта "пурытанскі" пагляд Вітаўта Тумаша. Так, у брашуры ёсьць мясьціны, якія не зусім падабаюцца беларусам: спорныя, ня цалкам выверaныя факты. І тым ня менш брашура ўжывалася беларусамі ў падтрымку іх нацыянальных пагляданў. Літоўцы на гэтую брашуру выдалі спэцыяльную публікатку, дзе закідалі нам няправільнае нясьвятленьне гісторыі ВКЛ.*

[154] Маецца на ўвазе выданьне: Другі Ўсебеларускі Кангрэс. Матар'ялы, сабраныя і апрацаваныя на падставе пратакольных запісаў Камісіяй Беларускай Цэнтральнай Рады пад рэд. Праф. Р. Астроўскага. [Мюнхэн]: выданьне Беларускай Цэнтральнай Рады, 1954. — 94 с.

*тацыя, а партыйная агітка. Усё абрэзана, перакручана, сфальшавана. Было-б добра, каб нехта напісаў салідную палітычную рэцэнзію на яе. Сп. Кахаиоўскі, які нядаўна быў у Нью Ёрку, зьвярнуў маю ўвагу на тое, што ў кнізе і ў ягонай прамове сфальшаваны той сказ, дзе кажацца, што Рада БНР у 1925 годзе была зьліквідаваная (ці перастала дзеіць). Ён гэтага не гаварыў — гэта Астроўскі ўжо яму паправіў прамову пад сучасную лінію БЦР. Але пішу пра гэта ня дзеля ўсіх гэтых фальсыфікацыяў. Мне гэтая кніга прывяла да іншай думкі: канечна трэба прыгатаваць і выдаць салідную кнігу аб Кангрэсе 1917 г. і працу Рады БНР ад 1917 г. аж да сяньня. Кнігу бачынаў на 300, з гісторыяй дзейнасьці, з масаю фатаграфіяў, дакумэнтаў. У канцы ня менш нейкіх 100 бачынаў павінна быць адпушчана на друк самых дакумэнтаў. Тэрмін выхаду такой кнігі — 1957 г., калі прыпадзе 40-годзьдзе ад Усебеларускага Кангрэсу. Калі апрацоўка будзе салідная, без фальшаваньняў, як у зарубежнікаў, дык гэта будзе й рэч навукова вельмі важная, і важны «палітычны ход» для ўмацаваньня сучаснае пазыцыі Рады БНР. «Бацькаўшчына» шмат ужо выкінула грошы на перадрук рознай, часта й вельмі слабой, літаратуры мастацкай, пара выдаць адну кнігу й салiднага навукова-палітычнага значэньня. Для ўкладу кнігі трэба было-б паклікаць нейкую малую камісію з асобаў трох ці пяці”*[155].

## Зьезд 1955 году

Асягненьні й праблемы Інстытуту пастаноўлена было больш дэталёва разгледзець на агульным зьезьдзе БІНіМу. На парадку дня былі справаздача ўправы, дыскусія, прыняцьце Статуту й пляну на будучы год, а таксама выбары новай управы й нагляднай рады.

Рэй вёў Вітаўт Тумаш[156]:

[155] Ліст В. Тумаша да М. Абрамчыка ад 09.08.1955. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

Вітаўт Кіпель: *Відавочна, думкі, выказаныя др. Тумашам адносна публікацыі пра Кангрэс — эмацыйныя і неаб’ектыўныя. Сам ён ня быў удзельнікам Кангрэсу, а глядзеў на падзею праз “другія вочы” ды з пазыцыі адданага БНРаўца. Такі быў час: палітычная напружанасьць у беларускіх колах — у зэніце! Аднак сьцьвярджаю: у сваёй працы ў Інстытуце др. Тумаш быў вельмі стрыманым, разважлівым.*

[156] Вітаўт Кіпель: *Відавочна, што ініцыятыву ў розных пачынаньнях задаваў др. Вітаўт Тумаш, але на нефармальных сустрэчах-зборках Інстытуту шмат выступаў Антон Адамовіч, даючы ладна інфармацыі аб дзейнасьці Мюнхэнскага інстытуту вывучэньня СССР.*

*Справаздача*
*зь дзейнасьці Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва*
*за час ад 14 сьнежаня 1952 году да 12 сакавіка 1955 г.*

*Улады Інстытуту.*

*Склад Управы Інстытуту, выбранай на апошнім Агульным Зьезьдзе 14 сьнежаня 1952 г., быў гэтакі: старшыня — сп. Янка Ліманоўскі, віцэ-старшыня — сп. В[ітаўт] Тумаш, сакратар — спн. Натальля Кушаль, архівар — сп. Мікола Панькоў і сп. Уладзімер Сядура — без адмысловай функцыі. Абавязкі скарбніка, якіх ніхто не захацеў пераняць, зь сяброў выбранай Управы, з часам згадзіўся выконваць адзін з кандыдатаў у сябры Ўправы — сп. Інж[ынэр] Мікола Гарошка. Старшыня сп. Янка Ліманоўскі зрокся старшынства 20 студзеня 1954 г., і ад гэтага часу абавязкі старшыні Інстытуту выконваў сп. Вітаўт Тумаш. За час усёй кадэнцыі ўступаючай Управы Інстытуту адбылося 12 паседжаньняў Інстытуту, зь якіх ёсьць пісаныя пратаколы.*

*У Наглядную Раду Інстытуту былі выбраныя сп. Праф. Леў Акіншэвіч, Уладыка Васіль і сп. Рыгор Крушына. Таму што сп. Праф. Леў Акіншэвіч цяпер жыве ў Вашынгтоне й ня мог прыехаць у Ню Ёрк для рэвізіі, рэвізія была праведзеная толькі Ўладыкаю Васілём і сп. Р[ыгорам] Крушынаю.*

*Сябры Інстытуту.*

*На дзень 12 сакавіка 1955 г. Інстытут мае 57 сяброў, з чаго бальшыня, бо 31, пражывае ў ЗСА*[157]*, а рэшта, 26 сяброў, у іншых краінах сьвету. Дакладней паводле краінаў свайго пражываньня сябры Інстытуту разьмешчаныя гэтак:*

| | |
|---|---|
| *ЗСА* | *31* |
| *Канада* | *4* |
| *Англія* | *1* |
| *Францыя* | *4* |
| *Бэльгія* | *2* |
| *Нямеччына* | *9* |
| *Італія* | *2* |
| *Аўстралія* | *4* |

*Паводле галінаў сваіх навуковых ці літаратурна-мастацкіх зацікаўленьняў сябры Інстытуту дзеляцца гэтак:*

[157] **ЗСА**, **Задзіночаныя Станы Амэрыкі** — ЗША.

| | |
|---|---|
| *Тэалёгія* | *7* |
| *Музыкаведа* | *2* |
| *Сьпевакі* | *2* |
| *Малярства* | *4* |
| *Пісьменьнікі* | *8* |
| *Літаратураведы* | *4* |
| *Гісторыя* | *4* |
| *Археолёгія* | *1* |
| *Права* | *3* |
| *Бібліяграфія* | *2* |
| *Пэдагогіка* | *2* |
| *Эканоміка* | *3* |
| *Біялёгія* | *3* |
| *Мэдыцына* | *8* |
| *Аграномія* | *2* |
| *Лясьніцтва* | *1* |
| *Вайсковасьць* | *1* |

*Як бачым з гэтых лікаў, колькасна Інстытут як на беларускія эміграцыйныя ўмовы прадстаўляецца даволі значнымі лікамі. Аднак з гэтых пералічэньняў можам ужо бачыць і некаторыя слабыя бакі сяброўскага складу Інстытуту. Адзін зь іх — значнае расьцярушаньне па розных краінах сьвету. Другі — значнае разьбіцьцё па спэцыяльнасьці. Як бачым зь пераліку, толькі пісьменьнікаў, тэалёгаў і мэдыкаў ёсьць у Інстытуце па 7–8 сброў. Ува ўсіх іншых галінах маем лікі толькі між 1 ды 4-х асобаў. Вось гэтыя дзьве прычыны значна аслабляюць навукова-культурную дзейнасьць Інстытуту, ставячы значныя перашкоды для арганізаваньня больш інтэнсыўнай дзейнасьці ў паасобных галінах. Яшчэ адна моцная перашкода — няспрыяльныя для навуковай працы эканамічныя ўмовы, якія некаторым навукова-творчую працу робяць проста немагчымаю.*

*Трэба прызнацца, што нашыя культурна-творчыя й навуковыя сілы на эміграцыі не адзначаюцца існаваньнем выдатных, заслужаных ужо ў навуцы ці літаратуры імёнаў. Аснаўная маса навуковых працаўнікоў скарэй творыць тып навукоўца-аматара, які толькі ў меру сваіх магчымасьцяў і ня раз толькі рэдчас займаецца навуковаю працаю. Віна ў гэтым, як ведама, тых, хто празь мінулыя дзесяцігодзьдзі нішчыў фізычна нашых акадэмікаў, вучоных, пісьменьнікаў, тварцоў культуры, нішчыў масава, тысячы. І сучасны стан на эміграцыі — гэта толькі сумны вынік гэтых*

*трагічных для беларускай навукі й культуры гістарычных падзеяў. На эміграцыі сяньня маем толькі недабіткаў, "недасекаў", прыпадкова выжыўшых шчасьліўцаў і — нарастаючы новы навукова-творчы маладняк.*

*Што да пэрспэктываў на будучыню, з прыемнасьцяй трэба адзначыць некаторы прыплыў маладых сілаў з пасярод новаскончыўшых на эміграцыі. Некаторыя зь іх падаюць добрыя надзеі і з часам напэўна выростуць у карысных навуковых працаўнікоў у паасобных беларусаведных галінах. Лік іх аднак і цяпер невялікі, і цяжка спадзявацца, каб і ў будучыні значна павялічыўся. Трэба адначасна не забывацца, што існуе і адваротны працэс — працэс натуральнага выміраньня. У мінулыя гады зь ліку сяброў Інстытуту выбылі з прычыны сьмерці выдатны наш кампазытар Мікола Равенскі і інжынэр Лявон Рыдлеўскі*[158].

*Паколькі разьлічваць на нейкае значнае павелічэньне колькаснае навукова й культурна творчых кадраў пры дадзеных умовах цяжка спадзявацца, дык з гэтага вынікае патрэба ў меру нашых магчымасьцяў старацца ўзмоцніць якасна й прадукцыйна тыя нашыя сілы, якія апынуліся на эміграцыі, праз большую іх актывізацыю, праз паглыбленьне творчага патэнцыялу кажнага зь іх.*

*Вялікая расьцярушанасьць былі й галоўнымі перашкодамі і прычынаю таго, што Ўправа Інстытуту да гэтай пары не змагла належна зарганізаваць і адпаведных навуковых сэкцыяў, хоць намаганьні ў гэтым кірунку ўвесь час і рабіліся ды хоць некаторая прыгатаваўчая праца для гэтага й была праведзеная.*

*<u>Навуковыя паседжаньні й літаратурныя дыскусыйныя вечары</u>.*

*За мінулыя два гады адбыліся гэткія навуковыя паседжаньні ці зборкі Інстытуту:*

*9.XI.52 — рэфэрат Міколы Куліковіча пра "Старадаўныя інтанацыйна-ладавыя фармацыі ў беларускім песенным фальклёры". Рэфэрат быў ілюстраваны сьпевамі ведамай сьпявачкі Б[арбары] Вержбаловіч.*

*31.I.53 — рэфэрат сп. В[італа] Тумаша пра "Беларускія культурныя ўплывы на Расею".*

*21.II.53 — вечар паэзіі Рыгора Крушыны.*

*14.III.53 — рэфэрат Міколы Куліковіча "Аб беларускіх элемэнтах у музычных творах польскага кампазытара М[ечыслава] Карловіча*[159]*".*

---

[158] Лявон Рыдлеўскі памёр у Лёндане 24 кастрычніка 1954 г.

[159] **Мечыслаў Карловіч** (1876–1909), кампазытар і дырыжор, народжаны ў Вішневе (сёньня Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл).

*25.IV.53 — дыскусійнае паседжаньне з рэфэратам сп. В[ітаўта] Тумаша на тэму “Whiteruthenia” ці “Belorussia”.*

*27.II.54 — рэфэрат праф. Льва Акіншэвіча “Пра цывілізацыйныя асновы беларускага гістарычнага працэсу”.*

*20.III.54 — зладжаны вечар памяці кампазытара Міколы Равенскага з рэфэратамі Алеся Карповіча, Уладзімера Сядуры і ўспамінамі пра М[іколу] Равенскага многіх прысутных ды з выкананьнем твораў кампазытара.*

*16.X.54 — на навуковым паседжаньні былі адчытаныя біяграфічныя ўспаміны пра А[лаізу] Цётку-Пашкевічанку ейнага мужа праф. С[ьцяпонаса] Кайрыса і спн. Ю[льяны] Дубейкаўскай.*

*30.X.54 — пісьменьнік Я[нка] Юхнавец прачытаў урывак з свае аповесьці, і адбылася дыскусія над асаблівасьцямі творчасьці пісьменьніка.*

*13.XI.54 — дыскусійны вечар над творчасьцяй паэты Рыгора Крушыны.*

*11.XII.54 — зладжаны аўтарскі вечар Масея Сяднёва.*

*18.XII.54 — дыскусія над літаратурнай прозай В. Бірыча*[160]*.*

*5.II.55 — сп. В[ітаўт] Тумаш прачытаў рэфэрат пра “Найвышэйшыя пагляды пра паходжаньне беларускага аканьня”.*

*19.II.55 — спн. А[ляксандра] Саковіч*[161] *прачытала сваё апавяданьне для дыскусіі аб ім.*

*Гэтыя рэфэраты ці літаратурныя або дыскусійныя вечары адбыліся толькі ў Ню Ёрку. Трэба, аднак, адцеміць, што некаторыя сябры з сваімі рэфэратамі выступалі ў іншых асяродках ці іншых арганізацыях, пераважна на іншанацыянальных ці міжнародных навуковых канфэрэнцыях. З гэткіх рэфэратаў трэба тутака адцеміць рэфэрат а. Л[ява] Гарошкі “Пра беларускую міталёгію” на паседжаньні Міжнароднай Вольнай Акадэміі Літаратуры й Навукі ў Парыжы, праф. Л[ява] Акіншэвіча пра “Казацтва ў Беларусі ў XVII ст.” на навуковай канфэрэнцыі Ўкраінскай Акадэміі Навук і Навуковага Таварыства ім. Т. Шаўчэнкі. Паэта Мікола Вярба чытаў рэфэрат пра беларускую літаратуру на канфэрэнцыі канадыйскіх славістых у Манітобе. Кс. Міхал Урбановіч чытаў рэфэрат пра беларускія пераклады Бібліі на канфэрэнцыі чужых моваў на ўнівэрсытэце Кентукі. Др. Ст[аніслаў] Станкевіч чытаў рэфэрат пра “Нацыянальную палітыку бальшавізму ў Беларусі” на навуковай канфэрэнцыі Інстытуту Дасьледаваньня Гісторыі й Культуры СССР у Мюнхэне, Нямеччына.*

---

160 **В. Бірыч** — псэўданім Антона Адамовіча.

161 **Аляксандра Саковіч** — псэўданім Іны Каханоўскай (Рытар).

*Разам зь сябрамі Інстытуту дадзена каля 20 рэфэратаў або літаратурных вечароў. Гэта мо' й ня гэтак шмат, але бяручы на ўвагу расьцярушанасьць ды няспрыяючыя для навуковай працы ўмовы большыні сяброў, хіба будзе правільным ацаніць гэткія вынікі як прынамся дастатковыя.*

*Праца ў галіне збору літаратурнай спадчыны.*

*За мінулыя два гады былі поўнасьцяй або часткова прыгатаваныя да друку гэткія зборы твораў:*

*– кніга выбранай паэзіі Янкі Купалы, ужо ў друку ў Выдавецтве "Бацькаўшчына"*[162]*. Найбольш працы паклалі пры яе ўкладзе сп.сп. В. Тумаш, М. Панькоў і др. Ст. Станкевіч.*

*– выбар прозы В[ацлава] Ластоўскага, прыгатаваны сп. Паньковым, ужо ў друку ў той-жа "Бацькаўшчыне"*[163]*.*

*– выбар творчасьці М[аксіма] Багдановіча, незакончаны. Над прыгатоваю працавалі пакульшто сп. сп. М[ікола] Панькоў і В[ітаўт] Тумаш*[164]*.*

*– збор твораў Язэпа Пушчы. Працаваў над прыгатаваньнем кнігі сп. І[зыдар] Гуткоўскі*[165]*.*

*– збор недрукаваных у зборніку вершаў Л[арысы] Геніюш. Матар'ял сабралі спн. Н[іна] Абрамчык і сп. В[ітаўт] Тумаш*[166]*.*

*– заплянаваная й толькі распачатая прыгатова збору твораў А[лаізы] Цёткі-Пашкевічанкі, які мае быць гатовы на ейны юбілейны год у 1956 г.*[167]

*Спробы прыгатаваць збор празаічнай творчасьці М[аксіма] Гарэцкага нажаль неўдаліся дзеля немагчымасьці знайсьці некаторыя з галоўных ягоных твораў.*

*Іншая навуковая праца.*

*Працы з розных галінаў беларусаведы, тыя, якія былі ўжо напісаныя й друкаваныя ў "Запісах" і "Конаднях", тут не пералічаюцца, бо іх*

162 Маецца на ўвазе ўжо згаданы вышэй зборнік "Спадчына" (Мюнхэн, 1955).

163 Маецца на ўвазе выданьне: Власт. Творы. Мюнхэн: выдавецтва "Бацькаўшчына", 1956. — 111 с.

164 Зборнік выйшаў крыху пазьней: Багдановіч, Максім. Вянок. Minchen — New York: "Бацькаўшчына" — БІНіМ, 1960. — 271 с.

165 Збор так і ня быў укладзены.

166 Асобнай кнігай ня быў выдадзены.

167 Зборнік ня быў падрыхтаваны.

*можна знайсьці ў адпаведных выданьнях. З важнейшых тэмаў, якія цяпер у апрацаваньні, а пра якія Ўправа Інстытуту была паведамленая, гэта біяграфічны нарыс пра этнографа Аўдакіма Раманава*[168] *з прычыны 100-годзьдзя ад ягоных народзінаў, піша сп. Ю[рка] Віцьбіч. Працу з тэорыі літаратуры, абаснаваную на беларускіх прыкладах, піша сп. А[ўген] Каханоўскі, мае быць гатовая ў канцы гэтага лета. А. Л[еў] Гарошка працуе даўно над сучаснай бібліяграфіяй беларусікі й мае картатэку ўжо з пары тысяч пазыцыяў. Сп. М[ікола] Дарашэвіч апрацоўвае вынікі сваіх досьледаў над тарфамі Беларусі. Сп. М[ікола] Куліковіч гатуе да друку сэрыю музычных зборнікаў, першы зь якіх ужо паказаўся ў Кліўлендзе ў выданьні Згуртаваньня Беларускае Моладзі*[169]*. Кампазытар А. Карповіч пераважна працуе над новымі кампазыцыямі. З мастакоў творча ўвесь час працуюць М[іхась] Наўмовіч, [Мікола] Касак і [Аляксандар] Раманоўскі. Працуюць творча й многія іншыя, якія не паведамілі аб тэме працы й стане.*

<u>Выданьні Інстытуту</u>.

*За два справаздаўчыя гады Інстытутам былі выдадзеныя 4 нумары часапісу “Запісы” (3—6) і два нумары часапісу “Конадні” (1—2). Апрача гэтага была выдадзеная кніжка-адбітка М[іколы] Куліковіча “Кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва”*[170].

*“Запісы”.*

*“Запісы” Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва вышлі за мінулыя гады па дзьве кніжкі штогод, разам 4 кніжкі. Матар’ялы для часапісу пераглядалі сп.сп. Н[аталья] Арсеньнева, І[зыдар] Гуткоўскі й В[ітаўт] Тумаш. Усіх супрацоўнікаў часапіс у гэтым часе меў каля дваццаці. Часапіс выдаецца ў тыражы 500 экз., з чаго каля 100 застаецца на складзе, каля 200 экз. рассылаецца ў бібліятэкі й выдавецтвы ў шматлікія краіны сьвету, і каля 200 экз. разыходзіцца сярод беларускай эміграцыі ці то дарогаю падпіскі, ці кальпартажу. Часапіс меў у гэтым часе некалькі прыхільных рэцэнзыяў як у друку беларускім, так і чужамоўным.*

---

[168] **Еўдакім Раманаў** (1855—1922), этнограф, фальклярыст, археоляг.

[169] Маецца на ўвазе выданьне: Куліковіч, Мікола. Беларускі песенны зборнік. Вып. 1: Абрадавыя беларускія сьпевы і гульні, калядныя, вясновыя і купальскія. Кліўленд: выданьне Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Амэрыцы, 1954. — 72 с. У наступным 1955 г. пабачыў сьвет выпуск 5: патрыятычныя беларускія сьпевы для хору. Выпускі 2, 3, 4 былі падрыхтаваныя, але друкам ня выйшлі.

[170] Маецца на ўвазе выданьне: Куліковіч, Мікола. Беларуская музыка = The Whiteruthenian Music: Кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва. Частка першая. Ню Ёрк: БІНіМ, 1953. — 63 с.

*“Конадні”.*

*Літаратурна-мастацкі часапіс, якога выйшла ўжо 2 нумары, распачаты выдаваць у мінулым годзе. Першы нумар друкаваўся ў тыражы 750 экз., другі — 500. Памешчаныя былі ў ім творы каля дваццаці пісьменьнікаў, мастакоў, літаратурных крытыкаў і іншых. Для забясьпечаньня матар’яльнай базы часапісу ды загарантаваньня цягласьці яго выданьня была зробленая спроба прыцягнуць да сувыдавецтва Крывіцкае Навуковае Т[аварыст]ва, з старшынёю якога, сп. Адамовічам, была падпісаная ўмова пра тое, што Крывіцкае Навуковае Т-ва будзе старацца пакрыць далейшыя кошты выданьня ў прапарцыянальнай вышыні й ня меншай, як Інстытут. Сп. Адамовіч адначасна ўваходзіў у склад рэдакцыйнай калегіі часапісу. З матар’яльнага гледзішча гэтая ўмова не дала ніякіх практычных вынікаў. А з адыходам сп. А[нтона] Адамовіча ад старшынства ў Крывіцкім Навуковым Таварыстве ўмова гэтая стала практычна ўжо неактуальнаю.*

*Перад сяньняшнім Зьездам стаіць да абмеркаваньня й вырашэньня важная справа кірунку далейшага выдавецтва Інстытуту. Выдаваньне ў мінулым годзе двох аж часапісаў — навуковага й літаратурнага — якое было магчымае і абумоўленае грашоваю падтрымкаю, якую даў для Інстытуту на выдавецтва фонд Усходняй Эўропы, цяпер стае пад вялікім знакам запытаньня, калі падобнага фонду ўжо ня існуе. Практычная канечнасьць хіба вымушае вяртацца да выдаваньня аднаго часапісу, які [б] сабой заступаў і “Запісы”, і “Конадні”, часапісу і навуковага і разам літаратурна-мастацкага. Гэткія часапісы маюць шмат якія народы на эміграцыі, якія багацейшыя ад нас і матар’яльна, і супрацоўнікамі.*

*Ліставаньне й сувязі.*

*Ліставаньне Інстытуту за мінулы кадэнцыйны час выглядала гэтак:*

| *Год* | *Выходзячых папераў* | *Уваходзячых папераў* | *Разам* |
|---|---|---|---|
| *1953* | *125* | *93* | *218* |
| *1954* | *85* | *129* | *214* |
| *1955* | *38* | *34* | *72* |
| *Разам* | *248* | *256* | *494*[171] |

*Гэтта трэба адцеміць прыемную зьяву, што стала ўзрастае карэспандэнцыя Інстытуту зь іншамоўнымі ўстановамі і асобамі, што найлепш*

[171] Так у арыгінале.

*сьветчыць аб зацікаўленьні працаю й выданьнямі Інстытуту ды гаворыць найлепш пра патрэбу ягонага існаваньня й працы. Сяньня Інстытут мае ліставаньне ў беларусаведных справах з паасобнымі ўнівэрсытэтамі ЗСА, Канады, Англіі, Францыі, Нямеччыны, Швэцыі, Ізраілю ды прыпадкова іншых краінаў. Існуе, зразумела, перапіска і з паасобнымі выдавецтвамі, бібліятэкамі, навуковымі ўстановамі. Калі ў першы год існаваньня Інстытуту ліставаньне ў 75 % не выходзіла па-за межы беларускае эміграцыі, дык цяпер ліставаньне зь іншамоўнымі ўстановамі і асобамі дасягае ўжо больш 40 % усёй карэспандэнцыі.*

*Арганізацыі афіліяваныя з Інстытутам.*

*Усебеларускі Архіў.*

*Выконваючы даручэньне апошняга Агульнага Зьезду Інстытуту з 14 сьнежаня 1952 г. Управа Інстытуту ўжо ў 1953 г. распачала працу над арганізацыяй беларускага архіву, які быў выдзелены ў установу пад асобным назовам — Усебеларускі Архіў. Кіраўніком архіву Ўправа паклікала сп. Міколу Панькова. Архіў плянаваны з чатырма аддзеламі: архіўны, музэйны, бібліятэчны*[172]*. Хоць архіў і арганізаваны Інстытутам, аднак Управа меркавала, што для дзейнасьці архіву больш зручна будзе надаць яму арганізацыйную форму аўтанамічнай установы пры Інстытуце. Адбітыя ў мінулым годзе і адмысловыя фармуляры для Ўсебеларускага Архіву.*

*Усебеларускі Архіў, паводле справаздачы ягонага кіраўніка, за мінулы арганізацыйны час выдаў 53 даведкі, пераважна для чужамоўных навуковых установаў па розных пытаньнях беларусаведы. Спарадкавана ўсяго 106 справаў, парадкуецца больш 100. Сабрана шмат дакумэнтаў з гісторыі беларускага вызвольнага руху. Заведзеныя адмысловыя картатэкі: 1. Ахвяраў бальшавізму; 2. Беларускіх пісьменьнікаў; 3. Беларускіх эміграцыйных кадраў; 4. Беларускіх эміграцыйных установаў і згуртаваньняў.*

*Бібліятэка Архіву мае ўжо звыш 300 тамоў і гадавікі ўсіх беларускіх пэрыёдыкаў на эміграцыі, некаторыя выданьні з БССР, як “Зьвязда”, “Совецкая Белоруссия”, “Маладосць”, “Бярозка”. Карыстаньне зь бібліятэкі часова абмежавана для шырэйшых колаў дзеля нястачы адпаведнага памешканьня.*

*Найменш, амаль нічога, зроблена ў кірунку збору музэйных экспанатаў як агульна-беларускага значэньня, так і музэйных матар’ялаў да гісторыі беларускай эміграцыі і асабліва беларускай эміграцыі ў ЗСА.*

[172] Чацьверты не пазначаны.

*З важнейшых паасобных здабыткаў архіву трэба адзначыць матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Аргентыне, успаміны й фатаграфіі ад спн. Ю[льяны] Дубейкаўскай, абымаючы 4 сшыткі запісаў пра беларускае жыцьцё ў Вільні пачатку XX ст., з асабліва абшырнымі цэннымі біяграфічнымі данымі пра Івана Луцкевіча. Успаміны праф. Кайрыса пра А[лаізу] Цётку-Пашкевічанку (друкаваныя ўжо), фатаграфія, аўтабіяграфія і біяграфічныя даныя пра ведамага першага выдаўцы нямецкай кнігі пра Беларусь “Вайсрутэнія” (Бэрлін, 1919) Вальтэра Егера*[173]*. Сп. Анатолем Валюшкаю перададзена для Інстытуту 200 беларускіх прыпеўкаў і больш 50 беларускіх народных песьняў з мэлёдыямі, запісаных у Косаўшчыне на Палесьсі. Ад сябры Яз[эпа] Гладкага Інстытут атрымаў запісы больш 1000 рэдкіх народных словаў з абшару Лагойшчыны, былога Барысаўскага павету.*

*Кнігі для бібліятэкі Архіву зьбіраюцца перадусім дарогаю атрымліваньня выменных і рэцэнзыйных экзэмпляраў для часапісаў Інстытуту.*

*Справа Архіву, як паказалі першыя арганізацыйныя гады, справа вельмі насьпелая, важная, і пры ўкладзе адпаведнай працы стае ўдзячным заданьнем. Нажаль, з самага пачатку заіснавала вельмі значная перашкода, якая ў вялікай ступені параліжуе далейшае ягонае разьвіцьцё. Перашкода гэтая — гэта нястача адмысловага памешканьня, на пачатак хаця-б аднаго большага пакою, дзе магчыма было-б разьмясьціць спарадкаваны архіўны матар’ял, дзе можна было-б паставіць патрэбныя шафы й паліцы.*

*Вось дзеля гэтых прычынаў сяньня архіўны матар’ял Інстытуту раскіданы ў некалькіх памешканьнях. У першую чаргу ў галоўным пункце, дзе й адрыс Архіву, на памешканьні кіраўніка сп. М[іколы] Панькова. Апрача гэтага, перадусім кніжкі, знаходзяцца і ў памешканьні сп. Кушэль, пад афіцыяльным адрысам Інстытуту ды ў памешканьні сп. В[ітаўта] Тумаша. Некаторыя матар’ялы ды выданьні накопліваюцца і на адрыс рэдакцыі “Конадняў” — на памешканьні сп. Р[ыгора] Крушыны.*

*Як часовая разьвязка для Архіву патрэбны канечна напачатак хоць адзін свой адмысловы большы пакой (як і для Інстытуту наагул), што мець самому Інстытуту ня так лёгка, але што практычна магчыма наняць разам зь нейкімі іншымі грамадзкімі беларускімі арганізацыямі ў Ню Ёрку. Як гэтую справу найлепш разьвязаць — свае меркаваньні мог-бы высунуць і Агульны Зьезд.*

---

[173] **Вальтэр Егер** (ням. *Walter Jäger*, ?—1948?), нямецкі журналіст, які ў часе Першай сусьветнай вайны быў у Беларусі. Аўтар першай абагульняльнай нямецкамоўнай працы, прысьвечанай Беларусі: Jäger, Walter. Weissruthenien: Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung. Berlin, 1919. — 140 s.

*З самага мамэнту арганізацыі Архіву быў накінуты праект рэгуляміну Архіву, паводля якога плянавалася й пакліканьне адмысловай Архіўнай Рады як дарадчага воргану для дырэктара Архіву й нагляднага над Архівам. Дзеля нястачы памешканьня Архіўная Рада ня была, аднак, створаная, бо ў сучасных умовах Архіўная рада практычна мусіла-б у вялікай меры кантраляваць прыватнае памешканьне й зборы сп. М[іколы] Панькова, што, зразумела, разьмінаецца з заданьнем такой Рады.*

*Было-б добра, калі-б Агульны Зьезд прысьвяціў гэтай справе сваю ўвагу ды высунуў свае прапановы ці праекты разьвязкі гэтага, дзеля матар'яльных прычынаў нялёгкага заданьня, ад якога ў вялікай меры залежыць справа далейшага належнага разьвіцьця Архіву, бібліятэкі й музэю Інстытуту.*

*Беларуская Бібліяграфічная Служба.*

*ББС, як і ў мінулыя гады, праводзіць рэгістрацыю друкаў на эміграцыі й беларусікі ў іншамоўных друках. Мае картатэкі беларускае пэрыёдыкі ад 1892 да нашых дзён (звыш 1000 картак), картатэку сучаснага пэрыядычнага друку на акупаванай Беларусі (ад 1945 г. — звыш 200 картак). ББС рыхтуе да друку паказьнік беларускіх выданьняў, а таксама выданьне свайго органу "Кнігапіс".*

*Агульнаведама, што ўся праца ББС — гэта ахвярная праца аднаго чалавека: кіраўніка ББС сп. Міколы Панькова. Да найбольш цэнных вынікаў гэтай працы за мінулыя два гады трэба лічыць прыгатову паказьніка беларускага пэрыядычнага друку, сяньня абыймае каля паўтары тысячы назоваў. Праца гэтая блізкая да заканчэньня. Намаганьні Ўправы Інстытуту знайсьці для яе выдаўца (кніга будзе мець больш 15 аркушоў друку) да гэтай пары ня далі ніякіх канкрэтных вынікаў*[174].

*Аб'яднаньне Беларускіх Лекароў на Чужыне.*

*З прычыны вялікага расьцярушаньня невялікай колькасьці беларускіх лекароў на чужыне пасьля закончанага расьсяленьня цяжка для Аб'еднаньня весьці больш актыўную працу, прынамся, у такіх разьмерах, як яна была ведзеная ў пару, калі амаль усе лекары знаходзіліся ў вадной краіне — як ДП у Нямеччыне. За мінулыя два гады вялася толькі невялікая перапіска зь сябрамі ў справах, зьвязаных з АБЛЧ, была выдадзеная коштам Аб'еднаньня паштоўка з гравюрай др. Ф. Скарыны (2000 экз.). Пароблены Аб'яднаньнем захады для афармленьня пераезду ў ЗСА аднаго сябры АБЛЧ — др. Вітаўта Рамука з Бэльгіі — знойдзены спонсар і працадаўца. Выпаўненьне адпаведных фармуляраў праводзіцца.*

[174] Бібліяграфія не была выдадзеная.

*У галіне выдавецкай запрапанаванае выданьне коштам Аб’яднаньня кнігі аўтэнтычных дакумэнтаў да біяграфіі др. Фр. Скарыны. Ідуць пошукі за тэкстамі пары дакумэнтаў з пары бытнасьці Скарыны ў Празе. Пасьля іх знаходу можна будзе прыступіць да друку выданьня.*

*Фінансавая справаздача Інстытуту.*

*За час ад 14.XII.1952 г. да 12.III.1955 г. прыбыткі й выдаткі Інстытуту выглядалі гэтак:*

| | |
|---|---|
| *Прыбыткі:* | |
| *Датацыя Фонду Ўсходняй Эўропы* | *2,500.00* |
| *Пазыка* | *100.00* |
| *Ахвяры* | *42.81* |
| *Сяброўскія складкі* | *116.00* |
| *% ад капіталу* | *32.04* |
| *З прадажы выданьняў* | *903.36* |
| *Разам* | *3694.21* |
| *Выдаткі:* | |
| *Кошты друку* | *2816.86* |
| *Інкарпарацыя* | *97.00* |
| *Зварот пазыкі* | *100.00* |
| *Наймо салі* | *40.00* |
| *Паштовыя, фармуляры, канвэрты* | *186.02* |
| *Недабор з імпрэзаў* | *21.69* |
| *Разам* | *3261.57* |
| *Сальдо* | *432.64* |

*Разам з папярэднімі гадамі, ад пачатку свайго існаваньня Інстытут меў усяго прыбытку 4407.37, выдаткаў 3974.73. Сальдо на 12 сакавіка 1955 г. — 432.64 даляраў.*

*Трэба адцеміць адносна невялікую суму ў рубрыцы сяброўскіх складак. Адной з прычынаў гэтага тое, што толькі сябры амэрыканскія практычна ўплочваюць складкі, часткова з Аўстраліі, Англіі ды Францыі. Зь іншых-жа краінаў, напр[ыклад], Нямеччына, ніякой складкі ня прыбывае дзеля пераважнага беспрацоўя тамашніх сяброў і часткова дзеля нізкой практычнай вартасьці тамашняй валюты.*

*Агульныя высновы*.

*Праца Інстытуту ў мінулыя гады паказала ясна, як вялікая сяньня існуе патрэба навуковай працы ў беларусаведнай галіне на эміграцыі. Зацікаўленьне беларускімі пытаньнямі ў вольным сьвеце нязвычайна шпарка расьце. З усіх бакоў зьвяртаюцца да Інстытуту па парады, матар'ялы, кніжкі. Патрэба беларусаведнай працы вялікая й дзеля нутрана беларускіх меркаваньняў. Да сяньня, нажаль, ня існуе добрых інфармацыйных выданьняў-падручнікаў з галіны геаграфіі, эканомікі, гісторыі, літаратуры й культуры Беларусі, чаго з усіх бакоў дамагаюцца чужыя навуковыя ўстановы, навукоўцы й палітыкі.*

*Ня шмат яшчэ, у параўнаньні да вялікіх патрэбаў, Інстытут мог выканаць у мінулыя гады дзеля нястачы адпаведных навуковых кадраў, дзеля нястачы й матар'яльных сродкаў. Але паднятае заданьне ў меру сваіх магчымасьцяў выконваў, існаваньне сваё апраўдаў, паклаў здаровыя падваліны пад далейшую карысную працу для будучай новай управы Інстытуту, заданьне якой будзе далей разьвіваць гэтак патрэбную беларускую ўстанову на эміграцыі — Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.*

Пра вынікі зьезду Вітаўт Тумаш пісаў да Юркі Віцьбіча:

*"Адбыліся перавыбары Ўправы Інстытуту ў вапошнюю суботу — нажаль, не знайшлося ахвотніка перабраць абавязкі старшыні Інстытуту, і я змушаны быў згадзіцца на гэтае становішча, хоць розныя справы мне й не пазвалялі гэтага рабіць. Дакладнейшая справаздача пра дзейнасьць Інстытуту, пра фінансавыя справы й новыя ўлады будзе пададзеная сябром у чарговым нумары «Абежніка» Інстытуту, які мае паявіцца за пару тыдняў"*[175].

У новую ўправу, паводле "Абежніка" (красавік 1955 г.), увайшлі: др. Вітаўт Тумаш — старшынём, Антон Адамовіч — віцэ-старшынём, Натальля Арсеньнева — сакратаром, Мікола Гарошка — скарбнікам, Антон Шукелойць — архівістам. У Наглядную Раду былі абраныя: праф. Леў Акіншэвіч — старшынём, мгр. Пётра Манькоўскі — віцэ-старшынём, сп. Рыгор Крушына — сакратаром.

[175] Ліст В. Тумаша да Ю. Віцьбіча ад 18.03.1955. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

# 1955 год. Акалічнасьці і праца

Панарама інтэлектуальнага жыцьця ў Інстытуце й па-за ім была няпростаю. Дый людзей — вобмаль. Вось два лісты, напісаныя Вітаўтам Тумашам у адзін дзень, 19 траўня 1955 г. Першы — да Аўгена Каханоўскага й Іны Рытар:

*“Пераходзячы да пастаўленай Вамі першай справы (дыскрэтнай), справы Сядуры: яна паказалася з друку вось толькі гэтымі днямі, як Вам ведама, у ангельскай мове*[176]*. На напісаньне гэтай працы Сядура праз больш, здаецца, як тры гады, атрымліваў стыпэндыю ад Фордаўскага Фонду. Пераглядаць уважней яе не прышлося, хоць надрукаваную ўжо бачыў гэтымі днямі. Пра самую працу не магу нешта канкрэтна сказаць, бо зь ёю яшчэ не знаёмы, дык магу толькі служыць агульнымі інфармацыямі, якія тут існуюць у Нью Ёрку, і перадаць агульны пануючы тут пагляд на тую справу. Першая справа — гэта тое, што расейскі тэкст, які Вы атрымалі, ня ёсьць дакладным тэкстам кніжкі. Падчас друку амэрыканцы кнігу на некалькі дзясяткаў бачынаў скарацілі, выкідаючы слабейшыя месцы. Дзеля гэтага я ня пэўны, ці наагул бясьпечна пісаць рэцэнзыю не па арыгінале. Калі ходзіць аб агульную апінію аб самым аўтары — яна тут (шчыра й дыскрэтна гаворачы) ня важная. Сядура лічыцца (не кажу тут аб кніжцы, якой ня чытаў) з папярэдніх сваіх артыкулаў за вельмі павярхоўнага публіцысту. Піша ён часта пад псэўданімам Глыбінны, што дае, напрыклад, Віцьбічу магчымасьць у лістах стала менаваць яго ў дужках «Павярхоўным». Гэткі запраўды ён і ёсьць. Нядаўна тут чытаў рэфэрат «Дастаеўскі ў крытыцы». Увесь рэфэрат збудаваны гэтак: цытаты, цытаты, павязаныя толькі сказамі — «гэты сказаў так, гэты сказаў гэтак» — свайго абсалютна нічога. Дзеля свайго цяжкога характару (перадусім нястача звычайнага выхаваньня) мае мала прыяцеляў ці лепш кажучы — зусім іх ня мае сярод пісьменьнікаў ці літаратараў. Адзін Віцьбіч, хоць у лістах і кпіць зь яго, яшчэ трымае нейкую зь ім сувязь. Асабліва злы на яго Куліковіч, якому некалі падставіў «ножку» і не дапусьціў яго да стыпэндыі на тэму «Беларуская опэра», бо зьбіраўся сам на гэтую тэму пісаць і зарэкамэндаваў у Фондзе*[177] *Куліковіча як «некампэтэнтнага» ў опэрных справах (хоць сам Сядура ні на ніякім музычным інструмэньце ня знаецца й пра музыку мае кампэтэнцыю хіба блізкую нуля). Дзеля*

[176] Маецца на ўвазе выданьне: Seduro, Vladimer. The Byelorussian Theater and Drama. New York: Research Program on the USSR, 1955. — 517 p.

[177] Маецца на ўвазе Фордаўскі фонд.

*гэтага Куліковіч калі будзе пісаць мо' рэцэнзыю, будзе найскарэй пісаць яе «востра». У беларускіх выданьнях хіба нейкая ацэна паявіцца значна пазьней, мо' ўвосень, бо кніга толькі цяпер паявілася й займе часу зь ёю пазнаёміцца. Хоць сам аўтар на ўсе бакі ўжо рассылае аўтарэклямныя матар'ялы і цісьне, каб хвалілі. Мая асабістая рада — без арыгіналу наагул ня пісаць нічога. З арыгіналам таксама не сьпяшацца, а перадусім уважна й дакладна пазнаёміцца зь зьместам. Апошнімі месяцамі Сядура меў нямала прыкрасьці з Інстытутам СССР у Мюнхэне. Выявілася, што перадаў для Інстытуту працу на стыпэндыю, за якую ўжо такую-ж стыпэндыю некалі дастаў ад Фордаўскага Фонду. Адным словам, дзярэ дзьве скуры з аднаго ваўка. Гэта не спадабалася Інстытуту, але было ўжо запозна — грошы ўзяў. Апінію затое моцна сабе падпсаваў (ходзе ўсё пра тую-ж «працу» — «Дастаеўскі ў крытыцы»"[178]).*

Другі ліст — да айца Лява Гарошкі:

*"Дарагі Войча Леў!*

*[...] У справе зьезду пісьменьнікаў магу ня шмат паведаміць. Гэтыя справы ад імені беларусаў вядзе тут Адамовіч як адзіны ў ЗСА сябра Мюнхэнскага Інстытуту. Праўда, ён на паседжаньні Ўправы Інстытуту рапартаваў усю справу й радзіўся, каго ў Парыжы вызначыць з нашых у арганізацыйны камітэт зьезду. Мы парадзілі Вас, паколькі нейкага мацнейшага пісьменьніка ў Парыжы ня маем. Заданьне Вашага камітэту будзе тэхнічна-выканаўчае. На самым зьезьдзе будзе дзеіць перадусім камітэт рэпрэзэнтацыйны з самых ужо пісьменьнікаў. У гэтай справе цяжка сказаць, хто з нашых паедзе. Хіба напэўна Арсеньнева — надаецца па заслужанасьці як пісьменьніца, была на ссылцы ў Казахстане. Хіба будзе Адамовіч як крытык (хоць мо й не). Што да Віцьбіча — ён пакуль што пра ўсё, здаецца, нічога ня ведае, і пра яго ідзе дыскусія і ў кругох арганізатараў. Калі-б і запрасілі-б яго — пытаньне, ці паедзе. А запрашаць, відаць, таксама ёсьць рызыка, бо ён, нажаль, тут у ЗСА вельмі паважна хварэе на тую-ж хваробу, на якую хварэе й др. Ст[аніслаў] Станкевіч у Мюнхэне (прашу захаваць дыскрэцыю ў гэтай справе й гэтым маім лісьце пра гэта)[179]. Хіба найбольш надаецца М[асей] Сяднёў, які хоць і маладзейшы, але пісьменьнік моцны й мае за сабой стаж — Калыму.*

---

[178] Маецца на ўвазе выданьне: Седуро, Владимир. Достоевсковедение в СССР. Мюнхен: Издание Института по Изучению Истории и Культуры СССР, 1955. — 92 с.

[179] Маецца на ўвазе алькагалізм.

*Мая рада — лепш Вы справы, каго запрашаць, каго не, не чапайце, бо яна й так будзе вырашаная тут, а, з другога боку, лёгка Вам будзе ўблытацца ў няпрыемнасьці, калі пісьменьнікі з зайздрасьці пачнуць пазьней шукаць прычынаў і вінаватых, чаму гэтага запрасілі, а не яго. Тут наагул яшчэ ня пэўныя амэрыканцы, ці яны пасьпеюць вясною зьезд прыгатаваць, ці мо махнуць на яго рукамі*[180].

*[...] Цяпер — таксама ў парадку поўнай дыскрэцыі — хачу Вам крыху й пажаліцца з тутэйшых клопатаў. Некалькі гадоў таму Вы, акурат, запрапанавалі стварыць пры Інстытуце Архіў ды на архівара-кіраўніка выбраць сп. Панькова. Гэтак паўстаў Усебеларускі Архіў. Аднак Панькоў аказаўся да гэткай працы неадпаведны. Першая рэч, ён таксама пачынае «пахварваць» на тую-ж хваробу. Было тут ужо пара публічных скандалаў. Адзін раз у мінулым годзе сваімі выступамі пад п'яную руку сарваў практычна рэфэрат праф. Акіншэвіча. На шчасьце, на ім было толькі пара дзясяткаў нашых, а нікога чужога. Гэта прыносіць нязвычайныя шкоды арганізацыі. Прышлося яго пры апошніх выбарах адсунуць з Управы Інстытуту. Гэта — адзін бок мэдалю. Другі — ён здаўна быў ціхім супрацоўнікам Хмары. Ад мінулага лета працуе тут пад ягонымі загадамі поўнай параю. Пераслаў яму (наколькі ведама) копіі пратаколаў Сэсыі Рады БНР (паколькі ён быў сакратаром тады), пачаў зь ягонага-ж загаду біць пашквільную літаратуру тыпу Асіпчыка дый Попкі — хіба дасланы й Вам «Наш кліч»*[181] *быццам ангельскага выданьня, а біты й рэдагаваны цалкам тут Паньковым (як гэта выяўлена напэўна). Інстытут — арганізацыя не партыйная. І калі нехта мае іншыя палітычныя пагляды — гэта рэч для арганізацыі ня істотная. Але ёсьць і «але» — аўтары й прадукцыянэры тыпу Асіпчыка, Попкі й г. д., якой-бы групы яны ні былі, не надаюцца да ніякой работы ў апартыйнай навуковай арганізацыі, не надаюцца й на становішчы кіраўніка архіву: бо хто-ж дасьць нешта саліднейшае ў такі архіў, калі будуць ведаць, што кіраўнік у кажны мамэнт бязь ніякіх маральных скрупулаў зможа іх выкарыстаць для пашквільнай ананімнай літаратуры. Дзеля гэтага ўся справа тут практычна загразла. Ёсьць яшчэ й трэці бок справы: як падчас праверкі справы перад апошнім зьездам аказалася, Панькоў ані робіць, ані відаць будзе рабіць архіў для Інстытуту. Ён робіць нешта іншае — карыстаючы з маральнай шыльды Інстытуту, ён спрабуе толькі разбудоўваць свой*

[180] Зьвестак пра згадваны ў лісьце зьезд ня знойдзена.

[181] Магчыма, маецца на ўвазе часопіс **«Народны Кліч»**, выдаваны ў Лёндане як орган Беларускае народнае грамады ў Вялікай Брытаніі. Выходзіў у 1954 г., пабачылі сьвет толькі 2 нумары. Рэдагаваў нумар Міхась Іскрыцкі.

*прыватны архіў, які будзе да дыспазыцыі толькі яму і ягоным партыйным «саратнікам». Выявілася, што ён нічога фармальна для Інстытуту не зарэгістраваў, нічога не запісаў у нейкія кнігі, усё трактуе зусім прыватна. Хоць мне менш-больш і ведама, што для Інстытуту перададзена і ў выпадку патрэбы можна будзе зажадаць ад яго ўсё назад — аднак гэта ўсё-ж не работа. Гэтую сытуацыю я абсэрвую ўжо ад году й дзеля гэтага ўсе важнейшыя здабыткі Архіву трымаю пакуль што ў сябе, каб быць прыгатаваным на ўсё. Справу блытае нястача свайго памешканьня для архіву (як і для Інстытуту). Дзеля гэтага на восень на гвалт шукаю магчымасьці здабыцца на сваё скромнае памешканьне й там паставіць шафы ды запрапанаваць Панькову перанесьці ўсё там. Калі ня згодзіцца — прыйдзецца выдаваць бой і разьвітацца зь ім. Да гэтага на ўсякі выпадак усё рыхтую. Стуль і Шукелайць у ролі афіцыяльнага архівара Інстытуту [...].*

*Архіў у маральна салідных руках — вялікая й карысная рэч. У руках маральна бясхрыбэтнага чалавека — можа стацца нават дэструкцыйным аружжам"*[182].

Але нягледзячы ні на складаныя ўмовы, ні на чалавечы фактар, Інстытут надалей намагаўся аб'яднаць навукоўцаў і літаратараў ды весьці навуковую працу. Зборкі новага, 1955 г. сэзону пачаліся 5 лютага дакладам Вітаўта Тумаша "Найнавейшыя пагляды пра паходжаньне беларускага аканьня".

Потым былі такія сустрэчы й спавешчаньні:

19.02 — дыскусія над прачытаным аўтаркаю, Аляксандрай Саковіч, новым апавяданьнем;

23.04 — Антон Адамовіч, "Саветызацыя беларускае літаратуры";

07.05 — дыскусійнае паседжаньне над зборнікамі вершаў: Міхась Кавыль, "Пад зорамі белымі"; Янка Юхнавец, "Шорах моўкнасьці"; Масей Сяднёў, "Ля ціхай брамы". Рэфэрэнт — Антон Адамовіч;

21.05 — Вітаўт Тумаш, "Заходнія элемэнты культуры Беларусі";

04.06 — дыскусійнае паседжаньне аб некаторых цікавых, рэдка ўжываных словах беларускае народнае мовы. Рэфэрэнты — Вітаўт Тумаш і Антон Адамовіч;

17.11 — справаздача віцэ-старшыні Антона Адамовіча з падарожжа ў Эўропу на навуковую канфэрэнцыю і асамблею Інстытуту вывучэньня СССР;

15.10 — Язэп Гладкі, "Успаміны аб Усебеларускім Кангрэсе ў Менску ў 1917 г.";

[182] Абодва лісты захоўваюцца ў БДАМЛМ.

03.12 — Вітаўт Тумаш, “Беларускія элемэнты ў творчасьці Адама Міцкевіча”;

17.12 — Антон Адамовіч, “Некаторыя цікавыя словы із слоўнікаў Лаўрэнція Зызанія[183] й Памвы Бярынды[184]”.

Ужо тады ў Інстытуце пачалі задумвацца пра яшчэ адну важную тэму: гісторыю беларускай эміграцыі.

*“Вельмі паважаны сп. М[акар] Аблажэй!*

*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва разам зь іншаю навуковаю працаю робіць таксама стараньні над зборам усялякіх матар’ялаў і памятак з гісторыі беларускай эміграцыі ў Злучаных Штатах Амэрыкі. З існуючых ужо ў Архіве Інстытуту друкаў і дакумэнтаў можна бачыць, што Вы былі адным з тых ахвярных грамадзкіх працаўнікоў, якія самааддана працавалі ў часе паўстаньня й дзейнасьці першых беларускіх арганізацыяў у Чыкага: Беларускага Нацыянальнага Камітэту*[185] *й пазьней Беларуска-Амэрыканскага Нацыянальнага Саюзу*[186].

*Управа БІНіМу дзеля гэтага зьвяртаецца да Вас з ласкаваю просьбаю памагчы нам у зборы патрэбных матар’ялаў (газэты, брашуры, лістоўкі і іншыя друкі й дакумэнты, якія некалі беларускія арганізацыі ў ЗША выдавалі). У першую чаргу Інстытут шукае паасобных нумароў або найлепш поўнага камплекту першай беларускай газэты ў ЗША «Белорусской Трибуны»*[187]*, актыўным супрацоўнікам якой, пакольні нам ведама, Вы былі.*

*Мы-б былі таксама вельмі ўдзячныя, калі-б Вы маглі напісаць для Інстытуту (для друку) Вашыя ўспаміны пра дзейнасьць беларускіх арганізацыяў у часе між двумя сусьветнымі войнамі й пра Ваш удзел у іх.*

*Мы верым, што не адмовіце нам сваёй цэннай дапамогі ў гэтай важнай нашай працы для сабраньня матар’ялу й напісаньня гісторыі беларускай эміграцыі ў Злучаных Штатах Амэрыкі”*[188].

[183] **Лаўрэнці Зізаній** (?—1634), пэдагог, лінгвіст, літаратар, багаслоў, палеміст.

[184] **Памва Бярында** (між 1550 і 1570–1632), лексыкограф, паэт, перакладнік, выдавец.

[185] **Беларускі нацыянальны камітэт у Чыкага** — грамадзкая арганізацыя, заснаваная ў 1921 г.

[186] **Беларуска-Амэрыканскі нацыянальны саюз (асацыяцыя)** — грамадзкая арганізацыя, заснаваная ў Чыкага ў 1923 г. з удзелам прадстаўнікоў БНР Янкі Чарапука-Змагара й Язэпа Варонкі.

[187] **«Белорусская Трибуна»** — расейскамоўная беларуская газэта ў Чыкага, якая выходзіла ў 1926–1932 гг. пад рэдакцыяй Язэпа Варонкі.

[188] Ліст В. Тумаша да М. Аблажэя ад 05.08.1955. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

Сілаў, асабліва фінансавых, у Нью-Ёрку БІНіМу выразна не ставала; і тады паўстала думка заснаваць у Мюнхэне, дзе ў Інстытуце вывучэньня СССР і на радыё "Вызваленьне" працавалі Станіслаў Станкевіч, Уладзімер Цьвірка, Сымон Кабыш, Паўла Урбан, Янка Запруднік, мясцовы аддзел, які з часам мог бы ператварыцца ў агульнаэўрапейскі. Такі аддзел быў створаны 4 кастрычніка 1955 г., і ўзначаліў яго Станіслаў Станкевіч, ён жа пераняў на сябе выданьне "Запісаў".

На той час у БІНіМе было ладна ўжо сябраў, якія адыгрывалі немалыя ролі ў розных дзялянках і аспэктах беларускай эміграцыі. У ЗША: Антон Адамовіч, Леў Акіншэвіч, Наталья Арсеньнева, уладыка Васіль, Аўген Вярбіцкі, Юрка Віцьбіч, Мікола Дарашэвіч, Мікола Гарошка, Станіслаў Грынкевіч, Язэп Гладкі, Баляслаў Грабінскі, Аўген Каханоўскі, Рыгор Казак, Франц Кушаль, Мікола Куліковіч, Язэп Лешчанка (Міхась Кавыль), Янка Ліманоўскі, Пётра Манькоўскі, Пётра Міpановіч, Мікола Панькоў, Гіпаліт Паланевіч, Ян Пятроўскі, Язэп Рэшаць, Аляксандар Ружанец-Ружанцоў, Іна Рытар, Масей Сяднёў, Уладзімер Сядура, Мітрафан Рэпкаў-Смаршчок, Вітаўт Тумаш, Часлаў Ханяўка, Янка Шакун, Антон Шукелойць; у Канадзе: Аляксей Грыцук, Барыс Рагуля, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Мікола Сільвановіч; у Англіі: а. Часлаў Сіповіч; у Францыі: Мікола Абрамчык, Ніна Абрамчык, а. Леў Гарошка, Міхась Наўмовіч; у Бэльгіі: Уладзімер Набагез і а. Аўген Смаршчок; у Італіі: а. Пётра Татарыновіч і Пётра Конюх; у Нямеччыне: Барбара Вержбаловіч, Уладзімер Цьвірка, Юльяна Дубейкаўская, Сымон Кабыш, Алесь Карповіч, Станіслаў Станкевіч, Зіна Станкевіч, Зьміцер Чайкоўскі, Алесь Вініцкі, Янка Запруднік, Рыгор Казак; у Аўстраліі: Алесь Салавей, Аляксандар Калодка, Язэп Малецкі, Мікола Нікан, Аляксандар Раманоўскі.

Таму ня дзіва, што з Інстытутам і ягоным дырэктарам лічыліся ня толькі ў вузкіх культурна-навуковых справах[189]. Зь ліста Вітаўта Тумаша да Міколы Абрамчыка:

---

[189] Вітаўт Кіпель: *Упэўнены, што не мыляюся, калі выкажу пагляд, што БІНіМ быў і ёсьць найбольш аўтарытэтная й паважная арганізацыя ў беларускай дыяспары. Аўтарытэт, паважнасьць арганізацыі ўсталяваліся й замацаваліся з самага пачатку — арганізацыйнага пэрыяду. Ініцыявалі й стварылі БІНіМ паважныя й ведамыя грамадзтву дзеячы, як др. Вітаўт Тумаш, праф. Леў Акіншэвіч, др. Аляксандар Орса, паэтэса Наталья Арсеньнева, уладыка Васіль ды дзясятак-другі іншых асобаў. Павагу арганізацыі прыдаваў таксама тагачасны старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык, які ў прамовах-гутарках, лістах фарсаваў ідэю стварэньня "Беларускай Акадэміі". Station Станоўча да БІНіМу ставіліся й дзеячы апазыцыйнага лягеру, лягеру БЦР, як др. Мікола Шчорс, Пётра Орса, Яўхім Кіпель. Дый ствральнікі Інстытуту зь месца дэкляравалі, што БІНіМ — арганізацыя беларуская нацыянальная, дзяржаўніцкая й беспартыйная,*

*“Дарагі Мікола!*

*Ня ведаю, ці яшчэ актуальная справа кіраўніцтва Радыё «Вызваленьне» беларускага аддзелу, але перасылаю гэтта для Твайго ведама й эвэнтуальнага выкарыстаньня выпіску зь ліста сп. Уладзімера Дудзіцкага. У чэрвені месяцы пішучы яму ліст, я напісаў, што існуе плян пашырэньня часу беларускіх перадачаў у радыё «Вызваленьня», і магчыма будуць патрэбныя супрацоўнікі, і ці ён не згадзіўся ў выпадку патрэбы на пераезд на працу ў радыё. Тут пасылаю ягоны адказ на маё запытаньне.*

*Мой асабісты пагляд такі, што ён на працу ў радыё вельмі надаецца — зь яго моцны пісака, піша добра вершы й прозаю, знае добра падсавецкія ўмовы й псыхіку «савецкага» грамадзяніна, быў у сваю пару на ссылцы. Неблагі, відаць, арганізатар — і ў Вэнэцуэлі патрапіў стаць на ногі. Адзіны палітычны стары грэх — у часе апошняй вайны раз нехта яго намовіў падпісаць Уласаву*[190] *адозву ад беларусаў. Але ён сам ня ёсьць русафілам, ані нейкім «фэдэралістам», наадварот, уся творчасьць ягоная выразна патрыятычна-нацыяналістычная і ягоны «ўласаўскі» грашок запраўды, на мой пагляд, толькі прыпадковая рэч у выніку склаўшыся навокал яго тады абставінаў. На маю думку, ён і Каханоўскі — два наймацнейшыя кандыдаты на падобную працу.*

*Выпіска:*

*...Коратка пра радыё «Вызваленьне». З гледзішча матар’яльнага ня маю ніякіх падстаў пакідаць Вэнэцуэлю. Забясьпечаны й маю ўсе магчымасьці, як кажуць, стаць нагамі на ўласны грунт, іншымі словамі — стаца гаспадаром вялікае фармы на новых землях (прапанавала дзяржава; нехаця сьмяюся й прыгадваю Коласавага Дзядзьку ў Вільні)*[191]*. Прызнаньне й службовае становішча (дырэктар Экспэрымэнтальнага Цэнтру Аграр-*

---

*надпартыйная. Інстытут у сваёй дзейнасьці браў удзел і ў грамадзкім жыцьці, падтрымоўваў усе большыя грамадзкія ініцыятывы, як, прыкладам, зборка грошай на куплю аб’екту ў Брукліне (401 Atlantic Ave — царква): др. Тумаш ахвяраваў на гэтую справу 1000 даляраў. БІНіМ даў паважную суму на куплю адпачынковага цэнтру “Бэлэйр-Менск”, удзельнічаў-дапамагаў грамадзкім арганізацыям — БАЗА, БККА — у правядзеньні Тыдня паняволеных народаў, сьведчаньняў у Кангрэсе, апрацаваньні мэмарандумаў аб дэкалянізацыі СССР і дзясяткаў падобных мерапрыемстваў. Часта грамадзкія арганізацыі зварочаліся да Інстытуту ў гістарычных пытаньнях-праблемах. БІНіМ дапамагаў грамадзкім і царкоўным колам у арганізацыі школаў, курсаў беларусаведы, кніжных выставаў і г. д. Сваёй дзейнасьцю й падтрымкай грамадзкіх мерапрыемстваў БІНіМ заслужыў увагу, пашану ў грамадзе.*

[190] **Андрэй Уласаў** (расейск. *Андрей Власов*, 1901–1946), савецкі вайсковы дзеяч, генэрал. Пасьля палону нямецкімі войскамі ў 1942 г. перайшоў на бок Трэцяга Райху, узначаліў Расейскую вызваленчую армію (*РОА*), што ваявала на баку немцаў.

[191] Маецца на ўвазе паэма Якуба Коласа «Новая зямля».

*нага Інстытуту й Міністэрства Земляробства ў вобласьцях эўрапэйскіх каляністаў) паставілі мяне ў роўніцы прывілеяванай інтэлігенцыі краю (гэта, аднак, не выключае магчымасьці раптоўнага падзеньня; у краінах паўдзённае Амэрыкі няма немагчымых рэчаў). Зрэшты, усе гэтыя плюсы й мінусы ня вельмі мяне й цікавяць, галоўнае-ж — палягае ў іншым. Я падыходжу да вашае прапановы з гледзішча нацыянальнага, з гледзішча нацыянальнае карысьці мае працы й, нарэшце, з гледзішча духоўнага самазахаваньня. Нацыянальны бок справы — ясны, як Божы дзень; нацыянальная карысьць працы палягае ў чысьціні беларускае крыві, у нязломнасьці й вытрываласьці духу й сэрца; трэба-ж зубамі вырываць чорную карту жыцьця із крывавых рук чырвонага акупанта-далакопа!*

*Калі нацыянальная рэвалюцыйная інтэлігенцыя і Ўрад БНР уважаюць кандыдатуру мае асобы карыснай і патрэбнай — я не магу не згадзіцца і ня прыняць Вашую прапанову [...].*

*Ул[адзімер] Дудзіцкі. 30 чэрвеня 1955 г.”*[192]

Калі старэйшыя дзеячы выяжджалі ў Нямеччыну на працу на радыё, маладыя, пасьля заканчэньня студыяў у Эўропе, перабіраліся ў Новы Сьвет:

*“Куды важнейшая праца, дзейнасьць. Яе Інстытут абяцае «шырака» разгарнуць ужо пачынаючы ад верасьня. Пабачым. Важнейшая, адказная праца, зразумела, таксама належыць старэйшым, але збор нейкіх інфармацыяў ці статыстычных данных можа быць зусім пад сілу маладым. І на гэта ня трэба іх нават уводзіць сябрамі ў Інстытут, але трэба помніць аб іх, запрагаць іх дзе можна да працы. Успамінаў я пра кадры маладых яшчэ і з думкаю пра тое, што трэба памагаць ім уладзіцца пры тых ці іншых адпаведных навуковых установах, хоць-бы ў ролі нейкіх асыстэнтаў для далейшага папаўняньня навуковага стажу, што ім вельмі патрэбна й вельмі карысна. Пакуль што з нашых маладых уладзіўся пры Ўнівэрсытэце ў Балтымор толькі др. В[ітаўт] Кіпель”*[193].

У гэты пэрыяд жвавасьць галоўнага рухавіка Інстытуту запавольваецца: зь лістапада 1955 г. Вітаўт Тумаш рыхтуецца да іспытаў на адпаведнасьць амэрыканскага лекара, пакінуўшы часова пасаду старшыні Інстытуту Антону Адамовічу. Той жа найперш быў заняты ўласнымі дакладамі й канфэрэнцыямі ў Эўропе.

[192] Ліст В. Тумаша да М. Абрамчыка ад 09.08.1955. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[193] Ліст В. Тумаша ад 19.08.1957. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

# Пачатак 1960-х. Новыя варункі працы

У 1960 г. — новыя клопаты, маласпрыяльныя для навуковай працы; нічога не паробіш — *Homo sum, humani nihil a me alienum puto*[194]:

*“Зьвярнеце ўвагу, што мой адрыс зьмяніўся. Летам давялося рабіць пярэбары ў новае памешканьне, у свой дом. Папярэдняе было нязвычайна прымітыўнае і на нашую сям’ю станоўка замалое. Цярпелі ў ім, колькі маглі, каб хутчэй заашчадзіць крыху грошаў на сваё памешканьне, якое для сям’і нашай вялічыні можна здабыць толькі шляхам куплі свайго дому, бо наймаць большую кватэру тут страшна дарага. Дом хоць і ня новы, але мае 6 пакояў, да гэтага 2 пакойчыкі ўладжаныя пад дахам, дык цяпер кажны мае свой пакойчык. Дзецям гэта ўжо стала неабходным — Яра вучыцца ў коледжы, сын ходзіць у сярэднюю школу, найменшая дачка — у пачатковую школу. Усім патрэбны супакой на адрабляньне лекцыяў, і цяпер гэта маюць.*

*У сувязі з купляй у даўгі давялося ўлезьці «па вушы». Гэта змушае шмат часу й працы аддаваць на тое, каб здабываць грошы ды вывязвацца з «ратаў» сплаты. Значна менш застаецца часу на іншыя справы і іншую працу, якую хацелася-б рабіць. Але затое ёсьць нейкі свой кут, што, дзеля дзяцей, проста неабходна. Паколькі дом ня новы, працы давялося ўкласьці шмат, каб яго давясьці да парадку. Колькі месяцаў працаваў кажны дзень, а часам і ноччу, каб чысьціць, маляваць, напраўляць. Хапае клопатаў яшчэ й цяпер. Дзеля ўсяго гэтага праз колькі месяцаў ня шмат мог займацца нечым іншым, нават значна замарудзіў зь ліставаньнем. Буду старацца паправіцца ў будучым годзе”*[195].

На варушэньне сябраў Інстытуту часу не стае, але Вітаўт Тумаш знаходзіць у сабе сілы для працы над тэмаю, што ў 1962 г. будзе выдадзеная пад псэўданімам *А. Багровіч* — “Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 году” (Нью-Ёрк — Мюнхэн). У лістах да Станіслава Станкевіча, да якога зьвяртаўся ўжо не *“Дарагі Стась”*, як падчас працы над купалаўскай “Спадчынаю”, а *“Вельмі Паважаны Рэдактару”*, пісаў:

*“За працу гэтую ўзяўся, бо лічу, тэма яе вельмі важная ня толькі з навуковага, але й палітычнага гледзішча. Паказвае гэта й нядаўная*

[194] Я чалавек, і нішто чалавечае мне не чужое (лац.).

[195] Ліст В. Тумаша ад 14.12.1960. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*дыскусія ў справе Сапежкавага пытаньня: «Дзе дзеліся беларускія людзі?» А пакольні лічбы нараджальнасьці, сьмерці, натуральны прырост і г. д. уходзяць у круг і мэдычных ведаў, дый мы ў Вільні мелі навет неблагога ў гэтай галіне прафэсара — татарына Карафу-Корбута*[196]*, а ў дадатак і дзеля таго, што ніхто ў нас за гэтае важнае пытаньне паважна навукова ня браўся, дык я й пераняў абавязак крыху спарадкаваць пытаньне, прынамся да пары, пакуль ня будзе магчыма зрабіць гэта яшчэ дакладней на аснове новых апублікаваных статыстычных ці перапісных дадзеных.*

*Гэткая «гэнэза» мае працы. Як удаўся гэты дэмаграфічны пірог — пабачыш па атрыманьні. Кампазыцыя працы такая (для ўводзінаў і аблягчэньня рэдактарскае ацэны): першыя тры разьдзелы ўводныя — пра перапісы беларускае тэрыторыі, самую тэрыторыю дый кароткі нарыс дэмаграфічнага разьвіцьця Беларусі ў XX ст. Далей сама праца распадаецца на дзьве часткі: першая абыймае разьдзелы, трактуючы агульны лік жыхарства, страты, натуральны прырост, тэрытарыяльны падзел, месты й г. д. Другая частка — разгляд зьменаў нацыянальнага складу жыхарства Беларусі. У канцы — два спэцыяльныя разьдзелы: лік беларусаў у СССР па-за тэрыторыяй БССР дый беларусы на этнічнай тэрыторыі, але па-за межамі БССР. У самым канцы, натуральна, высновы. І яшчэ прычэпленыя бачыны із зноскамі"*[197].

*"Застаецца апошняе пытаньне — псэўданіму. Па Нью Ёрку ад гадоў балтаецца тут «беларускі рэпрэзэнт» у Задзіночаных Нацыях (які пабеларуску й гаварыць ня ўмее ні «мэ», ні «бэ»!)*[198]*. Ён часам заходзіць да туташняй Публічнай Бібліятэкі. І раз у прысутнасьці працаўнікоў бібліятэкі моцна наракаў, чаму гэта ў «Конаднях» падпісваюць усё псэўдонімамі — і разьбірайся тут, ліха іх матары, хто гэта піша! А, відаць, ад сваіх гаспадароў мае даручэньне акурат «разабрацца», хто на эміграцыі актыўны, дзеіць, піша і г. д.*[199] *Гэты прыклад паказвае, што ў нашых і сучасных палітычных умовах справа псэўдонімаў у беларускім друку мае*

[196] Маецца на ўвазе **Казімір Карафа-Корбут** (1878–1935), мэдык-гігіеніст, у 1922–1935 гг. — прафэсар Віленскага ўнівэрсытэту, заснавальнік і кіраўнік катэдры гігіены.

[197] Ліст В. Тумаша да С. Станкевіча ад 22.10.1961. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[198] Сталае прадстаўніцтва БССР у ААН была створанае ў Нью-Ёрку ў 1958 г. Тады ж быў прызначаны першы сталы прадстаўнік БССР — Феадосій Грaзноў (1905—?), дыплямат, дарадца пятага эўрапейскага аддзелу МЗС СССР, беларус паводле паходжаньня. Кіраваў прадстаўніцтвам БССР пры ААН да 1961 г.

[199] У прадстаўніцтве БССР у ААН сапраўды складаліся даведкі пра беларускую эміграцыю. Гл.: Свилас, Светлана. К вопросу о деятельности Постоянного пред-

*рацыю свайго быту, як мела ад самага пачатку культурна-нацыянальнага адраджэньня. Нараканьні Сітнікава*[200] *сьведчаць, што тарнаваньне іх — правільна, бо-ж нашто-ж памагаць і ўпрашчаць працу савецкім агэнтам і Маскве наагул? Уважаю (ходзе гэта ня толькі пра мяне), што гэтую справу трэба пакінуць да вырашэньня самым аўтарам, і ў гэтым кірунку не рабіць на іх ніякога нацiску з свайго рэдакцыйнага становішча. Дапусьцім, нехта паддасца «радзе» рэдактара дый пачне публікавацца, а па нейкім часе ў яго паявяцца пасланцы «з таго сьвету» зь лістамі й фатаграфіямі ад ягонае блізкое радні дый стануць шантажаваць? Вам добра ведама, што гэтак робіцца. Дык хто можа браць маральную адказнасьць за падобныя «рады»? А знойдуцца й такія, што скажаць, што гэткія рады даюцца знарок, каб правакаваць супрацоўнікаў дый іхныя сем'і на бацькаўшчыне, дый робяцца яны навет у супрацоўніцтве зь ведамымі зацікаўленымі прозьвішчамі, дзейнікамі. Вось дзеля ўсіх гэтых меркаваньняў ня раджу нагаварываць людзям падпісвацца прозьвішчамі. [...]*

*Цяжка абыйсьціся бяз ПС. [...]*

*За папраўкі мовы на лепшае заўсёды можна быць толькі ўдзячным, але ня думаю, што варта праводзіць падобную «ўніфікацыю» мовы, выкідаючы зь яе арыгінальныя беларускія асаблівасьці дый падменьваючы газэтным стандартам, перанятым з мовы расейскае.*

*Ад «кутка мовы» зусім натуральны пераход да «найбольшага аўтарытэту» паводле Вас у галіне моваведы — др. Я[нкі] Станкевіча. Канчае ўжо ён сёмы дзесятак свайго бурлівага хаданьнямі жыцьця. Моваведа ягоная спэцыяльнасьць, дык ня дзіва, што ў гэтым веку ў гэтай галіне ён сёе-тое й пазнаў у беларускай мове, чаго мо' іншыя й не заўважылі яшчэ. Але гаварыць аб нейкім аўтарытэце — ніяк не даводзіцца. Я сьляджу пакрысе за важнейшаю прынамся літаратураю сучаснаю ў славянскай моваведзе (што тычыць беларускае мовы) — пра др. Я. Станкевіча як пра аўтарытэт тамка ня чуваць, і ніхто яго за такога тамка не ўважае, працы ягоныя нідзе ў перадавых славянска-моваведных часапісах ня друкуюцца ані ў Эўропе, ані ў Амэрыцы. Ведамая рэч, што й сярод беларусаў, хоць і сам ён піша аб сабе як аб адзіным моваведзе, чаго-чаго, але аўтарытэту не здабыў (за выняткам хіба адным — ягонага пляменьніка дый рэдактара «Бацькаўшчыны»). На парозе восьмага дзесятка гадоў з кажным можа неспадзеўкі стацца й натуральнае — сьмерць. Якая*

ставительства Белорусской ССР при ООН в Нью-Йорке (1960–1964 гг.) // Журнал международного права и международных отношений. 2007. № 4. С. 53–58.

[200] **А. Р. Сітнікаў** працаваў другім сакратаром прадстаўніцтва БССР пры ААН з 1958 г. да 1962 г.

*паважнейшая беларуская моваведная пазыцыя як навуковая спадчына застанецца трывалым здабыткам нам па «аўтарытэце»? Сёе-тое мо' ў драбніцах, але ніякога трывалага памятніка-манумэнту, хоць і значна меншага за «Беларусаў» Карскага (у моваведнай іх часткі). Гэта сумная запраўднасьць, але рэальная, пра што варта падумаць, гаворачы аб «найбольшым аўтарытэце»"*[201].

Не выклікае сумневу, што калі Тумаш агучваў падобныя думкі пра Янку Станкевіча, ён ня мог не скіроўваць тыя ж самыя пытаньні да сябе самога: што застанецца трывалым здабыткам, памятнікам-манумэнтам па ім? Невядома, калі менавіта, у які дзень-год прыйшоў адказ, але сёньня добра ведама, які:

*"Першы рэфэрат [«Скарына ў Маскве»] чытаў якраз учора на паседжаньні БІНіМ. Ён гатовы ў мяне ў апошнім чарнавым накідзе. Застаецца толькі, у патрэбе, перапісаць на чыста, што заняло-б мне каля тыдня часу. Тэма хоць і гістарычная, але вялікага сучаснага палітычнага значэньня і актуальнасьці. У ім падаецца да ведама нідзе, ні ў якіх гісторыях нашых літаратураў, ані ў «Чатырохсотлецьці Беларускага друку»*[202]*, ані ў Уладзіміраўскай манаграфіі «Доктар Ф. Скарына»*[203] *— эпізод з Скарынавага жыцьця — ягонага падарожжа з сваімі кнігамі ў Маскву. Праца дакумэнтальная, моцна абапёртая на адпаведную скарынаведную літаратуру й дае няведамыя шырэй факты зь біяграфіі Скарыны. Другая рэч — Scoriniana — яшчэ ненапісаная, але можа быць хутка аформленая, бо цяперака над Скарынаю якраз працую. У «Чатырохсотлецьці беларускага друку» пад гэткім загалоўкам Пічэта*[204] *даў агляд Скарынаведнай важнейшай літаратуры да 1926 году*[205]*. Я хачу даць такі-ж агляд ад 1926 да 1961 г. За гэты час было адкрыта колькі вельмі важных новых дакумэнтаў да жыцьцяпісу Скарыны дый паказалася колькі важных працаў. Апрача гэтага, хачу там паведаміць і аб ведзенай даволі шырокай Скарынаведнай працы*

201 Ліст В. Тумаша да С. Станкевіча ад 12.11.1961. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

202 Маецца на ўвазе выданьне: Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525–1925. Менск: Інстытут Беларускае Культуры, 1926. — VIII + 360 с.

203 Маецца на ўвазе кніга: Владимиров, Петр. Доктор Франциск Скорина: его переводы, печатные издания и язык. СПб, 1888. — 351 с.

204 **Уладзімер Пічэта** (1878–1947), гісторык, археоляг, пэдагог, заслужаны прафэсар БССР, акадэмік АН БССР.

205 Маецца на ўвазе артыкул: Пічэта, Уладзімір. Scoriniana. 1776–1926 // Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525–1925... С. 284–327.

*БІНіМ ад пару год і яе выніках. Між іншым, дзякуючы гэтай працы адкрыты зусім дагэтуль нязнаны адзін дакумэнт, датычны Скарыны, адкрыты новы, нязнаны дагэтуль (трэці) варыянт ягонага партрэту, блізу цалком устаноўлены год сьмерці і г. д.”*[206].

Вітаўт Тумаш пісаў да Міхася Белемука: *“Мой вольны час на навуковадасьледчую працу так цяпер абмежаваны, што й на Скарыну маю замала часу, а аб нечым іншым няма й гутаркі. Сямейныя абставіны змушаюць мяне працаваць заробкава не нармальных 5 дзён, але больш шасьці. Бываюць тыдні, што няма калі заглянуць і ў бібліятэку, не гаворачы аб пісаньні большых працаў”*[207]. Але ж мусіў даць згоду на сяброўства ў рэдакцыйнай калегіі газэты “Беларус”, якая тым часам зусім заняпала. Трэба было шукаць і грошы на выданьне, і аўтараў:

*“Вельмі Паважаны Сп. Сяднёў!*

*Пасылаю Вашай ласкавай крытычнай увазе першую сьціплую працу пра нашага Скарыну, у якой даволі шмат аб ім новага. Гэта разам як перапросіны за доўгае маўчаньне з адказам.*

*Нейкіх крыўдаў у мяне за «эмацыянальнасьць» і сьледу ня было. Але вершы ў папярэднія нумары газэты — адзін сакавіковы нумар, а другі пасьлясакавіковы — ніяк не маглі пайсьці. Абодва нумары — як гэта й вымагаецца — перапоўненыя былі па берагі сакавіковым барабанным патрыятычным боем, і ўціскаць туды вершы — адзін пра «нерастрачаны саромлівы пал», а другі пра «скон» — гэта было-б нешта такое, як у самае разгульле вясельля нехта раптам пахаронны марш зацянуў. Адразу знайшліся-б супэрпатрыёты, што на свой патрыятычны эшафот павалаклі-б ня толькі паэту, але і ўсю рэдакцыйную калегію.*

*Іншая справа цяпер, пасьля таго, як сакавіковы трэск і шум перакаціўся, маглі-б гэтыя, з паэтычнага гледзішча, дасканалыя вершы й пайсьці. Ды хіба лепш было-б, каб даслалі яшчэ пару, і тады зьмясьціць іх адразу цэлым букетам, калі не «літаратурнай старонкай», дык хоць літаратурным «кутом». Праўда, дзеля нарастаючых прафэсійных і сямейных абавязкаў і клопатаў з рэдакцыйнай калегіі пасьля апошняга нумару я змушаны адыйсьці, але вершы да друку мог-бы перадаць, і, думаю, яны будуць зьмешчаныя”*[208].

---

206 Ліст В. Тумаша да С. Станкевіча ад 11.03.1962. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

207 Ліст В. Тумаша да М. Белемука ад 14.03.1964. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

208 Ліст В. Тумаша да М. Сяднёва ад 18.05.1964. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

Сямейныя клопаты — гэта цяжкая псыхічная хвароба жонкі Ксеніі, якая цягнулася не адзін год і шмат спрычынілася да камплікаваньня грамадзкай дзейнасьці Тумаша.

У беларускай грамадзе ж адбывалася вельмі важная падзея, зьвязаная з Фундацыяй імя Пётры Крэчэўскага[209]:

*“Вельмі Паважаны Спадар Кажан!*

*Колькі тыдняў таму гаварыў ужо з Вамі сп. Інж[ынэр] Гарошка ў справе насьпяваючай куплі дому Фундацыі Крэчэўскага. Неспадзеўкі гэтая справа вельмі заактывізавалася гэтымі днямі, у пятніцу адбылося паседжаньне ўправы ў гэтай справе, нажаль, бяз Вас, бо проста ня было ўжо часу й зазваніць. Пастанавілі прыступіць да справы куплі безадкладна, каб прадугледжаныя аб’екты часам ня былі перахопленыя нейкім іншым купцом. У канцы гэтага тыдня мае быць падпісаны кантракт. Паводле інфармацыі інж[ынэра] Гарошкі, Вы выразілі сваю згоду на падобную куплю прынцыпіяльна, калі ўсе іншыя сябры ўправы згаджаюцца. Калі-б мелі нагоду паглядзець аб’екты — яны знаходзяцца на Джамэйцы, на вуліцы Готык Род, пры скрыжаваньні з 167 вуліцай.*

*Крыху інфармацыі, што і як маем замер купляць: пасьля колькі год разгляду за домам на Мангатэне (за апошняга поўгоду было агледжана больш 50 дамоў), мы дайшлі да выснаву, што за гэтак скромную суму адпаведнага мэтам будынку, які быў-бы адначасна й рэнтабэльным, знайсьці вельмі, вельмі цяжка, проста немагчыма. Дзеля гэтага пастанавілі цяпер купіць два зусім нова збудаваныя дамы, у кажным зь якіх па 6 кватэраў, у якім часова будзе мясьціцца й сядзіба Фундацыі, з тым, што па колькі год, пасьля змацненьня фінансавага стану Фундацыі, адпаведны дом ужо на Мангатэне будзе куплены.*

*Палажэньне абодвух дамоў вельмі прыгожае, яны ў добрай, дарагой сэкцыі, камунікацыйны даезд ня гэткі благі, хоць гэта й не Мангэтан. Цана абодвух дамоў разам 180 000, з чаго 40 000 уплачваем (існуючы капітал + пазычкі ад некаторых нашых сяброў на колькі год), а рэшта на мортгідж[210] на 30 год сплаты. Паводля асьцярожных аблічэньняў гэтыя два дамы, ці лепш — даход зь іх — будуць сплачваць мортгідж і працэнты, усе выдаткі зьвязаныя зь іх утрыманьнем, а да гэтага павінны*

[209] **Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага** была заснаваная ў Нью-Ёрку ў 1958 г. з мэтай падтрымкі беларусаведных дасьледаваньняў. У лістападзе 1964 г. фундацыя змагла набыць некалькі будынкаў, дзе меліся разьмясьціцца бібліятэка, архіў, грамадзкая заля для імпрэзаў.

[210] ***Mortgage*** (анг.) — іпатэка.

*даваць кажны год мінімум 5000, максымум 10 000 даходу на патрэбы Фундацыі”*[211].

У Інстытуце надалей чыталіся рэфэраты. Тэматыка іх сьведчыць, якімі праблемамі й пытаньнямі цікавіліся сябры БІНіМу, а пералік адлюстроўвае дынаміку актыўнасьці, блізкую да заміраньня:

03.01.1959 — Антон Адамовіч, “Сорак год беларускае літаратуры ў БССР”;

31.01.1959 — Вітаўт Тумаш, “Беларушчына ў польскай лексыцы”;

14.02.1959 — Франц Кушаль, “Усходнія межы Вялікага Княства Літоўскага ў XIV—XVII стст.”;

28.02.1959 — Мікола Гарошка, “Лясная палітыка ў Беларусі”;

11.04.1959 — Франц Кушаль, “Роля Беларусі ў казацкіх войнах з Рэччу Паспалітай у XVII ст.”;

06.06.1959 — Мікола Гарошка, “Мэтэаралягічна-кліматычны фактар і глебы Беларусі”;

20.06.1959 — Антон Адамовіч, “Пяцьдзясят год беларускага адраджэньня”;

17.10.1959 — Антон Адамовіч, “Уражаньні з апошняга падарожжа ў Эўропу”;

31.10.1959 — Вітаўт Тумаш, “Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле апошняга перапісу”;

21.11.1959 — Вітаўт Кіпель, “Падземныя воды Беларусі і іхняе выкарыстаньне”;

19.12.1959 — Антон Адамовіч, “Пантэон пісьменьнікаў БССР”;

13.02.1960 — дыскусійнае паседжаньне, прысьвечанае пляну працы Інстытуту ў будучыні;

05.03.1960 — Франц Кушаль, “Новае аб Грунвальдзкай бітве”;

19.03.1960 — Мікола Гарошка, “Тэхналёгія дрэва й разбудова прамысловасьці ў Беларусі”;

02.04.1960 — Вітаўт Тумаш, “Зьмены нацыянальнага складу жыхарства Беларускае ССР”;

07.05.1960 — Вітаўт Кіпель, “Беларускія навукоўцы ў мінуласьці”;

---

[211] Ліст В. Тумаша да В. Кажана ад 27.09.1964. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

Вітаўт Кіпель: *Так тэарэтычна разважаў др. Вітаўт Тумаш, напэўна, марачы аб фінансавай дапамозе БІНіМу ад Фундацыі. Як паказала жыцьцё, разважаньні эканамічнага парадку Тумаша былі ілюзорныя: Фундацыя, праўда, зводзіла канцы з канцамі, падтрымоўваючы мінімальна асобныя выданьні Інстытуту, але не забясьпечваючы выдавецкіх патрэбаў БІНіМу. Але адно, што было цьвёрда забясьпечана Фундацыяй, — гэта месца для зборак.*

19.11.1960 — Антон Адамовіч, “Падарожжа ў Эўропу”;

03.12.1960 — паседжаньне Слоўнікавае камісіі ў справе ангельска-беларускага слоўніку. Рэфэрэнт — Антон Адамовіч;

17.12.1960 — айцец Язэп Гэрмановіч, “Успаміны з год, праведзеных у савецкіх вязьніцах і канцэнтрацыйных лягерах”;

21.01.1961 — Антон Адамовіч “Савецкая канцэпцыя нацыі”;

26.02.1961 — Франц Кушаль, “У 300-я ўгодкі народнага паўстаньня супроць маскоўскае акупацыі ў Магілёве”;

04.03.1961 — Вітаўт Тумаш, “Жыцьцё й навуковая спадчына Яўхіма Карскага[212]”;

18.03.1961 — айцец Язэп Гэрмановіч, “Савецкія лягеры прымусовае працы ў паўночным Сібіры”;

15.04.1961 — Вітаўт Тумаш, “Навуковыя й палітычныя пагляды Яўхіма Карскага”;

07.05.1961 — Аўген Вярбіцкі, “Уражаньні з падарожжа па СССР у 1960 годзе (з паказам зьнімак на экране)”;

20.05.1961 — Мікола Гарошка, “Водная гаспадарка Беларусі”;

03.06.1961 — Вітаўт Кіпель, “Беларусіка ў англамоўных энцыклятэдыях”;

17.06.1961 — Янка Запруднік, “Расейская філязофія гісторыі (1890–1910) і савецкі камунізм”;

24.06.1961 — Антон Адамовіч, “Каляніяльная палітыка савецкага рэжыму ў дачыненьні да нацыянальных рэспублікаў СССР”;

16.10.1961 — Франц Кушаль, “Польская фэдэрацыйная палітыка 1919–1920 гг.”;

11.11.1961 — паседжаньне Слоўнікавае камісіі Інстытуту ў справе ангельска-беларускага слоўніку;

17.12.1961 — “40 гадоў літаратурнай і грамадзкай дзейнасьці Натальлі Арсеньневай”. Рэфэрат Вітаўта Тумаша. Канцэртная частка — праф. Эльза Зубковіч, Пётра Конюх, Маркоўская. Сяброўскі пачастунак;

17.02.1962 — Антон Адамовіч, “Да пабудовы гісторыі беларускае літаратуры”;

10.03.1962 — Вітаўт Тумаш, “Доктар Скарына ў Маскве”;

31.03.1962 — Мікола Гарошка, “Сельскагаспадарская палітыка ў БССР”;

---

[212] **Яўхім Карскі** (1861–1931), філёляг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства й літаратуразнаўства, этнограф, фальклярыст, палеограф. Праца, прысьвечаная Яўхіму Карскаму, была апублікаваная цалкам толькі пасьля сьмерці Тумаша: Тумаш, Вітаўт. Выбраныя працы. Мінск: Беларускі Гістарычны Агляд, 2002.

12.05.1962 — Антон Адамовіч, “Беларускі нацыянал-камунізм у сваёй першай фармацыі”;
06.10.1962 — Вітаўт Тумаш, “Сымон Будны. Да 400-х угодкаў нясьвіскае друкарні”;
18.11.1962 — акадэмія 80-х угодкаў з нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа. Рэфэраты Антона Адамовіча й Станіслава Станкевіча. Літаратурныя рэцытацыі, канцэрт;
08.12.1962 — Антон Адамовіч, “Падарожжа ў Эўропу й навуковая канфэрэнцыя мюнхэнскага Інстытуту Вывучэньня СССР”;
26.01.1963 — Франц Кушаль, “Іван Грозны ў Полацку (да 1100-х угодкаў Полацка)”;
09.02.1963 — Антон Адамовіч, “70-годзьдзю Максіма Гарэцкага”;
05.03.1963 — Антон Адамовіч, “Стан народнае мовы ў БССР”;
02.11.1963 — Вітаўт Тумаш, “Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Франьцішка Скарыны”;
29.02.1964 — Вітаўт Тумаш, “Лютэр і Скарына”;
06.06.1964 — Вітаўт Тумаш, “Францыск Скарына — садоўнік караля Фэрдынанда”;
13.03.1965 — Вітаўт Тумаш, “Скарына ў Падуі ў сьвятле новых архіўных знаходак”;
22.05.1965 — Вітаўт Тумаш, “Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і навуковае літаратуры”;
12.06.1965 — Антон Адамовіч, “Да пытаньня пра месца Праньціша Багушэвіча[213] ў беларускай літаратуры”;
04.12.1965 — Вітаўт Тумаш, “Скарыніяна 1926–1965”.

## Зьезд 1966 году

Дзеля аджыўленьня дзейнасьці Інстытуту 12 чэрвеня 1966 г. у памяшканьні Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага адбыўся агульны зьезд сябраў БІНіМу. Згодна з “Абежнікам” (№ 9) за ліпень таго году, удзел у зьезьдзе ўзялі 40 чалавек: 16 асабіста і 24 праз упаўнаважаньні. Зьезд складаўся зь дзьвюх частак: навуковай канфэрэнцыі, прысьвечанай 60-м угодкам “Нашай Нівы”[214], і арганізацыйных нарадаў. На

[213] **Францішак Багушэвіч** (1840–1900), грамадзкі дзеяч, паэт, празаік, публіцыст, перакладнік. Адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

[214] **“Наша Ніва”** — штотыднёвая грамадзка-палітычная, навукова-асьветніцкая й літаратурна-мастацкая газэта, што выдавалася ў Вільні ў 1906–1915 гг.

канфэрэнцыі былі прачытаныя даклады: “Гістарычнае месца «Нашай Нівы»” Антона Адамовіча, “«Навіны Грозныя» — далёкая папярэдніца «Нашай Нівы»” Вітаўта Тумаша, “Справа аўтаноміі Беларусі ў Першай Дзяржаўнай Думе, дачыненьне да яе «Нашае Нівы» й пытаньне інтэрпрэтацыі беларускага гістарычнага працэсу” Янкі Запрудніка, “Доля «Нашае Нівы» й нашаніўства ў БССР” Станіслава Станкевіча.

Потым старшыня Інстытуту зачытаў справаздачу:

*“Дзейнасьць*
*Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва*
*ад 13 сакавіка 1955 году да 12 чэрвеня 1966 году*

*Сяньняшні, па чарзе чацьвёрты, зьезд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, ладзіцца з шматгоднім спазьненьнем дзеля колькіх прычынаў, але галоўная зь іх тая, што ўжо звыш пяці апошніх год Управа Інстытуту кажны год спадзявалася, што ўжо раздабудзе сваё собскае памешканьне, дзе можна будзе павесьці новую, шырэйшую дзейнасьць, а найперш прыступіць да канцэнтрацыі й парадкаваньня сваіх навуковых збораў — бібліятэкі, архіву, музэю, для перахоўваньня актаў і выданьняў, для арганізацыі й праводжаньня сваіх навуковых паседжаньняў.*

*Спадзяваньні Ўправы апіраліся галоўна на прыабяцаную дапамогу ў гэтай справе Фундацыяй Крэчэўскага, якая вяла ад год пяці энэргічныя пошукі за адпаведнымі аб’ектамі для куплі будынку пад сваю сядзібу. Але й пасьля куплі Фундацыяй дамоў прайшло паўтара году, пакуль у травені месяцы г. г. Фундацыя змагла паведаміць, што ў хуткім часе, за колькі тыдняў, будзе вольных пара пакояў для патрэбаў Інстытуту. Трэба адзначыць, што для сваіх навуковых паседжаньняў і паседжаньняў Управы Інстытут карыстаецца памешканьнем Фундацыі ўжо паўтара году й бясплатна, як і сяньня для гэтага Зьезду, за што ад імені Інстытуту і ўсіх прысутных сяброў складаю тут падзяку для Фундацыі на імя яе старшыні сп. Інж[ынэра] Міколы Гарошкі.*

*У сувязі з атрыманьнем пары пакояў для патрэбаў Інстытуту паўстала вострая патрэба адразу-ж арганізаваць зьезд дый правесьці перавыбары ўладаў Інстытуту з арыентацыяй на новыя магчымасьці дзейнасьці ў галіне канцэнтрацыі й перахоўваньня навуковых збораў. Новыя магчымасьці й заданьні вымагаюць, бясспрэчна, і новых, кваліфікаваных, адпаведных для гэтага асоб, якія павінны быць уведзеныя ці ў склад самое Ўправы, ці прыцягнуты як адказныя кіраўнікі паасобных галінаў у гэтае новае дзейнасьці — кіраўнікоў бібліятэкі, музэю, архіву і г. д. Аб гэтым*

*будзе яшчэ гутарка пры канцы справаздачы. Цяпер-жа ў кароткіх словах аб галоўных дзялянках дзейнасьці Інстытуту, яго дасягненьнях і няўдачах за мінулы справаздаўчы час.*

*Сябры Інстытуту.*

*На сяньняшні дзень Інстытут мае 72 сяброў. Звыш паловы гэтага, бо 40, прабывае ў ЗСА, 6 — у Канадзе, 4 — у Аўстраліі, 4 — у Англіі, па адным сябру — у Бэльгіі і Італіі, 3 — у Францыі, 13 — у Нямеччыне.*

*За справаздаўчы час у арганізацыю паступіла 13 новых сяброў: Ю[льяна] Дубейкаўская, др. Я[ўхім] Скурат, Ул[адзімер] Гіцкі*[215]*, П[аўла] Урбан, З[ора] Кіпель, др. В[ітаўт] Кіпель, А[лесь] Марговіч, В[іктар] Жаўняровіч, а. Я[зэп] Гэрмановіч, П[ётра] Мірановіч, др. Я[нка] Садоўскі, Я[нка] Юхнавец, К[астусь] Акула.*

*За гэты час з прычыны сьмерці выбыла трох сяброў: трагічнаю сьмерцю ў Аўстраліі згінуў здольны малады мастак Аляксандар Раманоўскі*[216]*, перадчаснаю сьмерцяй з поля літаратурнай дзейнасьці зышоў таленавіты паэта й пісьменьнік Пётра Сыч*[217] *і памёр аўтар працы аб Янку Купалу а. др. Міхась Маскалік*[218]*. Усе яны пакінулі трывалы творчы сьлед у гісторыі беларускай культуры, уклад, якога не сатрэ іхняя перадчасная сьмерць.*

*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нямеччыне.*

*Ужо ад самых зачаткаў існаваньня БІНіМ Управа ўважала, што з розных меркаваньняў неабходна заснаваць у Эўропе, найлепш у Нямеччыне, дзе была найбольшая канцэнтрацыя беларускае культура-творчае інтэлігенцыі, аддзел-філію Інстытуту. У выніку гэтага 4 кастрычніка 1955 г. у Мюнхэне адбыўся ініцыятыўны сход беларускіх навукоўцаў і пісьменьнікаў, на якім і быў заснаваны Аддзел Інстытуту ў Нямеччыне зь сядзібаю ў Мюнхэне. Аддзел БІНіМ праводзіў даволі актыўную дзейнасьць, найперш ладжаньнем навуковых паседжаньняў з рэфэратамі й дыскусіяй, якіх адбылося наймендш дванаццаць, дый актыўным супрацоўніцтвам з Галоўнай Управаю БІНіМ у галіне тых выданьняў Інстытуту, што друкаваліся ў Мюнхэне.*

*Далейшы ход працы нямецкага Аддзелу БІНіМ паказаў неабходнасьць легалізацыі яго як самастойнае юрыдычнае адзінкі, што было мэтазгодным і канечным найперш з таго гледзішча, каб магчы выступаць перад*

[215] **Гіцкі** — эміграцыйнае прозьвішча Ўладзімера Дудзіцкага.

[216] Аляксандар Раманоўскі быў забіты 12 кастрычніка 1955 г. у Сыднэі.

[217] Пётра Сыч памёр у Мюнхэне 20 чэрвеня 1964 г.

[218] Айцец Міхась Маскалік памёр у Гільдэсгайме 29 верасьня 1965 г.

*нямецкімі ўладамі з Захадам у справе дапамогі для друку беларусаведных навуковых працаў. Для гэтага 28 травеня 1962 г. у Мюнхэне адбыўся агульны сход Аддзелу Інстытуту, на якім быў прыняты статут Інстытуту як самастойнае беларускае арганізацыі ў Нямеччыне, была вынесена пастанова аб безадвалочнай легалізацыі Інстытуту перад фэдэральнымі ўладамі, быў выбраны ўрад у складзе: старшыня др. Ст[аніслаў] Станкевіч, заступнік старшыні і адначасна сакратар — Паўла Урбан, скарбнік — Уладзімер Бортнік. Легалізацыя БІНіМ у Нямеччыне ў хуткім часе была й праведзеная.*

*Як было й прадбачана, легалізацыя адкрыла змогу атрымаць і фінансавае падтрыманьне на беларускае навуковае выдавецтва, у выніку чаго ўжо ад 1962 г. у Мюнхэне й было адноўленае выдаваньне воргану Інстытуту «Запісаў», цяпер ужо як гадавіка, і ў значна большых памерах, выдаўцом якога й гаспадаром цяпер зьяўляецца Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нямеччыне, а рэдактарам старшыня яго — др. Ст[аніслаў] Станкевіч. Рэдагаваньне «Запісаў» адбываецца аднак-жа ў цесным супрацоўніцтве з Упраўаю БІНіМ у Нью Ёрку.*

*Не зважаючы на юрыдычнае ўсамастоўненьне нямецкага Аддзелу БІНіМ, між ім і Інстытутам у Нью Ёрку захоўваецца супрацоўніцтва ў галіне й навуковае, і выдавецкае дзейнасьці. У вялікай меры справу гэтую ўпрашчае і аблягчае й той факт, што ад колькіх гадоў старшыня нямецкага БІНіМ др. Ст[аніслаў] Станкевіч прабывае ў Нью Ёрку. Карыстаючыся з гэтага, Управа Інстытуту на свае паседжаньні запрашала й др. Ст[аніслава] Станкевіча як старшыню БІНіМ у Нямеччыне, з голасам роўнапраўным зь іншымі сябрамі Ўправы.*

*<u>Навуковая дзейнасьць Інстытуту.</u>*

*Найбольш яскрава праца сяброў Інстытуту выявілася ў галінеладжаньня навуковых паседжаньняў з чытаньнем рэфэратаў ці літаратурных твораў, дыскусіяй над імі. Былі арганізаваныя й выстаўкі. За справаздаўчы час у самым Нью Ёрку было зладжана звыш ста, дакладна 105, навуковых паседжаньняў, дыскусійных і літаратурных вечароў, выставак, а ад заснаваньня Інстытуту адбылося ўсіх 123. Калі-ж да гэтага дадаць яшчэ 12 навуковых паседжаньняў, якія ладзіў Аддзел БІНіМ у Нямеччыне, дык дойдзем да імпазантнага ліку 135 падобнага характару імпрэзаў. Бяручы на ўвагу адносна сьціплы лік актыўнатворчых сілаў на эміграцыі, уважаць трэба гэта за даволі паважнае дасягненьне й каштоўны ўклад у навукова-культурную працу беларускае эміграцыі вольнага сьвету.*

*Па сваім характары арганізаваныя навуковыя паседжаньні былі рознага тыпу. Найбольш частыя гэта паседжаньні з рэфэратам і дыскусіяй. Ладзіліся літаратурныя вечары, і замкнутыя, і адкрытыя, а таксама акадэміі з канцэртамі.*

*Апошнімі гадамі было зладжана й колькі выставак — тры мастацкія і адна прысьвечаная др. Ф[раньцішку] Скарыну. З мастацкіх выставак адна, ад 30.IX да 28.X.62 г. была выстаўка малярскіх твораў мастака Віктара Жаўняровіча. Другая, ад 15.III да 26.IV.1964 г., выстаўка малярскіх працаў мастака Пётры Мірановіча. Трэцяя, у ліпені 1963 г. на рэсорце Белэйр-Менск, выстаўка абразоў Віктара Жаўняровіча, Міколы Касака й Пётры Мірановіча. Выстаўкі мастакоў прайшлі з даволі паважнаю ўдачаю, наведала іх шмат асоб, значная частка абразоў з выстаўкаў была купленая, хоць і па сьціплых, у прыраўнаньні да іх вартасьці, цэнах. Выстаўка аб жыцьці й дзейнасьці доктара Франьцішка Скарыны трывала ад 2 лістапада 1963 г. да 29 лютага 1964 г. і таксама мела добры водгук сярод усіх тых, што яе аглядалі.*

*Памылкова думаць, што значэньне ўсіх гэтых імпрэзаў, асабліва навуковых паседжаньняў, абмяжоўваецца толькі лікам прысутных на гэтых паседжаньнях. Іх значэньне бясспрэчна куды шырэйшае дзеля таго, што шмат, бальшыня з чытаных рэфэратаў, ці ў той самай рэдакцыі, ці навет і пашыранай, было пазьней друкавана ці ў выданьнях Інстытуту — «Запісах» або «Конаднях» ці ў зборніках мюнхэнскага Інстытуту, часам асобнымі выданьнямі або ў скарачэньні памяшчаліся ў «Бацькаўшчыне», «Беларусе», «Беларускай моладзі» ды й некаторых іншых выданьнях чужынцаў. Найменш даваліся ведамкі аб іх у прэсе ў хроніцы. Дык выказаныя думкі й выяўленыя на навуковых паседжаньнях Інстытуту факты ў бальшыні былі апублікаваныя ў друку й сталі агульным здабыткам. Паведамленьні аб навуковых паседжаньнях часта падаваліся й па радыё «Свабода» на землі Беларусі, і існуюць бясспрэчныя довады таго, што яны мелі там сваё тое ці іншае рэха.*

*Трэба яшчэ адцеміць, што лікам актыўных удзельнікаў навуковых ці літаратурных вечароў, рэфэрэнтаў ці аўтараў Інстытут ахапіў 33 асобы, пераважна сяброў Інстытуту.*

*Важна адзначыць і тое, што навуковаю ці літаратурнаю працаю ў самым Інстытуце не абмяжоўвалася актыўная дзейнасьць сяброў БІНіМ. Шмат зь іх чыталі рэфэраты, друкавалі свае творы й па-за Інстытутам. Некаторыя бралі сталы актыўны ўдзел у розных міжнародных навуковых канфэрэнцыях; хіба найбольш актыўным у гэтай галіне быў праф. Ант[он] Адамовіч, які свае даклады чытаў і ў Амэрыцы, і ў Эўропе.*

*Некаторыя зь сяброў друкавалі свае працы ў амэрыканскіх навуковых выдавецтвах.*

*Таксама Ўправа Інстытуту ня раз давала дапамогу іншым установам. Бадай найбольш важнаю й выдатнаю зь іх была выстаўка, ініцыяваная БІНіМам і ладжаная Нью-Ёркаўскай Публічнай Бібліятэкаю ад 15.VII да 15.VIII.1957 г. — «Вехі беларускае літаратуры» — «Landmarks of Byelorussian Literature», выстаўка, ладжаная да азначэньня 50-х угодкаў «Нашае долі» ды «Нашае нівы» дый, адначасна, 75-х угодкаў нараджэньня галоўных тварцоў новае беларускае літаратуры — Янкі Купалы й Якуба Коласа. Дапамагаў радаю й матар'яламі Інстытут і пры арганізацыі дзьвёх іншых выставак Публічнае Бібліятэкі Нью Ёрку: выстаўкі, прысьвечанай беларускаму лацінічнаму друку, дый выстаўкі з нагоды 100-х угодкаў ад нараджэньня й 30-ці ад сьмерці Яўхіма Карскага.*

*У галіне дапамогі беларускімі матар'яламі пры ладжаньні інтэрнацыянальнага характару выставак трэба адцеміць пасярэдні ўдзел Інстытуту пры арганізацыі выстаўкі ў Маскве. У 1958 годзе ў Маскве ладзіўся 4-ы Міжнародны Зьезд Славістых. Адзін з амэрыканскіх дэлегатаў на гэты кангрэс, прафэсар Калюмбійскага Ўнівэрсытэту Ўільям Гаркінс[219], зьвярнуўся да БІНіМ ад Амэрыканскага Камітэту Славянскіх Студыяў з просьбаю прыслаць свае славістычныя выданьні да іх выстаўкі ў Маскве на Міжнародным Зьезьдзе Славістых. Управа Інстытуту выслала для гэтага 6 нумароў «Запісаў», 4 нумары часопісу «Конадні» й «Спадчыну» Янкі Купалы. Пасьля сканчэньня зьезду Славістых у Маскве ўсе выданьні з арганізаванае там выстаўкі мелі быць перададзеныя ў бібліятэку Акадэміі навук СССР у Маскве або, на жаданьне, у нейкую іншую. Управа Інстытуту, перасылаючы свае выданьні, выказала жаданьне, што было-б больш мэтазгодным выданьні БІНіМ пераслаць для бібліятэкі Акадэміі Навук БССР у Менску.*

*<u>Выданьні Інстытуту</u>.*

*У галіне выданьняў Інстытут мае публікацыі трох тыпаў: публікацыя навуковага часапісу «Запісы» й літаратурна-мастацкага «Конадні», выданьне зборнікаў літаратурнае спадчыны Купалы, Багдановіча й Гаруна і друк колькіх працаў, як адбітак з часапісаў, працаў пераважна з дапоўненым, пашыраным зьместам. Да гэтае пары ў выданьні Інстытуту выйшла 24 друкаваныя пазыцыі, з чаго 9 кнігаў «Запісаў»,*

[219] **Ўільям Гаркінз** (анг. *William E. Harkins*, 1921–2014), амэрыканскі славіст, дасьледнік славянскага фальклёру, расейскай і чэскай літаратуры, прафэсар Калюмбійскага ўнівэрсытэту.

*7 кнігаў «Конадняў», «Спадчына» Янкі Купалы, «Вянок» Максіма Багдановіча, «Матчын Дар» Алеся Гаруна[220]. Асобнымі адбіткамі вышлі працы «Беларуская музыка» М[іколы] Куліковіча[221], «Міцкевіч і беларуская плынь польскае літаратуры» С[ымона] Брагі[222], «Жыхарства Беларускае ССР» А[ндрэя] Багровіча[223], «Доктар Скарына ў Маскве» С[ымона] Брагі[224], «Лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны» С[ымона] Брагі[225] і апошняя, у гэтым годзе, «Прыказкі Лагойшчыны» А[дама] Варлыгі[226]. Усе 24 выданьні Інстытуту складаюць разам 3204 бачыны друку, што на вельмі скромныя фінансавыя магчымасьці й сьціплае беларускае выдавецтва на эміграцыі наагул зусім паважны ўклад, хоць і далёкі ад таго, што трэ' было-б выдаць. Усе выданьні — вынік працы сяброў Інстытуту, але друкаваліся яны не заўсёды коштам Інстытуту, паколькі фінансава Інстытут ніколі ня меў адпаведных на гэта ў належнай вышыні рэсурсаў. Дзеля гэтага кнігі Купалы, Багдановіча, Гаруна вышлі ў выданьні выдавецтва «Бацькаўшчына», адбіткі пераважна былі выданыя за кошт аўтараў. Дзьве зь іх вышлі зь фінансавай дапамогай Фундацыі Крэчэўскага.*

*Выданьні Інстытуту — бясспрэчна паважны, бадай найпаважнейшы ўклад у галіне ўсяго навукова-літаратурнага друку беларускае эміграцыі, і яны застануцца трывалымі дасягненьнямі ў гісторыі беларускае культуры й навукі. Маюць яны, зразумела, куды шырэйшы, ня толькі беларускі, круг пашырэньня і ўзьдзеяньня, яны — пазыцыі міжнароднае цікавасьці й значэньня. Іх адзначаюць, іх цытуюць, рэцэнзуюць і крытыкуюць розныя іншамоўныя выданьні Амэрыкі, Эўропы, Эўразіі, значыцца СССР, а навет і Азіі. Яны знаходзяцца ў галоўных бібліятэках усіх кантынэнтаў сьвету.*

[220] Гарун, Алесь. Матчын дар. Нью Ёрк — Мюнхэн: БІНіМ — «Бацькаўшчына», 1962. — 270 с.

[221] Магчыма, маецца на ўвазе публікацыя: Куліковіч, Мікола. Беларуская музыка: кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва. Нью Ёрк: БІНіМ, 1953. — 63 с.

[222] Брага, Сымон. Міцькевіч і беларуская плынь польскае літаратуры = Mickiewicz and Whiteruthenian trend in Polish Literature. New York: БІНіМ, 1957. — 31 с.

[223] Багровіч, Андрэй. Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 году = Population of the Byelorussian SSR in the 1959 Census. Нью Ёрк — Мюнхэн: БІНіМ, 1962. — 88 с.

[224] Брага, Сымон. Доктар Скарына ў Маскве = Doctor Skaryna in Moscow. Нью Ёрк — Мюнхэн: БІНіМ, 1963. — 32 с.

[225] Брага, Сымон. Лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны = Doctor Francišak Skaryna: review of sources to the biography. Нью Ёрк — Мюнхэн: БІНіМ, 1965. — 31 с.

[226] Варлыга, Адам. Прыказкі Лагойшчыны. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1966. — 112 с.

*Што да выданьняў Інстытуту важна яшчэ падчыркнуць, што Ўправа строга сачыла за тым, каб выдаваліся творы й працы агульна беларускае трывалае вартасьці. Выданьні групова-палітычнага характару недапушчальныя ў выдавецтве Інстытуту як супярэчныя ягоным агульна беларускім культурна-навуковым заданьням.*

*Трэба яшчэ на заканчэньне адзначыць, што для нутрана арганізацыйных патрэбаў у некаторыя гады выдаваліся для сяброў Інстытуту «Абежнікі» БІНіМу. Усіх выйшла іх 8.*

*Ангельска-беларускі слоўнік.*

*Апрача дасягненьняў у дзейнасьці Інстытуту былі, зразумела, і паважныя няўдачы. За справу асабліва важную, якую Ўправа пачала ўжо год пяць таму, але тымчасам не змагла давесьці да рэалізацыі, уважаць трэба найперш справу ўкладу й выданьня ангельска-беларускага слоўніка. Палючая патрэба гэткага слоўніка ведамая кажнаму. Ужо вясною 1960 году на адным з навуковых паседжаньняў Інстытуту было пастаноўлена прыступіць да ўкладу гэтага слоўніка. Пакліканая была да гэтага камісія з трох асоб: праф. А[нтона] Адамовіча, др. В[італўта] Кіпеля й В[ітаўта] Тумаша. Камісія апрацавала схэму трансьлітэрацыі ангельскіх літараў беларускімі ў слоўніку дый прыняла аснаўныя правілы яго ўкладу. Адбылося на гэта колькі паседжаньняў Камісіі. У справу тэхнічнае працы над складаньнем слоўніка было ўцягнута каля дваццаці асоб — сяброў і несяброў Інстытуту. Гэтую тэхнічную працу арганізаваў і дагледаў найперш др. В[ітаўт] Кіпель. За два прыблізна гады ў чарнавым накідзе гэткім шляхам нарыхтавана было звыш 80 % картак слоўніка, які мае абымаць ад 60 да 70 тысячаў словаў. І на гэтай першай, тэхнічнай стадыі працы праца над слоўнікам пакульшто затрымалася. Адно з важных заданьняў нова выбранае Ўправы справу гэтую падняць энэргічна нанава дый давесьці яе да якнайхутчэйшай рэалізацыі. Тымбольш, што адна зь перашкодаў — нястача свайго памешканьня на гэтую крапатлівую працу — у хуткім часе мае быць пастароненая.*

*Існуюць і іншыя паважныя няўдачы й перашкоды, якія паважна тармозяць працу Інстытуту. У сувязі з паўстаньнем Нямецкага Аддзелу БІНіМ і некаторых выдавецкіх там магчымасьцяў, удалося апублікаваць у Мюнхэне важных, каштоўных выданьняў, як «Спадчыну» Купалы, «Вянок» Багдановіча, «Матчын Дар» Гаруна дый тры кнігі «Запісаў». Рэч зразумелая, што хоць іх выданьне БІНіМ у Нью Ёрку й не фінансаваў — не фінансаваў, бо ня меў сродкаў — аднак-жа вельмі шмат працы ўклаў у іх прырыхтаваньне, і гэта плады працы найперш БІНіМ Нью Ёрку.*

*Тымчасам зь Мюнхэну вельмі цяжка атрымаць хоць нейкую мінімальную колькасьць гэтых выданьняў для патрэбаў Інстытуту і іх кальпартажу сярод зацікаўленых імі амэрыканскіх кругоў, найперш амэрыканскіх славістых, бібліятэкаў, розных навуковых і навучальных установаў.*

*Даслоўна ніводнага экзэмпляра Ўправа БІМіМ у Нью Ёрку не дастала, выдадзеных пад фірмаю Інстытуту зборнікаў Багдановіча й Гаруна, якія выйшлі выданьнем Выдавецтва «Бацькаўшчына». Усяго каля 20 экзэмпляраў 2-е кнігі «Запісаў» было перадана Ўправе Інстытуту і толькі 10 пакульшто «Запісаў» кнігі 3-й. Усе просьбы, дамаганьні перасьлаць іх заставаліся бяз выніку. Была пара, калі даволі часта зь Нью Ёрку ў Нямеччыну езьдзілі некаторыя сябры Інстытуту і, здавалася, перакінуць іх сюды, перавезьці бязь ніякіх нікому коштаў — справа вельмі простая і справа ўсяго добрае волі. Усё гэта, нажаль, не дало ніякіх вынікаў, хоць гурбы гэтых кнігаў у Мюнхэне ляжаць нейдзе бескарысна. Можна сказаць напэўна, што маючы іх у дастатковай колькасьці ў Нью Ёрку, зь іх прадажы ў крузе зацікаўленых пакупцоў, даступных БІНіМ у Нью Ёрку, але не для Мюнхэну, можна было-б даўно выдаць яшчэ не адну кнігу «Конадняў», калі тымчасам цяпер даводзіцца гадамі й марудна зьбіраць даляры на іх публікацыю.*

*Адно зь неадкладных заданьняў новае Ўправы спробаваць яшчэ раз дамовіцца зь мюнхэнскімі выдаўцамі выданьняў Інстытуту ў справе атрыманьня мінімальнага ліку выданьняў Інстытуту папярэдніх і стала атрымліваньня ў належным ліку выданьняў будучых. Пры сучасным тыражы 500 экзэмпляраў «Запісаў» наймянш 100 павінна заўсёды накіроўвацца ў поўнае й выключнае распараджэньне Ўправы БІНіМ у Нью Ёрку, пакольні часапіс выходзіць і зможа выходзіць у будучыні, бясспрэчна, найперш толькі дзякуючы супрацоўніцтву амэрыканскіх сяброў БІНіМ.*

*<u>Канцылярыйная дзейнасьць</u>.*

*За справаздаўчы час было атрымана й выслана каля 965 лістоў. Пры гэтай нагодзе трэба адзначыць асабліва адданую ахвярную працу сакратаркі сп. Натальлі Кушаль — з рэгулярным друкаваньнем і рассылкаю сваею працаю й коштам усіх паведамленьняў сябром пра навуковыя паседжаньні і іншыя імпрэзы Інстытуту. Пакольні ўсіх іх за справаздаўчы час было звыш ста і пакольні кажнае паведамленьне рассылалася ў колькі дзесятках экзэмпляраў, гэта практычна, значыць, што спн. Н[атальлі] Кушаль давялося за гэты час выдрукаваць колькі тысячаў паведамленьняў, заадрысаваць для іх канвэрты, наклеіць на іх за свой кошт паштовыя маркі. Гэтую марудную тэхнічную, няўдзячную*

*працу спн. Кушаль выконвала ахвярна праз увесь час існаваньня Інстытуту, і на гэтым месцы чуюся ў абавязку выказаць за гэта ад уступаючай Управы адмысловую ёй падзяку.*

*Фінансавыя справы Інстытуту.*

*Бадай найгорш, бо найбядней, выглядаюць фінансавыя справы Інстытуту. Дзеля нястачы грашовых сродкаў некаторыя выданьні Інстытуту даводзілася друкаваць пры дапамозе іншых, багацейшых выдаўцоў, як Выдавецтва «Бацькаўшчына» ці Фундацыя Крэчэўскага, а ў сучасны мамэнт — БІНіМ у Нямеччыне. Усе даходы з прадажы выданьняў, сяброўскія складкі й малыя іншыя прыпадковыя прыбыткі былі выдадзеныя на друк № 7 «Конадняў», нумару, які выйшаў у пачатку 1964 году. Папярэдні нумар, нумар 5–6 «Конадняў», выдаваў сваім коштам мюнхэнскі Аддзел БІНіМ. Усе кошты друку апошняга нумару выносілі 810 даляраў, і на пакрыцьцё гэтых коштаў пашлі ўсе грашовыя рэсурсы Інстытуту тае пары.*

*Ад выхаду № 7 «Конадняў», ад пачатку 1964 г., з прадажы выданьняў Інстытуту галоўна, агульная сума прыбыткаў — 462.50 дал[яраў]. Усе прыбыткі на дзень 12.VI.1966 выносяць суму 1290.28 дал[яраў], выдаткі 827.78, сальдо — 462.50. Гэтае скромнае сумы дастаткова, каб прыступіць да друку чароднага нумару часапісу «Конадні», хоць далёка замала, каб аплаціць усе кошты яго друку, якія, пры вялічыні нумару ў 10 аркушоў або 160 бачынаў і пры друку ў Нямеччыне, каштуе прыблізна 800 даляраў.*

*Справа рэгулярнага дагляду за зборам сяброўскіх складак, якія апошнімі гадамі Ўправа ўважала, павінны быць у вышыні 10 даляраў у год, — сумы вельмі малой на сучасны стандарт жыцьця Амэрыкі — важнае заданьне будучае Ўправы БІНіМ, заданьне, якое, трэба прызнаць, ня было належна дагляданае Ўправаю адыходзячаю. Сяброўскія складкі побач даходаў з прадажы выданьняў Інстытуту — дзьве галоўныя крыніцы, калі й вельмі сьціплыя, даходаў Інстытуту.*

*Агульныя выснавы.*

*Дасягненьні ў працы Інстытуту, калі й паважныя ў некаторых галінах, напрыклад, лікам навуковых паседжаньняў, выданьнем каштоўных кнігаў і працаў, бясспрэчна вельмі сьціплыя, калі іх прыраўнаць да патрэбаў вольнае беларускае навукі, мастацтва, літаратуры, культуры. Патрэбаў і важных заданьняў у кажнай галіне гэтак шмат, кадры-ж адпаведных працаўнікоў тымчасам гэткія сьціплыя, фінансавыя магчымасьці гэткія мізэрныя, што выканаць удаецца толькі невялікую частку патрэбнага і, нажаль, незаўсёды тое, што найбольш акурат актуальнае й сяньня*

*патрэбнае, а звычайна тое, што ахвярнаю працаю паасобных сяброў з собскае ініцыятывы робіцца.*

*Пры ацэне вынікаў працы Інстытуту трэба мець на ўвеце, што арганізацыя ня мае ніякіх сталых паважных фінансавых рэсурсаў, якія ўжо самі пазвалялі-б у значнай меры навязываць некаторым сябром тае ці іншае канечнае беларусаведнае працы шляхам даваньня аплачваных, хай сабе й вельмі сьціпла, заданьняў, нейкіх стыпэндыяў ці іншых дапамогаў, якія дазвалялі-б адарвацца на нейкі час ад іншае свае, заробкавае працы. Ведама, што навет і пасьля напісаньня твораў ці працаў пры іх друку ніякіх ганарараў за друкаванае Інстытут ніколі нікому не плаціў і ня можа плаціць. Гэта адна з прычынаў, што магчымасьці плянаваньня й кіраваньня дасьледнае і ўсякае падобнае працы вельмі абмежаваныя.*

*Калі часам і ўдаецца скіраваць нечую ўвагу й энэргію для апрацаваньня тае ці іншае важнае, актуальнае тэмы, дык толькі просьбамі, нагаворамі, прыгадваньнямі, што, нажаль, калі й дае некаторыя вынікі, але невялікія дый рэдка. Часткова й зразумела чаму: бадай ніхто зь сяброў ня мае ўсяго свайго часу на падобную працу, працу навуковую, літаратурную, мастацкую. На ўсё гэта кажны можа адводзіць той невялікі час, які застаецца — калі ён наагул астаецца — пасьля заработнае працы, неабходнае на атрыманьне сродкаў на пражыцьцё сваё, свае сям'і. Дзеля гэтага й тыя асобы, што вядуць творчую навуковую ці літаратурна-мастацкую працу, вядуць яе найперш у кірунку, у якім маюць адмысловае зацікаўленьне, апрацоўваюць тэму, якую самі сабе выбяруць, якую любяць. Уплыў на гэта збоку можа быць невялікі. Заданьнем арганізацыі часьцей застаецца знайсьці магчымасьці публікацыі вынікаў такое працы.*

*Вось гэта адна з прычынаў таго, што шмат, навет і вельмі важных актуальных тэмаў ляжаць нікім не кранутыя. Другая важная прычына — гэта нястача кадраў з навуковымі зацікаўленьнямі наагул. Іх ня шмат, а ня кажны мае магчымасьць праводзіць яе, калі-б навет і хацеў. Вось гэта трэба мець на ўвеце, ацэніваючы працу Інстытуту за папярэднія гады, а таксама плянуючы яе на будучыню.*

*Як згадвалася ўжо на пачатку гэтае справаздачы, колькі тыдняў таму старшыня Фундацыі імя П[ётры] Крэчэўскага сп. Інж[ынэр] М[ікола] Гарошка паведаміў, што ў хуткім часе, за колькі тыдняў, Фундацыя зможа адвесьці Інстытуту для зачаткаў бібліятэкі, архіву, музэю пару пакояў у вадным з будынкаў Фундацыі. Гэта паважна пашырае будучыя магчымасьці дзейнасьці Інстытуту. Дагэтуль Інстытут мог весьці толькі частку сваіх статутовых заданьняў, галоўна ў галіне распрацоўкі і абмеркаваньня навуковых ці літаратурных тэмаў дый, у меру магчымасьці,*

*іх публікацыі. Затое ня было магчымасьці займацца паважна й сыстэматычна зьбіраньнем, парадкаваньнем, перахоўваньнем беларусаведных выданьняў, матар'ялаў архіўных і музэйных, каб зь іх карыстацца цяпер, каб іх захаваць для будучыні.*

*Гэтыя магчымасьці цяпер, перад новай Управай, раскрываюцца, і аб іх належным выкарыстаньні новаю Ўправай давядзецца, побач праводжаньня далейшае працы ў галінах папярэдняе дзейнасьці Інстытуту, паважна падумаць і папрацаваць. Мець гэта трэба на ўвеце й пры выбары новае Ўправы Інстытуту. Знайсьціся ў ёй павінны й сябры, якія гэтую справу знаюць, арганізаваць, наладзіць яе і дагледзець патрапяць, бо маюць на гэта належнае фаховае прыгатаваньне й дазваньне. Ад гэтага будзе шмат залежыць удача гэтае галіны навукова-культурнае й нацыянальнае дзейнасьці Інстытуту, важнае ня толькі для сучаснае беларускае эміграцыі, але для навукі й культуры беларускага народу наагул"*[227].

Пасьля дыскусіяў была абраная новая ўправа: старшыня — Вітаўт Тумаш, сябры — Антон Адамовіч, Натальля Арсеньнева, Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік.

## БІНіМ і 450-я ўгодкі беларускага друку

17 верасьня 1967 г. у Таронта на нарадзе канадыйскіх сябраў Інстытуту пастанавілі заснаваць аддзел БІНіМу ў Канадзе. На старшыню абралі др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, на сакратара-скарбніка — мгр. Аляксея Грыцука.

У гэты ж дзень у Таронта высілкамі Згуртаваньня беларусаў Канады была адчыненая выстава з нагоды 450-х угодкаў беларускага друку ды 100-годзьдзя Канады. Рэфэраты прачыталі др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч і прадстаўнік мясцовых уладаў. Выстава, зробленая Раісаю Жук-Грышкевіч, утрымлівала больш за 60 экспанатаў: фатаграфіяў, рэпрадукцыяў, дрэварытаў, старадрукаў.

А ў Манрэалі, у павільёне СССР на *"Expo-67"* былі выстаўленыя два выданьні Францішка Скарыны: Біблія ды Кніга Ёва, што паходзілі зь бібліятэкі колішняга Супрасьлеўскага манастыра пад Беластокам ды яшчэ за царскім часам былі вывезеныя адтуль у Расею.

Угодкі беларускага друку адзначаліся і ў Чыкага на гадавой этнічнай выставе 21–22 кастрычніка, і ў аўстралійскім Сыднэі, дзе рэфэрат чытаў сябра БІНіМу др. Язэп Малецкі.

[227] Захоўваецца ў БДАМЛМ.

Але найбольшую экспазыцыю паказалі ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы. Рыхтавалі яе ў цеснай супрацы Бібліятэкі з Інстытутам. Галоўны арганізатар выставы — др. Вітаўт Кіпель, працаўнік абедзьвюх установаў. Ён жа й аўтар тэксту ў “Запісах”:

*“Вялікую выстаўку «450 гадоў беларускага друку» наладзіла ў 1968 годзе добра навуковаму сьвету сваімі багатымі зборамі ведамая Публічная Бібліятэка Ню Ёрку. Бібліятэка гэтая адна з найбольшых у Злучаных Штатах Амэрыкі й сьвеце. У ейных фондах сяньня больш 30-ці міліёнаў пазыцыяў, 14 міліёнаў, з чаго гэта кнігі й брашуры, каля 10 міліёнаў рукапісаў, 6 міліёнаў абразоў, гравюраў, малюнкаў ды іншага.*

*Велічынёй, навуковым узроўнем ды міжнародным засягам узьдзеяньня, выстаўка Публічнай Бібліятэкі была найбольшай рэпрэзэнтацыйнай навуковай імпрэзай для адзначэньня 450-гадовага юбілею беларускага друку. Для яе значаньня сваю вагу мела й сама навуковая аўтарытэтнасьць амэрыканскае ўстановы, што яе арганізавала, і факт, што наладжаная яна была ў цэнтры той інтэрнацыянальнай мэтраполіі, дзе сяньня крыжуюцца эканамічна-палітычныя й культурна-духовыя справы сьвету.*

*Падрыхтова выстаўкі вялася больш паўгоду, сама-ж выстаўка трывала пяць месяцаў — ад 1 сакавіка да 29 ліпеня 1968 году. У гэтым часе даступная яна была для агляду тысячам наведвальнікаў бібліятэкі ад 9-е гадзіны раніцы да 10-е вечара штодзённа. Бібліятэка выдала адмысловы прэсавы камунікат пра выстаўку ды сотні, з партрэтам доктара Скарыны на ім, плякатаў, што, разам з камунікатам, разасланыя былі ўва ўсе бібліятэкі Ню Ёрку ды соткі важнейшых навуковых установаў — музэяў, архіваў, бібліятэкаў, унівэрсытэтаў, акадэміяў, — усіх пяці кантынэнтаў сьвету. Каля сарака плякатаў і камунікатаў накіравана было розным установам і выдавецтвам у Беларускай ССР. Перад клясычнаю калюмнадай бібліятэчнай фасады, на рэпрэзэнтацыйнай Пятай Авэню Мангэтану, побач слаўнае ўжо эмблемы бібліятэкі — яе двух гранітных ільвоў — праз увесь час выстаўкі красаваўся вялікіх памераў плякат з партрэтам на ім доктара Скарыны зь ягонае Бібліі.*

*Разьмешчаная была выстаўка ў прасторнай галярэі другога паверху бібліятэкі. Экспанавала яна больш 200 кнігаў, брашураў, часапісаў, партрэтаў, абразоў, картаў, гравюраў, фатарэпрадукцыяў беларускіх старадрукаў ды графічных іх аздобаў. Апрача трынаццаці вялікіх выставовых сталоў-вітрынаў, экспанаты, — найперш апраўленыя ў рамы пад шклом партрэты ды абразы, — займалі й сьцены галярэі. Усе вітрыны выстаўкі мелі свае паясьняльныя, у ангельскай мове, даведкі, а ўсе экспанаты — бібліяграфічныя анатацыі.*

*Ладзіў выстаўку Славянскі аддзел бібліятэкі, і яе падрыхтова вялася пад агульным наглядам кіраўніка аддзелу д-ра Джона Міша*[228]*. Галоўным плянавіком і арганізатарам выстаўкі быў д-р Вітаўт Кіпель. Дзейны ўдзел у яе падрыхтове прыймалі др. Віктар Корасар*[229]*, Дэніс Лой*[230]*, сп-ня Зора Кіпель, сп-ня Рут Кімбал, сп. А. Лучынскі, сп. А. Мэдына ды сп. Ю[ры] Эўстафіяў*[231]*. Радамі й важнымі экспанатамі ў наладжаньні выстаўкі істотна дапамог Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.*

*Каб мець лепшую ўяву пра характар паказаных на выстаўцы друкаў і матар'ялаў, ніжэй даецца кароткі агляд экспанатаў усіх 13-ці вітрынаў выстаўкі з частковым пераказам зьместу паясьняльных да іх даведак.*

*Даўжэйшая інфармацыйная даведка вітрыны першай уводзіла гледача ў агульны зьмест і галоўнае заданьне выстаўкі: адзначыць важнейшыя этапы разьвіцьця беларускага друку за 450 гадоў яго існаваньня, паказаць на прыкладах яго пачаткі, уздымы й заняпады, яго сучасны стан. Давала яна адначасна абшырную інфармацыю пра жыцьцё й дзейнасьць доктара Франьцішка Скарыны, пра ягоную адукацыю на ўнівэрсытэтах Эўропы, завершаную дактаратамі навукаў вызваленых і мэдыцыны, пра тыповыя для дзеяча пары Рэнэсансу Скарынавы шматкірунковыя інтэлектуальныя зацікаўленьні, што ахоплівалі тэалёгію, літаратуру, мову, мастацтва, права, астраномію, мэдыцыну, батаніку, друкарства. Зьвернутая была ўвага й на нязвычайна шырокі геаграфічна дыяпазон падарожжаў і дзейнасьці Скарыны, што кранулі Вільню, Кракаў, Капэнгагу, Падую, Прагу, Пазнань, Каралавец, Маскву. Высокая акадэмічная адукацыя дала доктару Скарыну дасканалую падгатову на тое, каб прыступіць да выпаўненьня найважнейшага задуму свайго жыцьця — перакладу на беларускую мову й друку Бібліі. Скарына ня толькі піянэр друку й ахвярны ідэйны выдавец кнігаў. Ён адначасна й перакладнік, камэнтатар, рэдактар, аўтар цікавых вельмі даўжэйшых уводных прадмоваў да выдаваных ім кнігаў, у якіх адбітак глыбокіх ідэйных матываў ягонага выдавецкага пачыну, у іх і шчыры патрыятызм, любоў да свайго краю, народу, яго мовы, ды адлюстраваньне шырокага гуманістычнага сьветагляду.*

---

[228] **Джон Міш** (анг. *John L. Mish*, 1909–1983), мовазнаўца, спэцыяліст ва ўсходніх (кітайская, японская і інш.) мовах. З 1946 г. — працаўнік Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі, кіраўнік Усходняга (1948–1978) і Славянскага (1955–1978) аддзелаў Бібліятэкі.

[229] **Віктар Корасар**, працаўнік Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі, эстонскага паходжаньня.

[230] **Дэніс Лой** (анг. *Dennis Jaeger Loy*, 1939–1994), працаўнік Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі, спэцыяліст у выставах.

[231] **Юры Эўстафіяў**, працаўнік Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі.

*Вітрына першая давала, у фатарэпрадукцыі, узоры Скарынавых праскіх друкаў: прыклады прадмоваў, тэксту, высокамастацкіх дрэварытных ілюстрацыяў, заставіцаў, аздобных ініцыялаў, якімі зь вялікім мастацкім густам аздобленыя былі выданьні Скарыны. Дзеля нязвычайна высокага ўзроўня мастацка-графічнага афармленьня кнігі Скарыны адмыслоўцы ці раз называлі «славянскімі эльзэвірамі».*

*У вітрыне 2-ой разьмешчаныя былі прыклады з двух віленскіх выданьняў доктара Скарыны — «Апостала» й «Малой падарожнай кніжкі». Дадзеныя былі тут узоры загаловачных бачынаў, прадмоваў, іх тэксту, развароту Скарынавага календара, прыклады віленскіх большых і меншых заставіцаў, узоры характэрнага для Скарыны набору апошніх бачынаў кнігаў. Побач памешчаныя былі фатаадбіткі лацінскіх актавых запісаў пра слаўны экзамэн Скарыны на доктара лекарскіх навукаў на Падуанскім унівэрсытэце ў лістападзе 1512 году, а таксама — фатаадбітка пісанае па-чэску граматы караля Фэрдынанда I, выстаўленае ў 1552 годзе ў Празе Скарынаваму сыну Сымону на росшук і опагон маемасьці ды кнігаў бібліятэкі памерлага бацькі.*

*У вітрыне 3-й было паказана колькінаццаць важнейшых публікацыяў з галіны навуковае скарыніяны, пачынаючы з працаў канца XVIII — пачатку XIX стагодзьдзяў ведамага выдатнага «патрыярха чэскае й славянскае філялёгіі» Язэпа Даброўскага*[232]*. Быў тут цікавы, цяпер толькі выяўлены, нарыс ангельскага тэалёга Э[бэнізэра] Гэндэрсона*[233] *(1826) пра асаблівасьці перакладу доктара Скарыны*[234]*, ведамая шырэй манаграфія П[ятра] Валадзімірава 1888 году, менскі скарынінскі юбілейны зборнік «400-лецьце беларускага друку» (1926), працы Ўл[адзімера] Пічэты, А[нтона] В[асілевіча] Флароўскага*[235]*, М[ікалая] Аляксютовіча*[236]*, С. Брагі*[237]*, А[ўгена] Няміроўскага*[238] *ды іншых аўтараў.*

---

232 **Ёзэф Добраўскі** (чэс. *Josef Dobrovský*, 1753–1829), чэскі філёляг, лінгвіст, літаратуразнаўца, гісторык.

233 **Эбэнізэр Гэндэрсан** (анг. *Ebenezer Henderson*, 1784–1858), шатляндзкі місіянэр.

234 Маецца на ўвазе выданьне: Henderson, Ebenezer. Biblical researches and travels in Russia. London, 1826.

235 **Антон Флароўскі** (1884–1968), гісторык, славіст. З 1920-х гг. жыў і працаваў у Празе. Доктар гістарычных навук Чэхаславаччыны.

236 **Мікалай Алексютовіч** (1921–1967), гісторык, аўтар кнігі «Скарына, яго дзейнасць і светапогляд» (Мінск, 1958).

237 **Сымон Брага** — псэўданім Вітаўта Тумаша.

238 **Яўгеній Неміроўскі** (расейск. *Евгений Немировский*, нар. 1925), расейскі навуковец-кнігазнаўца, доктар гістарычных навук, прафэсар, аўтар працаў аб гісторыі кнігадрукаваньня.

*Над трымя першымі вітрынамі, што адведзеныя былі выдавецкай спадчыне выдатнага Палачаніна, разьмешчаныя былі на сьцяне й партрэты доктара Скарыны: рэпрадукцыя ведамага дрэварытнага партрэту зь ягонае Бібліі, фатарэпрадукцыя партрэту Скарыны, што на Падуанскім унівэрсытэце, выкананага італіянскім мастаком Джыякомо даль Форно*[239]*, вялікі, адмыслова для выстаўкі выкананы, дрэварытны партрэт мастачкі Тамары Стагановіч-Кольбы й партрэт алейны пэндзьля ведамага мастака Пётры Міклашэвіча (1967). Побач і каляровая, у значным павялічаньні, фатарэпрадукцыя загаловачнае бачыны да ўсей Скарынавай праскай Бібліі. Былі тут таксама арыгінальныя гравюры XVI стагодзьдзя зь відамі тагачаснае Вільні ды Прагі ды вялікія табліцы з рэпрадукцыяй сотняў большых і меншых аздобных ініцыялаў і заставіцаў з праскіх і віленскіх выданьняў доктара Скарыны.*

*Вітрына 4-я памяшчала ўзоры кнігаў першых трох выдатных Скарынавых пасьлядоўнікаў у галіне беларускага друку — Сымона Буднага*[240]*, Васіля Цяпінскага*[241] *ды гетмана Рыгора Хадкевіча*[242]*. Тут, у рэпрадукцыі, загаловачная бачына, ды бачыны з прысьвятаю й каляфонам «Катэхізіса» Буднага 1562 году зь нясьвіскае друкарні. Тут бачыны «Эвангельля» Цяпінскага зь ягонай-жа друкарні ў радавым Цяпіне. Побач разварот заблудаўскага «Эвангелія» 1569 году выданьня гэтмана Рыгора Хадкевіча, а набору й друку ведамых друкароў, уцекачоў з Масквы, Івана Хведаровіча*[243] *ды Пётры Мсьціслаўца*[244]*. Тут і гэрб гетмана Хадкевіча з заблудаўскага Эвангельля. Формы літараў у кнігах Буднага й Цяпінскага, як і цэлыя звароты ў прадмовах — скарынінскія. Тое самае й у прадмове гетмана Хадкевіча да заблудаўскага Эвангельля — сказы пераняты, блізу даслоўна, з прадмовы доктара Скарыны да кнігі Царстваў. На ўсё гэта зьвяртае ўвагу адпаведная анатацыя.*

---

239 **Джакама даль Форна** (іт. *Gian Giacomo Dal Forno*, 1909–1989), італьянскі мастак.

240 **Сымон Будны** (каля 1530–1593), гуманіст, філёзаф, асьветнік, дзеяч рэфармацыйнага руху, адзін з заснавальнікаў навуковай крытыкі Бібліі ў Беларусі.

241 **Васіль Цяпінскі** (каля 1540–1603), гуманіст, асьветнік, перакладнік, кнігавыдавец, пачынальнік традыцыі выданьняў Новага Запавету на беларускай мове.

242 **Рыгор Хадкевіч** (каля 1513–1572), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, вялікі гетман (з 1566 г.), уласьнік Заблудава й тамтэйшай друкарні.

243 **Іван Фёдараў** (каля 1510–1583), асьветнік, кнігавыдавец, заснавальнік расейскага і ўкраінскага кнігадрукаваньня. Лічыцца, што паходзіць зь беларускага роду Рагозаў.

244 **Пётра Мсьціславец** (? — пасьля 1576), кнігадрукар, гравэр, калега Івана Фёдарава.

*Над вітрынай на сьцяне, у павялічэньні, гравюрныя, з XVI стагодзьдзя, партрэты Буднага й Цяпінскага.*

*Вітрына 5-я адведзеная была найперш паказу важнейшых выданьняў аднэй зь першых камэрцыйных беларускіх друкарняў, друкарні, што, не зважаючы на гістарычныя завірухі ды рэлігійныя закалоты пары, праіснавала ў Вільні больш палавіны стагодзьдзя ды з-пад друкарскіх прэсаў якое вышла больш 60 кнігаў — друкарні Дому Мамонічаў*[245]*. У цэнтры тут найкаштоўнейшы экспанат усяе выстаўкі — арыгінальнае, раскошнае in folio, «напрэстольнае» Эвангельле, якое, пры фінансавай дапамозе Мамонічаў, выдаў у 1575 годзе ў Вільні ведамы беларускі друкар Петра Мсьціславец. Кніга разгорнутая пры пачатку Эвангельля сьвятога Лукаша, зь вялікай, дэкарацыйна выкананай, дрэварытнай гравюрай эвангелісты на левай балоне развароту. Экспанаваны экзэмпляр Эвангельля ў вельмі добрым стане, перахоўваецца ён у ваддзеле рэдкае кнігі бібліятэкі. Побач Эвангельля — каляровая рэпрадукцыя натуральнае вялічыні другога, выдадзенага ўжо коштам канцлера Льва Сапегі*[246]*, рэпрэзэнтацыйнага друку друкарні Дому Мамонічаў — слаўнага Літоўскага Статуту 1588 году, ды тут-жа й рэпрадукаваная загаловачная бачына першае друкаванае беларускае кнігі сьвецкага зьместу наагул — «Трыбунал обывателем великого Княвства Литовского» — што вышла коштам другога канцлера, Аўстахія Валовіча*[247]*. Аздабляе вітрыну гэрб Лукаша Мамоніча*[248] *ды колькі арыгінальных аздобных ініцыялаў зь беларускіх, пераважна супрасьльскіх, старадрукаў.*

*Аддзел выстаўкі адведзены старому беларускаму друку замыкала вітрына 6-я, у якой узоры выданьняў двух друкарняў сьвятатраецкага брацтва — друкарні віленскай ды ў Еўі, друкарні Кутэйнскай ды іншых, і найперш тых, на друках якіх выразны сьлед уплываў графічнае тэхнікі Скарынавых выданьняў. Тут бачыны й заставіцы зь віленскае «Граматыкі» Л[аўрэнція] Зызанія 1596 году, кутэйнскага «Часаслова» й «Дыдаокаліі» 1637 году. Побач — табліца з сучаснымі беларускімі, кірылічнымі й лацінічнымі, альфабэтамі, з пададзенай ангельскай транскрыпцыяй іх літараў. На сьцяне, у рамах пад шклом, вялікія табліцы*

245 **Друкарня братоў Мамонічаў** была заснаваная ў 1574 г. у Вільні Пётрам Мсьціслаўцам на сродкі магілёўскіх купцоў Мамонічаў.

246 **Леў Сапега** (1557–1633), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, канцлер (1589–1623), стваральнік Статуту ВКЛ 1588 г.

247 **Яўстафі Валовіч** (?—1630), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, падканцлер літоўскі, віленскі біскуп у 1616–1630 гг.

248 **Лукаш Мамоніч**, адзін з двух братоў (імя другога — Кузьма) — уласьнікаў знакамітай друкарні.

*з каляровымі рэпрадукцыямі колькінаццаці беларускіх выданьняў XVI—XVIII стагодзьдзяў розных друкарняў віленскіх, друкарні ў Еўі, Супрасьлі ды іншых. Тут-жа карта друкарняў XVI—XVIII стагодзьдзяў на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Даўжэйшая інфармацыйная даведка вітрыны ўводзіла гледача ў галоўныя прычыны заняпаду беларускага друку ў XVIII—XIX стагодзьдзях: палянізацыю, а пазьней і русыфікацыю, вышэйшых сацыяльна слаёў народу, забарону 1859 году царскай уладай беларускага друку.*

*Пад партрэтам рэдактара першае беларускае газэты Кастуся Каліноўскага*[249]*, у вітрыне 7-ай, раскрывалася пара новага беларускага друку. Тут прыклады беларускага, легальнага й нелегальнага, лацінічнага й кірылічнага, друку XIX ды пачатку XX-га стагодзьдзяў. У рэпрадукцыі нумары 2-гі й 3-ці «Мужыцкае праўды»*[250] *Каліноўскага 1862 году, арыгінал беларускае лёнданскае 1903 году палітычнае брашуры, таксама арыгіналы першага нумару «Нашае долі»*[251] *1906 году ды нумару 2-га «Нашае нівы» году 1907-га. У арыгінале й кніга першага літаратурнага часапісу «Маладая Беларусь»*[252] *1913 году, зборніка крытычных літаратурных нарысаў А[нтона] Навіны*[253] *«Нашыя песьняры»*[254] *ды колькі іншых выданьняў пары. На сьцяне — партрэты першых піянэраў беларускага новага друку — Ф[ранцішка] Багушэвіча, Івана*[255] *й Антона Луцкевічаў, А[ляксандра] Уласава*[256]*, А[лаізы] Пашкевічанкі (Цёткі).*

*Вітрына 8-ая адведзеная была розным менскім і віленскім друкам 1920-х гадоў, найперш выданьням менскага Інстытуту Беларускае*

---

[249] **Кастусь Каліноўскі** (1838—1864), палітычны дзеяч, публіцыст, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863—1864 гг. у Беларусі й Літве.

[250] **«Мужыцкая Праўда»** — нелегальная газэта, якая выдавалася лацінкаю ў 1862—1863 на Гарадзеншчыне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Першая беларускамоўная газэта.

[251] **«Наша Доля»** — штотыднёвая газэта рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку, першая легальная газэта ў беларускай мове. Выдавалася ў Вільні ў верасьні — сьнежні 1906 г. Пабачыла сьвет 6 нумароў.

[252] **«Маладая Беларусь»** — літаратурна-мастацкі альманах, які выдаваўся ў 1912—1913 гг. беларускай выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбурзе на беларускай мове.

[253] **Антон Навіна** — псэўданім Антона Луцкевіча (1884—1942), палітычнага й грамадзкага дзеяча, публіцыста, літаратурнага крытыка, гісторыка, выдаўца.

[254] Маецца на ўвазе выданьне: Nowina, Anton. Našy pieśniary: literaturna-socyalnyje narysy. Wilnia: Drukarnia «Znicz», 1918. — 80 s.

[255] **Іван Луцкевіч** (1881—1919), грамадзкі дзеяч, публіцыст, археоляг, краязнаўца.

[256] **Аляксандар Уласаў** (1874—1941), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч, публіцыст, рэдактар-выдавец газэты «Наша Ніва».

*Культуры. Тут зборнік «Працы Акадэмічнае канфэрэнцыі 1926 году»*[257]*, слоўнікі Інстытуту сэрыі беларускае навуковае тэрміналёгіі, тамы збору твораў Я[нкі] Купалы й М[аксіма] Багдановіча, часапісы «Узвышша»*[258] *й «Наш край»*[259] *— усё выданьні, што пазьней былі партыйнымі ўладамі сканфіскаваныя як «нацыянал-дэмакратычныя». Побач віленскі «Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства»*[260] *ды колькі іншых публікацыяў.*

*Вітрына 9-ая давала больш дваццаці кніжак розных і менскіх, і замежных беларускіх сучасных выдавецтваў, як «Дыялектычны атляс беларускае мовы»*[261]*, «Беларуска-расейскі слоўнік»*[262]*, колькі слоўнікаў іншых, акадэмічную «Граматыку беларускае мовы»*[263]*, розныя ілюстраваныя выданьні для моладзі й дзяцей. Тут і сучасныя беларускія, беластоцкі ды нюёрскі календары, ды — ніводнага календара з БССР, паколькі беларуская рэспубліка ад даўжэйшага часу ніякіх календароў для беларускага народу ня выдае.*

*Вітрына 10-я канцэнтравала важнейшыя пэрыядычныя й непэрыядычныя выданьні сучасных навуковых установаў БССР і замежных — Акадэміі Навук БССР, Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Ню Ёрк — Мюнхен), Крывіцкага Навуковага Таварыства (Ню Ёрк) ды іншых. Зь менскіх выданьняў паказаныя былі ўсе сэрыі часапісу «Весьці Акадэміі навук БССР» ды выданьні кніжныя самой акадэміі й яе розных інстытутаў. Былі тут і «Запісы» ды «Конадні» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, ды колькі выданьняў кніжных і Інстытуту, і Крывіцкага Навуковага Таварыства,*

---

[257] Маецца на ўвазе выданьне: Працы Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14–21 ліст. 1926 г.) / Пад рэд. С. Некрашэвіча. Мінск, 1927. — 428 с.

[258] **«Узвышша»** — часопіс аднайменнага літаратурнага аб’яднаньня, які выдаваўся ў Менску ў 1927–1931 гг.

[259] **«Наш край»** — краязнаўчы часопіс, які выдаваўся Цэнтральным бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры ў 1925–1929 гг. Потым да 1933 г. — пад назвай «Савецкая краіна».

[260] Маецца на ўвазе выданьне: Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства. Кн. 1. Вільня, 1933. — 209 с.

[261] Маецца на ўвазе выданьне: Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мінск, 1963.

[262] Маецца на ўвазе выданьне: Беларуска-рускі слоўнік = Белорусско-русский словарь: каля 90 000 слоў / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа; пад рэд. К. Крапівы. Масква: Дзяржаўнае выдавецтва замежных і нацыянальных слоўнікаў, 1962. — 1048 с.

[263] Відаць, маецца на ўвазе выданьне: Граматыка беларускай мовы: У 2 т. / Рэд.: К. Атраховіч (Крапіва) і інш. Мінск: Навука і тэхніка, 1966.

*ды «Навуковы зборнік» Беларускага навуковага таварыства ў Беластоку*[264]*. Разам у вітрыне больш дваццаці пэрыядычных і кніжных, навуковага зьместу, выданьняў.*

*Стол вітрыны 11-ай адведзены быў публікацыям з гісторыі й сучаснага стану розных галінаў беларускага мастацтва — архітэктуры, выяўленчага мастацтва, тэатру, балету, музыкі, кіно, розных галінаў народнага мастацтва — усіх каля 20 выданьняў. Найбольш рэпрэзэнтацыйныя зь іх выданьні альбомныя — «Беларускі народны арнамэнт»*[265] *ды «Слуцкія паясы»*[266]*. З замежных публікацыяў у гэтым разьдзеле можна было агледаць кніжкі «Беларуская музыка» М[іколы] Куліковіча, «Родныя матывы» (Кліўленд)*[267] *ды колькі іншых.*

*Вітрына 12-ая дэманстравала багаты выбар найбольш характэрных сучасных менскіх і замежных выданьняў з галіны літаратуры й літаратурнае крытыкі. Экспанавана тут было каля 30-ці кніжак. У цэнтры — рэпрэзэнтацыйнае выданьне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва: кніга выбранае паэзіі Янкі Купалы «Спадчына». Побач, у выданьні таго-ж Інстытуту, «Матчын дар» Алеся Гаруна ды «Вянок» Максіма Багдановіча. З выданьняў выдавецтва «Бацькаўшчына» паказаны быў альманах творчасьці беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў замежжа «Ля чужых берагоў» ды ўспаміны з баёў пад Монтэ-Касіно П[ётры] Сыча «Сьмерць і салаўі»*[268]*. Тут-жа й выдадзеная ў Таронта, у Канадзе, дакумэнтальная біяграфічная аповесьць К[астуся] Акулы «Змагарныя дарогі»*[269]*. Зь менскіх выданьняў былі тут навейшыя перавыданьні твораў Я[нкі] Купалы, М[аксіма] Багдановіча, Ул[адзімера] Дубоўкі*[270]*, П[етруся] Броўкі*[271]*,*

---

[264] Маецца на ўвазе выданьне: Навуковы зборнік. Беласток: Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, 1964. — 293 с.

[265] Маецца на ўвазе выданьне: Беларускі народны арнамент: [Альбом] / Савет прамысловай кааперацыі БССР. Мінск, 1953 (1955). — 137 л.

[266] Маецца на ўвазе выданьне: Якуніна, Лідзія. Слуцкія паясы = Слуцкие пояса. Мінск: Выдавецтва Акадэміі навук БССР, 1960. — 237 с.

[267] Маецца на ўвазе выданьне: Куліковіч, Мікола. Родныя матывы = Byelorussian Songs & Dances: for accordion. Cleveland: Byelorussian Youth Ass'n in Cleveland, 1967. — 54 с.

[268] Маецца на ўвазе выданьне: Сыч, Пётра. Сьмерць і салаўі (успаміны афіцэра-беларуса спад Монтэ-Касыно). Мюнхэн: Выдавецтва «Бацькаўшчына», 1965. — 62 с.

[269] Маецца на ўвазе выданьне: Акула, Кастусь. Змагарныя дарогі: Аповесьць. Таронта — Мюнхэн, 1962. — 583 с.

[270] **Уладзімер Дубоўка** (1900–1976), паэт, празаік, перакладнік, крытык.

[271] **Пятрусь Броўка** (1905–1980), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, перакладнік.

*зборнікі вершаў А[лега] Лойкі*[272]*, С[яргея] Дзяргая*[273]*, С[яргея] Грахоўскага*[274] *ды іншых. Выданьні ў беларускім перакладзе твораў выдатных пісьменьнікаў сусьветнае літаратуры — «Гамлета» ды «Санэтаў» Шэксьпіра*[275]*, твораў Байрана*[276]*, Бёрнса*[277]*, Гайнэ*[278]*, Міцкевіча, раману Сянькевіча*[279] *«Quo vadis?», раскрывалі перад гледачом шырокія сувязі сучаснага беларускага літаратурнага працэсу зь вялікай спадчынай літаратуры эўрапейскай.*

*Апошняя, 13-ая вітрына, адведзеная была важнейшым выданьням з галіны беларускае й беларусаведнае бібліяграфіі. У цэнтры — капітальны 1926 году манаграфічны вопіс беларускае старое, рукапіснае й друкаванае, кнігі — «Гісторыя беларускае (крыўскае) кнігі» В. Ластоўскага*[280]*. Побач колькі бібліяграфічных выданьняў «нацдэмаўскае» пары 1920-х гадоў у Менску, а сярод іх тагачасны часапіс для рэгістрацыі друку рэспублікі «Летапіс беларускага друку»*[281]*. Тут-жа й навейшыя савецкія бібліяграфіі — сучасны «Летапіс друку БССР»*[282]*, штогоднік кнігі БССР, бібліяграфія выданьняў Акадэміі навук БССР, бібліяграфія мовазнаўства ды колькі іншых бібліяграфіяў спэцыяльных. З замежных — «Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне» М. Панькова (Ню Ёрк)*[283].

---

272 **Алег Лойка** (1931–2008), паэт, пісьменьнік, літаратуразнаўца, чалец-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі.

273 **Сяргей Дзяргай** (1907–1980), паэт і перакладнік.

274 **Сяргей Грахоўскі** (1913–2002), паэт, празаік, перакладнік.

275 **Ўільям Шэксьпір** (анг. *William Shakespeare*, 1564–1616), ангельскі драматург, паэт, актор.

276 **Джордж Гордан Байран** (анг. *George Gordon Noel Byron*, 1788–1824), ангельскі паэт-рамантык, драматург.

277 **Робэрт Бэрнз** (анг. *Robert Burns*, 1759–1796), шатляндзкі паэт, фальклярыст.

278 **Гайнрых Гайнэ** (ням. *Heinrich Heine*, 1797–1856), нямецкі паэт, публіцыст і крытык.

279 **Гэнрык Сенкевіч** (польск. *Henryk Adam Aleksander Pius Sienkiewicz*, 1846–1916), польскі пісьменьнік, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі 1905 году.

280 Маецца на ўвазе выданьне: Ластоўскі, Вацлаў. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясьніцельнай кнігапісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя. Коўна: Друкарня Сакалоўскага і Лана, 1926. — 776 с.

281 **«Летапіс беларускага друку»** — штомесячны бібліяграфічны бюлетэнь Беларускай кніжнай палаты пры Дзяржаўнай бібліятэцы. Выдаваўся ў Менску ў 1924–1931 гг.

282 **«Летапіс друку Беларускай ССР = Летопись печати Белорусской ССР»** — дзяржаўны бібліяграфічны паказьнік, які выдаваўся Дзяржаўнай кніжнай палатай БССР у 1932–1991 гг.

283 Маецца на ўвазе выданьне: Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945—1950 гг. = Bibliography of Whiteruthenian (Byelorussian) Refugees for 1945–

*Выстаўка «450 гадоў беларускага друку» паказанымі на ей кнігамі, ілюстрацыйнымі экспанатамі ды дадзенымі інфармацыйнымі даведкамі, разгарнула перад гледачом яскравую шырокую панараму галоўных этапаў гісторыі беларускага друку ды дала добры аб'ектыўны абраз ягонага сучаснага стану. Водгукі на выстаўку зьявіліся ў друку амэрыканскім, беларускім, славацкім, польскім, савецкім. Адцемленая яна была й у радыёвых перадачах. Атрымала бібліятэка й шмат лістоўных водгукаў на выстаўку ад навуковых установаў і індывідуальных асобаў. Колькі ўнівэрсытэтаў ЗША ды эўрапейскіх зьвярнулася з просьбай даслаць каталёгі выстаўкі й мікрафільмы скарынаведнае экспанаванае літаратуры.*

*Важна асабліва тое, што выстаўка давала ўзоры ўсяе сучаснае беларускае выдавецкае прадукцыі — і друку падсавецкага, і выданьняў з Польшчы, ЗСА, Канады, Італіі, Нямеччыны. Ведама, што пабачыць на публічным паказе падобны поўны абраз сучаснага беларускага друку ў сусьветным разрэзе на беларускай зямлі сяньня немагчыма. Вось гэта надае наладжанай на высокім акадэмічным узроўні выстаўцы беларускага друку Публічнай Бібліятэкі Ню Ёрку асаблівую гістарычную вымову й вагу"*[284].

Выстава была ня толькі заўважаная, але й ацэненая. Зь ліста Вітаўта Тумаша да Віктара Войтанкі:

*"Ад мінулага тыдня была нарэшце паведзеная вострая атака на выстаўку з боку старое расейскае чорнае сотні. Адным часам на рукі дырэктара было накіравана ці не паўтузіна лістоў з розных канцоў Нью Ёрку, тэма якіх адна (з чаго відаць, што акцыя арганізаваная), што выстаўка наладжаная «русафобамі», бо на інфармацыйнай картцы на 6-м стале гаворыцца пра нейкую «русыфікацыю» беларускай мовы за часоў царскіх, чаго ніколі ня было й не магло быць, бо як-жа можна русыфікаваць адзін з дыялектаў рускае якраз мовы!!! Адначасна аўтары лістоў ускідваюць Бібліятэцы й тое, як яна асьмелілася выстаўляць «Беларускі праваслаўны каляндар» на 1968 г. «некананічнае» БАПЦ*[285]*?*

*На атаку з гэтага боку мы даўно чакалі. Калі яна прыходзіць позна, дык гэта хіба таму, што сваёй саліднасьцю й вялічынёй каля 200 самых*

1950. Ню Ёрк: Выданьне Крывіцкага Навуковага Таварыства Праньціша Скарыны, 1952. — 64 с.

[284] Зубкоўскі, Вітаўт. Выстаўка Публічнай Бібліятэкі ў Ню Ёрку // Запісы БІНіМ. Вып. 5. Мюнхэн, 1970. С. 124–129.

[285] Маецца на ўвазе выданьне: Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1968 год = Byelorussian Orthodox Calendar for 1968. Нью Ёрк: выданьне Епархіяльнае Ўправы Сьв. БАПЦ у Амэрыцы. 1967. — 123 с.

*беларускіх выстаўленых друкаў яна выбівае з рук старыя «казыры» і аргумэнты чорнае сотні — «няма беларускае мовы, няма беларускае літаратуры, няма беларускага народу» — гэта ўсё выдумкі сэпаратыстых. Прышлося шукаць іншых аргумэнтаў — і ў канцы знайшлі: «русафобы», бо нехта асьмеліўся пісаць пра «русыфікацыю!”*[286]

Пра закрыцьцё выставы ён жа пісаў да Раісы Жук-Грышкевіч:

*“Яе закрылі ў плянаваны дзень, але ўсе матар’ялы тымчасам трымае др. Кіпель нераскіданыя ў бібліятэцы, бо, магчыма, бібліятэка не пашкадуе яшчэ грошаў на выданьне друкам каталёгу выстаўкі. Гэткага каталёгу ў бібліятэкі папрасіла менская «бібліятэка Леніна» — прыслала адмысловы ліст з прызнаньнем за наладжаньне выстаўкі, паведаміла разам, што з гэтае нагоды выслала зь Менску 48 новых беларускіх выданьняў ды просіць каталёгу, якога ня было! Дык можа яшчэ, чаго добрага, і выдадуць, хоць ня думаю, бо каштуе шмат грошаў. [...] Зьявілася кароткая вестка ў хроніцы й «Полымя» пра выстаўку, таксама пазытыўная. Ды ў канцы й др. СС [Станіслаў Станкевіч] даў артыкул (напісаны др. Кіпелям з маімі папраўкамі й дапіскамі ды др. СС пропускамі, дэфармацыямі ды памылкамі) ды фатаграфію зь львом (за якую др. Кіпелю давялося заплаціць, бо накш адмаўляўся зьмяшчаць). Плякат зьмяшчаць адмовіўся, бо «запозна». Будзе артыкул пра выстаўку і ў «Запісах», там зьмесьцім і плякат. Апошні «эпізод» з выстаўкі, пра які хіба ніхто ня будзе пісаць, гэта ізноў «дэманстрацыя» нашых «рускіх» братоў. Калі аўтары лістоў да бібліятэкі з канца травеня пераканаліся, што выстаўка далей трывае, нехта зь іх ня выцярпеў і запратэставаў па-свойму: адное раніцы працаўнікі бібліятэкі на колькіх вітрынах-сталох знайшлі наклейкі з напісам «Русофоб эксібішн»! Пэўне-ж, і гэта выстаўцы нічога не зашкодзіла. Дырэктар бібліятэкі задаволены асабліва зь ліста менскае бібліятэкі ды высланых кнігаў ды за выстаўку выказаў падзяку на пісьме кіраўніку Славянскага аддзелу й др. Кіпелю”*[287].

БІНіМ цягам усёй сваёй “русафобскай” дзейнасьці сачыў за прагрэсам русыфікацыі ў БССР і сыгналізаваў аб выніках на Захадзе. Русыфікацыя адбывалася ва ўсіх галінах: гісторыі, сацыялёгіі, літаратуразнаўстве, а асабліва ў галіне мовы. Вітаўт Тумаш, Антон Адамовіч прысьвяцілі гэтаму дзясяткі артыкулаў, пад уласнымі

[286] Ліст В. Тумаша да В. Войтанкі ад 01.06.1968. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[287] Ліст В. Тумаша да Р. Жук-Грышкевіч ад 20.08.1968. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

прозьвішчамі й псэўданімамі, у газэтах і часопісах. Але перад тым пытаньні абмяркоўваліся на інстытуцкіх зборках. Адзначалася, што русыфікацыя пачынаецца зь дзіцячых садкоў, узмацняецца ў пачатковай школе. Гаварылася пра падмену беларускіх вартасьцяў — расейскімі. Вылучалі русыфікацыю моўную, псыхалягічную, культурную. Др. Тумаш у назіраньнях і высновах у значнай меры абапіраўся на свае дэмаграфічныя досьледы. Ён заўважаў, што статыстыка даводзіла таксама й працэс русыфікацыі: сталае зьніжэньне беларускамоўнага насельніцтва, павелічэньне двухмоўнасьці й расейскамоўнага насельніцтва. Ён пісаў, што, перакладаючы мудрагелістыя фармулёўкі на простую мову, сэнс будзе такі: ад двухмоўя — просты шлях да адзінамоўя, але ўжо расейскага як аднаго з фактараў фармаваньня новай людзкой супольнасьці — савецкага народу. *“Зусім заканамерна, што ступень замены беларускай мовы расейскаю моваю ў публічным, школьным і культурным жыцьці Беларусі цягне за сабою і ступень пераходу беларускага жыхарства на расейскую мову як родную”*[288].

## Скарынаведа Тумаша

Але галоўнаю тэмаю, справаю жыцьця др. Вітаўта Тумаша па-ранейшаму заставаўся Скарына.

*“У мяне больш старыя справы ды клопаты. Жонка наперамену то дома, то ў шпіталі. Цяпер, ад колькіх тыдняў, якраз дома, хоць невядома, як доўга выбудзе. Сыну захацелася канечна вучыцца на доктара мэдыцыны, але, паколькі на амэрыканскія мэдычныя школы прабіцца не ўдалося, дык паехаў студыяваць мэдыцыну на Мадрыдзкі Ўнівэрсытэт, у Гішпанію, бо ў сярэдняй школе вучыўся гішпанскай мове. Яра працуе, Галіна яшчэ ў сярэдняй школе.*

*Што да мяне, дык па-за працаю мэдычнай і сямейнымі справамі, як ведама, прабываю часта ў бібліятэцы ды ўсё найбольш увагі аддаю нашаму першаму доктару мэдыцыны Скарыну. Нажаль, труднасьці з друкам вялікія. Гадамі ўжо друкуецца ў Мюнхэне юбілейны вялікі, каля 300 бачынаў, зборнік «Скарыніяны», працы пераважна мае. Зборнік будзе бясспрэчна на вышэйшым акадэмічным узроўні, як падобны зборнік менскае Акадэміі навук. У галіне «скарынаведы» наш*

[288] Беларус. № 213. 1975.

*Інстытут наагул перагнаў далёка іхную акадэмію. У справе «Георгія» Менск адступае па ўсім фроньце. Нядаўна Акадэмія выдала (вельмі мізэрна) прадмовы Скарыны*[289]*, і ў кнізе ні разу не назвала Скарыну ўжо «Георгіем», а толькі «Францыскам». Фільм пра Скарыну, які сёлета накручваўся, а сцэнарый якога спачатку называўся «Георгій Скарына», будзе называцца «Я, Францыск Скарына»*[290]*. Гэтымі днямі дастаў ізноў з архіваў Варшавы фатаграфіі трох, па-лацінску пісаных, актавых запісаў пра Скарыну, у гэтай галіне (дакумэнтацыі) ніхто гэткіх камплектных збораў ня мае. Сёе-тое стараюся рабіць і па-за гэтым ды падганяю і іншых, і гэтым, бадай, найбольш жыву, ці ў гэтым «выжываюся». Кажная справа, у якую чалавек глыбей уцягваецца, стае яму цікавай і важнай”*[291].

Юбілейныя “Запісы”, пра якія згадваецца ў лісьце, рабіліся “гадамі” не ў пераносным значэньні, а ў самым наўпростым. Адносіны паміж Галоўнай управаю БІНіМу й Мюнхэнскім аддзелам сапсаваліся ўшчэнт, сталіся бадай што варожымі. Тумаш пісаў, толькі ўжо не да Станіслава Станкевіча, а да Паўлы Урбана:

*“Вельмі Паважаны Спадар Урбан!*

*Перш чым перайсьці да канкрэтных справаў, колькі словаў выясьненьня, каб «Мюнхэн» лепш разумеў «Нью Ёрк». Пачну з найменш важнага: Вы «ў нашае апраўданьне» пішаце, што «матар’ялы да 5-е кнігі падрыхтоўваліся й перасылаліся нешта больш году». Гэтак ня было. Больш году таму, ды колькі разоў я Вам пісаў, што блізу ўсе матар’ялы для кнігі ці зусім гатовыя, ці могуць быць у патрэбе хутка высланыя пасьля іх перапісаньня на чыста, ды што не высылаюцца яны тымчасам толькі таму, што няма канкрэтнае ведамкі, будуць фінансы на іх друк ці не, бо няма-ж сэнсу ганяць іх праз акіян без патрэбы. У мінулым годзе ніякае дапамогі на выданьні ня было, магло быць тое самае й цяпер. Калі-ж прышла вестка, што 5000 РМ ёсьць — за колькі тыдняў было Вам пераслана каля 90 % рукапісаў. Ужо з пачаткам жніўня яны былі ў Вас. Дык ніякое затрымкі з матар’яламі ня было, і «матар’ялы» тут не вінаватыя.*

[289] Скарына, Францыск. Прадмовы і пасьляслоўі. Мінск, 1969. — 237 с.

[290] **«Я, Францыск Скарына»** — гісторыка-біяграфічны фільм, прысьвечаны першадрукару, зьняты на кінастудыі «Беларусьфільм». Выйшаў на экраны ў 1970 г. У галоўнай ролі — Алег Янкоўскі.

[291] Ліст В. Тумаша ад 15.12.1969. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*Справа другая й важнейшая — вымаганьні, каб мы тут сплачвалі вашую мюнхэнскую задоўжанасьць у вышыні 2400 РМ. Управа БІНіМ у Нью Ёрку катэгарычна супраць гэтага. Мы ўважаем, што здабываньне дапамогі на друк «Запісаў» гэта заслуга ня толькі «вашая», «Мюнхэну», але й «нашая», бо яна вынік ахвярнае бескарыснае навуковае працы тых колькіх супрацоўнікаў «Запісаў», што гадамі даюць бясплатна свае артыкулы да друку. Бяз гэтых навуковых матар'ялаў, за самыя «прыгожыя вочы» ніхто ніякое дапамогі ня дасьць. А матар'ялы зь Нямеччыны давалі толькі Вы. Усе іншыя аўтары — «амэрыканцы». Дык хоць фармальна дапамогу і атрымлівае БІНіМ у Мюнхэне, маральна яна наш супольны «заработак». І вось, не зважаючы на гэта, БІНіМ у Нью Ёрку атрымліваў усяго колькі аўтарскіх экзэмпляраў калі ідзе пра кнігі 2-ю й 3-ю. Кнігі апошняе мы дасталі крыху больш, але толькі пасьля ведамага нашага ўльтыматыўнага ліста. У выніку мы часта ў вельмі нязручным палажэньні, бо ня маем патрэбных экзэмпляраў кнігі для абмену з рознымі навуковымі ўстановамі. У такім палажэньні мы тут не разумеем, як можна вымагаць, каб мы плацілі задоўжанасьць за тое, чаго мы самі не атрымалі? [...]*

*Пішаце пра вялікія вымаганьні рознае грамадзкае ахвярнасьці ў Мюнхэне. Тое самае і ў Нью Ёрку. І тут інж[ынэр] Абрамчык быў месяцамі падтрымліваны і ўтрымліваны, таксама й па выезьдзе ды пасьля нешчасьлівага выпадку, з той толькі розьніцай, што ішлі на гэта тут ня тысячы марак, а тысячы даляраў. Што да тае ахвярнасьці: яна паказвае на патрыятызм, калі ахвяра даецца з свае кішэні, калі на гэта абмяжоўваем мы свае патрэбы й выдаткі. Ніякая-ж «ахвярнасьць», калі забіраюцца на гэта грошы, прызначаныя на найбольш важную й найбольш занядбаную галіну нашага эміграцыйнага выдавецтва — навуковую, ды яшчэ гэтак, што гэта пагражае поўным яе сарваньнем"*[292].

Пятая кніга "Запісаў" выйшла ў 1970 г., ажно праз чатыры гады пасьля папярэдняй. Яна зьмяшчала ня толькі Тумашавы артыкулы "Доктар Франьцішак Скарына", "Скарына ў Падуі", "Кнігі Скарыны ў Італіі першае паловы XVI ст.", але галоўнае — ягоную *"Scoriniana nova"* (1926–1966):

*"У нарысе «Scoriniana, 1776–1926» Уладзімера Пічэты, што памешчаны ў менскім скарынінскім юбілейным зборніку 1926 году Інстытуту Беларускае Культуры «Чатырохсотлецьце беларускага друку», дадзены*

[292] Ліст В. Тумаша да П. Урбана ад 18.01.1969. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*агляд важнейшае скарынаведнае літаратуры за 150 папярэдніх год. Хоць ад друку Пічэтавай Scoriniana мінула ледзь сорак год, у галіне скарынаведных дасьледаваньняў новага, цікавага й важнага столькі, што паўстае патрэба даць агляд усёй той важнейшай новай літаратуры, якая датычыць жыцьця, дзейнасьці й пісьменьніцкае ды выдавецкае спадчыны доктара Франьцішка Скарыны”*[293].

## Юбілеі

“Запісы” сталіся хіба найбольшым і найлепшым падарункам Вітаўту Тумашу на ягоны юбілей.

*“10 сьнежня 1970 г.*

*Яго Міласьці Доктару Вітаўту Тумашу,*

*Старшыні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, ЗША.*

*Вельмі Паважаны й Дарагі Спадар Доктар!*

*Галоўная Ўправа Згуртаваньня Беларусаў Канады сардэчна вітае Вас з 60-мі ўгодкамі Вашага жыцьця, 40-вымі ўгодкамі Вашай навукова-грамадзкай дзейнасьці й шле Вам найлепшыя пажаданьні добрага здароўя, памыснасьці ў прыватным жыцьці, посьпехаў у прафэсыйнай працы ды багатых плёнаў у Вашай навукова-грамадзкай дзейнасьці.*

*Вы ня толькі зрабілі каштоўны ўклад у Скарынаведу ды іншыя галіны Беларусаведы, Вы былі здаўна і ёсьць настаўнікам, апякуном, патронам беларускіх паэтаў, беларускіх мастакоў пэндзьля, а праз БІНіМ — маторам навукова-культурнага жыцьця на эміграцыі.*

*Адзін з Вашых гадунцоў-паэтаў — Ларыса Генюш — кажа: «Першыя вершы мае — жураўлі, дзякуюць Вам за апеку...»*[294] *І ЗБК*[295] *дзякуе Вам «за апеку» й шчыра жадае ўдачаў на далейшым Вашым шляху, а «...гэта толькі пачатак шляху, калі шлях гэты дзейны й творчы!» (Л. Г.)*

*З глыбокай пашанай да Вас, за Галоўную Ўправу ЗБК*
*Др. Раіса Жук-Грышкевіч”.*

---

[293] Тумаш, В. *Skoriniana nova* // Запісы БІНіМ. Вып. 5 (11). Мюнхэн, 1970. С. 145.

[294] Цалкам верш, напісаны 22.X.1970, гл. у кн.: Юрэвіч. Л. Камэнтары. Менск, 1999. С. 277.

[295] **ЗБК** — Згуртаваньне Беларусаў Канады.

*“Доктару Вітаўту Тумашу, Лекару й Народнаму Дзеячу.*

*Дарагі Вітаўт.*

*У дзень Сьвяткаваньня Твайго 60 гадоў прымі мае і мае радзіны пажаданьні паводжаньня ў далейшым жыцьці ды агульныя 100 год.*

*Ведаючы абставіны Твайго існаваньня, ня памылюся, калі прывітаю й з 45 гадамі народнай дзейнасьці. Ды пажаданьні далейшага павадырства ў нашым народзе. Многія годы.*

*Звычна людзі маюць помач бацькоў і грамады ў іх пачынаньнях. Няшмат гэтага было ў Тваім жыцьці, яшчэ менш у Тваёй народнай дзейнасьці.*

*Сам-сабою прабіваеш шлях і ўкладаеш сваю сілу, працу, здатнасьць і ахвоту, каб жыў Народ, жыла Беларусь.*

*Заслужаным даюць мэдалі, ставяць помнікі. Сваім волатам наш Народ і Краіна пакульшто давала шыбеніцы на Лукішках, катаргу ў Сібіры.*

*Прыдзе час, Тваё жыцьцё й Тваю дзейнасьць успамяне Народ, паставіць памятнік, непарушны ні агнём, ні вадою, ні ходам вякоў.*

*Віктар Войтанка Васілеўскі”.*

Газэта “Беларус” надрукавала зацемку “Рэфэрат і 60-годзьдзе др. В. Тумаша”:

*“Др. Вітаўт Тумаш, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, 19 сьнежня 1970 году прачытаў у БІНіМ свой чародны рэфэрат на тэму «Сучасныя навуковыя канцэпцыі этнагэнэзу беларускага народу». Дакладчык адзначыў актуальнасьць гэтае тэмы, асабліва ў савецкай гістарычнай навуцы, у сувязі з надаваньнем ёй палітычна-прапагандовага значаньня (як паказвае, прыкладам, брашура Л[аўрэнцій] Абэцэдарскага*[296] *«У сьвятле неабвержаных фактаў»*[297]*).*

*Др. В[ітаўт] Тумаш зрабіў агляд розных канцэпцыяў паходжаньня беларускага народу, пачынаючы ад тлумачэньняў этнічнае спэцыфікі Беларусаў, даваных прадстаўнікамі царскае навукі (Шахматаў*[298]*, Галубоўскі*[299]*,*

---

296 **Лаўрэнцій Абэцэдарскі** (1916–1975), гісторык, доктар гістарычных навук, прафэсар.

297 Маецца на ўвазе выданьне: Абэцэдарскі, Лаўрэнцій. У святле неабвержных фактаў. Мінск, 1969. — 110 с.

298 **Аляксей Шахматаў** (расейск. *Алексей Шахматов*, 1864–1920), расейскі філёляг, лінгвіст і гісторык, заснавальнік гістарычнага вывучэньня расейскай мовы, старажытнарускага летапісаньня і літаратуры.

299 **Пётр Галубоўскі** (расейск. *Петр Голубовский*, 1857–1907), расейскі й украінскі гісторык, прадстаўнік Кіеўскай школы гісторыкаў Уладзімера Антановіча.

*Качубінскі[300], Карскі ды інш.) аж да дасьледнікаў сучасных, у тым ліку й заходніх (Станг[301], Шэрах[302]). Апошнімі дзесяцігодзьдзямі цэнтрам спрэчак сталася пытаньне ролі балцкага этнічнага субстрату ў паходжаньні Беларусаў. Зарадзілася гэтая канцэпцыя яшчэ напрыканцы мінулага стагодзьдзя ў сувязі з выказваньнямі Галубоўскага й Качубінскага, якія спрабавалі вытлумачыць пэўныя фанэтычныя асаблівасьці беларускае мовы ўплывам балцкага этнічнага субстрату. Важным здабыткам у навуковым распрацаваньні гэтае канцэпцыі на працягу апошняга 20-годзьдзя сталіся працы праф. Сарбонскага ўнівэрсытэту Андрэя Ваяна[303] й праф. Калюмбійскага ўнівэрсытэту Юрыя Шэраха ў галіне мовы, а таксама савецкіх дасьледнікаў Тапарова[304] й Трубачова[305] ў галіне гідраніміі ды Валянтына Сядова[306] ў археалёгіі. Манаграфія В[алянтына] Сядова «Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья», выдадзеная летась у Маскве[307], у якой шырака выкарыстаная ўся папярэдняя навуковая літаратура, сталася асабліва саліднаю падбудоваю канцэпцыі балцкага субстрату ў паходжаньні Беларусаў. У наяўнасьці ўсіх гэтых працаў, сказаў др. В[ітаўт] Тумаш, выглядае, што роля балцкага субстрату ў этнагэнэзе беларускага народу навукова абгрунтаваная ды што ў далейшых досьледах гэтага пытаньня будуць хіба адно распрацоўвацца дэталі, з пэўнымі мо' адхіленьнямі ў той ці іншы бок ад асноўнае думкі.*

*Рэфэрат др. Тумаша выклікаў жвавую дыскусыю.*

*Пасьля рэфэрату неспадзеўкаю — падараваным алейным партрэтам доктара Франьцішка Скарыны ў выкананьні ведамага мастака Пётры*

---

[300] **Аляксандар Качубінскі** (расейск. *Александр Кочубинский*, 1845–1907), філёляг, гісторык славянаў, археоляг, прафэсар Новарасейскага ўнівэрсытэту.

[301] Маецца на ўвазе **Крыст'ян Швэйгар Станг** (нарв. *Christian Schweigaard Stang*, 1900–1977), нарвэскі лінгвіст, дасьледнік славянскіх моваў.

[302] Маецца на ўвазе Юры Шавялёў, які пісаў таксама пад псэўданімам **Юры Шэрах** (*Юрій Шерех*).

[303] **Андрэ Ваян** (фр. *André Vaillant,* 1890–1977), французскі лінгвіст, філёляг, спэцыяліст у славянскіх мовах.

[304] **Уладзімер Тапароў** (расейск. *Владимир Топоров*, 1928–2005), савецкі й расейскі лінгвіст, філёляг, акадэмік РАН, адзін з заснавальнікаў маскоўска-тартускай сэміятычнай школы.

[305] **Алег Трубачоў** (расейск. *Олег Трубачёв*, 1930–2002), савецкі й расейскі лінгвіст, спэцыяліст у галіне этымалёгіі славянскіх моваў і славянскай анамастыкі, лексыкограф, доктар філялягічных навук, акадэмік РАН.

[306] **Валянцін Сядоў** (расейск. *Валентин Седов*, 1924–2004), савецкі й расейскі археоляг-славіст, загадчык аддзелу палявых дасьледаваньняў Інстытуту археалёгіі РАН, доктар гістарычных навук.

[307] Маецца на ўвазе выданьне: Седов, Валентин. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. Москва, 1970. — 200 с.

*Мірановіча — прывітаньнямі ды супольным пачастункам прысутныя ўшанавалі 60-годзьдзе жыцьця прэлегента ды ягонае шматгадовае грамадзкае й плённае навуковае дзейнасьці ў галіне гісторыі беларускае культуры”*[308].

А ў наступным, 1971-м годзе, адзначалі яшчэ адзін юбілей: дваццацігодзьдзе БІНіМу. З гэтай нагоды 14.12.1971 г. на радыё “Свабода” прагучала праграма сябры Інстытуту др. Янкі Запрудніка:

*“У газэце «Літаратура й Мастацтва» за 22-га лістапада 1971 г. у артыкуле Вадзіма Круталевіча*[309] *пад загалоўкам «На канве выдуманых канфліктаў» уважліваму чытачу магло кінуцца ў вочы гэткае цьверджаньне пра дасьледніцкія цэнтры ў Амэрыцы: «Ажыцьцяўленьне нацыянальнай палітыкі і, у прыватнасьці, нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва — цэнтральная тэма ў «навуковай» прадукцыі так званага «Інстытуту беларускай навукі й мастацтва». Чытач Круталевічавага артыкулу магчыма ўпяршыню пачуў пра гэтую беларускую замежную ўстанову. Назваў яе Круталевіч, праўда, ня зусім дакладна: ейны назоў — не Інстытут беларускай навукі й мастацтва, а Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. І сёлета ў сьнежні споўнілася дваццаць гадоў ад заснаваньня гэтага Інстытуту [...].*

*Выданьні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку рассылаюцца ў галоўныя бібліятэкі сьвету, іх рэцэнзуюць у заходніх навуковых часапісах, часамі рэагуюць на іх і ў савецкіх публікацыях, але не ў БССР. Гэтак, прыкладам, агляд аднаго выданьня БІНіМ знаходзім у 24-м томе працаў сэкцыі старажытнарускае літаратуры ленінградзкага аддзелу АН СССР. 24-ы том мае загаловак «Літаратура й грамадзкая думка старажытнае Русі». У ім была зьмешчаная прыхільная рэцэнзія праскага скарынаведа Фляроўскага на працу Сымона Брагі «Доктар Скарына ў Маскве» — выданьне БІНіМ*[310].

*Дзіўна часам, што ў друку Савецкае Беларусі пра дзейнасьць ньюёркаўскага БІНіМ — поўнае маўчаньне. А калі рэдчас і пішацца, дык ня з мэтай аб’ектыўнага паінфармаваньня, а палітычнага зьняслаўленьня. Гэтак, у згадваным ужо артыкуле Вадзіма Круталевіча згадка пра Інстытут папярэджаная гэткім «уступам»: «“Дасьледчыя цэнтры” па вывучэньні*

308 Беларус. № 165. 1971.

309 **Вадзім Круталевіч** (1922–2006), юрыст, гісторык, сацыёляг, доктар юрыдычных навук.

310 Маецца на ўвазе рэцэнзія: Флоровский, А. Франциск Скорина в Москве // Литература и общественная мысль Древней Руси. Труды отдела Древнерусской литературы. Т. 24. Ленинград: АН СССР, 1969. С. 155–158.

*СССР не пакідаюць бяз увагі Беларусь. Пэўнае месца тут адведзена і розным «інстытутам», дзе супрацоўнічаюць рускія белаэмігранты, здраднікі радзімы пэрыяду Другой сусьветнай вайны».*

*У ніводным з выданьняў БССР ані навуковага, ані публіцыстычнага характару ніколі не пайшлі йшчэ далей за гэткае вось зласьліва-ляканічнае азначэньне дзейнасьці БІНіМ, хоць, як бачым, у ленінградзкім выданьні АН СССР не пабаяліся зьмясьціць рэцэнзію на адно з выданьняў Інстытуту пра Франьцішка Скарыну.*

*Выходзіць неяк і кур'ёзна і недарэчна: у Ленінградзе могуць спакойна абмяркоўваць беларускае замежнае выданьне, а ў БССР мусяць або маўчаць, або зьнеслаўляць і лаяць*".

Актыўны ўдзел БІНіМу ў беларускім грамадзкім жыцьці абумовіў тое, што Інстытут часта выдаваў прысьвечаныя пэўным юбілеям паштоўкі, маркі, спэцыяльныя прэс-рэлізы. Паколькі асноўнымі тэмамі былі постаць і дзейнасьць Францішка Скарыны, Беларуская дзяржаўнасьць, гістарычнасьць беларускага народу, то ім найчасьцей і прысьвячалі такія адмысловыя выданьні.

Гэтак, у адзначэньне 450-х угодкаў друку ў Беларусі Інстытут напрыканцы 1972 г. выдаў юбілейную марку вішнёвага колеру, пасярэдзіне якое партрэт Францішка Скарыны, узяты ў арнамэнтаваную рамку з надпісам *"450-я ўгодкі друку ў Беларусі. Д-р Фр. Скарына 1485? — 1540. Малая падарожная кніжка. Вільня, 1522–1972"*. Марка была распрацаваная Барысам Данілюком. Прадавалася яна ў кіёсках ды шырока разышлася сярод беларусаў і зьбіральнікаў значкоў ды філятэлістаў. Выйшла яна ў двух варыянтах: з зубчыкамі й бязь іх. Наклад маркі складаў 1500 экзэмпляраў.

У тым самым 1972 г. БІНіМ перавыдаў друкаваную раней арганізацыяй беларусаў-лекараў паштоўку з выяваю Францішка Скарыны й ангельскамоўным надпісам.

Несумненна, Вітаўту Тумашу хацелася большай рэакцыі й на выніке ўласных досьледаў, і на Інстытуцкія працы й выданьні — і ад беларускай грамады на эміграцыі, і ў Беларусі. Думаецца, пачуваўся ён вельмі самотным. Зь ліста да Кастуся Якуба-Птаха:

*"Цяпер, пасьля розных плянаў, спробаў, навет нейкіх пачаткаў рэалізацыі сваіх ідэяў і задумаў на беларускім выдавецкім полі, пасьля доўгае рэдакцыйна-выдавецкае працы ў галіне расейскага друку Вы просіце некага Вам «знайсьці» да выкананьня задуманага, паколькі «ў гэтую спра-*

*ву я ня буду ўлазіць!». Ня думаю, што я ці нехта іншы можа знайсьці ды накіраваць да Вас памацнікоў да Вашае, у прынцыпе, добрае справы. Справаў важных і патрэбных ёсьць не адна, а тысячы, а тых, што запраўды працуюць, нешта робяць на беларускім полі дзеля той простай прычыны, што інакш жыць у згодзе з сваім сумленьнем ня будуць, ёсьць толькі жменька. Бальшыня, як і кажнай эміграцыі, гэтак і нашай, цікавяцца справамі сваімі штодзённымі, далярамі, і пра іншае ўсё, пра ідэйна-духовыя патрэбы мала дбаюць. Дзеля гэтага добрыя справы й праэкты не рэалізуюцца. Хоць, трэба прызнаць, калі прыраўнаць наш малы лік да вялікага ліку іншых, мы кратаемся ўсё-ж можа навет ня менш, але больш. Пабудавалі свае сьвятыні, цэрквы, заснавалі дзясяткі сваіх арганізацыяў, сёе-тое й пішам і друкуем, хоць гэта мо' і капля ў моры, але ў гісторыі ня згубіцца, сваё робіць.*

*Думаю, што той, хто запраўды хоча нешта зрабіць, хто мае на гэта нутраную непераможную патрэбу, знойдзе заўсёды спосаб і магчымасьць. Добры прыклад гэтага Ваш стары знаёмы сп. Гладкі, якому ўжо 80 гадоў. Ён, сам адзін, увесь час піша, друкуе, выдае!!! Дык і «адзін у полі ваяка», і рук ніколі ня трэба апускаць"*[311].

## Пачаткі новай кніжнай сэрыі й працяг навукова-асьветнай працы

І — быццам замала было дырэктару ўласных дасьледніцкіх ды інстытуцкіх арганізацыйных справаў — ён фарсіруе новую дзялянку ў дзейнасьці БІНіМу: выданьне твораў пісьменьнікаў-эмігрантаў, якімі вычуў абавязак заапекавацца, як калісьці Ларысаю Геніюш[312]:

*"Дарагая Спадарыня Натальля!*

*Пішу, каб крануць нанава справу старую — выданьне даўно меркаванага аднатомніка Вашае паэтычнае творчасьці. Праз год якраз міне пяцьдзясят гадоў ад часу друку першага вершу — пяцідзесятыя ўгодкі. Гэта важная нагода, каб у 1971 годзе кніга была ўрэшце надрукаваная, і рупіцца пра гэта пара ўжо цяпер.*

*Галоўную перашкоду — кошты — спрадкаваць дасца супольнымі натугамі. Пакрытыя яны будуць з сумаў, задэкляраваных на выданьне кнігі*

---

[311] Ліст В. Тумаша да К. Якуба-Птаха ад 11.02.1970. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[312] Вітаўт Тумаш быў рэдактарам першага зборніку вершаў Ларысы Геніюш "Ад родных ніў" (1942).

*ўжо колькі гадоў таму. Калі справа друку будзе канкрэтна рэалізавацца — дадуць сёе-тое і іншыя. Папраўляюцца фінансы і ў Фундацыі Крэчэўскага. У гэтым годзе маюць быць сплачаныя даўгі, і налета Фундацыя зможа выдзяліць некаторую суму й на выдавецтва.*

*Дык справа цяпер за тэкстам аднатомніка. Калі рыхтаваны Вамі калісьці падбор у аднатомнік гатовы — добра было-б перасылаць яго да Нью Ёрку, каб ужо разглядацца за тэхнічным бокам справы друку. Калі-ж падбор яшчэ не гатовы — пара рабіць гэта цяпер, каб у 1971 годзе кніга пабачыла сьвет"*[313].

Што праца расьцягнецца на гады, што том выбранага "Між берагамі" ў новай сэрыі БІНіМу "Беларускія паэты й пісьменьнікі" выйдзе ажно ў 1979 годзе, не маглі ўявіць ні Вітаўт Тумаш, ні Натальля Арсеньнева. Як напісалася ў лісьце да Міколы Нікана: *"Дык па-старому, старым ладам, усё паволі папіхаецца. Бяда галоўная тая, што ўсё гэта нейк вельмі паволі, не сьпяшаючыся, як на «вечнасьць», таму, што мала ёсьць тых, якія робяць, і тым не хапае часу, сілаў, магчымасьцяў за ўсё брацца, рабіць за колькіх. Людзей то ёсьць шмат, але «чалавека» знайсьці да тае ці іншае працы нялёгка, у гэтым уся бяда"*[314].

Але людзі знаходзіліся. У 1970-я гады поруч з старымі сябрамі Інстытуту ўсё большую актыўнасьць выяўлялі маладзейшыя: др. Вітаўт Кіпель, Зора Кіпель, др. Янка Запруднік, др. Томас Бэрд, др. Янка Садоўскі, Віктар Сянкевіч, Галіна Русак. Яны далучыліся да выданьня "Запісаў", якія ў 1974 годзе вярнуліся ў Нью-Ёрк, да чытаньня рэфэратаў:

27.10.1970 — Янка Запруднік, "Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва напярэдадні свайго 20-годзьдзя. Пытаньні навукова-выдавецкае будучыні";

23.11.1970 — Вітаўт Кіпель, "Беларуская нацыянальная бібліяграфія";

12.12.1970 — Станіслаў Станкевіч, "Чатырохтомная "Гісторыя беларускае літаратуры". Спроба рэгабілітацыі гістарычнае праўды";

19.12.1970 — Вітаўт Тумаш, "Сучасная навуковая канцэпцыя этнагенэзу беларускага народу";

02.05.1971 — Галіна Русак, "Мастак і ягонае асяродзьдзе";

05.06.1971 — Віктар Сянкевіч, "Этнічны элемэнт пры заснаваньні ВКЛ";

[313] Ліст В. Тумаша да Н. Арсеньневай ад 20.04.1970. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[314] Ліст В. Тумаша да М. Нікана ад 05.07.1975. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

30.10.1971 — Вітаўт Тумаш, “Беларусы й Беларуская ССР у ліках перапісу 1970 г.”;

21.11.1971 — акадэмія 50-годзьдзя літаратурнае дзейнасьці Натальлі Арсеньневай. Рэфэрат, прывітаньні, рэцытацыі вершаў, песьні на словы юбіляркі ў выкананьні Лізы Маркоўскай і Галіны Орсы, пры фартэпіяна Эльза Зубковіч. Рэфэрат Антона Адамовіча “Аспэкты паэтычны, нацыянальны й філязафічны творчасьці Натальлі Арсеньневай”;

26.02.1972 — навуковая канфэрэнцыя з нагоды 20-годзьдзя Інстытуту. Вітаўт Тумаш, “Дыпляматычная кантравэрсыя 1646 году за беларускую мову”; Антон Адамовіч, “Канцэпцыя беларускай літаратуры й літаратуры Беларусі”; Станіслаў Станкевіч, “Партыйны наступ на літаратуру цераз літаратурную крытыку”; Вітаўт Кіпель, “Беларусіка ў англамоўным друку”;

18.03.1972 — навуковае паседжаньне. Вітаўт Тумаш, “Гістарычная канцэпцыя Вацлава Ластоўскага ў працах сучасных гісторыкаў”; Янка Запруднік, “Новае пра ВКЛ у беларускай савецкай гістарыяграфіі”;

07.11.1972 і 09.12.1972 — Антон Адамовіч, “90 год Купалы й Коласа”;

10.03.1973 — Вітаўт Тумаш, “Скарынаў папярэднік Швайпольт Фэоль[315] — пачынальнік усяго кірылічнага друку”;

14.04.1973 — Галіна Русак, “Малярская творчасьць Уладзімера Шыманца”;

19.05.1973 — Антон Адамовіч, “Беларусізацыя ў гістарычнай пэрспэктыве”;

02.06.1973 — Анатоль Цярэшка[316], “Жыцьцё ў сучаснай Беларусі”;

16.06.1973 — Мікола Гарошка, “50-я ўгодкі беларускага студэнцтва ў Празе”;

03.11.1973 — Станіслаў Станкевіч, “Уражаньні й назіраньні з падарожжа ў Эўропу й наведваньня беларускіх асяродкаў”;

16.03.1974 — дыскусійнае паседжаньне ў справе некаторых сучасных бытавых тэрмінаў. Уводныя да дыскусіі рэфэраты: Антон Адамовіч, “Прынцыпы беларускае тэрміналёгіі”; Вітаўт Тумаш, “Асноўныя крыніцы беларускае народнае лексыкі”;

---

[315] **Швайпольт Фіёль** (ням. *Schweipolt Fiol*, 1460?—1525/1526), славянскі першадрукар, які ў 1491 г. у Кракаве выдаў першыя кнігі набажэнстваў у царкоўнаславянскай мове кірылічным шрыфтам.

[316] **Анатоль Цярэшка**, колішні інжынэр зь Менску. Пісаў вершы й друкаваўся, аднак знайшоў магчымасьць, каб праз Індыю ўцячы ў ЗША. Некалькі гадоў працаваў на радыё “Свабода”, пакуль ня скончыў курсаў і не перакваліфікаваўся ў дантыста.

06.04.1974 — вечар памяці Лявона Савёнка[317];

20.04.1974 — Янка Садоўскі, “Беларуская бібліяграфія на чужыне”;

04.05.1974 — Антон Адамовіч, “«Лексыка беларускае літаратурнае мовы XIX-га ст.» Арнольда МакМіліна”;

23.11.1974 — Томас Бэрд, “Сьвятая Афрасіня Полацкая”;

07.12.1974 — Аляксандар Надсан, “Беларускія буквары XVI–XVII стст.”;

15.02.1975 — вечар памяці Юркі Віцьбіча[318]. Успаміны Станіслава Станкевіча, Антона Адамовіча, Міколы Гарошкі, Антона Шукелойця;

01.03.1975 — Васіль Глазкоў[319], “Уражаньні пра сустрэчу з Аляксандрам Салжаніцыным[320] і ягоны пагляд на нацыянальнае пытаньне ў СССР”;

10.04.1976 — Антон Адамовіч, “Пэрыядычны друк як гадавальнік беларускае літаратуры”;

02.05.1976 — Антон Адамовіч, “Успаміны пра Ўладзімера Дубоўку”;

15.05.1976 — Янка Запруднік, “Балцкі субстрат у этнагэнэзе беларускага народу і ўтварэньне ВКЛ”;

29.05.1976 — Антон Адамовіч, “«Узвышша» ў гістарычнай пэрспэктыве. Да 50-годзьдзя заснаваньня”;

19.06.1976 — Вітаўт Тумаш, “Жыцьцё, дзейнасьць, пагляды Васіля Цяпінскага. Да 400-годзьдзя ягонае друкарні”;

03.10.1976 — акадэмія з нагоды 80-годзьдзя кампазытаркі Эльзы Зубковіч з уступным словам др. Вітаўта Тумаша, адчытаньнем рэфэрату праф. Алеся Карповіча “Музычная творчасьць Эльзы Зубковіч”.

---

[317] Лявон Савёнак памёр 21 лютага 1974 г.

[318] Юрка Віцьбіч памёр 6 студзеня 1975 г.

[319] **Васіль Глазкоў** (1908–1987), казацкі палітычны дзеяч, у часе Другой сусьветнай вайны быў кіраўніком Казацкага нацыянальнага вызваленчага руху (КНОД), які арыентаваўся на Нямеччыну. У паваенны час працягваў дзейнасьць у казацкім руху, удзельнічаў у Антыбальшавіцкім блоку народаў. Нягледзячы на рознагалосьсі з атаманам Ігнатам Білым, пасьля сьмерці апошняга ў 1973 г. Глазкоў заняў пасаду вярхоўнага атамана. У 1972 г. у Нью-Ёрку выйшла ягоная кніга *“History of Cossacks”*.

[320] **Аляксандар Салжаніцын** (расейск. *Александр Солженицын*, 1918–2008), расейскі пісьменьнік, публіцыст, грамадзкі дзеяч, дысыдэнт. Ляўрэат Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры 1970 г.

# БІНіМ і тэма нацыянальнасьцяў

Гады 1960–1980-я, калі амэрыканскія саветолягі інтэнсіўна займаліся вывучэньнем савецкай супэрдзяржавы, давалі нагоду сябрам БІНіМу браць удзел у розных канфэрэнцыях, сымпозіюмах ды выдавецкіх праектах і рэпрэзэнтаваць там беларускі пагляд на справы. Палітыкі патрабавалі адказу на пытаньні пра паходжаньне й характар загадкавага расейска-савецкага сьфінкса.

У ліку саветазнаўчых выданьняў зьявілася ў 1975 г. салідная кніга пад рэдакцыяй праф. Зэва Каца (*Zev Katz*) “Даведнік галоўных савецкіх нацыянальнасьцяў” (Нью-Ёрк — Лёндан, 1975. Мапа, табліцы, бібліяграфія, паказьнік)[321]. На супэрвокладцы абвяшчалася, што гэта — *“Першы поўны й сыстэматычны даведнік па гісторыі, эканоміцы, культуры, адукацыі й нацыянальным сьветаглядзе галоўных савецкіх нацыянальнасьцяў СССР”.*

У даведніку апісаныя 17 нацыянальнасьцяў — тыя, што мелі саюзныя рэспублікі, плюс габрэі й татары. Аўтарам разьдзелу пра Беларусь і беларусаў быў др. Янка Запруднік, у тым часе працаўнік радыё “Свабода” й выкладчык гісторыі СССР у Кўінз-каледжы Нью-Ёрскага гарадзкога ўнівэрсытэту.

Уступ да кнігі на тэму важнасьці нацыянальнага пытаньня ў СССР напісаў шырока ведамы саветоляг, праф. Гарвардзкага ўнівэрсытэту Рычард Пайпс[322]. Вось ці ня самае галоўнае, з чаго ён пачаў свой параўнальна кароткі ўступ:

*“Нацыянальная праблема займае ўнікальнае месца ў нутраной савецкай палітыцы. Савецкі Саюз — адзіная з большых дзяржаваў, дзе паноўная нацыянальнасьць мае ледзь прыкметную бальшыню. Перапіс насельніцтва 1970 г. паказаў, што з 241,7 мільёна жыхароў СССР расейцаў налічвалася толькі 129 мільёнаў. Гэты факт нагэтулькі нязручны, што ўкладальнікі падсумавальнага тому нідзе на ягоных 648 старонках не падалі адсоткавага паказьніку — а менавіта 53,4 адсотка. Беручы пад увагу шмат хутчэйшы рост нерасейскага насельніцтва,*

[321] Handbook of major Soviet nationalities / Ed. by Zev Katz. New York: Free Press, 1975. — 481 p.

[322] **Рычард Пайпс** (анг. *Richard Edgar Pipes*, нар. 1923), амэрыканскі навуковец, саветоляг, доктар філязофіі, у 1958–1996 гг. — прафэсар расейскай гісторыі ў Гарвардзкім унівэрсытэце. У 1968–1973 гг. — дырэктар Дасьледчага цэнтру вывучэньня Расеі пры Гарвардзкім унівэрсытэце.

*і асабліва азіяцкіх нацыянальнасьцяў, час можа быць не такі й далёкі, калі «мяншыні» перавысяць тую нацыянальнасьць, якая дала савецкай дзяржаве ейных кіраўнікоў і мову".*

Усе разьдзелы даведніку напісаны паводле аднолькавай формулы: агульная інфармацыя (тэрыторыя, эканоміка, гісторыя, дэмаграфія, культура, замежныя сувязі); мэдыі (моўная статыстыка, мясцовыя СМІ, адукацыйныя, культурныя й навуковыя ўстановы); адносіны да нацыянальнага пытаньня (фактары, што ўплываюць на нацыянальнае пытаньне, асноўныя погляды навукоўцаў на нацыянальнае пытаньне, бягучыя праявы нацыяналізму); бібліяграфічныя спасылкі (пераважная бальшыня, 61 спасылка, — на айчынныя й замежныя выданьні 1960—1970-х гг.).

Даведнік адразу ж па выхадзе і на ўсе далейшыя гады стаўся незаменнаю крыніцай інфармацыі ў бібліятэках, навучальных і палітычных установах, рэдакцыях ды іншых месцах.

З маладзейшымі сябрамі Інстытуту, заангажаванымі ў працы з амэрыканскімі навуковымі ўстановамі, каледжамі, школамі, бібліятэкамі, узмацнілася дзейнасьць дзеля прасоўваньня інфармацыі пра Беларусь, пра якую на той час у ЗША або ня ведалі зусім нічога, або лічылі яе часткаю Расеі. Вельмі дзейсным крокам быў удзел у канфэрэнцыях.

У Нью-Ёрку 14 лютага 1976 г. у Калюмбійскім унівэрсытэце адбылася канфэрэнцыя на тэму "Стан грамадзкіх навукаў на Ўкраіне й Беларусі", зладжаная Ўкраінскай вольнай акадэміяй і Аддзелам вывучэньня савецкіх нацыянальных праблемаў Калюмбійскага ўнівэрсытэту, на якой з рэфэратамі выступілі др. Вітаўт Кіпель (пра стан беларускае эканомікі) і др. Янка Запруднік (пра беларускую гістарычную навуку).

Апошні браў удзел і 20—21 траўня 1976 г. у канфэрэнцыі Асацыяцыі для вывучэньня Прыбалтыкі з рэфэратам пра балцкі субстрат у этнагенэзе беларусаў ды фармаваньне ВКЛ.

Згадвае Вітаўт Кіпель:

*"Як ужо адзначалася, канфэрэнцыям, лекцыям на розных узроўнях надавалася значная ўвага. Але падкрэсьліць трэба, што асаблівы інтарэс быў у тых форумах, дзе дасьледавалася, удакладнялася, замацоўвалася этнічная спадчына ці, дакладней, вызначаліся нацыянальныя групы, якія былі актыўнымі будаўнікамі індустрыяльнай Амэрыкі, сёньняшняй дзяржавы ЗША. У дакладах прадстаўнікоў БІНіМу пасьлядоўна дакумэнтавалася раньняя прысутнасьць беларусаў у разбудове мадэрнае Амэрыкі.*

*Зора Кіпель выдрукавала ў «Запісах» артыкул, у якім даводзіць магчымасьць прысутнасьці беларусаў-ліцьвіноў у Вірджыніі пасьля побыту губэрнатара Вірджыніі Джона Сьміта ў Беларусі, у Рэчыцы, на падставе аналізу ягоных успамінаў.*

*Не сакрэт, што гэткі пагляд быў новы для амэрыканскага ня толькі шырокага грамадзтва, але й навуковага. На беларускіх эмігрантаў глядзелі як на навічкоў — «зялёных». Праблема палягала (і ў значнай меры палягае) у тым, што раньніх беларускіх эмігрантаў, скажам, пры канцы XIX — пачатку XX стст. улады не запісвалі беларусамі, а «ўціскалі» ў гатовыя рубрыкі: «расейцы», «палякі». Тварыўся гвалт, парушаліся людзкія правы. Ненармальнасьць усяе сытуацыі была ў тым, што тэрмін «беларус» ужо існаваў, як і краіна зь мільённым жыхарствам (працы Яўхіма Карскага, перапіс насельніцтва Расейскай Імпэрыі 1896 г., «Dicionary of Races» (Washington (DC), 1910). На жаль, рэчаіснасьць у той час была такая, што эмігрантаў запісвалі паводля пашпарту. Пашпарт Расейскай Імпэрыі — значыць, расеец.*

*На гэтую тэму БІНіМ апрацаваў некалькі мэмарандумаў, выдрукаваў дзясятак артыкулаў, ягоныя прадстаўнікі тлумачылі памылку ў даведачных кнігах, энцыкляпэдыях. На канфэрэнцыях аб мінулым эмігрантаў ня раз закраналіся тэмы дыскрымінацыі, эксплюатацыі, няроўніцтва эмігрантаў, параўноўвалася сытуацыя з расізмам”*[323].

Пра адну такую канфэрэнцыю газэта “Беларус” пісала:

*“Этнічнасьць і этнічныя дасьледаваньні ў навучальнай праграме — тэма канфэрэнцыі, што адбылася 23 сакавіка сёлета ў Балтыморы. Арганізатарамі канфэрэнцыі былі Амэрыканскі Жыдоўскі Кангрэс і нацыянальны Цэнтар вывучэньня этнічных групаў гарадзкога жыхарства, а спансараваў канфэрэнцыю Тоўсанскі Штатавы Каледж у Мэрыленьдзе. Беларускімі ўдзельнікамі канфэрэнцыі былі др. Вітаўт Кіпель і інж. Васіль Мельяновіч, рэпрэзэнтуючы Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Ньюёркаўскую Публічную Бібліятэку і Ўсходня-Эўрапейскую Акадэмічную Асацыяцыю штату Мэрылэнд. У канфэрэнцыі прыймалі ўдзел 16 нацыянальных групаў, рэпрэзэнтуючы бальшыню школьных акругаў Мэрылэнду, каля 20 унівэрсытэтаў і каледжаў, Дзяржаўны Інстытут псыхалягічных дасьледаваньняў і Міністэрства асьветы ЗША.*

*Пасьля агульнае сэсыі канфэрэнцыі, на якой былі зрэфэраваныя праблемы вывучэньня этнічных пытаньняў, праца канфэрэнцыі адбывалася*

[323] Напісана адмыслова для гэтае кнігі.

*ў розных сэкцыях. Беларуская тэматыка была парушаная й дыскутавалася на працягу ўсяе канфэрэнцыі. Др. В[ітаўт] Кіпель і інж. В[асіль] Мельяновіч у часе агульнае сэсыі зазначылі, што беларуская група ў Амэрыцы ад прыбыцьця ў Новы Сьвет у палавіне XIX ст. знаходзілася ў найгоршым палажэньні: ёй адмаўлялі ейны нацыянальны назоў і не вызнавалі яе за асобную групу. Аналізуючы прычыны гэткага палажэньня, др. В[ітаўт] Кіпель патрабаваў, што абавязкам навукова-пэдагагічнага грамадзтва Амэрыкі [ёсьць] гэтыя памылкі паправіць цяпер.*

*Абодва беларускія дэлегаты зьвярнулі ўвагу на няправільнасьць пагляддаў нэгрыцянскіх прадстаўнікоў, на думку якіх усе белыя карыстаюцца роўнымі правамі. Др. В[ітаўт] Кіпель ім адказаў, што хоць нэграў дзеля колеру скуры і адасабнялі, аднак іх вызнавалі, нас-жа, Беларусаў, белае грамадзтва нат не вызнавала, а гэта было такім самым гвалтам, як і расавая дыскрымінацыя. Інж. В[асіль] Мельяновіч падчыркнуў, што беларуская група дамагаецца, каб у статыстычных паказьніках Беларусы былі запісаныя як «Беларусы», а не як «іншыя».*

*Др. В[ітаўт] Кіпель даў аналіз блізу 40 падручнікаў сярэдніх і пачатковых школаў, якія павінны быць папраўленыя й перавыдадзеныя. Прадстаўнікі штатнага Міністэрства асьветы ў вадказ на ягоныя патрабаваньні паінфармавалі, што падручнікі пераглядаюцца прыблізна праз кажныя адзін-два гады й што ў гэтых падручніках будуць у будучыні прадстаўленыя ўсе нацыянальныя групы і ўклад кажнай зь іх у амэрыканскую культуру.*

*Інж. В[асіль] Мельяновіч зрэфэраваў стан і колькасьць Беларусаў як гораду Балтымор, гэтак і штату Мэрылэнд. Дарэчы, у Этнічную Раду гораду Балтымор увайшлі ад беларускай групы сп. Лявон Кавалёў і інж. В[асіль] Мельяновіч як прадстаўнікі Беларускага Задзіночаньня штату Мэрылэнд.*

*У залях канфэрэнцыі былі зарганізаваныя нацыянальныя стэнды прэсы, друку й народнага мастацтва. Беларускі стэнд, упрыгожаны народным арнамэнтам, знаёміў зь беларускім друкам ЗША. Дзякуючы інж. В[асілю] Мельяновічу, які зьяўляецца старшынём Усходня-Эўрапэйскае Акадэмічнае Асацыяцыі штату Мэрылэнд, была выдадзеная адмысловая брашура ў ангельскай мове пра Беларусь і раздавалася ўдзельнікам канфэрэнцыі.*

*Наагул канфэрэнцыя была добра зарганізаваная й спраўна праведзеная. Мела яна вялікае значаньне для нас, Беларусаў, бо на ёй бадай упершыню ў Амэрыцы была шырака закранутая беларуская праблема ў настаўніцкім асяродзьдзі"*[324].

---

[324] Госьць. Этнічная канфэрэнцыя ў Балтыморы // Беларус. № 204. 1974. С. 3.

# Падручнік беларускай мовы

Яшчэ ў 1972 г. у Штатным каледжы Джэрзі-Сіці адбылася чарговая канфэрэнцыя, прысьвечаная вывучэньню нацыянальных групаў. Была яна зарганізаваная катэдрай гісторыі й сацыялёгіі; тэма фармулявалася як "Дасьведчаньне нацыянальнае групы ў амэрыканскім шырокім грамадзтве". У канфэрэнцыі, на якую сабраліся каля 200 асобаў, бралі ўдзел прадстаўнікі польскай, італьянскай і грэцкай нацыянальнасьцяў. Ад беларусаў выступаў др. Вітаўт Кіпель. Ён падкрэсьліў, што беларуская група ў амэрыканскім грамадзтве займае асобнае палажэньне: эміграцыйныя ўстановы іх афармлялі не як беларусаў, а запісвалі краіны паходжаньня, і тыя заставаліся з гэткай памылковаю біркаю — рэдка, што праўда, супрацiўляючыся — да канца жыцьця. За першапачатковым памылковым азначэньнем нацыянальнасьці ішлі далейшыя: праваслаўныя цэрквы й каталіцкія касьцёлы, куды траплялі эмігранты-беларусы, былі вядомыя як расейскія або польскія, і таму прабівацца беларускай нацыянальнасьці было зусім няпроста. Вітаўт Кіпель зазначыў, што выпраўленьне падобных памылак павінна адбывацца праз школу, праз падручнікі. І дакладчыка падтрымала аўдыторыя, у тым ліку прысутны знаны амэрыканскі сацыёляг і філёзаф Майкл Новак[325].

Прызвычаеныя не чакаць вонкавай дапамогі, а разьвязваць праблемы ўласнымі сіламі, сябры Інстытуту, найперш Вітаўт Тумаш і Антон Адамовіч (у архіве захоўваецца па-над сотню лістоў-кансультацыяў) у супрацы з Валянцінаю Пашкевіч і Каардынацыйным камітэтам беларусаў Канады[326] ды БІНіМам у Канадзе пастанавілі скласьці й выдаць гэтак патрэбны падручнік беларускай мовы, дзе б таксама былі мо кароткія, але праўдзівыя весткі пра Беларусь і яе гісторыю. На выданьне здабылі нават невялікую дапамогу ад ураду Канады, відавочна недастатковую, і тады пры БІНіМе быў заснаваны Фонд беларускіх падручнікаў:

---

[325] Беларус. № 181. 1972.

**Майкл Новак** (англ. *Michael Novak*, 1933–2017), амэрыканскі філёзаф славацкага паходжаньня, журналіст, публіцыст, дыплямат, аўтар дзясяткаў кніг па філязофіі культуры

[326] **Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады** — структура, заснаваная ў 1966 г. для рэпрэзэнтацыі ўсіх беларусаў Канады на агульнадзяржаўным узроўні. У яе склад уваходзілі іншыя беларускія арганізацыі: Згуртаваньне беларусаў Канады, БІНіМ у Канадзе, Згуртаваньне беларусаў правінцыі Кўэбэк.

*“Да Беларускага грамадзтва.*

*Падручнік беларускай мовы, на які Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады атрымаў ад Канадыйскага ўраду 6000 даляраў грант — ужо гатовы да друку. Гэта падручнік для дзяцей і дарослых зь беларускімі і ангельскімі тэкстамі, з граматыкай і правапісам, з ілюстрацыямі й слоўнікам — разам каля 350 бачынаў друку. Падручнік мае быць мэтадычны й практычны, такі падручнік нам вельмі патрэбны.*

*На вялікі жаль, кошты друку гэтага падручніка перавышаюць усе нашы спадзяваньні, бо будуць у два разы большыя за дзяржаўную дапамогу, што мы атрымалі. Ахвяры, якія дагэтуль сабралі на гэту дапамогу БІНіМ у ЗША і БІНіМ у Канадзе, памагаюць толькі часткова. Нам патрэбна куды большая дапамога, дапамога ўсяго нашага грамадзтва.*

*І няма тут ніякага дзіва. Урад дае частковую дапамогу й толькі тым, што хочуць і могуць самі сабе памагчы, пакрываючы рэшту коштаў. І тут беларускае грамадзтва мае найлепшую нагоду паказаць сваю жыцьцяздольнасьць, паказаць, што яно разумее свае нацыянальныя патрэбы ня горш, як іншыя, ёсьць грамадзка сьведамым і ахвярным і гатова даць сродкі і на выданьне падручніка свае роднае мовы.*

*Тут няма прыгнёту й цэнзуры, як пад Маскоўскай акупацыяй, наадварот, мы маем тут зразуменьне нашых патрэбаў і дапамогу. Дык мы ня можам дапусьціць, каб падручнік беларускае мовы ня выйшаў дзеля недахопу грошаў. Гэтым мы-б ня толькі запрапасьцілі справу, але й зганьбілі-б сябе й беларускую нацыянальнасьць”.*

Грошы, хай ня лёгка й ня надта хутка, былі сабраныя, і двухтамовік “Fundamental Byelorussian = Беларуская мова” Валянціны Пашкевіч пад рэдакцыяй Антона Адамовіча выйшаў у Таронта ў 1974–1978 гг.[327] У падручніку зьмяшчаліся беларускія тэксты для чытаньня з слоўнікам, кароткі курс беларускае фанэтыкі й марфалёгіі, пісьмовыя й вусныя практыкаваньні, беларуска-ангельскі й ангельска-беларускі слоўнікі пры кажнай частцы з граматычнай характарыстыкай словаў, ілюстрацыі. Граматычныя правілы й тэрміналёгія пададзеныя былі ў беларускай і ангельскіх мовах. Валянціна Пашкевіч па выхадзе падручніку пачала працу над укладаньнем ангельска-беларускага слоўніку.

---

[327] Вітаўт Кіпель: *З выданьнем двухтамовіка “Fundamental Byelorussian” было ладна працы. Беларусы з Канады зьвярнуліся ў Інстытут па фінансавую дапамогу. БІНіМ згадзіўся, бо тыя колы ў Канадзе, што далі пэўную суму на падручнік, абяцаліся даць новы грант на друк будучага ангельска-беларускага слоўніку. З часам сытуацыя зьмянілася, і спадзяваньня на грошы з Канады не было ўжо. Таму БІНіМ забраў картатэку і ўсю ідэю выданьня слоўніку ў ЗША.*

# Выставы, фэстывалі, канфэрэнцыі

Яшчэ адна ініцыятыва Інстытуту датычыла выставаў: БІНіМ стаў ладзіць экспазыцыі беларускіх мастакоў замежжа. Першая адбылася 9 сьнежня 1973 — 3 лютага 1974 г., а другая — 28 лістапада — 31 сьнежня 1976 г. Бралі ў іх удзел ня толькі мастакі, што жылі ў ЗША, але й творцы-беларусы з Эўропы[328].

12 чэрвеня 1976 г. у Мастацкім асяродку штату Нью-Джэрзі ў Голмдэл адбыўся першы масавы Беларусі фэстываль. Арганізацыйны камітэт, у які ўваходзілі 32 чалавекі, узначальваў др. Вітаўт Кіпель. Асноўнымі спонсарамі зь беларускага боку былі Беларуска-Амэрыканскае задзіночаньне, Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі[329] й БІНіМ. Галоўная частка праграмы складалася з вакальна-музычных і харэаграфічных выступаў у амфітэатры Мастацкага асяродку. Народныя танцы выконвалі гурткі зь Нью-Брансўіку, Саўт-Рывэру, Нью-Ёрку, Кліўлэнду, Таронта. Была арганізаваная выстаўка-продаж мастацкіх вырабаў, сувэніраў, часопісаў, кніг; мадэлі дэманстравалі народнае адзеньне з розных рэгіёнаў Беларусі з адначасным паказам працэсу тканьня паясоў і пражы лёну на калаўроце. Адбыліся й спартовыя гульні. Гэты фэстываль быў першаю па-за межамі Беларусі масаваю мастацкаю імпрэзаю, своеасаблівым *happening*'ам. У ім узялі ўдзел больш за 3000 чалавек, лік выканаўцаў перавышаў 160.

З часам значнасьць гэтай імпрэзы настолькі ўзмацнілася, што на Трэці Беларускі фэстываль у ЗША (21 траўня 1979 г.) былі дасланыя вітаньні нават зь Белага дому ад прэзыдэнта Джымі Картэра[330], а губэрнатар штату Нью-Джэрзі[331] адзначыў фэстываль адмысловаю праклямацыяй:

*“Дзеля таго, што жыхары беларускага паходжаньня складаюць важную частку ўсяе нашае грамадзкасьці штату, ды*

---

328 Вітаўт Кіпель: *БІНіМ быў выдаў спэцыяльныя граматы, якімі ўзнагароджвалі ўдзельнікаў мастацкіх выставаў. Падрабязьней пра выставы гл. кнігі др. Янкі Запрудніка.*

329 **Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)** — грамадзкая арганізацыя, створаная ў 1951 г., якая мела на мэце каардынацыю розных беларускіх структураў у ЗША, аднак здолела аб'яднаць толькі мясцовых прыхільнікаў БЦР.

330 **Джымі Картэр** (анг. *Jimmy Carter*, нар. 1924), 39-ы прэзыдэнт ЗША (1977–1981).

331 Маецца на ўвазе **Брэндан Бэрн** (анг. *Brendan Thomas Byrne*, нар. 1924), амэрыканскі палітык-дэмакрат, губэрнатар штату Нью-Джэрзі ў 1974–1982 гг.

*Дзеля таго, што жыхары беларускага паходжаньня адзначаюць 61-я ўгодкі Беларускае Народнае Рэспублікі, не зважаючы на тое, што на іхнай бацькаўшчыне пануе камуністычная Расея, ды*

*Дзеля таго, што жыхаром беларускага паходжаньня важна з пашанай перахоўваць сваю багатую культурную спадчыну, каб ейныя асаблівасьці маглі перадавацца з пакаленьня ў пакаленьне, ды*

*Дзеля таго, што новы сэзон у Цэнтры мастацтваў штату Нью-Джэрзі ў Голмдэл пачынаецца паказам беларускага мастацтва й культуры,*

*Дзеля таго я, Брэндан Бэрн, губэрнатар штату Нью-Джэрзі, гэтым абвяшчаю 21 траўня 1979 году Днём беларускага фэстывалю”*[332].

А яшчэ праз год ён жа пісаў:

*“Др. і спн. Вітаўт Кіпель. З прыемнасьцю засьведчваю Вашую падтрымку і ўдзел у фэстывалі Парк Свабоды — 1980. Вашыя асабістыя й агульныя намаганьні зрабілі гэтую імпрэзу адной з найбольш пасьпяховых, што калі-небудзь адбываліся ў Нью-Джэрзі. Каля 25 000 чалавек мелі магчымасьць спазнаць Вашую культуру за адзін дзень”*[333].

У лютым 1977 году ладзіліся канфэрэнцыя БІНіМу й чарговы сход Інстытуту. Асноўнай падзеяй пры адзначэньні 25-гадовага юбілею Інстытуту сталася навуковая канфэрэнцыя ва ўнівэрсытэце Сэтан-Гол[334] (штат Нью-Джэрзі), у якой з дакладамі бралі ўдзел Вітаўт Тумаш, Івонка Сурвілла, Патрыша Кенэдзі-Грымстэд[335], Янка Запруднік, Янка Садоўскі, Юры Шавялёў, Антон Адамовіч, Вольга Арэхва, Станіслаў Станкевіч, Раіса Жук-Грышкевіч, Галіна Русак, Уладзімер Шыманец, Дзьмітрый Верасаў, Томас Бэрд, Уладзімер Брылеўскі, Васіль Мельяновіч, Вітаўт Кіпель. Вынікі надрукавалі ў 17-м выпуску “Запісаў” (1983) — амаль усе тэксты тому былі ў ангельскай мове[336].

---

332 Арыгінал захоўваецца ў архіве Вітаўта Кіпеля. Пераклад з ангельскай — Лявона Юрэвіча.

333 Ліст Б. Бэрна да В. і З. Кіпеляў ад 23.10.1980. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

334 **Унівэрсытэт Сэтан-Гол** (анг. *Seton Hall University*) — прыватная каталіцкая навучальная ўстанова ў горадзе Саўт-Оранж, Нью-Джэрзі.

335 **Патрыша Кенэдзі Грымстэд** (анг. *Patricia Kennedy Grimsted*, нар. 1935), амэрыканская дасьледніца-беларусістка, аўтарка найбольшай працы-даведніку аб архівах *“Archives and Manuscript Repositories in the USSR: Estonia, Latvia, Lithuania and Belorussia”* (*Princeton*, 1980, 1981). Разьдзел, прысьвечаны архівам БССР, выдаваўся асобнай брашурай.

336 Вітаўт Кіпель: *Трэба заўважыць, што БІНіМ ладзіў навуковыя зборкі ня толькі для сваіх сяброў. Інстытут адзначаў юбілеі, выхад кніжак і пад. сярод шырокага*

У гэтыя ж дні абралі новую ўправу: др. Вітаўт Тумаш — старшыня, Антон Адамовіч — заступнік, Янка Запруднік — сакратар, Вітаўт Кіпель — скарбнік, Зора Кіпель і Антон Шукелойць — сябры ўправы.

## Сэрыя “Беларускія паэты й пісьменьнікі”: Натальля Арсеньнева й Алесь Салавей

Над кнігамі Вітаўт Тумаш ужо працаваў не ў самоце. Згадвае Вітаўт Кіпель:

*“Першай кнігай у сэрыі [«Беларускія паэты й пісьменьнікі»] было пастаноўлена выдаць творы Натальлі Арсеньневай, якая, багата пішучы, была «па вушы» ўцягнутая ў грамадзкую працу ды была нязьменным беларускамоўным сакратаром БІНіМу аж да ейнага выезду зь Нью-Ёрку ў горад Рочэстэр, штат Нью-Ёрк. Пачаўся збор матэрыялаў. Паколькі Зора [Кіпель] адразу заявіла, што ўкладае ліставаньне й бібліяграфію твораў Арсеньневай — матэрыялы зьбіраліся ў Зоры і ў хаце ў Тумаша. Рэдагаваць творы было даручана Адамовічу, што не было добрым выбарам, бо, як здавалася, паэтка не лічыла Адамовіча «адпаведным» рэдактарам. Яна з большай ахвотай згадзілася б, каб творы рэдагаваў Тумаш, які ейную паэзію цаніў вельмі высака, а Адамовіч быў «крытычны».*

*Як толькі было пастаноўлена друкаваць творы Арсеньневай, я разаслаў ад БІНіМу ліст-інфармацыю аб запачаткаваньні новай кніжнай сэрыі, дзе прасіў грамадзтва дапамагчы фінансава ды прысылаць — калі ў каго ёсьць — лісты, фота, газэтныя выцінкі аб Натальлі Арсеньневай. Першы інфармацыйны ліст быў разасланы ў 700–800 копіях. Адказы пачалі прыходзіць амаль імгненна: Натальля Арсеньнева была дзейны грамадзкі працаўнік, ведамая паэтэса — грамадзтва яе паважала, любіла й адгукнулася.*

*Хутка за першым лістом я разаслаў другі, у якім паведамляў, што друк твораў Арсеньневай БІНіМ вырашыў рабіць у амэрыканскім выдавецтве Wm. Wise, Crowley & Co. у горадзе Джэрзі-Сіці, бо нам там давалі найлепшую цану за друк, туды быў вельмі выгодны даезд, а друкарня была*

*грамадзтва. Часта беларускія даклады рабіліся ў небеларускіх асяродках, арганізацыях. Былі сувязі з Украінскай вольнай акадэміяй у Нью-Ёрку, Навуковым таварыствам імя Т. Шаўчэнкі, Польскім інстытутам навукі й мастацтва ў ЗША, Мадзярскім інтэлектуальным асяродкам Пэтэфі ў Нью-Ёрку, Літоўскім інстытутам у Бостане, Польскім музеем і Асацыяцыяй у Чыкага, Эстонскім нацыянальным камітэтам, асабліва сталая зьява — вечары зь беларускімі пісьменьнікамі ў Кўінзаўскім унівэрсытэце.*

*адчыненая 15 гадзін штодзённа. Мы замовілі тыраж 3000 асобнікаў, кошт быў ацэнены на 7–8 тысячаў даляраў, пры гэтым кожная кніга загортвалася ў гермэтычна зачынены канвэрт (для нас гэта было вельмі важна — яшчэ і сёньня «ў падвалах» сустракаюцца асобнікі кнігі Арсеньневай і выглядаюць яны як новыя!). Суму на друк Арсеньневай я сабраў досыць хутка, але рассылаў лісты з напамінамі і далей (усяго разам разаслаў каля 5000 лістоў), маючы на ўвазе стварыць літаратурны фонд, бо ў плянах былі й далейшыя кнігі.*

*Бясспрэчна, я бачыў, што паміж БІНіМам і грамадзтвам наладжвалася супрацоўніцтва: здавалася, што грамадзтва ставілася да літаратуры пасіўна, аж водгук давёў адваротнае. Аднак, плянуючы далейшыя выданьні, мы ўсё ж былі асьцярожныя, бо падтрымка выданьня твораў аўтарытэтнай і вядомай паэткі магло яшчэ й ня быць паказьнікам сапраўднага настрою грамадзтва. Арсеньнева як паэтка была ведамая ня толькі беларускаму чытачу, яе ведалі і ўкраінцы, і расейцы ды куплялі ейныя кнігі.*

*Аб кнізе Натальлі Арсеньневай прыпамінаецца і такое. Сярод маіх знаёмых «па кніжнай справе» была ў Нью-Ёрку арганізацыя «Міжнародны літаратурны клюб». Гэта амэрыканская ўстанова, якая распаўсюджвала эміграцкія кнігі, галоўным чынам расейскія, такіх выдавецтваў як імя Чэхава або YMCA-Press*[337]*. З гэтае ўстановы пазванілі мне на працу і сказалі, што хацелі б мець кнігу Арсеньневай «Між берагамі». Я пытаю: «Колькі экзэмпляраў жадаеце?» Адказ: «Тысячу». — «OK, прыяжджайце, вось вам адрас». Прыехалі, забралі, заплацілі (мы давалі зьніжку на 10 %, калі бралі больш як 10 штук) і... паехалі. Кніга Арсеньневай нелегальна распаўсюджвалася ў СССР.*

*Узялі кнігу Арсеньневай кнігагандляры Szwede*[338] *ў Каліфорніі, Камкін у Вашынгтоне, а таксама магазын «Тройка»*[339] *ў Канадзе. Некалькі тамоў Арсеньневай запрасілі ў нас з былога чэхаўскага выдавецтва, а таксама індывідуальныя кнігагандляры, улучна з Аляксандарм Лашуком з Ангельшчыны.*

*(Прыпомніўшы аб вялікім закупе кнігі Арсеньневай, мушу згадаць і тое, што кнігу I і II падручніка «Fundamental Byelorussian» Валянціны Пашкевіч*

---

[337] ***YMCA-Press*** — выдавецтва расейскай кнігі пад шыльдаю міжнароднай моладзевай хрысьціянскай арганізацыі *YMCA*. Заснаванае ў 1921 г. у Празе, з 1925 г. працуе ў Парыжы.

[338] Відаць, маецца на ўвазе крама *Szwede Slavic Books*.

[339] **«Тройка»** (анг. *«Troyka»*) — расейская кніжная крама ў Таронта, заснаваная ў 1953 г.

*закупіла амэрыканскае вайсковае ведамства ў горадзе Сіэтл, штат Вашынгтон, колькасьцю сто экзэмпляраў, пасьля яны купілі і слоўнік.)"*[340]

Усё яшчэ ў чаканьні зборніку выбраных вершаў Натальлі Арсеньневай Вітаўт Тумаш распачаў захады дзеля выданьня другога тому ў інстытуцкай сэрыі "Беларускія пісьменьнікі й паэты" — спадчыны Алеся Салаўя:

*"Дарагі сп. Нікан!*

*Праф. Адамовіч дастаў ужо паэтычную спадчыну А[леся] Салаўя, высланую яму сп-няй З[інай] Кадняк. Да пачатку верасьня ён будзе яшчэ заняты зборнікам Арсеньневай, на тады абяцае гэты зборнік будзе гатовы да друку. Тады ён паедзе з прамовай на Сустрэчу беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Тароньце, і, пасьля павароту, зможа заняцца зборнікам А[леся] Салаўя.*

*Такія пляны праф. Адамовіча, але за ягоныя тэрміны, як Вы ведаеце, ніхто ручацца ня можа. Можа так будзе, можа й не. Ён, як ведама, не паддаецца ніякой агітацыі, прапаганьдзе ці пануканьням. Але прадмова да зборніка Арсеньневай, выглядае, да пачатку верасьня будзе ўрэшце гатовая.*

*У справах спадчыны Паэты-Нябожчыка праф. Адамовіч напісаў ужо і сп-ні Зіне Кадняк. Яна, здаецца, вельмі неспакойная, нэрвуецца, хоча, каб друкаваць зараз па атрыманьні рукапісу. Гэткія справы так хутка аднак ня робяцца. Можаце заручыцца, што з боку Інстытуту будзем у меру магчымасьці праф. Адамовіча падганяць, каб ён з рэдакцыяй не марудзіўся"*[341].

Калі ж у траўні 1979 г. кніга Натальлі Арсеньневай "Між берагамі" нарэшце выйшла, Тумаш заняўся зборнікам Салаўя ўшчыльную:

*"Вельмі Паважаны Сп. Прускі!*

*Дзякую за Ваш ласкавы ліст, які атрымаў яшчэ ў ліпені, у якім была Вашая прынцыповая згода ўзяцца за справу надрукаваньня для Інстытуту кнігі паэзіі Алеся Салаўя. Не адказваў, бо мы тут усё яшчэ ня былі гатовыя з зборам усяе спадчыны паэты й ня ведалі, якой вялічыні кніга будзе. Цяпер ужо ясна, што кніга выйдзе меншай за кнігу Арсеньневай; паводля нашага шацунку, ня большая за 320 бачынаў, а можа ўцісьнемся і ў 288. Тэксты*

---

340 Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. Успаміны. Мінск, 2015. С. 311.

341 Ліст В. Тумаша да М. Нікана ад 10.08.1978. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*гатовыя для набору будуць ужо ў пачатку верасьня, і таму час дамовіцца пра кошт друку. Фармат, папера, пераплёт кнігі мае быць такі самы, як кнігі Арсеньневай. Таксама і набор на бачыне — верш пад вершам, а не адзін толькі верш на адной бачыне. Тыраж — 1000.*

*Кніга Арсеньневай тэхнічна была выкананая «ў два такты» — тэкст кнігі набіў на вэрытайпэры на бачыны сп. Акула ды пераслаў у Нью Ёрк. Тут, непадалёк ад Нью Ёрку, мы знайшлі выгаднага нам, бо блізкага й таннага друкара, які бачыны склаў у аркушы, аддрукаваў кнігу ды кнігу пераплёў у цьвёрдую вокладку. Усе кошты сп. Акулы для нас — 1428 дал., кошт-жа друку й пераплёту — 3800 дал. Было яшчэ пару сот даляраў выдаткаў іншых, прыпадковых, якіх тут не падаю"*[342].

Гэта быў апошні кнігавыдавецкі праект Вітаўта Тумаша; выбранае Алеся Салаўя давялося заканчваць і друкаваць іншым. Згадвае Вітаўт Кіпель:

*"У падрыхтоўцы зборніку твораў Салаўя «Нятускная краса» ўсё ішло паводле пляну: упарадкаваньне вершаў, бібліяграфія і нават збор грошай (асабліва падтрымоўвала выданьне беларуская грамада Аўстраліі) выглядаў вельмі добра. Аж раптам — як гром зь яснага неба! 8 сакавіка 1982 году ў доктара Вітаўта Тумаша здарыўся інсульт, які меў вынікам амаль поўную інваліднасьць. [...] У гэты дзень доктар Тумаш назаўсёды адышоў ад навуковай і грамадзкай дзейнасьці, ды наагул грамадзтва яго больш літаральна ніколі ня ўбачыла. Ён ні разу не зьявіўся на зборках"*[343].

Часова Інстытут узначаліў Антон Адамовіч. Ён 28 траўня склікаў надзвычайны сход управы[344], на якой і абралі новае кіраўніцтва: старшыня — Вітаўт Кіпель, віцэ-старшыня — Антон Адамовіч, сябры ўправы: Вітаўт Тумаш, Антон Шукелойць, Янка Запруднік, Зора Кіпель. Пазьней быў дабраны ва ўправу Томас Бэрд.

---

342 Ліст В. Тумаша да М. Прускага ад 16.08.1979. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

343 Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць... С. 312.

344 Вітаўт Кіпель: *Летам 1982 г. я з Антонам Шукелойцем наведаў юрыдычную кантору Івана Фліса, дзе прадстаўлялі справу Інстытуту: разьбежнасьць дзеяньняў у адпаведнасьці з статутам — не адбываліся зьезды арганізацыі, старшынства перабіралася нерэгулярна, і інш. Нам быў дадзены такі адказ: карпарацыйныя правілы й статутовыя абавязкі дасьледчых, братэрскіх, грамадзкіх арганізацыяў могуць дапаўняцца, зьмяняцца ўправамі, калі такія адпавядаюць надзвычайнаму становішчу. І ўправа БІНІМу абвесьціла надзвычайнае становішча і працавала ў ім да скліканьня надзвычайнага зьезду.*

# Зьмена кіраўніка: Вітаўт Кіпель пра Вітаўта Тумаша

У Беларускім інстытуце навукі й мастацтва пачалася новая эра — кіпелеўская. Пра той час Вітаўт Кіпель піша:

*“У дзейнасьці Інстытуту пачынаецца новы пэрыяд — ініцыятыву пераймае кіраўніцтва крыху маладзейшае векам, пачатковую асьвету й жыцьцёвыя пагляды атрымаўшае ў Беларусі, але й сярэднюю адукацыю, і вышэйшую асьвету здабылі на Захадзе, у Эўропе. Далучаецца таксама элемэнт амэрыканскасьці: ва Ўправу ўваходзіць выпускнік Прынстану праф. Томас Бэрд. Бясспрэчна, зьмена ў кіраўніцтве выглядае, як чыста беларуская зьява, аднак, у сапраўднасьці, у дадзеным выпадку ёсьць уплыў, а мо дакладней сувязь з падзеямі амэрыканскага палітычна-грамадзкага жыцьця. Экскурс у недалёкае мінулае вытлумачыць сытуацыю.*

*Гады 1960-я — пачатак 1970-х былі ў ЗША ў палітычным сэнсе вельмі бурнымі: краіна «кіпела». Прычына неспакою — працяглая вайна ў Віетнаме, па-над 40 тысяч забітых амэрыканскіх жаўнераў. Вайна, распачатая дэмакратамі, у 1968 г. каштуе ім Белага дому. Рычард Ніксан, рэспубліканец, абіраецца чарговым прэзыдэнтам ЗША, абяцаючы скончыць вайну (але вайна працягваецца і ў сярэдзіне 1970-х). Супрацьваеннае напружаньне ўзрастае, а зь ім і незадаволенасьць Нікасанам, якога ладная частка грамадзтва ЗША не любіла. Ніксан, будучы асьцярожным і ўдумлівым палітыкам, але хваравіта амбітным, ублытваецца (дзеля ўтрыманьня ўлады!) у крымінальную справу Ўотэргэйт*[345] *з канчальным вынікам адмовы ад прэзыдэнцтва. Палітычны крызіс прыводзіць дэмакратаў у Белы дом у 1976 г. — пачынаецца прэзыдэнцтва Джымі Картэра. Варта таксама адзначыць, што ў гэты бурны пэрыяд беларуская дыяспара ў ЗША дзеіла ў пазытыўнай форме: былі навязаныя трывалыя палітычныя сувязі, на адзначэньні 200-годзьдзя краіны беларусы былі часткаю ўрачыстасьцяў.*

*У час прэзыдэнцтва Джымі Картэра зьяўляецца адна дробная дэталь, якая неўзабаве наробіць шмат клопату беларускай грамадзе ЗША, а таксама ўплыне на дзейнасьць БІНІМу. Пры Міністэрстве юстыцыі*

[345] Маецца на ўвазе **Ўотэргейцкі скандал** (анг. *Watergate scandal*) — палітычны скандал у ЗША ў 1972–1974 гг., які скончыўся адстаўкаю прэзыдэнта Рычарда Ніксана. Скандал быў зьвязаны зь нелегальным пранікненьнем у штаб кандыдата на прэзыдэнцтва ад Дэмакратычнай партыі дзеля ўсталяваньня апаратуры для праслухоўваньня размоваў.

*ствараецца Аддзел спэцыяльных дасьледаваньняў (Office of Special Incestigations), адзіным заданьнем якога было расьсьледаваньне соткі іміграцыйных справаў з мэтай выяўленьня прысутных у ЗША ваенных злачынцаў часоў Другой сусьветнай вайны. Відавочна, ініцыятарамі гэткіх расьсьледаваньняў былі яўрэйскія групы, якім не давалі спакою нацыстоўскія навукоўцы, якія былі прывезеныя армейскімі коламі для працы з ракетамі, часта з парушэньнем іміграцыйных законаў. Але расьсьледаваць адных немцаў было нелягічна, і пад перагляд патрапілі эмігранты з цэнтральных і ўсходне-эўрапейскіх краінаў, улучна зь Беларусьсю.*

*Беларусаў у праверачных сьпісах было каля 20, сярод іх — Вітаўт Тумаш і Антон Адамовіч. На гэтых двух былі зробленыя даносы ў іміграцыйныя ведамствы: маўляў, пры ўезьдзе ў ЗША ў фармулярах былі пададзеныя фальшывыя інфармацыі, факты.*

*У пачатку 1980-х Аддзел спэцыяльных дасьледаваньняў «дабраўся» да беларусаў. Вітаўт Тумаш і Антон Адамовіч былі пакліканыя фэдэральнымі ўладамі на праверку-слуханьні. Я пра гэта пісаў у «Жыць і дзеіць», бо быў перакладчыкам для іх абодвух*[346]*. Справа пошукаў ваенных злачынцаў набыла вялікі рэзананс, а канкрэтна для нас, беларусаў, вылілася ў сумнаведамаю «Справу Лофтуса»*[347].

*Дык вось-жа, расьсьледаваньне для Вітаўта Тумаша, які ў часе нямецкай акупацыі быў бургамістрам Менску ад ліпеня да кастрычніка 1941 г., засьведчыла, што Тумаш нічога ў дакумэнтах і анкетах не хаваў (як і Антон Адамовіч), і справа была зачыненая. Але, але!! Арганізм др. Тумаша не перанёс стрэсу, і ў выніку атрымаў удар, інвалідзтва, адышоў ад дзейнасьці. Але, фактычна, яго «адышлі».*

*Па ўзросьце мы былі настаўнік і вучань, але пры тым самым — сябры, аднадумцы”*[348].

---

[346] Гл.: Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць... С. 315–318, 328–329.

[347] **«Справа Лофтуса»** зьвязаная з абвінавачаньнямі Джона Лофтуса, колішняга працаўніка Кіраўніцтва спэцыяльных расьследаваньняў Аддзелу крымінальных справаў Дэпартамэнту юстыцыі ЗША. Амэрыканскі юрыст сьцьвярджаў, нібыта беларусы ў часе Другой сусьветнай вайны былі схільныя да генацыду габрэяў, і што на тэрыторыі ЗША хаваюцца нацысцкія злачынцы зь ліку беларусаў. Абвінавачаньні былі агучаныя па тэлебачаньні, а таксама апублікаваныя ў кнізе «Беларускі сакрэт» (вытрымала некалькі выданьняў, пачынаючы з 1982 г.) і прагучалі ў зьнятым паводле яе кінафільме (1985). Амэрыканскія беларусы мусілі разгарнуць кампанію супраць абвінавачаньняў Джона Лофтуса.

[348] Напісана адмыслова для гэтае кнігі.

# Сяброўства і фінансы БІНіМу

Новы старшыня меў свае ідэі, уласныя пляны, але мусіў і заканчваць адначасна пачатае папярэднікам. Ва ўспамінах "Жыць і дзеіць" ён згадвае:

"*На кнізе Натальлі Арсеньневай мы здабылі дасьведчаньне: каб мець грошы на выданьне, трэба кнігу вельмі добра рэклямаваць і абавязкова зьвяртацца да беларускага грамадзтва — малаважна, што чытацкая грамада не такая й вялікая, калі грамада адчувае працу — будзе дапамога. Фактычна праз выданьне твораў Арсеньневай усталяваўся сталы лістоўны, тэлефонны і пэрсанальны («у царкве» падчас нядзельных сустрэчаў) кантакт з грамадзтвам, што забясьпечыла БІНіМу фінансавую падтрымку ў далейшым*"[349].

Яшчэ будучы сябрам управы, якую ўзначальваў Тумаш, Вітаўт Кіпель ушчыльную заняўся пытаньнем сяброўства, а праз гэта — і фінансамі Інстытуту:

*"У Амэрыцы ў БІНіМе ў першую чаргу я ўзяўся ўпарадкаваць членства ў Інстытуце і сяброўскія складкі. Я перагледзеў крытычна картатэку сяброў БІНіМу. Тых, хто запоўніў анкеты, было чалавек 85. Разаслалі для запаўненьня 150 анкет. Некаторыя даслалі лісты, што ня хочуць запаўняць анкеты — бо баяліся анкет — але будуць належаць і дасылаць складкі.*

*Паколькі ў БІНіМе ў той час было каля сотні членаў, а складкі (здаецца, $ 30 гадавых) не зьбіраліся — я правёў інтэнсіўную кампанію збору недаплачаных складак, а прынагодна ў сотнях лістоў прасіў, каб людзі рабілі фінансавыя ахвяраваньні на інстытут. Галоўная матывацыя была: БІНіМ павінен больш друкаваць, а на друк патрэбныя грошы. І трэба сказаць, што людзі адгукнуліся — праз год-два ў касе БІНіМу налічвалася некалькі тысячаў даляраў. Можна было думаць пра сталую выдавецкую праграму"*[350].

Сябры Інстытуту мусілі запаўняць адпаведныя анкеты, якія сёньня надзвычай цікавая й важная гістарычная крыніца і нават болей — унікальныя артэфакты:

[349] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць... С. 311.

[350] Тамсама. С. 307.

*“На паліцы ў маім пакоі ляжыць адна з найцікавейшых і найкаштоўнейшых для мяне рэчаў — тэчка з анкетамі сябраў БІНіМу*[351]*. Тут сабраныя зьвесткі пра беларускіх інтэлектуалаў на эміграцыі, запісаныя імі самімі, з вылучэньнем найбольш істотнага ў інфармацыі пра сябе (адукацыя, навуковая ступеня, публікацыі, падрыхтаваныя да друку працы і г.д.). Гэтыя анкетныя запісы — цікавыя матэрыялы да біяграфіяў навукоўцаў і творцаў, а таксама падставы для роздумаў і ацэнкі даробку эміграцыйнай беларусікі.*

*Так, прыкладам, супрацоўнік унівэрсытэту ў канадыйскім Кінгстане доктар Янка Садоўскі, што далучыўся да БІНіМу ў 1967 г., пазначыў у якасьці гатовай да публікацыі сваю доктарскую працу, прысьвечаную мове выданьняў Францыска Скарыны. На жаль, гэтая дысэртацыя так ніколі і не была выдадзеная, а англамоўны і франкамоўны яе варыянты захоўваюцца ў фондзе дасьледніка ў Нацыянальным архіве Канады ў Атаве.*

*У анкеце Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка пазначаныя чатыры ягоныя наяўныя на момант запаўненьня (верагодна, 1952 г.) публікацыі:*

*«1) Process de la Ghromade Bielorusienne a Vilno. 32 бач. Выдадзена ў Празе ў 1927 г. (Брашура падпісана псэўдонімам N. Lausic — маецца тэкст у Ньюёрскай бібліятэцы).*

*2) Ліхтэнштайн — дзяржава-ліліпут. Эканамічна-сацыяльна-праўны нарыс, паводле ўласнага на мейсцы досьледу. — 1928. Подэбрады.*

*3) Эканамічная гэаграфія Беларусі — 300 бачын машынапісу, забраная да друку прафэсарам Пічэта і перадана Ігнатоўскаму, але ў друку не аб’явілася з прычыны незадоўгае сьмерці Ў. Ігнатоўскага.*

*4) Прыродныя багацьці Беларусі. Навукова-папулярны нарыс. Лёндан 1947».*

*Калі апошняя праца даволі добра вядомая, то згадкі пра першыя тры, акрамя як у БІНіМаўскай анкеце, амаль нідзе болей не сустракаюцца. Цікавая й пазначаная ў разьдзеле «падрыхтаваных да друку» манаграфія Міколы Абрамчыка, якую ён ахарактарызаваў як «Арганізацыя консульскай і дыплёматычнай службы. 120 бач. машынапісу. Мае быць падручнікам для пачынаючых практыку кадраў консульскай і дыплёматычнай службы». Пра выданьне гэтага дапаможніка таксама сёньня невядома, як і пра тое, ці захаваўся недзе машынапіс, ці згінуў разам з архівам Рады БНР.*

*Доктар Вінцэнт Жук-Грышкевіч, быў сябрам БІНіМу ад 1952 г., аднак у анкеце характарызуючы свае публікацыі абышоўся агульнымі*

[351] Сёньня анкеты захоўваюцца ў фондзе БІНіМу ў БДАМЛМ.

*згадкамі «артыкулы ў розных часопісах». У падрыхтаваных жа да друку працах значыцца назва дысэртацыі «Лірыка Янкі Купалы», абароненай у Атаўскім унівэрсытэце ў тым самым годзе. На жаль, і гэтая праца не была апублікаваная. Гэтаксама не пабачыла шырокая чытацкая аўдыторыя і дысэртацыю Міхася Саўкі-Міхальскага «Ўклад у вывучэньне старажытнасьцяў Беларусі», і працу Алеся Грыцука, прысьвечаную творчасьці Максіма Багдановіча, і шмат іншых дысэртацыяў, абароненых беларусамі ва ўнівэрсытэтах Бэльгіі, Чэхіі, Францыі, Канады, ЗША і іншых краінаў.*

*Параўнальна няшмат вядома і пра дзейнасьць значнай часткі саміх навукоўцаў, літаратараў, мастакоў — сяброў БІНіМу — як у даэміграцыйны пэрыяд, гэтак і на эміграцыі. Прыкладам, адкуль яшчэ, як не з анкеты, можна даведацца, што ў 1944 г. у Беластоку меліся выйсьці дзьве кнігі, падрыхтаваныя тым жа Алесем Грыцуком: «Праменьчык» — першая кніжка для беларускіх дзетак», і «Чытанка» для II клясы беларускіх школаў»? Або што пісьменьнік Мікола Сільвановіч (Вярба), які жыў у Вініпэгу (Канада), падрыхтаваў да друку два паэтычныя зборнікі «У Дарозе» (1947) і «Крывовы клічнік» (1950), ніводны зь якіх так ніколі і не пабачыў сьвету. Або што кампазытар Алесь Карповіч на пачатку 1950-х падрыхтаваў артыкул з гісторыі беларускай музыкі для італьянскай Enciclopedia dello spettacolo.*

*Цікава таксама, што ў складзенай у 1966 г. БІНіМаўскай анкеце Кастусь Акула пазначыў падрыхтаванымі да друку два англамоўныя творы: «Miss Cornflower» novel, ab. 250 p.; «Derelict's vengeance», novel, about 300 pages». Які лёс напаткаў гэтыя творы? Магчыма, адказ на гэтае пытаньне знойдзецца ў архівах пісьменьніка[352].*

*Анкета доўгагадовага старшыні БІНіМу Вітаўта Тумаша таксама пакідае падставы для роздумаў. Напрыклад, што сталася зь ягоным дасьледаваньнем «Беларусы на нямецкіх унівэрсытэтах XVI ст.», пра публікацыю якога бракуе зьвестак?*

*Ёсьць сярод імёнаў сяброў БІНіМу і тыя, пра каго вядома зусім мала. Відаць, не пасьпеў добра запоўніць сваю анкету самабытны беларускі мастак Аляксандар Раманоўскі. У архіўнай тэчцы захавалася толькі ўпаўнаважаньне з арыгінальным аўтографам творцы, забітага каханкаю ў Сыднэйскім гатэлі ў 1955 г. Наўрад ці шмат больш за анкетныя зьвесткі вядома сёньня пра пісьменьніка Янку Шакуна. Хіба крыху болей — пра беларускага навукоўца з Аргентыны Эміля Цяўлоўскага...*

[352] Архіў Кастуся Акулы пасьля сьмерці пісьменьніка перадалі ў Цэнтар беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе.

*Напісаныя ў розныя часы сябрамі галоўнай арганізацыі беларускіх інтэлектуалаў на Захадзе анкеты сьведчаць пра тое, кім былі тыя людзі навукі й мастацтва, якіх аб'яднаў БІНіМ. Хтосьці, як выпускнікі Лювэнскага ўнівэрсытэту Янка Запруднік, або Алесь Марговіч у 1955 г., калі падавалі зьвесткі пра сябе, яшчэ не пазначылі ніводнай публікацыі ні наяўнай, ні ў плянах. А ў кагосьці, як у Юркі Віцьбіча, Гіпаліта Паланевіча, а. Лява Гарошкі й іншых, сьпісы зробленага й заплянаванага зь цяжкасьцю зьмяшчаліся на адной старонцы. І першым, і другім БІНіМ даваў падтрымку ў рэалізацыі іхных задумаў, даваў магчымасьці для публікацыі вынікаў творчай і дасьледнай дзейнасьці"*[353].

Вітаўт Кіпель падхоплівае:

*"Прадоўжым разважаньні Натальлі Гардзіенкі аб сябрах БІНіМу ды згадаем тых, хто не запоўніў анкетаў, але пісаў пра сваё сяброўства, прыналежнасьць да Інстытуту ў лістах ці тэлефонных размовах або падчас паседжаньняў Управы.*

*Актыўным сябрам ад самага пачатку быў Уладзімер Сядура. Ён шмат даў лекцыяў, быў ведамы як «беларускі саветоляг». Я зь ім даволі часта бачыўся ў Нью-Ёрскай бібліятэцы, шмат гутарылі, ну й была асабістая сувязь: ён ведаў і Савёнкаў, і Кіпеляў ад дваццатых гадоў, а мы зь ім былі ня проста землякамі, амаль суседзямі па Менску.*

*Сядура пакінуў багатую друкаваную спадчыну, але ягоныя дасьледаваньні Дастаеўскага ня ўсе апублікаваныя, як і некалькі працаў аб беларускай культуры пад Саветамі. Архіў пасьля ягонае сьмерці мы з Зорай перагледзелі, частку матар'ялаў забраў Васіль Мельяновіч для перахаваньня ў Кліўлэндзе, дзе ён плянаваў стварыць пры ўнівэрсытэце Джона Караля*[354] *беларускі досьледны аддзел. Справа спынілася зь сьмерцю Васіля ў 2004 годзе.*

*Зь Міхасём Саўкам-Міхальскім пазнаёміліся ў Лювэне на пачатку 1950-х. Я ўжо быў на другім годзе навукі, калі Міхась, пераехаўшы з гораду Шарлеруа, таксама ў Бэльгіі, дзе працаваў у шахце, далучыўся да студэнцкай грамады, паступіўшы ў Інстытут археалёгіі й гісторыі мастацтва Лювэнскага ўнівэрсытэту.*

*Закончыў ён навуку з тытулам магістра ў археалёгіі ў 1956 г. Пасьля заканчэньня студыяў застаўся ў Бэльгіі, ажаніўся зь беларускай, сту-*

[353] Гардзіенка, Н. БІНІМ і ягоныя сябры (З архіўных матэрыялаў) // Беларус. № 587. Сьнежань 2011. С. 9.

[354] Маецца на ўвазе *John Carroll University* ў штаце Агаё.

*дэнткай мэдыцыны, а пазьней лекарам, таксама выпускніцай Лювэнскага ўнівэрсытэту Вірджыніяй (Інай) Аўсей і працаваў спачатку ў Інстытуце аховы гістарычных помнікаў Бэльгіі, затым у адміністрацыі Міністэрства культуры, мастацкім музэі. Спэцыялізаваўся ў кансэрвацыі насьценнага малярства ды дасягнуў значнае вышыні ў гэтай галіне, стаўшыся адным зь вядучых рэстаўратараў краіны. Шмат выдатных гістарычных аб'ектаў Бэльгіі рэстаўраваныя ім. Міхась быў таксама мастаком, выстаўкі адбываліся ў Бэльгіі, Францыі, ЗША (ладзіў БІНіМ).*

*Міхась Саўка таксама быў паэтам і дасьледчыкам рэстаўрацыйных тэхналёгій у Беларусі. Некаторыя ягоныя літаратурныя творы друкаваліся ў часапісе «Наперад»; падборка вершаў захавалася ў архіве Зіны Гарошкі, ягонай настаўніцы ў Беларусі, і была перададзеная ў Інстытут.*

*Магчыма, хтосьці некалі возьмецца за пошукі калекцыі ягоных малюнкаў-партрэтаў беларускіх студэнтаў Лювэну, якія ён маляваў, на што была нават вызначана невялікая фінансавая падтрымка. Адбывалася гэта летам 1952, 1953 і 1954 гадоў, было зроблена каля 20 партрэтаў. Куды яны падзеліся?*

*Спадзяюся, што ў архіве айца Аўгена Смаршчка, перададзенага ягонай жонкай у Скарынаўскую бібліятэку, знойдуцца нататкі-манускрыпт аб беларускай бібліяграфіі, амаль закончаны, у францускай мове.*

*З айцом знаёмы ад канца 1950 году, калі той пераехаў у Лювэн як праваслаўны сьвятар: закончыўшы факультэт псыхалёгіі і філязофіі Марбурскага ўнівэрсытэту ды праступдыяваўшы тэалягічныя дысцыпліны, ён быў высьвячаны ў сьвятары БАПЦ. У Бэльгіі айцу Смаршчку амаль адразу быў «нададзены» тытул старшыні Саюзу беларусаў Бэльгіі*[355] *(дзейным старшынём да ягонага прыезду быў я, але «пішчаў», каб ад «тытулу» пазбыцца, бо быў толькі на пачатку ўнівэрсытэцкіх студыяў, а гэта было галоўным). Я ўвёў яго ва ўсе дэталі бэльгійскага жыцьця. Супрацоўнічалі мы цягам чатырох год і добра пасябравалі, хоць быў маладзейшым за яго на гадоў 13. Потым жыцьцёвыя шляхі разышліся: а. Смаршчок застаўся ў Бэльгіі, а я перабраўся ў ЗША.*

*У 1972 годзе ён наведаў ЗША. Яму ладзілася сустрэча, і ён прачытаў даклад аб беларускай бібліяграфіі (скарочаная вэрсія была перад тым выдрукаваная ў Бэльгіі). Плянавалася большая кніга.*

*Віктар Сянкевіч, гісторык, вучыўся ў Лювэне, а скончыў унівэрсытэт у Гішпаніі, зрабіў дактарат. Вельмі шмат пісаў, супрацоўнічаў*

[355] **Саюз беларусаў Бэльгіі** — арганізацыя беларускіх эмігрантаў, заснаваная ў 1946 г. дзеля аб'яднаньня суайчыньнікаў, самадапамогі й рэпрэзэнтацыі беларусаў у бэльгійскім грамадзтве.

*з радыё «Свабода/Вызваленьне», псэўданім Язэп Барэйка. Пад гэтым прозьвішчам была падрыхтаваная кніга па гісторыі Беларусі — пераважна скрыпты з радыё — пад назовам «Гаварыў Язэп Барэйка». Але яна ніколі не была выдадзеная. З Гішпаніі перабраўся ў ЗША, блізка супрацоўнічаў і раптам... вяртаецца назад ліст, пасланы Віктару ў Каліфорнію, дзе ён пражываў з жонкаю і сынам, ліст з паметкай «перабраўся, адрас невядомы». Загадка! У Віктара быў вялізны архіў, накіды кнігі, няскончаныя рэцэнзіі. І аўтар «загінуў», зьнік, прапаў. Шукалі яго і Кастусь Акула, і Язэп Арцюх, і я — бязвынікова. Містэрыя. Ёсьць розныя здагадкі: захварэў, сямейныя праблемы, заламаўся — але нічога канкрэтнага невядома. Спадзяюся — архіў знойдзецца, а мо й сам Віктар, хоць яму ўжо было б добра за 90.*

*А цяпер аб тых сябрах БІНІМу, якія не былі хуткімі на пісаньне-досьледы-ўспаміны. Яны былі проста сябрамі-слупамі беларускасьці ў тых грамадах, дзе пражывалі. Вельмі часта рабілі яны выдатную прапагандовую справу для Беларусі.*

*Вось прыпамінаецца год 1966, восень — гадавы зьезд Амэрыканскага таварыства дасьледчыкаў славянаведы (AAASS)*[356] *у гор. Калюмбусе, штат Агаё. Горад параўнаўча невялікі, штатны ўнівэрсытэт Агаё ў горадзе — найбольшая акадэмічная структура, спонсар канфэрэнцыі — робіць рэкляму. У крамах выставы нацыянальных касьцюмаў, у мясцовым кінатэатры паміж фільмамі — нацыянальныя песьні, музыка. Па галоўнай магістралі гораду ўстаноўленыя радыё-рупары, якія апавяшчаюць нешта пра славянскія народы. Слоў няма — горад ва ўзьнятым, сьвяточным настроі. І што надзвычайнае: Беларусь, беларуская музыка, касьцюмы — частка гэтае дэманстрацыі. Уплялі Беларусь у славянскае сьвяткаваньне сябры БІНіМу Сьцяпан Кісель, жыхар гораду, Кастусь Калоша й Лена Кананчук, якія пад'ехалі зь недалёкага Кліўлэнду дапамагчы ўсталяваць беларускія праграмкі.*

*Сьцяпан Кісель — мой сябра з гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, у ЗША ад 1950 году, адбыў вайсковую службу, скончыў эканамічны факультэт Агайскага штатнага ўнівэрсытэту, займае высокае становішча на працы і... памаленьку складае ангельска-беларускі слоўнічак эканамічных тэрмінаў! Не давялося Сьцяпану закончыць працу — рана памёр ад раку.*

[356] Маецца на ўвазе **Амэрыканская асацыяцыя прасоўваньня славянскіх дасьледаваньняў** — *The American Association for the Advancement of Slavic Studies* (AAASS), таварыства амэрыканскіх дасьледнікаў-славяназнаўцаў, заснаванае ў 1948 г. У 2010 г. зьмяніла назву на **Асацыяцыю славянскіх, усходнеэўрапейскіх і эўразійскіх дасьледаваньняў** (*The Association for Slavic, East European, and Eurasian Studies (ASEEES)*).

*Кантакт з жонкай па ягонай сьмерці не навязаўся. На БІНіМ празь Сяргея Карніловіча перадаў Сьцяпан невялікую суму, максымум пакінуў «Полацку»*[357].

*Лявон Мурог, добры прыяцель з гімназіяльнага пэрыяду ў Нямеччыне. У ЗША скончыў унівэрсытэт, факультэт гісторыі, выкладаў прадмет у Ёркаўскім каледжы ў Пэнсыльваніі. Плянаваў напісаць артыкул пра беларусаў у Пэнсыльваніі, але ці зрабіў... Заўсёды падтрымоўваў фінансава нашыя выданьні. Мая апошняя тэлефанічная гутарка зь Лявонам ішла гэтак: «Здароў, здароў! Мне зрабілі апэрацыю: рак лёгкіх. Выразалі траціну, праз паўгода пабачаць. Высылаю чэк». Пражыў Лявон пасьля размовы два месяцы. Кантакт з жонкай перарваўся — яна выехала.*

*Мікола Прускі, ведамы грамадзкі дзеяч, журналіст, рэдактар, выдавец некалькіх беларускіх часопісаў у ЗША, быў таксама сябрам БІНіМу, выдаўцом арганізацыі. З друкарні Міколы выйшла каля паўтара дзесятка кніжак і іншых БІНіМаўскіх друкаў.*

*Беларускую грамадзкую кар'еру Мікола пачынаў з СБМ, а ўваход у друк — з паэтычнага зборнічка «Dola», 1946*[358]*, ды паэзіяй займаўся ўвесь час. Плянаваў сабраць у зборнік (і нават пачаў рабіць) свае артыкулы аб дапамозе Чарнобылю. Архіў перахоўвае жонка Вера.*

*Выдатна дапамагалі разбудове кніжных калекцыяў беларусікі нашыя сябры бібліятэкары Тамара Аўдзей, Таіса Шчорс, Галіна Русак (багата пісала на розныя тэмы), Гіпаліт Паланевіч, Сьвятаслаў Шабовіч і іншыя. Сягоньня калекцыі беларусікі ў амэрыканскіх каледжах і ўнівэрсытэтах ведамыя*[359]*, але запачаткоўваць тыя калекцыі часам бывала і няпроста. Беларусы-бібліятэкары дапамагалі, абасноўвалі патрэбы, разбудоўвалі.*

*Прафэсар Томас Бэрд, сябра ўправы БІНІМу і доўгагадовы рэдактар «Запісаў», выдатна дапамагаў «уводзіць» Беларусь у энцыкляпэдыі, даведнікі: «У 1981 г. у Нью Ёрку выйшаў першы том абноўленага чатырохтомнага выданьня «Энцыкляпэдыі сусьветнае літаратуры ў 20-м стагодзьдзі». У кнізе зьмешчаны артыкул Янкі Запрудніка пра Натальлю Арсеньневу, а таксама пра Васіля Быкава*[360] *і Максіма Багдановіча; там-жа і артыкул праф. Бэрда пра беларускую літаратуру"*[361].

---

357 Маецца на ўвазе **Беларускі грамадзкі цэнтар «Полацак»** у Кліўлэндзе.

358 Маецца на ўвазе выданьне: Kačan, Michaś [Прускі, Мікола]. Dola: Pieršy zbornik wieršaŭ z 1945–1946 hadoŭ. Schramberg, 1946. — 80 s.

359 Гл.: Зайка, Віталь. Беларускія зборы ў ЗША і Канадзе // Беларус. № 483. Красавік 2003. С. 14.

360 **Васіль Быкаў** (1924–2003), пісьменьнік, грамадзкі дзеяч.

361 Беларус. № 447. 1997.

*А было ці мала такіх сяброў Інстытуту, як др. Уладзімер Набагез, Мікола Галоўка, Мікола Ягоўдзік, якія шчодра падтрымоўвалі БІНіМ і мясцовыя беларускія арганізацыі.*

*Мікола Арцюх, працуючы ў банку, пераканаў банкаўскіх босаў, каб як ахвяраваньне банку дапамагчы беларусам Дэтройту набыць царкву, што й было зроблена. Надзвычайная праца!*

*У вялікім артыкуле пра др. Мітрафана Смаршчка з нагоды ягонага выхаду на пэнсію (перадрукавана ў «Беларускім Дайджэсьце»*[362] *за верасень 2000 г.) зазначаецца: «сын беларускага селяніна, мама якога хацела, каб сын стаўся сьвятаром, а ён выбраў мэдычную кар'еру і значную частку жыцьця пражыў у ЗША ў гор. Монтыцэлё, штат Мінэсота». У артыкуле падаецца ў дэталях праца др. Смаршчка ў Мінэсоце, дзе яго ў 1984 г. праклямавалі «Грамадзянінам году». Ягоным прозьвішчам названы адзін з корпусаў мясцовага мэдычнага цэнтру, пералічаныя ягоныя прафэсійныя здабыткі-заслугі ў мэдычнай галіне. Др. Смаршчок беларусам вядомы як грамадзкі дзеяч з часоў студэнцкай грамады пры Віленскім унівэрсытэце, настаўнік, дырэктар мэдычнае школы ў Баранавічах (1942–1943 гг.) ды паэт Анатоль Бярозка. Пад грыфам БІНіМу ў 1989 г. выйшаў ягоны зборнік паэзіі «Адзіннаццаць вершаў». У архіве доктара яшчэ засталося шмат недрукаваных твораў, артыкулаў; апякуецца дакумэнтальнай спадчынай др. Смаршчка ў Архіве гісторыі іміграцыі ў г. Сан-Паўл (Мінэсота)*[363] *а. Ігар Лабацэвіч, які духова апекаваўся доктарам.*

*Аляксандар (Алекс) Сільвановіч, хімік па адукацыі, скончыў Ратгерскі ўнівэрсытэт ды займаў высокія становішчы ў розных прамысловых кампаніях і быў вельмі пасьпяховым у прафэсійнай кар'еры. Аднак ён вядомы і амэрыканскім інжынэрам-навукоўцам, і беларуска-амэрыканскай грамадзе найперш як царкоўны адміністратар-фінансіст БАПЦ; ён ня толькі вёў бухгальтэрыю, але й быў вельмі шчодрым ахвярадаўцам на справы БАПЦ, дапамогу ахвярам Чарнобылю. Ён узначаліў Фонд беларускага Адраджэньня, быў заснавальнікам Кааліцыі ў абарону дэмакратыі й правоў чалавека ў Беларусі, быў у складзе Прэзыдыюму Рады БНР, быў дзейным сябрам БАЗА і адным з кіраўнікоў БІНіМу ды браў самы пільны ўдзел у складаньні-рэдагаваньні ангельска-беларускага слоўніку. Больш таго, як аматар-фатограф браў удзел у выставах у Саўт-Рывэры.*

[362] **«Беларускі Дайджэст»** — «часапіс беларускага замежжа ў Амэрыцы», выдаваўся Міколам Прускім з 1993 г.

[363] Маецца на ўвазе **Цэнтар дасьледаваньняў гісторыі іміграцыі** пры Мінэсоцкім унівэрсытэце ў Мінэапалісе (*University of Minnesota: The Immigration History Research Center*).

*Увесь фатаграфічны архіў Алекса, як і ягоныя іншыя дакумэнты з палітычна-грамадзкай дзейнасьці, перададзеныя на Бацькаўшчыну ў краязнаўчы музэй.*

*З Кастусём Калошам я быў знаёмы ад восені 1945 г., калі ў Беларускім камітэце ў Рэгенсбурзе*[364] *на Маршал-штрасэ Кастусь быў нейкім начальнікам — разьмяркоўваў купоны для новапрыбылых. Ад таго паваеннага часу пачалося ў нас і супрацоўніцтва. Кастусь дапамагаў скаўтынгу, потым у студэнцкіх арганізацыях займаў кіраўнічыя пасады, а ў ЗША, у Кліўлэндзе, быў «ключом» да ўсіх дзеяньняў.*

*Анкету ў сябры Інстытуту Кастусь Калоша запоўніў напрыканцы 1960-х; у той час ён працаваў у вялікай будаўлянай фірме й займаў пасаду старшага інжынэра; пры гэтым сказаў: «Вітаўт, я буду падтрымоўваць БІНіМ фінансава, бо нічым больш не магу, ня маю часу: на працы я заняты 10–12 гадзін штодня, кірую царкоўным хорам, падтрымоўваю кантакты для нядзельнае школкі. Загружанасьць — поўная». Гэткім Кастусь быў увесь час, покуль яго не зваліла хвароба. Хворага, перавезьлі ў Баранавічы й пахавалі ў Беларусі.*

*Міхась Бахар быў адным з тых сымпатыкаў-сябраў БІНіМу, чыя анкета згубілася, хоць я сам уласнаручна ад яго анкету тую прыняў — на пачатку 1970-х. Міхась скончыў інжынэрны факультэт у Місісіпі, але кар’еру інжынэра-электрыка пачынаў і гадоў 25 цягнуў у Нью-Ёрку: быў адным зь вядучых інжынэраў у камунікацыі аэрадрому Кенэдзі (JFK) ды адным з галоўных інжынэраў у наладжваньні камунікацыйна-сыгнальнай сыстэмы аэрадрому Newark — Liberty International у штаце Нью-Джэрзі.*

*У Саўт-Рывэры, дзе Міхась Бахар жыў, ён быў даўгі час кіраўніком Парафіяльнай рады царквы Сьв. Эўфрасіньні, скарбнікам мясцовага рэспубліканскага клюбу (амэрыканскага) ды вёў беларускую школку. Па школьнай лініі шчыльна супрацоўнічаў зь БІНіМам, рыхтуючы бібліяграфіі, тэксты для чытаньня вучням. Арганізаваў у Саўт-Рывэры некалькі культурна-асьветных вечароў для шырокага грамадзтва. У Фэдэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клюбаў*[365] *быў даўгі час скарбнікам на штат Нью-Джэрзі. Ад «беларускіх рэспубліканцаў» бываў у Белым доме,*

[364] Маецца на ўвазе **Беларускі нацыянальны камітэт**, заснаваны ў Рэгенсбурзе ў 1945 г. для прадстаўніцтва беларускіх інтарэсаў у амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны.

[365] **Фэдэрацыя беларускіх рэспубліканскіх клюбаў** была заснаваная ў 1972 г. і аб’ядноўвала беларускія рэспубліканскія клюбы розных штатаў. Доўгі час яе кіраўніком быў Вітаўт Кіпель.

*дзе выступаў таксама і ад БККА, і ад БІНіМу. Асабліва важным было выступленьне Міхася Бахара ў Белым доме, калі рыхтавалася канфэрэнцыя ў Хэльсінкі*[366]*.*

*Дарэчы, пры сустрэчы з прэзыдэнтамі ЗША беларускія прадстаўнікі насьвятлялі «беларускае пытаньне», а не рэспубліканскія справы. Гэтак, на сустрэчы з Рычардам Ніксанам*[367] *(люты 1973 г.) было запрапанавана прэзыдэнту наведаць Менск (што й зьдзейсьнілася*[368]*).*

*Міхась Бахар насьвятляў «беларускую справу» прэзыдэнту Форду*[369]*; сп-ня Вера Рамук і др. Язэп Сажыч пры сустрэчах з прэзыдэнтамі Роналдам Рэйганам*[370] *і Джорджам Бушам-старэйшым*[371] *перадалі мэмарандум ад беларусаў ЗША.*

*Зразумела, успамінаючы сяброў БІНіМу, найперш прыгадваеш постаці, зь якімі быў у жывым кантакце — нейкі час быў разам на жыцьцёвым шляху. У мяне аднэй з такіх асобаў быў Францішак Кушаль. Хоць я яго здалёк бачыў і ў Менску, быў побач, калі пакідалі Беларусь у 1944 г., чуў пра яго ў Нямеччыне, але ўвайшоў ён у маё жыцьцё ў 1945 годзе — ён зрабіў дакумэнт, які дазволіў мне жыць на Захадзе. І гэта літаральна.*

*Пад восень 1945 г. прыехаў у Рэгенсбург, каб пасяліцца ў беларускім асяродзьдзі. Каб такое «асягнуць», трэба было мець пасьведчаньне Ды-Пі, усемагутнае катэгорыі для чалавека, які паходзіў з тэрыторыяў СССР — людзі, народжаныя там, паводле Ялцінскіх пагадненьняў*[372] *(люты 1945) мусілі быць зьвернутымі — рэпатрыяваныя — на «радзіму» альбо хавацца ў разьбітым нямецкім сьвеце. Дарма, што немцы ў той*

[366] Маецца на ўваза **Нарада аб бясьпецы й супрацоўніцтве ў Эўропе**, першы этап якой прайшоў 3–7 ліпеня 1973 г. у Хэльсінкі з ініцыятывы СССР і сацыялістычных краінаў ды ўдзелам 33 эўрапейскіх дзяржаваў, ЗША й Канады. Мэтаю нарады было выпрацоўваньне захадаў дзеля зьмяншэньня ваеннага супрацьстаяньня й гарантаваньні бясьпекі ў Эўропе.

[367] **Рычард Ніксан** (анг. *Richard Milhous Nixon*, 1913–1994), 37-ы прэзыдэнт ЗША (1969–1974).

[368] Гл.: Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць... С. 364.

[369] **Джэралд Форд** (анг. *Gerald Rudolph Ford Jr.*, 1913–2006), 38-ы прэзыдэнт ЗША (1974–1977).

[370] **Роналд Рэйган** (анг. *Ronald Wilson Reagan*, 1911–2004), 40-ы прэзыдэнт ЗША (1981–1989), актор і радыёвядоўца.

[371] **Джордж Буш-старэйшы** (анг. *George Herbert Walker Bush*, нар. 1924, Мілтан, Масачусэтс, ЗША), амэрыканскі палітык, 41-ы прэзыдэнт ЗША (1989–1993).

[372] **Ялцінскія пагадненьні** — дамоўленасьці адносна прынцыпаў уладкаваньня сьвету пасьля Другой сусьветнай вайны, падпісаныя лідарамі ЗША, Вялікай Брытаніі й СССР на канфэрэнцыі ў Ялце 4–11 лютага 1945 г. Датычыліся паваенных межаў, а таксама пытаньняў рэпатрыяцыі. У прыватнасьці, тыя, хто быў грамадзянінам СССР да 1 верасьня 1939 г., мусілі вярнуцца на радзіму.

*час «падабрэлі» й не працівіліся, каб былыя унтэрмэншы*[373] *жылі сярод «нямецкай расы».*

*Для нас, беларусаў, магчымасьць стацца Ды-Пі была пры ўмове, калі заяўлялі, што перад верасьнем 1939 г. мы былі жыхарамі Польшчы ці то жыхарамі Заходняй Беларусі. Такія, а іх было шмат, маглі заставацца на Захадзе й ня ехаць на «радзіму». І вось сп. Кушаль, ведаючы майго бацьку, як гаворыцца, «па блату, па знаёмству», заявіў уладам, што я ягоны пляменьнік і маю права на статус Ды-Пі. Такога ў жыцьці не забываюць. Я стаўся народжаным у Вільні й атрымаў картку Ды-Пі.*

*Я назаўсёды застаўся надзвычайна ўдзячны Францішку Кушалю. А таму, калі працаваў у бібліятэцы, сустракаўся зь ім і дапамагаў. Кушаль тады апрацоўваў тэму вайсковай гісторыі ВКЛ, аналізаваў стан войска, змаганьні з Маскоўскай дзяржаваю; некалькі артыкулаў прысьвяціў войску БНР, БЦР, сучасьнікам і значным творцам мадэрнавага беларускага войска, адным зь якіх быў сам*[374]*. Як звычай, у бібліятэцы бываў ён зранку, а гадзіне першай ці другой сыходзіў, ішоў на працу. Адзін ягоны побыт мне прыпамінаецца асабліва. Зайшоў Кушаль да мяне ў навуковы аддзел, сказаў, што сёньня працаваць зь бібліятэчным матэрыялам ня зможа — вельмі ўсхваляваны й хацеў бы са мной выйсьці разам пасьнедаць. Я згадзіўся — бачыў, што яму сапраўды неспакойна.*

*І вось калі мы замовілі сьняданак у бібліятэчнай кафэтэрыі, Францішак Кушаль прызнаўся ў прычыне свайго хваляваньня: два дні таму ён чытаў раман Уладзімера Караткевіча*[375] *«Каласы пад сярпом тваім», і што твор зрабіў на яго такое моцнае ўражаньне, што ня можа ні на чым сканцэнтравацца! Тут жа ён мне «загадаў» твор прачытаць ды праз колькі дзён зноў спаткацца, каб раман прадыскутаваць. Гэтак яно й было. Праўда, быў я прыемна й глыбака захоплены «Каласамі...», але працаваў безь перапынку: мне тады яшчэ было ў трыццатцы, а Францішку Кушалю за 60. Але памяць аб тых жыцьцёвых мамэнтах трымаецца ўсё жыцьцё”*[376].

[373] ***Untermensch*** (ням.) — недачалавек, прадстаўнік ніжэйшае расы, неарыец.

[374] Гл.: Кушаль, Франц. Спробы стварэньня беларускага войска. Мінск: Беларускі Гістарычны Агляд, 1999. — 166 с.

[375] **Уладзімер Караткевіч** (1930–1984), паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладнік.

[376] Напісана адмыслова для гэтае кнігі.

## Працяг сэрыі “Беларускія паэты й пісьменьнікі”

Але вяртаемся да “кніжнае тэмы”, якая ў БІНіМе й пасьля адыходу Вітаўта Тумаша мела працяг. Вітаўт Кіпель ва ўспамінах “Жыць і дзеіць” піша:

*“Шчыра прызнаюся, я «ціснуў на ўсе кнопкі», гаварыў зь людзьмі — будучымі ахвярадаўцамі, багацейшымі, студэнтамі — каб наладзіць кнігавыдавецтва. Кніга — гэта мой улюбёны космас. Зь дзяцінства я любаваўся кніжнай этажэркай у Арле, пазьней — бібліятэчнымі паліцамі ў розных бібліятэках і нарэшце — сваімі кнігамі! Я купляў і купляю кнігі праз усё жыцьцё і ніколі не шкадаваў на гэта грошай. Купіш нейкую рэч, а пазьней шкадуеш... А аб кнігах пачуцьця шкадаваньня не было ніколі, наадварот — я заўсёды думаў: вось добра купіў кнігу, яна была патрэбная!*

*Асэнсаваньне прыватнае калекцыі, знаёмства зь беларускімі кнігамі ў бібліятэках нарадзіла ў маёй галаве непрыемную думку — беларускі нацыянальны рух мае мала літаратуры, кніжак наагул, і трэба гэтую хібу выпраўляць. Дакумэнтаваць усе праявы руху, друкаваць новых аўтараў — пісьменьнікаў, дасьледчыкаў — калі магчыма, друкаваць даведнікі. Я ўважаў, што кніга шмат дзе зможа замяніць асобу ды напэўна натхніць маладое пакаленьне. Кніга паспрыяе ўтрыманьню нацыянальнае чытацкае грамады. У БІНіМе я пераканаўся, што гэтак думалі і мае сябры і супрацоўнікі — Янка, Зора, Шукелойць, Тумаш. А кніга выданьня БІНіМу ў амэрыканскіх бібліятэках — яшчэ адзін напамін, што іншая, несавецкая Беларусь жыве”*[377].

Сэрыя “Беларускія паэты й пісьменьнікі” стала вельмі папулярнаю ня толькі сярод эміграцыйнай грамады, але і ў Беларусі. Была яна па-сапраўднаму піянэрскаю — з ідэяй захаваць і апублікаваць раскіданую па часопісах ды газэтах, а часам наагул нявыдрукаваную спадчыну творцаў, што апынуліся па-за межамі Бацькаўшчыны. У ёй былі выдадзеныя творы Аляксандры Саковіч (Іны Рытар) “У пошуках праўды” (Нью-Ёрк — Кліўлэнд, 1986); Міхася Кавыля “Міжагнёўе” (Нью-Ёрк, 1990); Уладзімера Дудзіцкага “Напярэймы жаданьням” (Нью-Ёрк, 1994); Міколы Цэлеша “Хмары над Бацькаўшчынай” (Нью-Ёрк, 1995); Юркі Віцьбіча “Антыбальшавіцкія паўстаньні й партызанская барацьба на Беларусі” (Нью-Ёрк, 1996); “Архіўная кніга” (Нью-Ёрк, 1997)

[377] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць... С. 308–309.

Лявона Юрэвіча зь біяграфічнымі матэрыяламі й творамі Ўладзімера Дудзіцкага, Уладзімера Сядуры, Хведара Ільляшэвіча, Уладзімера Клішэвіча, Міколы Вярбы, Юркі Віцьбіча; Лявона Крывічаніна "Беларусізацыя пад №..."(Нью-Ёрк, 1998) ды "Творы" (Нью-Ёрк, 2003) Антона Адамовіча.

## "Бібліяграфічная сэрыя" БІНіМу

Але "Беларускія паэты й пісьменьнікі" была не адзінай кніжнай сэрыяй Інстытуту:

"*Бібліяграфічную сэрыю БІНіМу пачалі з кнігі «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе» (Нью-Ёрк, 1985) — і кніжка хутка разышлася. Трэба сказаць, што пра «Коласа-Купалу» ў амэрыканскім літаратурным і ўнівэрсытэцкім сьвеце часам успаміналася, і таму мы наперад ведалі, што бібліяграфіяй зацікавяцца. Так яно й было — «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе» «насьцярожыла» славістаў: ёсьць беларускія бібліяграфіі і ў ЗША. Тыраж гэтай кнігі быў 300 экзэмпляраў.*

*Пару слоў аб іншай кнізе ў бібліяграфічнай сэрыі БІНіМу — «Byelorussian Statehood. Беларуская дзяржаўнасьць» (Нью-Ёрк, 1988). Думка апрацаваць англамоўны дапаможнік, які ўлучаў бы ў сябе даведнік і хрэстаматыю пра нараджэньне дзяржавы БНР у 1918 годзе была ў мяне й Зоры ў галовах даўнавата (не бяруся судзіць аб першынстве, але я схільны да майго, бо думка зарадзілася ў часе «Дыялёгаў з моладзьдзю», а гэта канец* 1960-х *— пачатак 1970-х гадоў). Я пачаў зьбіраць бібліяграфію англамоўных працаў аб БНР у сярэдзіне 1970-х. Аднак занятасьць фэстывалямі і ўдзел у Этнічнай радзе*[378] *пакідалі мала часу для працы ў БІНіМе, калі ўлічыць, што трэба было браць удзел у канфэрэнцыях і рыхтавацца да іх. Але калі я выйшаў на пэнсію, мы сур'ёзна ўзяліся за апрацоўку англамоўнага дапаможніка пра БНР. Прызнаюся, апрацаваць бібліяграфію толькі на аснове таго, што было сабрана, не хацелася — хацелася даць нечага новага. І з гэтай мэтай мы аб'ехалі большыя бібліятэкі, дзе спадзяваліся знайсьці нешта новае пра БНР. У Скарынінцы ў Лёндане мы «знайшлі» манускрыпт Васіля Захаркі, пару артыкулаў Язэпа Варонкі. Шмат часапісаў знайшлі ў бібліятэцы Хэльсынкі (бібліятэка, у якую дасылалася ўсё, што друкавалася ў Расейскай імпэрыі).*

---

[378] Маецца на ўвазе Этнічная дарадчая рада пры губэрнатару штату Нью-Джэрзі, якой Вітаўт Кіпель кіраваў у 1978–1982 гг.

*Трэба сказаць, што шмат матэрыялаў пра дзейнасьць БНР — мэмарандумы, некаторыя лісты — захоўваецца ў бібліятэцы былой Лігі Нацыяў*[379] *у Жэнэве. У Жэнэве мы працавалі дні два ды пазнаёміліся з дырэктарам Бібліятэкі ААН спадаром Тодарам Дзімітравым, баўгарынам па нацыянальнасьці. Ён паказаў ладна некаталягаваных матэрыялаў, а таксама ў каталёгу беларускія матэрыялы пад іншымі рубрыкамі. Мы зь ім пасябравалі і прапанавалі сваю дапамогу, калі б яму што спатрэбілася ў ЗША. [...]*

*У бібліяграфічнай сэрыі БІНіМу варта вылучыць адну публікацыю, паводле зьместу гэта больш дакумэнтацыя, чым бібліяграфія — манумэнтальная праца «Архівы БНР. Том І. Кн. 1 і 2» (Вільня — Нью Ёрк — Менск — Прага, 1998) укладаньня, аўтарства і рэдакцыі Сяргея Шупы. Гэткай працы ў гісторыі беларускага кнігадруку не было — гэта надзвычайная дакумэнтацыя гісторыі новай беларускай дзяржаўнасьці. Гэтыя два тамы — неаспрэчны дакумэнт, адказ скептыкам, што БНР была і дзеіла. «Архівы БНР» — праца, ініцыяваная, выкананая і дадзеная чытачу адным чалавекам — Сяргеем Шупам. Публікацыю дакумэнтаў ён пачынаў у пэрыядычным бюлетэні «Acta Archivalia Albaruthenica» (Вільня, 1993–1994), але хутка спасьцярог, што кніга прынясе большую карысьць беларускай навуцы. З задавальненьнем скажу, што мы ў БІНіМе Сяргея Шупу ад самага пачатку зразумелі, падтрымоўвалі і дапамагалі выдаць працу”*[380].

Вітаўт і Зора Кіпелі давялі да ладу й выдалі справу жыцьця Вітаўта Тумаша — “Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны” (Нью-Ёрк, 1989). Займаючыся яшчэ з 1950-х гадоў зборам і бібліяграфічным апісаньнем беларускіх слоўнікаў і энцыкляпэдыяў, Вітаўт Кіпель з дапамогаю маладзейшых супрацоўнікаў — Зьмітра Саўкі ды Ілоны Ўрбановіч-Саўкі — выдаў бібліяграфію “Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі” (Нью-Ёрк — Менск, 2002). Зь іншых бібліяграфічных выданьняў Інстытуту варта згадаць працяг Тумашавай Скарыніяны: “Францыск Скарына: жыцьцё й дзейнасьць: паказальнік літаратуры. Дадаткі за 1530–1988 гг., 1989–1993 гг.”, укладзены Лявонам Юрэвічам і Валянцінай Грышкевіч[381]

---

[379] **Ліга Нацыяў** (анг. *League of Nations*) — міжнародная арганізацыя, заснаваная па выніках Першай сусьветнай вайны на падставе Вэрсальскага пагадненьня. Мэтамі былі раззбраеньне, перадухіленьне ваенных дзеяньняў, запэўніваньне калектыўнай бясьпекі, урэгуляваньне спрэчак паміж краінамі шляхам дыпляматычных перамоваў і інш. Працавала ў 1919–1946 гг.

[380] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць... С. 323–324.

[381] **Валянціна Грышкевіч** у той час была працаўніцай Навукова-асьветнага цэнтру імя Ф. Скарыны, цяпер — намесьніца дырэктара Рэспубліканскага цэнтру нацыянальных культураў.

і выдадзены супольна з Навукова-асьветным цэнтрам імя Францішка Скарыны (Менск, 1995), а таксама манаграфію Юрыя Гарбінскага "Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: пэрыёдыка, графічныя друкі 1945–2005" (Нью-Ёрк — Варшава, 2009)[382].

Найбольшая й апошняя на сёньня ў часе бібліяграфія — "Беларускі друк на Захадзе", гэтая безь перабольшаньня біблія дасьледнікаў і гісторыкаў эміграцыі, выйшла ў 2006 г., папярэдне пабачыўшы сьвет асобнымі часткамі (кніжныя выданьні — 2003 г., пэрыёдыка — 2004 г.)[383]. На жаль, кнігі гэтыя выйшлі ў сьвет адно пасьля сьмерці Зоры Кіпель[384], адыход якой з болем успрынялі ня толькі ў сям'і ды ў Інстытуце, а паўсюль, дзе жывуць беларусы.

Аляксей Каўка[385] пісаў да Вітаўта Кіпеля з Масквы:

*"Дарагі мой дружа-браце Вітаўт. Толькі што праз тэлефон зь Менску пачуў жудасную вестку: памёрла Зора Кіпель. У горы Тваім — нашым —*

---

382 Вітаўт Кіпель: *Рэлігія — тэма, якая была "жывая" ў дыяспары, але ў БІНіМе даўгі час не была на працоўным варштаце. Дзіўна, але факт. Юры Гарбінскі ў сваёй кнізе піша, што праз даўгія дзесяцігодзьдзі рэлігійная пэрыёдыка ў нас існавала толькі на эміграцыі й толькі тут яна дасьледавалася. Відавочна, што ў дыскусіях на рэлігійныя тэмы на эміграцыі бралі ўдзел, і вельмі актыўны, сябры Інстытуту — і ня толькі сьвятары. Неабходна падкрэсьліць, што й першым старшынём БІНіМу быў архіяпіскап БАПЦ уладыка Васіль. Ініцыятар-заснавальнік Інстытуту Вітаўт Тумаш, пачынаючы з 1949 г., быў у кантакце з Брытанскім замежным біблійным таварыствам у Лёндане ў справе перавыданьня Новага Тэстамэнту ў перакладзе Івана Луцкевіча, быў сябрам Камісіі для перакладу Бібліі на беларускую мову, а таксама быў самым шчодрым ахвярадаўцам на куплю царквы БАПЦ на 401 Атлэнтык-авэню. Др. Янка Запруднік — сябра шматлікіх праваслаўных арганізацыйных структураў і часопісаў, а я дапамагаў устанаўленьню БАПЦ ва ўнівэрсытэце ў г. Тубінгіне ды "ўводзіў" праваслаўнага сьвятара БАПЦ у жыцьцё беларусаў Бэльгіі. Значна пазьней, у 1980-я, мы з Зораю мелі кантакты, хадайнічалі ў Стакгольме перад др. Б. Арановічам, каб Інстытут Бібліі выдаў беларускамоўнае Эвангельле для дзяцей, што й было зроблена і нават не адзін раз. Але вось як тэма рэлігія доўга не разглядалася. А пасьля працы Гарбінскага была выдадзеная яшчэ кніга а. Мікалая Лапіцкага "У служэньні Богу і Беларусі" (Нью-Ёрк — Варшава, 2005) і ўспаміны архіяпіскапа Апанаса (Мартаса) "На ніве Хрыстовай" (Мінск, 2005).*

383 Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе: Асобныя выданьні. Бібліяграфія. Нью Ёрк — Менск, 2003. — XXII+582 с.; Belarusian Publishing in the West: A Bibliography — Periodicals = Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе: Бібліяграфія. Часапісы, газэты. New York, 2004. — XX+152 с.; Kipel, Vitaut; Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. — XVI+841 p.

384 Зора Кіпель памерла 14 красавіка 2003 г.

385 **Аляксей Каўка** (нар. 1937), гісторык і літаратуразнаўца, грамадзкі дзеяч, доктар філялягічных навук. Жыве ў Маскве.

*словы, сардэчныя самыя, ня вельмі суцяшаюць. Бяду пакутную чалавек найчасьцей адалівае ў адзіноце маўклівай, яму аднаму мабыць толькі й падуладнай. Але спачуваючы горача болю Твайму, не магу ня выказаць свайго перажываньня. Як-жа падзіўляў я, узрушлівы, і скрозь цешыцца буду з гожае клясычнае пары — Яе і Яго, студэнтаў-беларусаў зь Лювэнскага ўнівэрсытэту... Не перастаючы сяродзіцца над тайніцай шчасьлівага жанімства — гарманійнага суладнага і асабістым жыцьцём і адначасова — духатворчым плёнам супольным у агульным лёсе беларускім. І хто падзеліць, разьдзеліць ды і навошта? — важкасьць і цану гэтага сумеснага побыту на ніве нашай, напрацаванага Зорай, з дому Савёнкаў, і Вітаўтам Кіпелем. Хаця пэўне ў летапісе культуры нацыянальнай Яна і Ён — кожны адзначаны сваёй асабовасьцю, уласным чырвоным радком. Урэшце над тым лепей, дакладней разважаць наступнікі. Мне-ж, удзячнаму, застаецца і далей саграваца душой ля творчага сьвяцельца-цяпельца Адышоўшай, імкнучыся, пакуль і пакольки магчыма, падтрымоўваць нязгасальнае вогнішча, над якім, дарагі Чалавеча мой, нястомны дарадца-натхніцелю наш, табе яшчэ рупіцца й рупіцца. Трываць і трываць — асірацеламу, але-ж не сіраце — пакуль на абсягах родных трываюць Твае пабратымы.*

*Ласкі Божае і мужнасьці Табе, дарагі Вітаўце. І — дальшых сілаў пад сьветлым ценем, вячыстай памяці Спадарыні Зоры дзеля доўжаньня Яе, нашае справы, волі Паслаўшага. Абдымаю сардэчна”*[386].

А Ніл Гілевіч[387], атрымаўшы асобнік бібліяграфіі, напісаў наступнае: *“Я і дагэтуль ведаў, хто такая Зора Кіпель для Вас і для беларускай справы, але цяпер, як пагартаў гэты цудоўны том, маё думаньне пра Яе стала яшчэ больш высокім. Зьяўленьне гэтай кнігі — значная падзея ў духоўным жыцьці беларусаў”*[388].

## Сэрыя “Да гісторыі беларускай эміграцыі” й кніжная супраца з Бацькаўшчынай

Пра іншую сэрыю, надта ж блізкую да ўласных навуковых зацікаўленьняў, дзе ён стаўся піянэрам, Вітаўт Кіпель згадвае:

*“І яшчэ адну сэрыю мы распачалі ў БІНіМе — «Да гісторыі беларускай эміграцыі». Пачалі мы яе як нумараваную, першай кнігай была праца Яна*

[386] Ліст А. Каўкі да В. Кіпеля ад 21.04.2003. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

[387] **Ніл Гілевіч** (1931–2016), паэт і грамадзкі дзеяч, Народны паэт Беларусі.

[388] Ліст Н. Гілевіча да В. Кіпеля ад 29.06.2011. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

*Максімюка «Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945–1950» (Нью Ёрк — Беласток, 1994). Аднак нумарацыя ў сэрыі хутка паблыталася, і цяпер сэрыя прадаўжаецца без нумароў. Аб кнізе Яна Максімюка можна толькі сказаць: такой поўнай, аналітычнай, удумлівай працы аб эміграцыйнай установе ні ў нас, ні ў суседзяў не было. Кніга – фундамэнтальная, аўтару бязьмежная падзяка.*

*Дасюль у сэрыі «Да гісторыі эміграцыі» выйшлі кнігі Янкі Запрудніка «Дванаццатка» (Нью-Ёрк, 2002), Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША» (Мінск, 1993) [...].*

*Не магу ўстрымацца, каб не сказаць пару словаў аб некаторых з гэтых кніг. Найперш аб кнізе «Беларусы ў ЗША» майго аўтарства, якую я марыў напісаць ад пачатку майго побыту ў ЗША. Як рабілася кніга? Да гэтай кнігі цалкам падыходзіць банальны выраз «аўтар працуе над ёй усё жыцьцё». Як я зазначаў раней — як толькі я, зусім новы імігрант, не знайшоў інфармацыі пра беларусаў у бібліятэцы гораду Пасэйку (калядная пара, 1955 год), у мяне зьявілася думка — напісаць пра беларусаў у ЗША. Але колькі такіх думак скача ў галаве — шмат іх проста забываецца. Думкі пра беларусаў у ЗША я не пакідаў. Ад таго часу, калі дзе што знаходзіў пра землякоў — закладаў у папку. У гэтым выпадку выдатна падыходзяць радкі Маякоўскага[389]: «Тысячи тонн словесной руды единого слова ради»[390]. Сапраўды, часам перачытаеш сотні бачынаў газэт, старонак кніжак, пакуль знойдзеш слова «беларус» — і тую публікацыю закладаеш у папку. За тысячамі перагледжаных друкаваных старонак зьведваліся архівы, падвалы цэркваў і падобнае. Нарэшце, я бачыў, што матэрыялу хапае. Кніга сунулася наперад. І гэтак сунуцца яна магла б яшчэ доўга, каб не... перабудова, развал СССР, паездка «дахаты»! Зьбег гэтых акалічнасьцяў спрыяў рэалізацыі задумы, і гэтаму дапамаглі некалькі канкрэтных людзей. Гэта Алесь Лукашук — першы, хто пабачыў англамоўны манускрыпт і сказаў: «Трэба выдаваць»; Сяргей Шупа, рэдактар, які пераклаў манускрыпт з ангельскай мовы ў беларускую і падрыхтаваў макет; Адам Мальдзіс[391] і Пётра Краўчанка[392] — адміністратары, якія дапамагалі ў Менску і залагоджвалі бюракратычныя пытаньні. Я ім шчыра ўдзячны!*

---

389 **Уладзімер Маякоўскі** (расейск. *Владимир Маяковский*, 1893–1930), расейскі й савецкі паэт.

390 Цытата зь вершу Ўладзімера Маякоўскага «Разговор с фининспектором о поэзии» (1926).

391 **Адам Мальдзіс** (нар. 1932), літаратуразнаўца, гісторык, пісьменьнік, журналіст, доктар філялягічных навук, прафэсар.

392 **Пётра Краўчанка** (нар. 1950), палітык, дыплямат, кандыдат гістарычных навук. У 1990–1994 гг. быў міністрам замежных справаў Беларусі.

*Сэрыя «Да гісторыі беларускай эміграцыі» дзейная і да цяпер. Выходзяць кнігі гэтай сэрыі ў Беларусі пад грыфам БІНіМу, зьяўляюцца «манумэнты» ў гэтай сэрыі і на эміграцыі.*

*Адна з апошніх кніг «гістарычнай» сэрыі — «Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948–2011)» (Нью-Ёрк, 2013) аўтарства доктара Яна Запрудніка. Кніга дзьвюхмоўная, ангельска-беларуская, прычым тэксты падобныя, але не ідэнтычныя. Кніга — фактычна, каляровы альбом — аформленая Ірынай і Мікалаем Дутко. Я напісаў прадмовы да абедзьвюх частак. Гэтая кніга, на мой пагляд, вельмі важная тым, што падсумоўвае грамадзка-рэпрэзэнтацыйную працу беларусаў у штаце Нью-Джэрзі: сотні прозьвішчаў дакумэнтуюць агульную дзейнасьць. Другі аспэкт, які разьвівае кніга — «запросіны» цяперашнім эмігрантам: стварайце новыя калектывы, рэпрэзэнтуйце Беларусь! Беларусь і надалей застаецца малаведамая, новыя эмігранты, цяпер — ваша чарга! І далей, як, відаць, і плянаваў аўтар, кніга знаходзіць сваё месца на палічках ня толькі бібліятэкаў, але і ў сотнях хатаў — унукаў тых дзядоў-«першапраходцаў», якія 50–70 гадоў таму выступалі ад Беларусі. Хочацца думаць, што гэтыя тры аспэкты: багатая гістарычна-храналягічная спадчына, заклікі да новых эмігрантаў і «прыспаная энэргія» ўнукаў — прычыняцца да стварэньня беларускіх эстрадных калектываў і да пашырэньня беларускай прысутнасьці ў шырокай амэрыканскай эстрадзе — дзейнай і прыгожай — у штаце Нью-Джэрзі. Яшчэ адна спроба старэйшага пакаленьня прыцягнуць да грамадзкай працы «новых землякоў». Дарэчы, кніга доктара Запрудніка выдадзеная БІНіМам на грамадзкія ахвяраваньні пры вельмі шчодрай, каля $ 7.000, фінансавай падтрымцы Надзі і Яна Запруднікаў"*[393].

У XXI ст., калі, пры ўсіх арэлях гісторыі, зрабілася магчымым друкаваць кнігі ў Беларусі — бліжэй да галоўнага чытача, спажыўца, — БІНіМ пачаў супрацоўнічаць з Згуртаваньнем беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", дзе за спрыяньнем ягоных чальцоў, спадарынь Алены Макоўскай і Ніны Шыдлоўскай, у сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" ў супрацы з Інстытутам выйшлі наступныя кнігі: Лявон Юрэвіч "Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў "Бацькаўшчына" й "Беларус" (1947–2000)" (Мінск, 2006), Барыс Рагуля "Беларускае студэнцтва на чужыне" (Выд. 2-е. Мінск, 2006), "Урачыстасьць у садзе: Драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя" (Мінск, 2007), Алег Гардзіенка "Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)" (Сма-

[393] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць... С. 324–325.

ленск, 2009), Юрка Віцьбіч “Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза” (Мінск, 2011), Лявон Юрэвіч “Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні” (Мінск, 2012), “Жанры” (Мінск, 2013) і “Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія” (Мінск, 2015), Янка Запруднік “Па гарачых слядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952–1959 гг. Універсітэт у Бэльгіі, газэта “Бацькаўшчына”, радыё “Вызваленьне / Свабода” ў Мюнхэне й Нью-Ёрку” (Мінск, 2015), Алег Гардзіенка “Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943–1995)” (Мінск, 2016), “Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны (да 90-годдзя Янкі Запрудніка)” (Мінск, 2016).

Супрацоўнічае БІНіМ і зь некаторымі іншымі сэрыямі й выдавецтвамі на Бацькаўшчыне, дзе пабачылі сьвет такія кнігі, як “Дзёньнік. 1943–1947” Дзьмітрыя Сямёнава (Мінск: Беларускі Гістарычны Агляд, 2012), “Эпізоды” Яўхіма Кіпеля (Мінск: Лімарыус, 2013), “Творы” Ўладзімера Дудзіцкага (Мінск: Лімарыус, 2010), “Творы” Лявона Савёнка (Мінск: Лімарыус, 2012), “Паэзія” Янкі Юхнаўца (Мінск: Лімарыус, 2012), “Маё мястэчка” Васіля Стомы (Мінск, 2014) ды іншыя.

Управа БІНіМу з часу сьмерці Міколы Равенскага ў сакавіку 1953 г. была бесьперапынна зацікаўленая ў выданьні ягонай багатай творчай спадчыны. Ён заслужыў гэтага ўжо толькі дзьвюма мэлёдыямі: “Люблю наш край” і “Магутны Божа”, якія на працягу бурлівых дзесяцігодзьдзяў аб’ядноўваюць усіх беларусаў.

На жаль, справа з рэалізацыяй выданьня твораў зацягнулася аж да пачатку 2000-х гадоў. Запачаткаванай у 1950-х гадах беларускімі студэнтамі ў Лювэне (Бэльгія) ініцыятыве выдаць зборнік песьняў Равенскага перашкодзіла раскіданасьць і занятасьць ініцыятараў. І толькі на пачатку 2000-х да рэалізацыі праекту падключыліся суродзічы на Бацькаўшчыне, сп.сп. Віктар Скорабагатаў[394] і Зьміцер Санько[395]. Была праведзеная вялікая пошукавая праца ў архівах, айчынных і замежных. Падтрымала ініцыятыву грашовай датацыяй Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага.

Віктар Скорабагатаў у лісьце ад 1 лістапада 2010 г. паведаміў управе БІНіМу, што сябры калектыву “Беларуская капэля”[396], прарабіўшы

394 **Віктар Скорабагатаў** — опэрны сьпявак, дырэктар “Беларускай капэлі”, заслужаны артыст Беларусі, прафэсар.

395 **Зьміцер Санько** (нар. 1949), біёляг, кандыдат біялягічных навук, галоўны рэдактар менскага выдавецтва “Тэхналогія”.

396 **“Беларуская капэля”** — творчы музычны калектыў, заснаваны ў 1992 г. Займаецца аднаўленьнем беларускай музычнай спадчыны. Кіраўнік — Віктар Скорабагатаў.

*“калясальную творчую працу”*, падрыхтавалі да друку сем выданьняў твораў Равенскага, зь якіх выдадзеныя ўжо чатыры[397]. На выдавецкім варштаце цяпер — вялікі зборнік харавых песьняў, апрацаваных Міколам Равенскім.

Некаторыя кнігі, выдадзеныя Інстытутам у XXI ст., сталіся б адказам на запатрабаваньні, усьвядомленыя яшчэ ў сярэдзіне XX ст. Так, тагачасны старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч у лісьце да др. Вітаўта Тумаша, др. Станіслава Станкевіча й др. Янкі Запрудніка пісаў:

*“Дарагія сябры,*

*У гэтым лісьце дазволю сабе закрануць толькі адну найбольш актуальную справу, справу выданьня брашуры пра БНР, якая быццам ужо пахавана.*

*У «Беларусе» № 119 за сакавік г. г. была зьмешчана шмат абяцаючая зацемка «Кніга да 50-х угодкаў БНР». Паводле гэтай зацемкі для справы выданьня кнігі, аб якой мова, была намечана камісія ды былі пакліканыя аўтары паасобных разьдзелаў. Паколькі ўжо ходзяць чуткі, што кніга ня выйдзе, людзі дапытваюцца, хто ўвайшоў у камісію й хто меўся быць аўтарам кнігі. Мяне асабіста таксама цікавяць гэтыя пытаньні, каб ведаць, да каго зьвярнуцца й дзе й што перастравіць, каб, калі ня кніга, дык брашура ўсё-ж выйшла. Да сакавіка йшчэ шмат часу, дык напісаць і выдаць кароткую брашуру можна было-б.*

*Нельга дапусьціць, каб гэта брашура ня выйшла, гэта быў-бы страшэнны скандал і сорам для ініцыятараў — асабліва пасьля грамагласнага сьвяткаваньня юбілею «Кастрычніцкай рэвалюцыі». Не даруе гэтага нам ні наша грамадзтва, ні гісторыя, а чужынцы будуць сьмяяцца з нас”*[398].

Але толькі ў наступным тысячагодзьдзі супольна БІНіМам і Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” быў апрацаваны й выдадзены — не брашура, трохтамовік! — Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча: “Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы”

[397] Маюцца на ўвазе выданьні: Равенскі, Мікола. Вакальныя творы / Пад рэд. Г. Каржанеўскай. Мінск: Тэхналогія, 2005. — 26 с.; Равенскі, Мікола. Літургічныя творы / Пад. рэд. К. Насаева. Мінск: Тэхналогія, 2005. — 90 с.; Равенскі, Мікола. Творы для фартэпіяна / Пад рэд. І. Алоўнікава. Мінск: Тэхналогія, 2007. – 30 с.; Равенскі, Мікола. Беларускія народныя песні / Рэдкал.: В. Скорабагатаў (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Тэхналогія, 2008. — 190 с.

[398] Ліст В. Жук-Грышкевіча ад 30.11.1967. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

(Мінск, 2013), “Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы” (Мінск, 2014) і “Рада БНР (1982–1997): Падзеі. Дакументы. Асобы” (Мінск, 2015)[399].

## “Ангельска-беларускі слоўнік” і ангельскамоўная энцыкляпэдычная беларусіка

Вылучаючы асобныя кнігавыдавецкія ініцыятывы БІНіМу, Вітаўт Кіпель кажа:

*“Падсумоўваючы кнігавыдавецкую дзейнасьць БІНіМу, я гляджу на яе як на найбольш працаёмкую: дзясяткі людзей — пісьменьнікаў, дасьледчыкаў — укладалі тысячы й тысячы гадзінаў, арыгінальныя творчыя думкі ў працу «для душы», для беларускай культуры, за якую не атрымлівалі нічога, апрача ўдзячнасьці чытача. Бясспрэчна, нешта мы зрабілі, нечага дасягнулі. Цяжка дакладна вызначыць, якая з тых кнігаў была «чэмпіёнам» па працаёмкасьці. Але прыпушчаю, што мэдаль належыць «Ангельска-беларускаму слоўніку», асноўная картатэка якога была ўкладзеная Валянцінай Пашкевіч, а апрацоўка рухалася дзесяцігодзьдзямі пад кіраўніцтвам Зоры Кіпель і Яна Запрудніка пры канчатковым рэдагаваньні Сяргея Шупы. Каля 20 чалавек рэдкалегіі на працягу блізу 20 гадоў карпатліва, дзень у дзень стваралі кнігу, якую сёньня мае карыстальнік, а ў дзясятках заходніх бібліятэкаў гэты слоўнік — адзіны ключ доступу англамоўнай публікі да беларускай літаратуры.*

*Рэдактар слоўніка Сяргей Шупа ў інтэрвію з нагоды выхаду кнігі з друку сказаў, што слоўнік быў створаны на энтузіязьме. Так, энтузіязму ў працы было шмат. Дыскутавалі картатэку ўсюды, улучна з паседжаньнем у Менску ў кабінэце старшыні Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі Вольгі Іпатавай*[400] *— БІНіМ шчыра ўдзячны паэтэсе. Аднак гэты энтузіязм быў падмацаваны кампэтэнцыяй і вялікай працай. Прыпомню такое: калі слоўнік быў гатовы да друку, рэдкалегія вырашыла праверыць, вычытаць яшчэ раз англамоўную частку. Канчатковая чытка была за прафэсарам Томам Бэрдам. Мэханіка гэтага цыклю працы выглядала наступна: у 2004–2005 гадох кожную*

[399] Вітаўт Кіпель: *Адзінае поўнае аўтарытэтнае дасьледаваньне дзейнасьці Рады БНР, ды што асабліва задавальняе: праца базуецца, у вялікай меры, на дакумэнтах, якія перахоўваліся ў БІНіМе, перададзеныя на сховў у Інстытут першым паваенным прэм’ерам Рады сп. Аўгенам Каханоўскім, сябрам Інстытуту.*

[400] **Вольга Іпатава** (нар. 1945), пісьменьніца, перакладніца, грамадзкая дзяячка.

*сераду і кожную другую суботу я ехаў з матэрыяламі слоўніка да Тома ў Куінз Коледж, дзе ад 8.30 да 16.30 чыталася англамоўная частка. Я вёў каляндарык працоўных дзён. Дык вось, на канчатковую вычытку англамоўнае часткі было патрачана 132 дні, а калі перавесьці ў гадзіны — каля 1000 гадзін. Нядрэнная падтрымка энтузіязму!”*[401]

“Ангельска-беларускі слоўнік” (Мінск, 2006) на 30 тысяч словаў Валянціны Пашкевіч, над якім працавала рэдакцыйная калегія ў складзе Зоры й Вітаўта Кіпеляў, Янкі Запрудніка, Антона Адамовіча, Міхася Бахара, Томаса Бэрда, Веры Запруднік, Алы Орсы-Рамана, Васіля Русака, Юркі Рапецкага, Зьмітра Саўкі, Аляксандра Сільвановіча, Джона Стэнлі, Антона Шукелойця, Сяргея Шупы і Алены Юрэвіч, стаўся ўнікальнаю зьяваю ў беларускай лексыкаграфіі.

Разам з тым “Слоўнік” бы сымбалізаваў тую двухвэктарнасьць дзейнасьці БІНіМу: ня толькі ў бок Беларусі, але і ў кірунку заходняга грамадзтва, што праяўлялася як ва ўдзеле ў міжнародных, амэрыканскіх канфэрэнцыях, гэтак і ў публікацыях у ангельскамоўным друку. Найперш трэба згадаць манаграфію Янкі Запрудніка *“Belarus: at a crossroads in history”* (*Boulder*, 1993) і энцыкляпэдычны даведнік ягонага аўтарства *“Historical dictionary of Belarus”* (два выданьні: *Lanham — London*, 1998 і *Lanham*, 2007, другое ў супрацы зь Віталём Сіліцкім[402]), манаграфію Вітаўта Кіпеля *“Belarusans in the United States”* (*Lanham — New York — Oxford,* 1999) і ягоныя артыкулы ў *“Dictionary of American Immigrant History”* (1990), *“American Immigrant Cultures”* (1998), энцыкляпэдыях гарадоў і штатаў — *“Encyclopedia of New York City”* (1993), *“Encyclopedia of Cleveland”* (1997), *“Encyclopedia of Chicago”* (2004), *“Encyclopedia of New York State”* (2005) ды ў іншых інфармацыйных выданьнях, артыкулы Лявона Юрэвіча — у *“Marcel Dekker's Encyclopedia of Library and Information Science”* (2004), *“Encyclopedia of New York City”* (2010). Крытычны агляд асобных энцыкляпэдычных артыкулаў зроблены апошнім у працы “Беларусазнаўства па-ангельску”[403].

Але БІНіМ ня толькі выдаваў кнігі: Інстытут быў вельмі актыўным распаўсюднікам беларускага друку як у ЗША, гэтак і ў Беларусі ды іншых краінах. Пэрыядычна БІНіМ друкаваў каталёгі сваіх выданьняў, даступных для набыцьця.

---

[401] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць... С. 330–331.

[402] **Віталь Сіліцкі** (1972–2011), палітоляг, аналітык, першы дырэктар Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў.

[403] Юрэвіч, Лявон. Беларусазнаўства па-ангельску // ARCHE. № 6. 2003. С. 197–207.

# БІНіМ у міжнародных канфэрэнцыях і пачатак супрацы з мэтрапольнымі навукоўцамі

Надзвычайна важным для сябраў Інстытуту ва ўсе часы быў удзел у міжнародных канфэрэнцыях. Найперш таму, што фактам удзелу рэгістравалася прысутнасьць беларусаў. Па-другое, тэматыка дакладаў — амаль заўсёды на беларускія тэмы — фіксавалася на старонках выдрукаваных матэрыялаў і зноў жа сьведчыла пра Беларусь.

Адным зь першых частых выступоўцаў быў др. Аўген Вярбіцкі. Актыўнымі былі ксёндз Міхал Урбановіч у ЗША і Мікола Сільвановіч у Канадзе. З прыходам маладзейшых сябраў у БІНіМ беларуская тэма сталася рэгулярнаю ў гадавых кангрэсах навуковых таварыстваў *AAASS* (*American Association for the Advancement of Slavic Studies*), пазьней — *The Association for Slavic, East European, and Eurasian Studies* (*ASEEES*) ды *ALA* (*American Library Association*).

Што праўда, трапіць на такія канфэрэнцыі, зарэгістравацца было напачатку зусім няпроста. Пра тое красамоўна сьведчыць ліст Вітаўта Кіпеля да Віктара Сянкевіча:

*“Дарагі Віктар!*

*Справа такая: каля году назад я пачуў, што ў Вашынгтоне ў 1985 годзе адбудзецца 3-і Сусьветны кангрэс па вывучэньню СССР і Ўсходняе Эўропы. Папярэдні, здаецца, быў у Гармішы*[404] *(«мой» горад — там 5-га траўня 1945 г. я ўпяршыню пабачыў амэрыканцаў! успаміны).*

*Паколькі, як мне здаецца, у гэтых кангрэсах людзі нашых паглядаў удзелу дасюль ня бралі, я вырашыў на гэты форум неяк улезьці. Пачалася перапіска. Былі некаторыя церці, адным зь якіх была ўмова, што «панэль» мае быць абавязкова «інтэрнацыянальны», а ня толькі «амэрыканскі». Тады мы парадзіліся (я, Запруднік і Зора) і рашылі падаць Цябе. Падаў я таксама і тэму, назоў (далучаю Табе частку мае перапіскі, бо ўся недзе пагублялася! Дрэнна, што няма сакратароў!).*

*Вынік з гэтага ўсяго, што наш панэль і пад нашым назовам зацьверджаны! Коратка зьмест-склад «панэлю» гэткі: Др. В[іктар] Сенкевіч. Этнагэнэза Беларускага Народу: гісторыя паглядаў, сёньняшні стан; др. Я[нка] Запруднік. Беларуская гістарыяграфія сягоньня: праблемы, цікавыя поступы, пошукі; др. В[ітаўт] Кіпель. Гарызонты беларусаведы: Акадэмія*

---

[404] **Гарміш-Партэнкірхэн** (ням. *Garmisch-Partenkirchen*) — горад у Нямеччыне, на поўдні Баварыі, дзе пасьля Другой сусьветнай вайны жылі бацькі Вітаўта Кіпеля.

*Навук БССР, БІНіМ — тут коратка будзе разгледжана ўсё (ці важнейшае). Каардынатар: праф. Том Бэрд. Апанэнты: др. Маргарыта Бэтц*[405]*, сп-ня Зора Кіпель.*

*Том Бэрд жадаў-бы быць у панэлі, аднак вымогі канфэрэнцыі гэтак не дазваляюць, і я запрапанаваў яму быць каардынатарам, ён згадзіўся. Апрача Зоры, іншы апанэнт — Маргарыта Бэтц — нашая з Зорай добрая знаёмая. Др. мастацтва із спэцыялізацыяй у расейскім мастацтве, аднак бываючы часта, па ходу працы, у Савецкім Саюзе, знаёмая з нацыянальным пытаньнем і жадала-б бліжэй быць знаёмая зь беларусамі. Яна амэрыканка нямецкага паходжаньня. Апрача беларускага панэлю Зора бярэ ўдзел у панэлі кнігаведы.*

*Цяпер далей. Сам разумееш, што нам удзельнічаць у Кангрэсе — патрэбна. Зь лісту ад 20-га сьнежня выглядае, што магчыма ўдасца атрымаць нейкія дапамогі, але можа гэта й віламі па вадзе пісана. На прыезд трэба абапірацца на свае сродкі. Як у Цябе з сродкамі? Мы паглядзім, ці нешта можна будзе скамбінаваць ці ад БІНіМу, ці ад Крэчэўскага. Але гэта было-б больш сымбалічнае. Ці Ты змог бы нешта скамбінаваць ад радыё? Быць там карэспандэнтам? Ад СССР напэўна нехта будзе на Кангрэсе, але «бээсэсэраўцы» таксама імкнуцца пралазіць"*[406].

1990 год для беларусаў — гэта найперш абвешчаная ў ліпені незалежнасьць. Праз два месяцы, у верасьні, было ўтворанае Згуртаваньне

---

[405] **Маргарэт Бэтц** (анг. *Margaret Bridget Betz*), амэрыканская мастацтвазнаўца, спэцыялістка ў гісторыі расейскага мастацтва, доктарка філязофіі, прафэсарка, выкладае ва Ўнівэрсытэце Агаё.

[406] Ліст В. Кіпеля да В. Сянкевіча ад 24.12.1984. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

Вітаўт Кіпель: *Вельмі важнымі былі Кангрэсы вывучэньня Савецкага Саюзу і Ўсходняй Эўропы (World Congress for Soviet and East European Studies). Арганізацыйным целам гэтых Кангрэсаў стаўся Камітэт для вывучэньня Саветаў і Ўсходняй Эўропы (The International Committee for Soviet and East European Studies), створаны на самай першай канфэрэнцыі ў горадзе Банор, Канада, 4–7 верасьня 1974 г. Яна падаецца ў літаратуры як Першы сусьветны кангрэс. Тады ж было абумоўлена, што кангрэсы будуць адбывацца ў розных краінах зь пяцігадовымі інтэрваламі. Другі Кангрэс адбыўся ў Заходняй Нямеччыне ў горадзе Гарміш, 30 верасьня — 4 кастрычніка 1980 г. Трэці Кангрэс адбыўся ў Вашынгтоне ў 1985 годзе (30 кастрычніка — 4 лістапада) з адмысловым беларускім панэлем — "Гарызонты беларускіх дасьледаваньняў у Скарынінскі юбілейны год (1485–1985)". Удзел бралі Вітаўт Кіпель, Віктар Сянкевіч, Янка Запруднік, Зора Кіпель, Алеся Кіпель, Сьцяпан Стаськевіч, Маргарэт Бэтц, Ніна Кіт, Васіль Мельяновіч. Тады ж на асобным панэлі Зора Кіпель чытала даклад пра разьвіцьцё кнігаведы ў БССР. Даклад той пазьней быў перакладзены ў беларускую мову й выдрукаваны на Бацькаўшчыне (Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры. Выпуск 5. Мінск, 2014. С. 113–133).*

беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”, што з часам стала партнэрам БІНіМу ў Беларусі. А перад гэтымі падзеямі, у красавіку таго ж году, адбыўся міжнародны кангрэс у Рыме. Ён быў названы “Рым-I” і прысьвечаны праблемам гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Арганізатарамі Кангрэсу сталіся Фундацыя Яна Паўла II (Рым, Італія)[407], Літоўская каталіцкая акадэмія (Рым, Італія)[408], Інстытут усходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў імя Лыпінскага (Філадэльфія, ЗША)[409] і Беларускі інстытут навукі й мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША). Фактычна рымскі кангрэс быў першым, дзе сустрэліся й працавалі разам, як адзін блёк, беларусы-навукоўцы з дыяспары, Беласточчыны й Беларусі. У наступных кангрэсах прадстаўнікі БІНіМу былі гасьцямі: “Рым-II” (Люблін, 1991), “Рым-III” (Камянец-Падольскі, 1992), “Рым-IV” (Горадня, 1993), “Рым-V” (Трокі, 1994)[410].

Пра “Рым-I” Вітаўт Кіпель згадвае:

*“Рым, красавік—травень 1990 году. Там, упершыню па Другой сусьветнай вайне, сустрэліся й супольна працавалі на канфэрэнцыі беларусісты з ЗША, БССР, Ангельшчыны, Польшчы ды Італіі. Там жа мы сустрэліся з Адам Мальдзісам, хоць зь ягонымі працамі былі знаёмыя раней. Каб чытач ведаў, пры чым тут Рым і якая там адбылася канфэрэнцыя, зробім экскурс у недалёкае мінулае.*

*Недзе ўлетку 1989 году ў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (БІНіМ) Злучаных Штатаў Амэрыкі пазванілі з запытаньнем, ці згадзіўся б БІНіМ быць адным з арганізатараў-удзельнікаў канфэрэнцыі ў Рыме, прысьвечанай гісторыі народаў, што ўваходзілі ў склад Вялікага Княства*

407 **Фундацыя Яна Паўла II** (анг. *John Paul II Foundation*) — заснаваная ў 1981 г. у Рыме на загад Папы Яна Паўла II рэлігійная, адукацыйная, дабрачынная арганізацыя.

408 **Літоўская каталіцкая акадэмія навук** (літ. *Lietuvių katalikų mokslo akademija*) — заснаванае ў 1922 г. у Коўне аб’яднаньне літоўскіх навукоўцаў з мэтраполіі й дыяспары, адноўленае ў 1956 г. эміграцыйнымі літоўскімі структурамі ў Рыме, дзе працавала да 1992 г. (калі вярнулася на радзіму).

409 **Інстытут усходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў імя В. Лыпінскага** (укр. *Східноєвропейський дослідний інститут імені В’ячеслава Липинського*) — заснаваная ў 1963 г. у Філадэльфіі ўстанова, мэтамі якой было зьбіраньне, захаваньне, апрацоўваньне й публікацыя матэрыялаў, зьвязаных з найноўшай гісторыяй Украіны.

410 Вітаўт Кіпель: *Гэтыя канфэрэнцыі былі вельмі важнымі. Пе-першае, гэта ўнікальная міжнародная канфэрэнцыя, прысьвечаная адной тэме: дасьледаваньню Вялікага Княства Літоўскага — краіны, нашчадкі якой і былі арганізатарамі. Па-другое, беларускія дасьледчыкі, як з Захаду, гэтак і зь Беларусі, знаёміліся, збліжаліся, разумеліся паміж сабою й выступалі разам навонкі — з адзіным “беларускім пагля-дам”. Для эмігрантаў гэта была прыступка-вяртаньне на Бацькаўшчыну.*

*Літоўскага (ВКЛ). Паведамілі таксама, што іншымі арганізатарамі канфэрэнцыі будуць Украінскі Інстытут Вывучэньня Ўсходняе Эўропы імя Лыпінскага (Філядэльфія, ЗША), Літоўская Каталіцкая Акадэмія (Рым) і Польскі Інстытут Хрысьціянскай Культуры*[411]*, які знаходзіўся таксама ў Рыме.*

*Пасьля недаўгое кансультацыі зь сябрамі ўправы БІНіМу (др. Я[нка] Запруднік, З[ора] Кіпель, Т[омас] Бэрд і А[нтон] Шукелойць) прапанова супрацоўніцтва была прынятая. У пляне арганізацыі было таксама запрасіць дасьледнікаў з БССР, што мы й зрабілі, прапануючы др. Адама Мальдзіса, праф. Анатоля Грыцкевіча*[412] *й Васіля Быкава. Першыя два прыехаць у Рым змаглі, а з Васілём Быкавым выйшла «асечка» — ён прыехаць ня здолеў. Арганізацыйны камітэт канфэрэнцыі дадаткова яшчэ запрасіў беларусістаў з Польшчы ды В. Вярэніча з БССР, а мы — беларусістаў з Ангельшчыны й з Італіі.*

*Беларуская дэлегацыя на той канфэрэнцыі, названай «Рым-І», была даволі шматлікай. Праца канфэрэнцыі прайшла выдатна з чаргаваньнем у старшыняваньні сэкцыяў. Даклады канфэрэнцыі былі выдрукаваныя ў таўстой кнізе пад загалоўкам: «Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine: The Foundations of Historical and Cultural Traditions in East Central Europe» (Rome, 1994. 502 p.).*

*На заключнай пленарнай сэсіі было пастаноўлена правесьці сэрыю падобных канфэрэнцыяў у краінах — былых складніках ВКЛ — Беларусі, Літве, Польшчы ды Ўкраіне. За беларускага прадстаўніка ў арганізацыйны камітэт быў абраны др. Адам Мальдзіс. Можна сьцьвердзіць, што ад 1990 году пачалося наша супрацоўніцтва з Адамам Мальдзісам, а то й бліжэйшае калегаваньне, сяброўства. Гэтак адчувалі ўсе сябры БІНіМу. Замежным беларусістам было прыемна ўсьведамляць, што справа, пачатая для Беларусі на Захадзе, пераходзіла на Беларусь. Наступныя канфэрэнцыі, прысьвечаныя вывучэньню ВКЛ, адбываліся ў Польшчы, ва Ўкраіне, у Літве, а канфэрэнцыя «Рым-IV», якая адбылася ў 1993 годзе ў Горадні ды арганізатарам якое быў др. Мальдзіс, паводле выказваньняў удзельнікаў, была найбуйнейшай як колькасьцю дакладчыкаў, гэтак і дыяпазонам тэмаў. Прыгадваю таксама, што на адной з нашых беларускіх зборак у Рыме др. Мальдзіс выказаў думку, што ў Менску неабходна было б стварыць адмысловы дасьледча-навучальна-інфармацыйны цэнтар, у якім*

[411] **Польскі інстытут хрысьціянскай культуры** (польск. *Polski Instytut Kultury Chrześcijańskiej*) — адна з галоўных структураў Фундацыі Яна Паўла ІІ.

[412] **Анатоль Грыцкевіч** (1929–2015), гісторык, доктар гістарычных навук, прафэсар.

*распрацоўваліся б дасюль занядбаныя ў беларускай айчыннай навуцы тэмы, як, прыкладам: вывучэньне эміграцыі з заснаваньнем музэю эміграцыі, рэлігійная гісторыя Бацькаўшчыны, тэрміналягічныя праблемы беларусаведы, культурнае разьвіцьцё Беларусі ў кантэксьце сусьветнай гісторыі й г. д. Словам, стварыць цэнтар, які займаўся б усімі аспэктамі беларусаведы ў глябальным маштабе — інтэлектуальны цэнтар нацыі. Гэткае меркаваньне др. Мальдзіса было шчыра падтрыманае намі, беларусістамі Захаду, ды таксама, як выявілася неўзабаве, усёй беларускай дыяспарай. Першае, што мы зрабілі ад БІНіМу, гэта — падаравалі Цэнтру ксэраксную машыну, якую дапамагло перавезьці ў Беларусь Міністэрства замежных спраў РБ.*

*Задума др. Адама Мальдзіса пачала ўжыцьцяўляцца й рухацца наперад, калі ў 1991 годзе пры Міністэрстве Адукацыі быў зацьверджаны Нацыянальны Навукова-Асьветны Цэнтар імя Францішка Скарыны. На становішча дырэктара Цэнтру быў прызначаны др. А[дам] Мальдзіс. Першы год Цэнтар мясьціўся пры Акадэміі Навук, але ў 1993 годзе перасяліўся ў будынак былога Інбелкульту на вуліцы Рэвалюцыйнай. Дзейнасьць гэтае ўстановы разьвівалася вельмі шпарка й з амбітнай праграмай. Бадай ці ня першым важным і першасным для беларускай дзейнасьці намерам было наладзіць сувязь з эміграцыяй, ініцыяваць выставу «Беларусы ў сьвеце». Др. Мальдзіс выдаў з гэтае нагоды спэцыяльны камунікат, а для распаўсюджаньня яго ў дыяспары было падключана і Міністэрства Замежных Спраў РБ, як відаць са зьмешчанага ніжэй дакумэнту з архіву Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі (БККА).*

*Пачатак музею «Беларусы ў свеце» пакладзены!*

*У канцы верасня ў памяшканне былога Інбелкульта*[413] *(вул. Рэвалюцыйная, б[ылая] Койданаўская, 15) канчаткова пераехаў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны. Там жа, у самым вялікім пакоі, сцены якога памятаюць Максіма Гарэцкага і Усевалада Ігнатоўскага, Якуба Коласа і Янку Купалу, дзейнічае музейная выстава «Беларусы ў свеце», урачыста адкрытая ў час I з'езда беларусаў свету. Памятныя рэчы, кнігі, перыядычныя выданні, фатаграфіі, рукапісы, архіўныя дакументы перадалі сюды Алесь Алехнік з Аўстраліі,*

[413] **Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт)** — першая ў гісторыі Беларусі найвышэйшая шматгаліновая навукова-дасьледчая ўстанова, якая працавала ў Менску ў 1922–1928 гг. Пасьля была пераtворана ў Беларускую акадэмію навук.

*Ігар Казак і Вітаўт Кіпель з ЗША, Барыс Кіт з Германіі, Аляксандр Надсан з Вялікабрытаніі і інш. Свае палотны ахвяравалі мастакі Валерый Дзевіскіба[414], Мікола Купава[415], Вячка Целеш[416], Кастусь Харашэвіч[417]. Многа цікавых матэрыялаў пра Міхала Забэйду-Суміцкага, Пятра Мірановіча, беларусаў у даваеннай Латвіі перадаў паэт Сяргей Панізнік[418].*

*Аднак мы разумеем, што зроблены толькі пачатак. Разам з «Бацькаўшчынай», Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў[419] будзем пашыраць экспазіцыю, рабіць новыя стэнды, прысвечаныя дзеячам беларускай эміграцыі, нашым землякам, якія працавалі і працуюць у іншых краінах. Таму звяртаемся да ўсіх прадстаўнікоў беларускай дыяспары, хто мае адпаведныя матэрыялы: давайце пакінем для будучых пакаленняў памяць пра нашы паўсядзённыя справы, створым музей «Беларусы ў свеце». Наш адрас: Беларусь. 220050, Мінск-50, вул. Рэвалюцыйная (Койданаўская), 15. Цэнтр імя Ф. Скарыны.*

*Адам Мальдзіс,*
*дырэктар Цэнтра, прэзідэнт МАБ*

*Да супрацоўніцтва з Цэнтрам далучыліся ўстановы й індывідуальныя дасьледчыкі як на Беларусі, гэтак і ў блізкім замежжы, а таксама «далёкая» дыяспара. У Злучаных Штатах з Цэнтрам пачалі супрацоўнічаць Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА), Фундацыя імя П[ётры] Крэчэўскага ды іншыя грамадзкія й царкоўна-грамадзкія арганізацыі. Мець сувязь з Цэнтрам выказаліся таксама з паўтузіна чыста амэрыканскіх навукова-дасьледчых установаў ды некалькі большых бібліятэкаў. Супрацоўнічаць з Цэн-*

---

[414] **Валеры Дзевіскіба** (1943–2004), мастак з Гомля, значную частку жыцьця пражыў у Рызе (Латвія).

[415] **Мікола Купава** (нар. 1946), мастак, жыве ў Менску.

[416] **Вячка (Вячаслаў) Целеш** (нар. 1938), мастак, краязнавец, філякартыст, жыве ў Рызе (Латвія).

[417] **Кастусь Харашэвіч** (1927–2013), мастак, жыў у Маладзечне.

[418] **Сяргей Панізьнік** (нар. 1942), паэт, празаік, публіцыст.

[419] **Міжнародная асацыяцыя беларусістаў** — заснаванае ў 1991 г. аб’яднаньне дасьледнікаў, выкладчыкаў, дзеячаў культуры розных краінаў, што займаюцца вывучэньнем і папулярызацыяй беларускай гісторыка-культурнай спадчыны, ведаў пра Беларусь. У 1991–2005 гг. старшынём МАБ быў Адам Мальдзіс.

*трам пачала Беларуская Бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лёндане*[420]*, Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ)*[421] *ды іншыя.*

*У самым Цэнтры быў створаны біяграфічна-бібліяграфічны аддзел, дзе ўкладалася прадметна-профільная картатэка як дыяспары, гэтак і інфармацыі пра Беларусь. Гэткая ініцыятыва-праграма была асабліва патрэбная Беларусі, бо ніколі дагэтуль Беларусь не прасочвала, што пісаў пра яе замежны друк.*

*Важным пунктам дзейнасьці новага Цэнтру, аб чым гутарылася-плянавалася дэтальна й даўгавата, было арганізаваць пэрманэнтную катэдру вывучэньня беларускае эміграцыі. На гэтым праекце аднадушна пагаджаліся ўсе: дасьледчыкі з Масквы, Сібіры, Аўстраліі й г. д. Падобная катэдра магла б рабіць шмат чаго, у тым ліку быць пасярэднікам паміж дыяспарай і краінай, а фінансаваньне катэдры было б цалкам адказнасьцю дыяспары. Наагул уважалася, што ў фінансавых патрэбах Цэнтру, у падтрымцы разнастайных праграмаў, зможа ўзяць на сябе цяжар эміграцыя, пры гэтым землякі-эмігранты з нафтаносных раёнаў Сібіру былі вельмі пазытыўна настаўленыя і на стыпэндыяльныя фонды пры Скарынаўскім Цэнтры. Першымі крокамі да збліжэньня з эміграцыяй сталіся пэрыёдык «Кантакты і дыялогі» ды навуковая сэрыя «Albaruthenica». Выйшла таксама пад маркай Цэнтру кніга з гісторыі эміграцыі «Беларусы ў ЗША» (пасьля чаго зьявілася й англамоўнае выданьне амэрыканскага выдавецтва). Былі апублікаваныя важныя дадаткі да апублікаваных раней бібліяграфіяў Скарыніяны (Неміроўскі, Тумаш) ды некалькі працаў на культуралягічныя тэмы.*

*Прадстаўнікі Цэнтру ўдзельнічалі ў шмат якіх міжнародных канфэрэнцыях і сымпозіюмах. Асабліва важны, прынамся ў ацэнцы гэтага аўтара, стаўся ўдзел Цэнтру ў міжнародным кангрэсе, прысьвечаным праблеме пошукаў разрабаванай культурнай спадчыны дзясятка розных эўрапейскіх краінаў у часе Другой сусьветнай вайны. Кангрэс прайшоў на высокім узроўні — бадай усе ягоныя ўдзельнікі былі дзяржаўнымі функцыянэрамі, а маскоўская дэлегацыя ўлучала ў сябе прадстаўнікоў некалькіх міністэрстваў. На жаль, мы, беларусы, у тым часе ня мелі дзяржаўнае структуры па праблеме разрабаваных скарбаў, і таму цалкам мэтазгод-*

[420] **Беларуская бібліятэка й музэй імя Ф. Скарыны ў Лёндане** — заснаваная ў 1950-х гг. і афіцыйна адчыненая ў 1971 г. грамадзка-культурная інстытуцыя, якая займаецца зьбіраньнем, захаваньнем і папулярызацыяй беларускай культурнай спадчыны.

[421] **Згуртаваньне беларусаў у Вялікай Брытаніі** — заснаваная ў 1947 г. грамадзкая арганізацыя беларускіх эмігрантаў у Вялікай Брытаніі.

*на было дэлегаваць на тую канфэрэнцыю прадстаўніка Цэнтру др. Адама Мальдзіса. Арганізатары канфэрэнцыі з такім паглядам пагадзіліся, і др. Мальдзіс прадстаўляў Беларусь. Канфэрэнцыя, якая трывала тры дні, адбылася ў студзені 1995 году ў Нью-Ёрку. Вынікам яе сталася залічэньне страчаных беларускіх каштоўнасьцяў у каталёгі пошукавых агенцтваў і навуковых установаў, а крыж сьв. Еўфрасіньні Полацкай[422] быў рэпрадукаваны ў колерах як асабліва важная страта для беларускага народу, гэтак жа як і страта для ўсяго чалавецтва. Працы канфэрэнцыі выдрукаваныя пад загалоўкам «The spoils of World War II and its aftermath; the loss, reappearance and recovery of cultural property» (New York, Bard Grad. Center, 1997. 337 p.).*

*Менскі Нацыянальны Навукова-Асьветны Цэнтар імя Францішка Скарыны ўвайшоў у кантакт з сотнямі ўнівэрсытэтаў, музэяў, дасьледчых асяродкаў. Рабіліся пляны разам з зацікаўленымі ўстановамі замежжа, у тым ліку эмігранцкімі, разбудаваць у Менску музэй эміграцыі, стварыць геамарфалягічны парк-запаведнік сусьветнага маштабу, папулярызаваць для турызму культурныя каштоўнасьці Беларусі й да таго падобнае. Аднак гэтая патрэбная для беларускае нацыі праца была прыпыненая ды пасьлядоўна й плянава стрыманая зусім. Скарынаўскі Цэнтар спыніў існаваньне, быў фактычна разгромлены, як былі разгромленыя даўней Віленскі Ўнівэрсытэт[423], Горы-Горацкая Акадэмія[424], а пазьней Інбелкульт[425]. Слоў няма, вялізная згуба для Нацыі. І хоць паэт казаў, што «хамскія натуры» выносяць зьдзекі[426], гэта — ня лёгіка! Асабліва, калі мы — сучасьнікі й сьведкі такіх злачынстваў. Будзем верыць, што лепшыя часы настануць”*[427].

---

[422] **Крыж Эўфрасіньні Полацкай** — шэдэўр сярэднявечнага мастацтва, выраблены ў Полацку для ігуменьні Эўфрасіньні (1104–1167) майстрам Лазарам Богшам у 1161 г., быў згублены ў часе Другой сусьветнай вайны.

[423] Віленскі ўнівэрсытэт быў зачынены ў 1832 г. паводле рэскрыпту Мікалая I з прычыны падтрымання выкладчыкамі й студэнтамі паўстаньня 1830–1831 гг.

[424] Горы-Горацкі земляробчы інстытут, заснаваны ў 1848 г. на базе аднайменнай земляробчай школы, у 1864 г. за падтрыманьне паўстаньня 1863–1864 гг. быў пераведзены ў Санкт-Пецярбург.

[425] У 1928 г. на базе Інбелкульту была створаная Беларуская акадэмія навук, аднак значная частка былых працаўнікоў Інстытуту (улучна з кіраўніцтвам) цягам 1930-х гг. была рэпрэсаваная.

[426] Маюцца на ўвазе радкі зь вершу Янкі Купалы “Ворагам Беларушчыны”: “*Ня столькі «хамскія» натуры на карках вынесьлі сваіх!”*

[427] Кіпель, Вітаўт. Скарынаўскі Цэнтар разгромлены, але ён патрэбен для нацыі // Беларусь у прасторы і часе: Зборнік да 76-годдзя прафесара Адама Мальдзіса / Пад рэд. С. Запрудскага, А. Фядуты, З. Шыбекі. Мінск: Лімарыус: 2007. С. 74–76.

# БІНіМ — Беларусі й беларусам

З таго красавіка 1990 г. пачалося супрацоўніцтва БІНіМу зь Беларусьсю. Ня толькі з Скарынаўскім цэнтрам. Янка Запруднік, Зора й Вітаўт Кіпелі прыяжджалі — не як турысты! — у Менск, Горадню, Гомель, Магілёў з дакладамі, выступалі на канфэрэнцыях, бралі ўдзел у круглых сталах, у абмеркаваньні выдавецкіх плянаў, расказвалі пра сябе й беларускую справу на Захадзе. Тэма гісторыі эміграцыі з маргінэсу паступова рабілася адной з цэнтральных:

*"Шаноўны спадар В[ітаўт] Кіпель!*

*У 18-томную «Беларускую Энцыклапедыю» (універсальную) запланавана ўключыць матэрыялы і пра беларускае замежжа. Цяпер мы працуем над артыкуламі для 2-га тому БелЭн. На жаль, мы не можам знайсці інфармацыю для напісання вось гэтых артыкулаў:*

*1. Бакач Пётр (Прага).*

*2. Бартуль Францішак.*

*3. Барысавец Ксаверы.*

*4. Беларускае згуртаванне ў Бельгіі (ці Саюз беларусаў Бельгіі?).*

*5. Беларускае культурна-асветнае таварыства імя Я. Купалы ў Буэнас-Айрэсе (Аргенціна).*

*6. Беларускае нацыянальнае аб'яднанне ў ЗША.*

*7. Беларускі нацыянальны цэнтр у Берліне.*

*8. Беларускі саюз моладзі ў Канадзе.*

*9. Беларускі скаўтынг за мяжой.*

*10. Беларускае школьнае таварыства імя Ф. Скарыны, ЗША.*

*11. «Беларуская школа», выдавецтва ў Нью-Ёрку.*

*12. Беларускі даследчы інстытут імя К. Каліноўскага.*

*13. «Беларусіян Рэв'ю»*[428] *(Беларускі агляд), перыядычнае выданне ЗША.*

*Будзем вельмі ўдзячны, калі Вы дапаможаце нам падрыхтаваць артыкулы да выдання. Схема артыкулаў — дакладныя, поўныя звесткі пра персаналію, арганізацыю, прынятыя для ўніверсальных энцыклапедый. Магчыма, сярод гэтых тэрмінаў сустракаюцца малазначныя і вузкія, іх патрэбна выключыць. [...]*

*З пажаданнямі ўсяго найлепшага, асабліва добрага здароўя.*

*Л[юбоў] М[іхайлаўна] Драбовіч*
*11.9.95 г.".*

---

[428] ***«Byelorussian (Bielarusian) Review»*** — штоквартальны інфармацыйны бюлетэнь, які выдаваўся з 1989 г. у Каліфорніі. Пазьней выданьне пераехала ў Прагу, дзе й працягваецца.

Гэта быў плённы, хоць і параўнальна кароткі пэрыяд. Ад яго засталіся ня толькі ўспаміны аб прыязных спатканьнях, ня толькі газэтныя артыкулы й інтэрвію ды апублікаваныя тэзісы дакладаў. Засталіся сувязі, навязаныя кантакты, сяброўскія й працоўныя, утварыўся той мост, з дапамогаю якога можна было рабіць канкрэтную працу.

Зь Нью-Ёрку ў Беларусь пайшлі пачкі, высланыя ад імя Інстытуту[429]:

*“28 чэрвеня 1993 г.*

*Да ўвагі Г[аліны] М[ікалаеўны] Алейнік*[430].

*Ад імя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва перадаем Нацыянальнай Бібліятэцы Рэспублікі Беларусь калекцыю беларускамоўных і беларусаведных выданьняў і часапісаў, якія выйшлі на Захадзе за апошнія 50–60 гадоў.*

*У калекцыю ўключана ладная частка прадукцыі беларускіх і небеларускіх выдавецтваў дыяспары: панад 300 назваў кніжак ды камплекты большых беларускіх пэрыёдыкаў, як «Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва», «Конадні», «Сакавік», «Шыпшына», «Беларуская Думка»*[431]*, «Беларускі Сьвет»*[432]*, «Беларуская Моладзь»*[433]*, «Віці», «Рух»*[434]*, «Голас Царквы»*[435]*, «Царкоўны Сьветач»*[436]*, «Баявая Ўскалось», «Веда», «Беларускія Зборнікі» (англамоўныя і беларускамоўныя)*[437]

---

429 Усе цытаваныя далей лісты захоўваюцца ў БДАМЛМ.

430 **Галіна Алейнік** (нар. 1942), бібліятэкарка, першая жанчына, якая займала пасаду дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (1990–2002).

431 **«Беларуская Думка»** — грамадзка-палітычны й літаратурна-мастацкі часопіс, які выдаецца ў ЗША (спачатку ў Нью-Ёрку, цяпер у Саўт-Рывэры) з 1960 г.

432 **«Беларускі Сьвет»** — грамадзка-культурны часопіс, што выходзіў у 1963–1991 гг. у Дэтройце, пазьней у Грэнд-Рэпідсе намаганьнямі рэдактара й выдаўца Міколы Прускага.

433 **«Беларуская Моладзь»** — квартальнік Згуртаваньня беларускай моладзі ў Амэрыцы, які выходзіў у Брукліне ў 1959–1980 гг.

434 **«Рух»** — пэрыёдык грамадзка-палітычнай скіраванасьці, *«орган беларускай нацыянальна-вызвольнай думкі»*, што выходзіў у Нямеччыне ў 1946–1948 гг. пад рэдактарствам Станіслава Станкевіча й Антона Адамовіча. Выйшла 5 нумароў.

435 **«Голас Царквы»** — рэлігійна-грамадзкі часопіс, які выдаваўся ў Нью-Ёрку Царкоўнай радай БАПЦ у 1955–1993 гг. Рэдактарамі ў розныя часы былі: уладыка Васіль, Міхась Міцкевіч, Пётра Манькоўскі.

436 **«Царкоўны Сьветач»** — царкоўна-грамадзкі часопіс, орган Беларускага праваслаўнага царкоўнага камітэту ў Амэрыцы, які выдаваўся ў Саўт-Рывэры ў 1951–1988 гг.

437 Маюцца на ўвазе пэрыёдыкі Мюнхэнскага інстытуту вывучэньня СССР: «Беларускі зборнік» і «*Belorussian Review*», якія выдаваліся ў 1955–1960 гг. у Мюнхэне.

*ды іншыя, меншыя. Паводля профілю ў калекцыю ўлучаныя працы — гістарычныя, літаратуразнаўчыя, лексыкаграфічныя, падручнікі, матар'ялы з гісторыі беларускай ды эўрапейскай эміграцыі, рэлігійная літаратура, пераклады, успаміны ў беларускай, ангельскай, італьянскай, францускай, гішпанскай, расейскай, польскай, украінскай, японскай і турэцкай мовах.*

*Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва рыхтуюцца цяпер працы: «Беларускі Пэрыядычны Друк на Эміграцыі» ды «Беларуская Кніга на Эміграцыі: 1939–1994»; у меру таго, як будзе апрацоўвацца эмігранцкі друк у Менску, БІНіМ спадзяецца дапамагчы Нацыянальнай Бібліятэцы дапоўніць і ўкамплектаваць выданьні дыяспары.*

*Вітаўт Кіпель, старшыня*".

"*2 студзеня 1996 г.*

*Высокашаноўныя спадарыні Л[юдміла] Рабок*[438] *і Г[аліна] Алейнік!*

*Найперш, вітаем мы з Зорай Вас у Новым Годзе! Шчыра, шчыра жадаем, каб усё палепшылася — жыцьцё, настрой!*

*Гэтаксама вельмі Вам удзячныя за даўнавата прысланыя кнігі: нарэшце мы ўкамплектавалі «нашага» Караткевіча. Ведаем, што з слоўнікамі будзе цяжэй.*

*Выслалі мы сягоньня вялікую, сапраўды вялікую пачку з кнігамі. Высылаем празь нейкую кантору, якая гарантуе дастаўку праз 8–10 тыдняў! Пабачым. Высылаем мы пасылкай, бо ня хочам, каб, калі прыедзем у Менск (калі ня зьменяцца законы?!) нас шманалі ў аэрапорце. У пасылцы ёсьць пару беларускіх кнігаў, якія раней нам не ўдалося знайсьці, вельмі шмат кнігаў не беларускіх выдаўцоў, але якія маюць дачыненьне да Беларусі. Гэта пераважна кнігі, якія выдаваліся палякамі, літоўцамі ці рускімі (асабліва аб гісторыі царквы) на эміграцыі: у Парыжы, Лёндане, Нью-Ёрку. Гэтыя кнігі трэба, каб былі ў нашай Нацыянальнай Бібліятэцы.*

*Гэтаксама ў пасылку ўлучаныя кнігі агульнага зьместу, якія былі ў нашай БІНіМаўскай бібліятэцы, але ім таксама трэба быць у Нацыянальнай — гэта кнігі з амэрыканскае гісторыі, у якіх ёсьць дакумэнты да гісторыі эміграцыі ці, прыкладам, кніга былога прэзыдэнта Джона Кенэды*[439] *аб эмігрантах. Праўда, адна ў той пачцы кніга з мае прыватнае*

---

[438] **Людміла Рабок** (нар. 1949), бібліятэкарка, у 1986–2006 гг. была загадчыцаю аддзелу беларускай літаратуры Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

[439] **Джон Фіцджэралд Кенэдзі** (анг. *John Fitzgerald Kennedy*, 1917–1963), 35-ы прэзыдэнт ЗША (1961–1963).

*бібліятэкі, якую я некалі купіў, бо ў ёй сабраны амэрыканскі фальклёр, які тычыцца геалёгіі, шахцёрства, краязнаўства. Шлю я яе ў Менск, бо яна тут стала рэдкасьцю, але ў большых бібліятэках ёсьць, дык варта, каб гэтая энцыкляпэдыя была і ў Менску! Ёсьць у пасылцы таксама некалькі францускамоўных тамоў (дзевятнаццатага стагодзьдзя), якія трэба, каб былі ў Менску і якія Зора некалі купіла ў Парыжы. Будзем Вас прасіць, каб нас паведамілі, як кнігі атрымаеце, бо тады праз гэтую кантору вышлем новую пасылку.*

*Падбіраем мы таксама амэрыканскія энцыкляпэдычныя выданьні, у якіх ёсьць інфармацыя пра Беларусь. Шмат з гэтых кнігаў будуць «аўтарскія», прыкладам, новая энцыкляпэдыя гораду Нью Ёрку, Кліўленду, але шмат і не. Пабачым, калі перасылачная кантора будзе спраўляцца ОК, дык будзем слаць празь іх.*

*Ну, здаецца, выказана ўсё, што было сёньня на думцы! Жадаем Вам усім, усяму бібліятэкарскаму калектыву ўсяго найлепшага ў Новым Годзе і спадзяемся на сустрэчу!*

*Зь сяброўскім прывітаньнем Вітаўт і Зора Кіпель".*

У адказ ішлі лісты:

*"Hainowka,*
*14.06.1990*

*Паквітаванне.*

*Квітую атрыманне ад спадарства Зоры і Вітаўта Кіпеляў, ЗША на Музей у Гайнаўцы дар на суму 500 (пяцьсот даляраў) ЗША.*

*[Подпіс]"*

*"24 лістапада 1991 г.*
*г. Маладзечна.*

*Глыбокапаважаны спадар Вітаўт Кіпель!*

*Шлю Вам сваю новую кніжачку пра Максіма Багдановіча*[440]*. Да юбілею Паэта яна ня дойдзе, але ж можа трапіць Вам у рукі на Каляды, то і добра.*

*Паглядзіце на малюнкі майго маладачанскага суседа Юрася Герасіменкі-Жызьнеўскага*[441]*, і Вам захочацца пабываць у Ракуцёўшчыне, сьветлай*

440 Маецца на ўвазе выданьне: Каханоўскі, Генадзь. А сэрца ўсё імкнецца да бацькоўскага краю...: З біяграфіі Максіма Багдановіча. Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. — 77 с.

441 **Юры Герасіменка-Жызьнеўскі** (1948–1997), мастак, графік.

*мясьціне Максіма. Тут жа з маленства праводзілі вакацыйныя леты Іван і Антон Луцкевічы. Будзеце другі раз на Бацькаўшчыне — не ўпусьціце гэтай магчымасьці.*

*Чытаю Вашыя вельмі цікавыя публікацыі пра беларускую эміграцыю. Дай Божа давесьці ўсё задуманае да шчаслівага канца. Піша пра гэта і Барыс Сачанка*[442]*, але паміж ім і Вамі такая розьніца, як паміж студэнтам-завочнікам і студэнтам-стацыянарнікам. І меў рацыю абурацца Алесь Барскі*[443]*, калі гаварыў, што гэтай справай належыць займацца тым асобам, якія самі жывуць у эміграцыі.*

*Пры сустрэчы «за круглым сталом» на кангрэсе беларусістаў я Вам паказваў, а дакладней будзе, даваў інфармацыю пра стрыечную сястру маёй жонкі — Валянціну Міхайлаўну Бялько (або Белька). Ёй 60–65 гадоў. Па ўскоснай інфармацыі дзесяцігадовай даўніны яна жыла зь сям'ёй у Ганалулу на Гаваях, працавала там ці працуе прафэсарам хіміі ва ўнівэрсытэце. Яна нарадзілася ў Нью-Ёрку, дзе бацька Міхал Аляксеевіч Бялько (Белька) меў парфумовую фабрыку. Ён памёр 40–45 гадоў назад. У эміграцыю трапіў дзіцем у 1901–1903 гг. зь вёскі Дамашы, што каля Маладзечна. Тады зь яго вёскі выехала больш дзесяці сем'яў. Вярнулася дамоў толькі дзьве сям'і, у тым ліку і мой будучы цесьць Пётра Аляксеевіч Бялько (1904–1986). Брат жа яго Міхась застаўся там. Мяркуецца, што Валянціна замужам за нарвэгам (?) і мае трох сыноў. Яна была адна дачка ў бацькоў. Маці была, здаецца, амэрыканка. Як зваць яе? Магчыма, Зося (Соня). Вось такая скупая інфармацыя. Можа Вам што-небудзь удасцца даведацца пра яе, будзем вельмі ўдзячныя. Мяркую, што гэтыя зьвесткі могуць быць прыдатнымі і ў Вашай працы па праблеме беларускай эміграцыі.*

*Я сам працую ў Скарынаўскім цэнтры, які зараз на стадыі станаўленьня. Нялёгка і Адаму Мальдзісу, пакуль усё не адрэгулюецца. Спадзяёмся на лепшае.*

*Паклон спадарыні Зоры Кіпель і пажаданьні ёй посьпехаў!*

*З пашанай, Генадзь Каханоўскі".*

---

[442] **Барыс Сачанка** (1936–1995), пісьменьнік, перакладнік, выдавец, аўтар кнігі «Беларуская эміграцыя» (Мінск, 1991).

[443] **Алесь Барскі** (сапр. *Аляксандар Баршчэўскі*, нар. 1930), паэт, літаратуразнаўца, доктар філялягічных навук, жыве ў Варшаве.

*“Культурны асяродак «Беларусь»*[444]*.*
*Казахская ССР, Алма-Ата.*
*12.12.92.*

*Паважаны спадар Вітаўт Кіпель!*

*Шчырае Вам дзякуй за вельмі карысныя для нас кнігі і ахвяру на грамадскую працу. Ахвяру мы выкарысталі для выдання значкоў «Т[адэвуш] Касцюшка»*[445]*. Мяркуем і імкнемся стварыць часовы домік-музей Т[адэвуша] Касцюшкі ў Марачоўшчыне (Косава). У гэтым напрамку таксама вядзе нейкую працу камісія ВС Беларусі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны (А[лег] А[натольевіч] Трусаў*[446]*). Дарэчы, імя Касцюшкі ўспрымаецца ў Беларусі ўсё лагодней: нас просяць паўтарыць тыраж значкоў.*

*Невялікую колькасць значкоў мы накіравалі Вам.*

*19–20 снежня 1992 г. у Менску павінен адбыцца з’езд беларусаў рэспублік былога СССР і Беласточчыны. Падрыхтоўка да яго спешная. Мы звяртаемся да ўдзельнікаў з’езду са сваім зваротам.*

*Зычым Вам і Вашым сябрам, усім нашым суайчыннікам у Паўночнай Амерыцы добрага здароўя, здзяйснення ў наступным 1993 годзе ўсіх мар і задумак.*

*Я[ўген] Майсейчык*[447]*”.*

*“Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны*

*14.01.93.*

*Шаноўны Вітаўт Кіпель!*

*Рэктарат Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны выказвае Вам вялікую ўдзячнасць за спагаду і дапамогу ў фарміраванні нашага музея-лабараторыі Ф. Скарыны. Кнігі, якія Вы ласкава даслалі ў наш*

---

[444] **Культурны асяродак «Беларусь»** (сёньня Нацыянальны культурны цэнтар «Беларусь») — грамадзкае аб’яднаньне, заснаванае ў Алматы ў 1992 г.

[445] **Тадэвуш Касьцюшка** (1746–1817), ваенны інжынэр і грамадзкі дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік вызвольнага паўстаньня 1794 г., нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША. Значак, прысьвечаны Тадэвушу Касьцюшку і выдадзены ў Казахстане, уяўляў зь сябе выяву дзеяча на фоне бел-чырвона-белага сьцяга.

[446] **Алег Трусаў** (нар. 1954), археоляг, гісторык, палітычны й грамадзкі дзеяч. У 1990–1996 гг. быў дэпутатам Вярхоўнага Савету XII скліканьня й намесьнікам старшыні камісіі Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры й ахове гістарычнай спадчыны.

[447] **Яўген Майсейчык** на той час быў адказным сакратаром рады Культурнага асяродку “Беларусь” у Алматы.

*адрас, занялі ганаровае месца ў экспазіцыі музея, а Ваша прозвішча і назва Інстытута занесены ў спецыяльны запіс яго сяброў.*

*Спадзяемся, што гэта з'явіцца пачаткам нашых цесных творчых сувязей і супрацоўніцтва ў галіне гуманітарных навук па лініі Савета па міжнародных даследаваннях і навуковых абменах (АЙРЭКС ЗША), у адкрытым конкурсе якога ўдзельнічае прафесар нашага універсітэта Анічэнка Уладзімір Васільевіч*[448] *(тэма «Лінгвістычная Скарыніяна»). Для завяршэння названай тэмы прадугледжаны навуковыя пошукі і ў фондах Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку.*

*З павагай, рэктар універсітэта член-карэспандэнт АН Беларусі*
*Л[еанід] А[ляксандравіч] Шамяткоў*[449]*".*

*"Міністэрства аховы здароўя*
*Музей медыцыны Беларусі*

*14 сакавіка 1994 г.*

*Шаноўны спадар Вітаўт Кіпель!*

*З гарачым прывітаннем звяртаюцца да Вас супрацоўнікі Музея гісторыі медыцыны Беларусі.*

*Зараз у нашай краіне вядуцца даследаванні аб беларускім замежжы. Паўстаюць з нябыту, вяртаюцца з забыцця новыя імёны і постаці нашых суродзічаў, якія па волі лёсу апынуліся далёка за межамі Бацькаўшчыны. Гэта часцей за ўсё датычыцца літаратараў, грамадскіх дзеячоў.*

*Наш Музей, са свайго боку, распачаў працу па зборы банка дадзеных аб медыках беларускага замежжа — прадстаўніках практычнай і навуковай медыцыны.*

*Буду надзвычай удзячна Вам, калі Вы знойдзеце магчымасць даслаць нам імёны і адрасы медыкаў беларускай эміграцыі ў Амерыцы альбо іх сваякоў. [...]*

*З найлепшымі пажаданнямі і з надзеяй супрацоўніцтва*

*Таццяна Святловіч*[450]*, дырэктар Музея".*

[448] **Уладзімер Анічэнка** (1924–2001), мовазнаўца, доктар філялягічных навук, заслужаны дзеяч навукі БССР.

[449] **Леанід Шамяткоў** (1937–2013), матэматык, доктар фізыка-матэматычных навук, прафэсар, у 1989–2000 гг. быў рэктарам Гомельскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Ф. Скарыны.

[450] **Таццяна Сьвятловіч** (нар. 1965), мэдык, кандыдатка мэдычных навук, у той час была дырэктаркаю Музэю гісторыі мэдыцыны Беларусі.

*“Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.*

*07.09.94.*

*Доктару Вітаўту Кіпелю*
*Беларускі Інстытут навукі і мастацтва,*
*Нью Ёрк, ЗША.*

*Шаноўны спадар,*

*З прыемнасцю ўспамінаем Ваш візіт на Беларусь, сустрэчу і гутарку па пытаннях нацыянальнага Адраджэння. Практычным развіццём нашых намераў у гэтым кірунку з’явіцца выданне на працягу бліжэйшых пяці гадоў універсальнай нацыянальнай энцыклапедыі ў 18 тамах. Выпуск першага тома запланаваны на 1995 г.*

*Аднак крызіс, які ахапіў унутранае жыццё рэспублікі, ускладняе сітуацыю. Мы адчуваем востры недахоп сучаснай інфармацыі, асабліва па пытаннях сусветнай эканомікі, навукі, культуры.*

*Былі б вельмі ўдзячны, шаноўны спадар, калі б Вы знайшлі магчымасць садзейнічаць распачатай намі справе і выслаць статыстычны даведнік (магчыма і іншыя матэрыялы), якія адлюстроўваюць сучасны стан дзяржаўнасці, насельніцтва і гаспадаркі краін і рэгіёнаў свету.*

*Жадаем здароўя і поспехаў, спадзяемся на новыя сустрэчы.*

*Жыве Беларусь!*

*Шчыра Ваш Б[арыс] Сачанка”.*

*“Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага.*

*12 сакавіка 1996 г.*

*Добры дзень, шаноўны Вітаўт Кіпель!*

*Шчырае прывітанне шлюць Вам супрацоўнікі Гарадзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага. Мы ведаем Вас не толькі як аўтара кнігі «Беларусы ў ЗША», але і як вялікага даследчыка-гісторыка беларускай дыяспары ў Злучаных Штатах Амерыкі.*

*Вы з’яўляецеся прапагандыстам беларускай спадчыны, наладжваеце беларуска-амерыканскія культурныя сувязі і на працягу свайго жыцця неадлучальны ад беларускай нацыі і культуры. Таму мы звяртаемся да Вас з просьбай дапамагчы нашым чытачам далучыцца да ведаў аб беларусах далёкага замежжа, гісторыі нашай Радзімы. Па магчымасці даслаць нашай бібліятэцы выданні, якія друкуюцца ў Вашым Інстытуце.*

*Як вядома Вам, цяжкое фінансавае становішча ў краіне не дае магчымасці набыць у бібліятэку тыя кнігі, якія патрэбны нашым чытачам.*

*Гарадзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага з'яўляецца старэйшай бібліятэкай у рэспубліцы, першай публічнай бібліятэкай у Беларусі. У 1995 годзе бібліятэцы споўнілася 165 гадоў. Фонд бібліятэкі сёння налічвае 600 тыс. асобнікаў, якім карыстаецца 38 тыс. чытачоў. З кожным годам усё менш стала паступаць літаратуры ў бібліятэку. За апошні год атрымана ўсяго 6 тыс. кніг. У бібліятэцы працуе 76 бібліятэчных супрацоўнікаў, якія шлюць Вам падзяку за Вашу працу на карысць людзям, сваім суайчыннікам, і запрашаюць да сябе ў госці, калі з'явіцца магчымасць пабываць у Гародні.*

*З павагай і шчырымі пажаданнямі Вам моцнага здароўя, шчасця і поспехаў ва ўсіх Вашых добрых справах.*

*Дырэктар бібліятэкі Станіслаў Міхальчык".*

*"Выдавецтва «Мастацкая Літаратура»*

*21 лістапада 1996 г.*

*Дырэктару Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку Сп. Вітаўту Кіпелю.*

*Шаноўны спадар Кіпель!*

*Маем гонар зь вялікай прыемнасьцю паведаміць, што з дапамогаю Вашага Інстытуту (1400 даляраў ЗША) у сэрыі «Галасы беларускага замежжа» пабачыла сьвет кніга паэзіі Натальлі Арсеньневай «Яшчэ адна вясна»*[451].

*Выдавецтва «Мастацкая літаратура» разьлічвае на працяг супрацоўніцтва зь Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў справе выданьня на Бацькаўшчыне літаратурных твораў нашых замежных суайчыньнікаў. Нягледзячы на пэўныя цяжкасьці, цяпер падрыхтаваная да друку кніга паэзіі Алеся Салаўя «Нятускная краса»*[452]*. Спадзяемся, што БІНіМ знойдзе магчымасьць фінансава падтрымаць гэтае выданьне сваім унёскам у памеры дзьве тысячы даляраў.*

---

451 Маецца на ўвазе выданьне: Арсеннева, Наталля. Яшчэ адна вясна: выбраныя вершы / Уклад. і прадм. А. Сямёнавай. Мінск: Мастацкая літаратура, 1996. — 271 с.

452 Падрыхтаваная кніга так і не пабачыла сьвету.

*З найлепшымі пажаданьнямі*

*Дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура»*
*Георгій Марчук*[453]
*Галоўны рэдактар Серафім Андраюк*[454]
*Кіраўнік выдавецкай групы «Спадчына»*
*Уладзімер Арлоў*[455] *”.*

*“Аб’яднанне Беларускіх Скаўтаў*

*г. Менск*
*4 сьнежня 1996 г.*

*Добры дзень, шаноўны спадар Вітаўт!*

*Вялікі дзякуй Вам за кнігі, яны ўсе дашлі ў цэласьці і захаванасьці, праўда, чалавек, які вёз пасылку, ня здолеў знайсьці дом па адрэсе, і ён пакінуў яе ў другіх людзей, яны са мной сазваніліся і аддалі пасылку мне.*

*Шчыра кажучы, я быў вельмі ўражаны яе памерам і вагою.*

*Яшчэ раз шчыра дзякую Вам і спадару [Міколу] Прускаму за яе.*

*Кнігі і часапісы для нас вельмі цікавыя, і некаторыя матар’ялы вартыя таго, каб іх ізноў передрукаваць. Вялікі дзякуй Вам і за асабістыя рэчы, якія Вы перадалі. Калі ў нас выпадзе магчымасьць стварыць скаўцкі музэйчык, яны там зоймуць годнае месца.*

*На жаль, не магу пахваліцца перад Вамі нашымі вялікімі посьпехамі — палітычнае надвор’е ў краіне ня надта адрозьніваецца ад прыроднага. Той уздым і энтузіязм, які панаваў некалькі год назад, шмат у каго памяняўся на апатыю. На жаль, з моладзьдзю акрамя АБС зь беларускіх колаў амаль ніхто не працуе. Мы пачалі выдаваць часопіс «Скаўцкі веснік»*[456]*, спадзяёмся вакол яго сабраць ня толькі скаўтаў. Ужо амаль падрыхтаваны другі нумар. На жаль, трэці, напэўна, выйдзе ня хутка з-за фінансавых праблемаў. Высылаю Вам наш часопіс, можа, Вы дасьцё яму сваю адзнаку?*

---

453 **Георгі Марчук** (нар. 1947), пісьменьнік, сцэнарыст, драматург, у 1996–2002 гг. быў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

454 **Серафім Андраюк** (нар. 1933), літаратуразнаўца, кандыдат філялягічных навук, у 1993–1996 гг. быў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

455 **Уладзімер Арлоў** (нар. 1953), пісьменьнік, паэт, у 1988–1997 гг. працаваў у выдавецтве “Мастацкая літаратура”.

456 **«Скаўцкі веснік»** — часопіс Аб’яднаньня беларускіх скаўтаў, адзіны нумар якога выйшаў у Менску ў 1996 г.

*Віншуем Вас з Калядамі і зычым Вам Шчасьлівага Новага Года!*
*Напагатове!*
*Жыве Беларусь!*

*Зь вялікай павагай Сугойдзь Вадзім*[457]*".*

*"Музей гісторыі Магілёва*

*17.02.97*

*Калектыў музея гісторыі Магілёва выказвае шчырую падзяку ў Вашай асобе, сябрам і супрацоўнікам Інстытута за дасланыя ў бібліятэку музея выданні БІНіМа за 1953–1996 гг.*

*Запэўніваем Вас, што дадзеныя выданні будуць шырока выкарыстаныя ў навуковай, асветнай і прапагандысцкай працы.*

*Дзякуючы Вам музей, на сённяшні дзень, з'яўляецца адзіным уладальнікам падобнага збору выданняў.*

*Дырэктар музея І[гар] А[ляксандравіч] Пушкін*[458]*".*

*"Беларусь, г. Мёры*
*4.03.97 г.*

*Шматшаноўны сп. Вітаўт Кіпель!*

*Шчыра дзякую за дасланыя кнігі, якія атрымаў толькі сёння, 4 сакавіка. У пачцы былі кнігі Ю[ркі] Віцьбіча, Я[на] Максімюка, В[ітаўта] Мартыненка*[459]*, Б[арыса] Рагулі, М[іколы] Цэлеша, Н[аталлі] Арсенневай, У[ладзіміра] Дудзіцкага, «Запісы БІНіМ» 22, А[лесь] Салавей, дзве Вашыя кнігі «Беларусы ў Амерыцы» і «Беларуская дзяржаўнасць»*[460]*. Таксама паштоўкі да 100-годдзя М[аксіма] Багдановіча і [з] Крыжам 1988 г. у Канадзе.*

*Даўно чуў пра гэтыя выданні, але нават не марыў іх набыць. І вось зараз трымаючы іх у руках па-сапраўднаму адчуваю сябе шчаслівым, не гледзячы на тое, што на Беларусі шайтан спраўляе баль. Але Ваша сама-*

---

457 **Вадзім Сугойдзь** (нар. 1966) быў адным з заснавальнікаў Аб'яднаньня беларускіх скаўтаў.

458 **Ігар Пушкін** (нар. 1964), гісторык, краязнаўца, кандыдат гістарычных навук, першы дырэктар Музэю гісторыі гораду Магілёва (1992–2001).

459 **Вітаўт Мартыненка** (1959–2016), журналіст, музыказнаўца, пісьменьнік.

460 Маюцца на ўвазе кнігі: Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Мінск: Беларусь, 1993; Byelorussian Statehood. New York, 1988.

*ахвярная дзейнасць далёка ад Бацькаўшчыны сапраўды натхняе і дае сілы, умацоўвае волю ў барацьбе за ідэалы 25 сакавіка.*

*Асабліва захапляе высокая якасць выданняў. Ваша кніга з аўтографам будзе змешчана ў экспазіцыю Народнага музея СШ № 3, дырэктарам якой я з’яўляюся. Што і казаць, зараз у нас на Беларусі, асабліва ў правінцыі, практычна стала немагчыма набыць беларускія кнігі. На ўвесь раён у лепшым выпадку на кнігарню прыходзіць 1–2 кніжкі. Наклад жа большасці настолькі малы, што нават у Менску нельга іх адшукаць.*

*З нашых мясцін шмат землякоў працавалі на чужыне на славу Айчыне. Так, у нас ёсць матэрыялы ў музеі аб Язэпе Малецкім, які выдаў кнігу «Пад знакам Пагоні». У[ладзіслаў] Гайлевіч — кіраўнік беларускіх арганізацый у Аргенціне ў 40-я гады. Чэслаў Сіповіч — заснавальнік музея і бібліятэкі ў Лондане. Паўстанец і скульптар 19 ст. Г[енрык] Дмахоўскі*[461] *і інш. Вось толькі зараз, праглядаючы кнігу, што Вы даслалі, Б[арыса] Рагулі «Беларускае студэнцтва на чужыне», знайшоў звесткі невядомыя мне пра майго земляка Лявона Карася.*

*У мяне да Вас будзе просьба, калі ў Вас ёсць хоць маленькія весткі аб дзеячах замежжа з Дзісеншчыны, то буду вельмі ўдзячны іх атрымаць. Гэтыя матэрыялы неабходны перш за ўсё для экспазіцыі музея. Наш невялікі музей, хоць і знаходзіцца далёка ад сталіцы, але заняў яшчэ ў 1990 годзе першае месца на Беларусі паміж школьных музеяў. У ім сабраны сапраўды ўнікальныя экспанаты, якіх няма больш нідзе ў Беларусі. Буду ўдзячны, калі Вы, прыехаўшы на Радзіму, завітаеце да нас у госці.*

*Жыве Беларусь!*

*З павагай, Вітаўт Ермалёнак*[462]*”.*

*“Рагачоўскае педагагічнае вучылішча*

*26 мая 1997 г.*

*Шаноўны спадар Вітаўт Кіпель!*

*Найвялікшая падзяка Вам за зусім нечаканы і таму яшчэ больш прыемны падарунак. Асобная падзяка — за кніжку з аўтографам.*

*Мабыць, я павінен два словы сказаць пра музей. Гадоў з 5–6 таму я пачаў збіраць матэрыялы пра пісьменнікаў-землякоў, тых, хто тут нарадзіўся, вучыўся ці працаваў. Гэта і славутыя, і малавядомыя літа-*

[461] **Генрых Дмахоўскі** (на эмігр. **Сандэрс**, 1810–1863), скульптар і грамадзка-палітычны дзеяч, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху 1820–1830-х гг.

[462] **Вітаўт Ермалёнак** — пэдагог, краязнаўца, дырэктар СШ № 3 г. Мёры.

*ратары. На сённяшні дзень у фондах музея — каля 3 тысяч экспанатаў, што маюць дачыненне да 266 аўтараў. Напрыклад, матэрыялы, што тычацца Я[ўгена] Калубовіча, змясціліся ў 20 картках маёй картатэкі (тут ёсць партрэты Аляксандры Саковіч (Іны Рытар), успаміны І[ны] Рытар і інтэрв'ю з ёй, партрэт Калубовіча, рэцэнзіі на яго кнігі ў «Літаратуры і мастацтве», яго кніга «Крокі гісторыі», асобныя працы — у часопісе «Нёман» і кнізе «На суд гісторыі»).*

*Так і па іншых пісьменніках-земляках — дзе болей, дзе меней. У 1995 годзе музей заняў 3 месца ў конкурсе сярод музеяў вышэйшых і сярэдніх навучальных установаў Рэспублікі Беларусь.*

*Месціцца музей пакуль у невялічкім пакойчыку педвучылішча, дзе я працую выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. Але ў сакавіку пад літаратурны музей кіраўніцтва гораду перадала вялікае памешканне (172 м²). Зараз вышукваем сродкі, каб зрабіць рамонт і зрабіць афармленне музея. Ды калі ўжо ёсць памяшканне, спадзяюся, што знойдуцца і сродкі для яго добраўпарадкавання.*

*Наконт іншых кніжак Вашага БІНІМа. Фонд музея расце, як кажуць, не па днях, а па гадзінах. І, шчыра кажучы, я баюся празмернага накаплення матэрыялаў, якія не адносяцца да тэматыкі музея. Будуць тут ляжаць мёртвым грузам, а ў Вас яны прынясуць карысць.*

*Днямі ў «ЛіМе» надрукаваны вашыя і сп. Я[нкі] Запрудніка ўспаміны пра Барыса Сачанку. Дасылаю выразку з газеты. Думаю, Вам гэта будзе прыемна!*

*Яшчэ раз дзякую за пасылку.*

*З павагай, Уладзімір Немізанскі*[463]".

"*Віцебская І-я нацыянальная гімназія.*

*23 снежня 1997 года.*

*Доктару Вітаўту Кіпелю.*

*Глыбокапаважаны доктар Кіпель!*

*Адміністрацыя і настаўнікі І-й нацыянальнай гімназіі шчыра дзякуюць Вам за дасланыя навуковыя артыкулы па хіміі, мінералогіі, крышталяграфіі і геалогіі аўтарства Вітаўта і Зоры Кіпеляў, а таксама грунтоўную манаграфію «Беларусы ў ЗША» з Вашым аўтарскім аўтографам.*

---

[463] **Уладзімер Немізанскі** (1939–2000), паэт, пэдагог, доўгагадовы выкладчык Рагачоўскай пэдагагічнай вучэльні.

*Дасланыя матэрыялы будуць выкарыстаны на занятках па хіміі, беларускай мове і літаратуры для патрыятычнага выхавання і гуманізацыі навучальнага працэсу.*

*Спадзяёмся на далейшае плённае ўзаемадзеянне і супрацоўніцтва з Вамі.*

*Дырэктар В[алянціна] Т[рафімаўна] Шырокава*[464]*".*

*"Парослы*[465]*,*
*1 красавіка 1998 г.*

*Вельмі паважаны спадар Вітаўт Кіпель!*

*Я называюся Веслаў Харужы*[466]*, гісторык, сакратар Беларускага Гістарычнага Таварыства. Дзякуючы вашаму каштоўнаму падарунку — камплектам «Беларуса», «Бацькаўшчыны», кніжкам, маем магчымасьць намнога лепш пазнаць і дасьледаваць нашу мінуўшчыну. Гартаючы гадавікі гэтых газэт, я знайшоў прозьвішчы: Кастусь Кіслы і Алесь Грыцук, людзей, зьвязаных зь Беласточчынай. Хачу напісаць іхныя біяграфіі. Вельмі хутка я адшукаў дачку Кіслага, Галіну, якая жыве ў Беластоку (жонка і старэйшая дачка памерлі). Мае яна вельмі каштоўны архіў бацькавых здымкаў (гады 1923–1976). Вельмі прыхільна яна ўспрыняла зацікаўленьне асобай яе бацькі. Калі дакладна запазнаюся з гэтым архівам, пры нагодзе зьвярнуся да Вас, каб маглі назваць прозьвішчы некаторых асоб, прыкладова ёсьць здымкі хору студэнцкага з Лювэны.*

*Хачу вас папрасіць пра ксэракс фрагмантаў папкі з архіву БІНіМ «Беларуская музыка ў Амэрыцы», якія адносяцца да асобы К[астуся] Кіслага (асабліва ягоныя творы). Можна было-б паспрабаваць камплект іх надрукаваць. Таксама можа вы памятаеце К[астуся] Кіслага і А[леся] Грыцука, буду вельмі ўдзячны за ўспаміны. Можа наогул маеце яшчэ іншыя зьвесткі пра іх апрача інфармацыяў з прэсы.*

*Таксама хачу папрасіць хатнія адрасы асоб, якія іх памяталі: Мікола Ганько, Р[аіса] Жук-Грышкевіч, Міхась Белямук ды іншыя.*

*Буду вельмі ўдзячны за дапамогу.*

*З пашанай да вас Веслаў Харужы".*

---

[464] **Валянціна Шырокава**, пэдагог, доўгагадовая дырэктарка гімназіі № 1 г. Віцебску, заслужаная настаўніца Рэспублікі Беларусь.

[465] **Парослы** (пол. *Porosły*) — вёска ў Беластоцкім павеце Падляскага ваяводзтва Польшчы.

[466] **Веслаў Харужы** (пол. *Wiesław Choruży*, нар. 1965), журналіст, рэдактар пэрыёдыку *«Czasopis»*, які выдаецца з 1990 г. у Беластоку.

*“29 сакавіка 1999 г.*

*Шаноўны спадар Вітаўт,*

*надта Вы мяне ўсхвалявалі і ўсьцешылі прысланымі кніжкамі, асабліва «Эпізодамі» Вашага пакутніка-бацькі*[467]*. Чытаў з болем, з захапленьнем, зь няспынным адчуваньнем бяды, якая ўсьселася і не зьлязае з нашага нацыянальнага карку. Дужа-дужа шкада шчырых і гарачых памкненьняў даўніх і цяперашніх найлепшых нашых людзей, якія зьнікаюць у нікуды. У пясок і попел гісторыі...*

*Але, пэўна, такое нашае наканаваньне, і гэты крыж несьці беларусам аж да скананьня. Але ж — ня кінуць!*

*Шчасьця Вам і ўдачы ў далёкім Заакіяньні.*

*Сардэчнае вітаньне мілай сп. Зоры.*

*Будзьце здаровенькія!*

*Ваш Быкаў (фінскі)*[468]*”.*

*“6 красавіка 1999 г.*

*Вельміпаважаны Спадар Вітаўт!*

*Толькі што вярнуўся я з чароднае «Адысэі» ў Менск (год амаль ня быў), абвешаны пачкамі новых кніг, а ў хаце маскоўскай чакаў мяне прыемны сюрпрыз — бандэроль з Вашага Інстытуту. Кніжачкі, скажу Вам, проста бясцэнныя — і з нашага нацыянальна-пазнаўчага, гістарычнага («Эпізоды» Яўхіма Кіпеля), і мастацкага, беларуса-«бурлескнага» гледзішча (Лявон Крывічанін). Над Савёнкавай «Беларусізацыяй пад №...» з асалодай і горыччу пасьмейваюся... зь нямогласьці нашае і... трывучасьці незьнішчальнае.*

*А ўвогуле — зорны час беларускае кнігі, Беларускага Слова, Беларускае Праўды. Такое ў мяне ўражаньне-перажываньне ад нядаўніх набыткаў, сярод іх «Архівы БНР» у 2-х кнігах, «Беларуская думка»*[469]*. Некалі Расея «приростала Сибирью». Чым і праз каго «прырастае», дужэе Беларусь, непадуладная далакопам, — таксама тэма для роздумаў.*

*У Менску здаў выдаўцам чародны IV выпуск «Скарыніча»*[470]*, прысьвечаны, па-большасьці, «Узвышшу»-ўзвышэнству (100-я ўгодкі Ад[ама]*

467 Маецца на ўвазе кніга: Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Нью-Ёрк: выдавецтва газэты «Беларус», 1998. — XVI + 305 с.

468 У 1998–2002 гг. Васіль Быкаў жыў у Фінляндыі.

469 Маецца на ўвазе кніга: Беларуская думка ХХ стагоддзя = Mysl bialoruska XX wieku: Філасофія, рэлігія, культура: Анталогія / Уклад., прадм., апрац. Ю. Гарбінскага. Варшава: ІС ПАН, 1998. — 741 с.

470 **«Скарыніч»** — літаратурна-навуковы гадавік, які выдаецца з 1991 г. у Маскве. Рэдактар-укладальнік Аляксей Каўка.

*Бабарэкі[471]). Падрыхтаваў таксама да здачы ў выдавецтва «Творы» М[ікалая] Улашчыка[472] — у сэрыі «Беларускі Кнігазбор». Цьвірка[473] ў захапленьні ад кнігі (рукапісу), але і іхняя фірма цяпер у фінансавым цэйтноце і прапануе мне шукаць у Маскве спонсараў дзеля «Ўлашчыка». Словам, Прароку-выгнаньніку ўжо й радыя на Радзіме, але...*

*Дасылаю 2-ю ч. свайго «Будамжыцьця»[474]. Была прэзэнтацыя кніжачкі ў Беларускім калегіюме; там мне падаравалі, сярод іншага, і «Камэнтары» Лявона Юрэвіча[475] — яму ласкавае прывітаньне й падзяка.*

*Ці маю гаварыць пра сваё ўзрушлівае ўзнаньне да Вашэці да спагады й падмогу ў маіх клопатах.*

*Прывітаньне Сп-ні Зоры.*

*Са сьвятам Уваскрошаньня Хрыста!*

*Жыцьме!*

*Аляксей Каўка”.*

*“Нацыянальная акадэмія навук Беларусі*
*Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа*

*28.05.1999 г.*

*Шаноўны спадар Кіпель!*

*Атрымала Вашу пасылку 25.05.1999. Як бачыце, наша пошта не спяшаецца.*

*Вельмі ўдзячны Вам за літаратуру і клопаты аб папаўненні фондаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (так мы цяпер завемся).*

*Кнігі, дасланыя Вамі, адразу перадала ў аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў, дзе яны будуць захоўвацца ў калекцыі беларусазнаўчай літаратуры.*

*Зразумела, што гэтых выданняў у бібліятэцы няма і пэўна не было б, каб не Вашыя клопаты.*

---

[471] **Адам Бабарэка** (1899–1938), празаік, літаратуразнаўца.

[472] **Мікалай Улашчык** (1906–1986), гісторык, археограф, этнограф, краязнаўца, літаратар.

[473] **Кастусь Цьвірка** (нар. 1934), паэт, перакладнік, фальклярыст, этнограф, мовазнаўца, з 1996 г. — кіраўнік і галоўны рэдактар выдавецтва «Беларускі Кнігазбор» (сёньня — «Кнігазбор»).

[474] Маецца на ўвазе кніга: Каўка, Аляксей. Будам жыць: Пра тое самае. Менск — Масква, 1998. — 273 с.

[475] Маецца на ўвазе кніга: Юрэвіч, Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Менск, 1999. — 301 с.

*Літаратура, атрыманая ад Вас раней, карыстаецца вялікім попытам у чытачоў, якіх цікавіць лёс Беларусі і яе гісторыя.*

*Яшчэ раз вялікі дзякуй.*

*Усяго найлепшага жадаю Вам і Зоры. Добрага Вам настрою і здароўя на доўгія гады.*

*Самыя шчырыя прывітанні Вам і Зоры ад супрацоўніц аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Аліны Чарняевай і Яніны Кісялёвай*[476]*. З глыбокай пашанай і ўдзячнасцю*

*С[вятлана] М[ікалаеўна] Емельянава*[477]*".*

*"26 верасьня 1999 г.*
*Хельсінкі*

*Шаноўная спадарыня Зора, шаноўны спадар Вітаўт!*

*Дзякуй Вам вялікі за «Беларускую мемуарыстыку»*[478]*, якую я атрымаў і адразу ж прачытаў. Кніга вельмі цікавая, добра надрукаваная і чытаецца з захапленьнем. Каб такіх кніг было болей! Беларусь павінна ведаць лёсы і справы сваіх апосталаў. У тым ліку і на эміграцыі. М[ожа] б[ыць] найлепшыя ўспаміны Натальлі Арсеньневай. І лёсам, і літаратурай. Вялікі дзякуй укладальніку Лявону Юрэвічу і друкару Міколу Прускаму. Буду ўдзячны Вам, калі прышлеце нешта яшчэ. Я тут да канца года. А пасьля будзе відаць.*

*Бывайце здаровыя. І посьпеху Вам у беларускай справе.*

*Ваш Васіль Быкаў".*

*"Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне*
*«Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны»*

*21 лютага 2000 г.*

*Вельмішаноўныя Зора і Вітаўт Кіпелі!*

*Сакратарыят ТБМ выказвае Вам, шаноўнае спадарства, шчырую ўдзячнасць за тыя ўнікальныя кнігі для бібліятэкі ТБМ, якія Вы нам ласкава*

---

[476] **Яніна Кісялёва**, бібліятэкарка, архівістка, жонка дасьледніка Генадзя Кісялёва. Працавала ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры і мастацтва.

[477] **Сьвятлана Емяльянава**, бібліятэкарка, у 1996–1999 гг. выконвала абавязкі дырэктаркі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН Беларусі.

[478] Маецца на ўвазе кніга: Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі / Уклад. і камэнт. Л. Юрэвіча. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1999. — 359 с.

*даслалі. Некаторыя з падараваных экзэмпляраў маюць не толькі вялікую навуковую, але і бібліяграфічную каштоўнасць.*

*Дзякуючы такім людзям, як Вы, Беларусь ніколі не загіне і будзе жыць вечна!*

*З павагай старшыня ТБМ Алег Трусаў".*

*"II Liceum Ogólnokształcące z Białoruskim Językiem Nauczania*

*Hajnówka*
*[лета 2000]*

*Шаноўнае спадарства!*
*Працаўнікі Інстытуту Навукі і Мастацтва!*

*Шчыра дзякуем за ахвяраваныя нашаму ліцэю кніжкі. Гэтым самым паліцы школьнай бібліятэкі ўзбагаціліся новымі вартаснымі дапаможнікамі.*

*Асабліва цешаць нас зборнікі вершаў беларускіх паэтаў на эміграцыі.*

*Яшчэ раз вялікае дзякуй!*

*Дырэктар, настаўнікі і вучні Гайнаўскага белліцэя".*

*"Российская Академия Наук*
*Институт Славяноведения*

*г. Москва*
*19.06.2004.*

*Паважаны спадар Вітаўт!*

*Вялікае Вам дзякуй за прысланыя вельмі каштоўныя Вашы з Зорай кнігі. Заўсёды памятаем аб Вас і аб Вашай нябожчыцы жонцы, якая была адным з самых выдатных філолагаў-беларусістаў на Захадзе.*

*Усяго самага лепшага Вам, усім Вашым блізкім і асабіста дачцэ, з якой мы неаднаразова размаўлялі.*

*З павагай, Юрый Лабынцаў*[479]*".*

---

479 **Юры Лабынцаў** (нар. 1948), расейскі гісторык, культуроляг, рэлігіязнаўца, спэцыяліст у галіне славянскай філялёгіі, доктар філялягічных навук.

*“Установа культуры «Абласная бібліятэка імя М. Горкага»*

*г. Брэст.*
*19.03.2007 г.*

*Шаноўны спадар Вітаўт!*

*Ад імя чытачоў і супрацоўнікаў Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага шчыра дзякую за дасланае новае бібліяграфічнае выданне.*

*Яно будзе ўпрыгожваць бібліяграфічную скарбніцу кніжнага фонду нашай бібліятэкі, як і папярэднія Вашыя падарункі — «Беларускія слоўнікі і энцыклапедыі» і «Беларускі і беларусаведны друк на Захадзе».*

*З павагай і зычэннем творчага энтузіязму і плёну*

*Дырэктар Т[амара] П[аўлаўна] Данілюк*[480]*”.*

*“Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы*

*23.04.2008 г.*

*Шаноўны спадар Вітаўт Кіпель!*

*Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ўдзячны Вам за ўдзел у Міжнародных навуковых канферэнцыях, што праходзілі ў музеі і былі прысвечаны жыццю і творчасці Янкі Купалы.*

*Але самае каштоўнае для нас — перададзены праз спадара Запрудніка ў дар музею рукапіс верша Янкі Купалы «О так! Я — пралетар!», а таксама выданні: «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе», «Беларускі друк на Захадзе» і інш.*

*Да 125-годдзя з дня нараджэння паэта супрацоўнікамі музея быў падрыхтаваны каталог «Рукапісная спадчына Янкі Купалы». Гэта першая спроба даць поўнае апісанне як асобных твораў народнага паэта Беларусі, так і цэлых цыклаў.*

*Днямі мы атрымалі гэту кнігу ў музей. Дзелімся з Вамі добрай навіной і перадаем адзін асобнік гэтага выдання. На старонцы 188 пад № 433/611 апісаны рукапіс верша «...О так! Я — пралетар», а на старонцы 331 даецца фотаздымак гэтага рукапісу як ілюстрацыя да выдання.*

*Здароўя і бадзёрасці жадаюць Вам Купалаўцы.*

*З павагай, дырэктар Алена Мацевасян*[481]*”.*

---

480 **Тамара Данілюк**, бібліятэкарка, з 1997 г. — дырэктарка Берасьцейскай абласной бібліятэкі імя М. Горкага.

481 **Алена Мацевасян**, шматгадовая дырэктарка Дзяржаўнага літаратурнага музэю Янкі Купалы.

*“2.08.2009.*

*Паважаны спадар Вітаўт!*

*Дзякую за памяць, за сапраўдны падарунак — бібліяграфію «Беларускі друк на Захадзе». Каторы дзень «блукаю» па 4500 пазіцыях Вашага са спадарыняй Зорай фундаментальнага выдання. Бачу для сябе шмат цікавага і карыснага. Бачна паўстае карціна пражытага, здзейсненага на чужыне суайчыннікамі, асабліва паваеннай эміграцыяй.*

*Распачынаецца ў нас энцыклапедычнае выданне «Культура Беларусі». Днямі атрымаў на вочы свой колішні артыкул «Беларускае культурна-выдавецкае таварыства «Адраджэнне». Пасля знаёмства з поўным, другім выданнем бібліяграфіі «Беларускі друк...» закарцела ўвесці ў агульны рэестр нашых здабыткаў звесткі пра выдавецтва «Вызваленне», заснаванае ў 1921 г. Я пазначаў месцы яго дзейнасці Менск — Вільня — Берлін. Знайшоў у бібліяграфіі, падрыхтаванай Вамі, 4 пазіцыі з прадукцыяй гэтага «Вызвалення». Сярод іх выданне «Беларускай граматыкі» Б[раніслава] Тарашкевіча*[482] *і грунтоўнай манаграфіі А[ляксандра] Цвікевіча*[483] *«Адраджэнне Беларусі і Польшча»*[484]*, якая не страціла актуальнасці і сёння. На жаль, не ведаю, што ўяўляе сабой каталог-клішэ, пазначанае ў «Беларускім друку» пад № 76*[485]*. Ідэальна было б змясціць яго сканаваны здымак, які, магчыма, уключае выдавецкую эмблему, што ўжо само па сабе цікава.*

*Што да маіх асабістых навуковых інтарэсаў, то хоць зямны ліміт у мяне ўжо зусім на сыходзе, не перастаю цікавіцца гісторыяй беларускай інтэлігенцыі, постацямі вызваленчага руху беларусаў як культурнікаў, асветнікаў, паэтаў, мастакоў, так і палітыкаў. У гэтым плане пашкадаваў, што не пазнаёміўся ў свой час з выданнем Жывіцы-Попкі пра Хвёдара Іляшэвіча. Цікава моцна праца Тамаша Грыба з яго беларускім навуковым кабінетам, публікацыі Панькова. Апошняга я тут нешта празяваў, але спадзяюся знайсці. Ведаю, што ў свой час Вы і сп. Запруднік прывозілі нямала літаратуры ў нашы бібліятэкі. Можа*

---

[482] **Браніслаў Тарашкевіч** (1892–1938), грамадзка-палітычны дзеяч, мовазнаўца, перакладнік.

[483] **Аляксандр Цьвікевіч** (1888–1937), грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст.

[484] Маецца на ўвазе выданьне: Цьвікевіч, Аляксандар. Адраджэньне Беларусі і Польшча. Менск — Вільня — Бэрлін: Выдавецкае таварыства «Вызваленьне», 1921. — 191 с.

[485] Маецца на ўвазе пазыцыя: Каталёг-клішэ (1-га чэрвеня 1921 г.). Менск — Вільня — Бэрлін: Выдавецкае таварыства «Вызваленьне», 1921. — 20 с.

*ёсць і выданне Жывіцы пра Ілляшэвіча. Пішучы нарысы «Літаратура Заходняй Беларусі», я практычна абышоў увагай, не ведаў яго творы эміграцыйнага часу. Прачытаўшы апавяданне «Танга», зразумеў, што проза яго часам была мацнейшая за вершы. Ну, гэта так, як кажуць, да слова прыйшлося.*

*Што не знаходжу ў «Беларускім друку», дык гэта «Беларускай Трыбуны» 20-х гадоў, выдаванай Яз[эпам] Варонкам*[486]*. Бачыў у свой час нумар за 1926 г. у Віленскім архіве АН Літвы. Відаць, у ЗША, на жаль, яна не захавалася.*

*Выбачайце, ліст выйшаў раскіданы думкамі: стома.*

*Дзякуй, усяго добрага Вам, а перадусім здароўя, зямной трываласці.*

*Арсень Ліс".*

Цытаваньне лістоў можна доўжыць і доўжыць. Імёны, адрасы, назовы арганізацыяў, дзяржаўных і грамадзкіх, куды даходзіла дасланае БІНіМам беларускае слова. Дый хіба толькі слова?! Колькі было сабрана й выдаткавана даляраў на друк неінстытуцкіх кніг — на Захадзе, як, прыкладам, зборнік Вітаўта Мартыненкі і Анатоля Мяльгуя[487] "Праз рок-прызму"[488] або знакамітыя "Курапаты"[489], пра гісторыю выданьня якіх Вітаўт Кіпель так маляўніча распавёў на старонках сваіх успамінаў "Жыць і дзеіць"[490], ці ў Беларусі — ад "Гістарычнай фаналёгіі беларускае мовы" Пола Вэксьлера[491] да "Беларускага клясычнага правапісу"[492],

[486] У згаданай у лісьце «Бібліяграфіі» Кіпеляў «Белорусская Трибуна» Язэпа Варонкі ўлічаная ў разьдзеле расейскакамоўнай беларускай пэрыёдыкі.

[487] **Анатоль Мяльгуй** (1957–1917), журналіст, публіцыст, музычны крытык.

[488] Мартыненка, Вітаўт; Мяльгуй, Анатоль. Праз рок-прызму. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1989. — 217 с.

[489] Курапаты. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1993. — 87 с.

[490] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць... С. 334–335.

*"Паважаны спадар Кіпель! Вельмі важна выдаць гэтую навуковую справаздачу такой, якая яна ёсьць. Гэта значыць па-беларуску факсымільна перадрукаваўшы тытульны ліст, ліст пракуратуры і ўсе табліцы, графікі і фатаграфіі ў тым парадку, у якім яны пазначаны ў справаздачы. Тэкст справаздачы (беларускі тэкст) можа быць набраны (альбо факсымільна), ангельскі тэкст само сабой — наборны. Такім чынам я бачу гэтае выданьне на беларускай і ангельскай мове ў адной кніжцы. Sic! Гэта апошні экзэмпляр справаздачы. Першы, што я перасылаў праз Нарвэгію, згінуў марна. Так што маю спадзявацца на Вас, спадар Кіпель, па самаму вялікаму кошту. З павагай, Зянон Пазьняк. 28 травеня 1991 г., Менск".*

[491] Вэкслер, Пол. Гістарычная фаналогія беларускай мовы: Пер. з англ. Мінск: Логвінаў, 2004. — 254 с.

[492] Беларускі клясычны правапіс: збор правілаў: сучасная нармалізацыя / Юрась Бушлякоў [і інш.]. Вільня — Менск, 2005. — 158 с.

ад “Дзесяці вякоў беларускай гісторыі”[493] Уладзімера Арлова й Генадзя Сагановіча[494], ад зборніка патрыятычных песень “Беларускія маршы і песьні”[495], выдадзенага разам з кружэлкаю “Нашай Ніваю” і хорам “Унія”[496], да дасьледаваньня “Вольныя муляры ў беларускай гісторыі”[497], фінансавае спрыяньне кнігам Зянона Пазьняка, як “Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня”[498], або дапамога грамадзкім арганізацыям:

*“Шаноўныя Зора і Вітаўт!*

*Даўно ведаем вас як самаахвярных рупліўцаў на ніве беларускай культуры, як шчырых і дасведчаных працаўнікоў нашага Адраджэння. Яшчэ раз мы ўсё гэта адчулі ў вельмі цяжкі і складаны для нашага Таварыства час.*

*Ваша сяброўскае разуменне нашых праблем, Ваша вельмі своечасовая і рэальная падтрымка нашай дзейнасці ў многім паспрыялі таму, што Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны працуе і імпэт не згасае.*

*Шчыра дзякуем Вам за Вашы старанні, за Вашу дапамогу.*

*Зычым Вам здароўя, нястомнасці, вялікіх поспехаў.*

*Генадзь Бураўкін[499],*
*Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны,*
*Сакратарыят ТБМ”.*

Нягледзячы на маласпрыяльныя для культурніцкага супрацоўніцтва палітычныя ўмовы, пра Інстытут даведваліся ўсё шырэй і ўсё часьцей зьвярталіся па дапамогу.

---

493 Арлоў, Уладзімір; Сагановіч, Генадзь. Дзесяць вякоў беларускай гісторыі, 862–1918: Падзеі. Даты. Ілюстрацыі. Вільня: Наша Будучыня, 1999. — 221 с.

494 **Генадзь Сагановіч** (нар. 1961), гісторык, археоляг, кандыдат гістарычных навук.

495 Беларускія маршы й песьні: Лірыка змаганьня. Менск: “Наша Ніва”, 1998. — 62 с.

496 **Хор “Унія”** — камэрны мужчынскі хор, заснаваны ў 1990 г.

497 Вольныя муляры ў беларускай гісторыі: канец XVIII — пачатак XX ст. / Уклад. Алесь Смалянчук. Вільня: Gudas, 2005. — 278 с.

498 Пазьняк, Зянон. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня. Кн. 1: Артыкулы і матэр’ялы (1990 — III.1996). Варшава — Нью-Ёрк — Вільня, 2007. — 314 с.

499 **Генадзь Бураўкін** (1936–2014), паэт, дзяржаўны й грамадзкі дзеяч. У 1990–1993 гг. быў афіцыйным прадстаўніком Беларусі ў ААН. У 1997–1999 гг. — старшынём Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Вага тае дапамогі яскрава бачна па дарчых надпісах на двух асобніках "Пакліканых"[500] Лідзіі Савік[501] зь бібліятэкі БІНіМу:

*"Высокашаноўнаму спадарству Зоры і Вітаўту Кіпелям з вялікай павагай і ўдзячнасцю — аўтар Л[ідзія] Савік. 20.01.02.*

*Дарагі сп. Вітаўт! Гэта кніга выйшла ў снежні 2001 г., якраз да 50-гадовага юбілею БІНІМа, які Вы ўзначальваеце і працы якога мы на Бацькаўшчыне добра ведаем. Я чытаю ва ўніверсітэце курс лекцый па літаратуры беларускага замежжа, расказваю студэнтам пра Ваш Інстытут, Вашу і сп. Зоры дзейнасць у гонар беларушчыны, дзеля нашай шматпакутнай Радзімы. Радуе, што студэнты, наогул моладзь усё разумее, настроена на хвалю нацыянальнага адраджэння і незалежнасці Беларусі, а ўсе разам мы будзем рабіць усё, каб так сталася.*

*Спадзяюся і надалей атрымліваць ад Вас выданні БІНІМа, за што буду Вам бязмежна ўдзячная. У хуткім часе Беларускі кнігазбор павінен выдаць том Наталлі Арсенневай, які я падрыхтавала да друку[502], абавязкова дашлём Вам.*

*З пажаданнямі моцнага здароўя, творчага плёну —*
*Ваша шчырая прыхільніца – Ліда Савік".*

*"Лявону Юрэвічу — таленавітаму літаратару і даследчыку спадчыны беларускіх пісьменнікаў замежжа з вялікай павагай і ўдзячнасцю, пажаданнямі далейшага творчага плёну — аўтар Л[ідзія] Савік. 20.01.02".*

Што праўда, трэба прызнаць: паліца з кнігамі, якія пабачылі сьвет дзякуючы Інстытуту, была б куды большаю, каб кожны, хто браўся за пэўны праект, даводзіў яго да канца. Тады б мы мелі й храналягічны працяг "Архіваў Рады БНР", высокую плянку якім устанавіў Сяргей Шупа, і зборнік працаў Станіслава Станкевіча, і манаграфію пра палітычнае жыцьцё эміграцыі па вайне ды іншыя. Пазычаліся (і не вярталіся) матэрыялы, акуратна атрымоўваліся грошы пад працу, але вось самой працы й ня было. І тым больш уражвае, што дырэкцыя

[500] Савік, Лідзія. Пакліканыя: Літаратура беларускага замежжа. Мінск: Тэхналогія, 2001. — 479 с.

[501] **Лідзія Савік** (нар. 1936), пісьменьніца, літаратуразнаўца, кандыдатка філялягічных навук, дасьледніца эміграцыйнай літаратуры.

[502] Маецца на ўвазе выданьне: Арсеннева, Наталля. Выбраныя творы / уклад. і камент. Л. Савік. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. — 589 с.

Інстытуту й сам Вітаўт Кіпель ня страчвалі веру ў маладых і незнаёмых, а для кожнага новага гатовыя былі зноў і зноў зьбіраць грошы, адчыняць архівы й свае сэрцы. Дзіўна — калі ня ведаць гэтых людзей і іхную веру ў беларусаў і Беларусь.

Дзякуючы гэтай веры й сёньня выдаюцца кнігі, на якіх стаіць БІНіМаўская пячатка з выяваю Францішка Скарыны. З 2001 г. "Запісы" друкуюцца ў сталіцы Беларусі, дзе жыве й працуе галоўная рэдактарка Натальля Гардзіенка. Маладзейшыя сябры Інстытуту езьдзяць у пошуках беларусаведных матэрыялаў і навязваюць новыя кантакты: у архіве Карлавага ўнівэрсытэту ў Празе, у Музэі расейскай культуры ў Сан-Францыска, у Летувіскім інстытуце эміграцыі ў Коўне, у Ерузаліме — у Беларускім зямляцтве ды ў Архіве габрэйскіх грамадаў сьвету; шукаюцца й знаходзяцца могілкі беларусаў у Атэнах, Рыме ды іншых гарадах.

У 2013 г. дзеля шырэйшага вывучэньня й папулярызацыі інтэлектуальнай спадчыны эміграцыі заснаваная адмысловая "Ўдзячнасьць БІНіМу", што ўручаецца дасьледнікам ці нават установам раз на год. Яе атрымальнікамі былі гісторык Аляксандар Пашкевіч[503], мовазнаўца Зьміцер Саўка, архівістка Ганна Запартыка[504], Міжнароднае грамадзкае аб'яднаньне "Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына»".

З 2014 г. з удзелам БІНіМу на Міжнародным кангрэсе дасьледнікаў Беларусі штогод ладзяцца сэкцыі, прысьвечаныя беларускаму замежжу. Адмыслоўцы зь Беларусі, Украіны, Польшчы, Літвы, Латвіі, Вялікай Брытаніі, Нямеччыны, Чэхіі ды іншых краінаў маюць такім чынам магчымасьць абменьвацца досьведам вывучэньня розных аспэктаў гісторыі й сучаснасьці беларускіх асяродкаў за мяжою. А "Запісы БІНіМ" сталі адным з выданьняў-партнэраў Кангрэсу.

Атрымала працяг і яшчэ Тумашава традыцыя друку Скарынавых марак ці віньетак: у 2017 г. да 500-годзьдзя беларускага друку БІНіМ супольна з ЗБС "Бацькаўшчына" падтрымалі ініцыятыву філятэліста з Гарадзеншчыны Лявона Карповіча[505] й выдалі сэрыю налепак з гравюрамі з кніг першадрукара.

Сёньня больш няма на культурніцкай мапе Беларусі Скарынаўскага цэнтру, але існуе пры Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры

---

[503] **Аляксандар Пашкевіч** (нар. 1978), гісторык, кандыдат гістарычных навук.

[504] **Ганна Запартыка** (нар. 1954), архівістка, дырэктарка Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры і мастацтва.

[505] **Лявон Карповіч** (нар. 1944), філятэліст і краязнаўца. Жыве ў в. Лунна Гарадзенскай вобл.

й мастацтва навукова-творчы Цэнтар камплектаваньня і вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа — архіўная кансультацыйная й дасьледчая структура, якая спрыяе выяўленьню, захаваньню, апісаньню, вывучэньню й папулярызацыі дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа. У фондах архіву-музэю акумулююцца ўнікальныя матэрыялы да вывучэньня дыяспары, яе гісторыі, гісторыі паваеннай Рады БНР, палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, жыцьцяпісаў пісьменьнікаў, мастакоў, выдаўцоў. З Цэнтрам Інстытут шчыльна й плённа супрацоўнічае, перадае туды свае архівы, рыхтуе супольныя публікацыі.

І вось гэтая пераемнасьць, повязь паміж старэйшым пакаленьнем Інстытуту ў Нью-Ёрку й маладзейшым у Менску сьведчыць, што гісторыя Беларускага інстытуту навукі й мастацтва далёкая ад заканчэньня.

# Пра БІНіМ з другога боку

## Запаволенае, а потым паскоранае знаёмства з БІНіМам

Працуючы ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР і займаючыся там развіццём беларускага пісьменства пераважна дасавецкага перыяду, а таксама яго сувязямі з іншымі літаратурамі, я неўзабаве даведаўся (пераважна з адмоўных ацэнак у афіцыйным савецкім друку) пра існаванне ў ЗША Беларускага інстытуту навукі і мастацтва, які выдае кнігі і часопісы, і адразу ж пайшоў у акадэмічную бібліятэку, каб пазнаёміцца з выданнямі гэтага інстытуту. Але там мне адказалі, што калі яны і ёсць, то толькі ў спецаддзеле, выдаюцца ж толькі пад *“бумажки от руководства института, и будете там работать под внимательным наблюдением”*.

*“Бумажки”* я тады атрымаў бы, бо пасля аддзялення журналістыкі ў БДУ, пасля абавязковай трохгадовай, праўда, прыемнай, творчай работы ў радашкавіцкай раённай газеце паступіў партыйным ужо ў аспірантуру інстытуту. Аднак пайсці працаваць *“пад назіраннем”* неяк не хацелася, хаця кіраўнікі БелСЭ Пятрусь Броўка, а потым Іван Шамякін увогуле ўхвалялі маю ідэю і прыспяшалі стварэнне шматтомнага энцыклапедычнага біябібліяграфічнага даведніку “Беларускія пісьменнікі” (*“каб лёгка было потым пра іх пісаць курсавыя і дыпломныя работы, дысертацыі і манаграфіі”*). Але мая задума ўключыць туды **ўсіх** беларускіх па мове аўтараў, а таксама іншамоўных аўтараў, якія нарадзіліся і ўзраслі на беларускай зямлі незалежна ад таго, дзе яны закончылі свой жыццёвы шлях (*“у ссылцы ці эміграцыі”*) доўга бянтэжыла суразмоўцаў. Планы мае ў “Беларускай савецкай энцыклапедыі” ў цэлым ухвалялі, праўда, адначасова раілі пачакаць да *“іншых, больш спрыяльных часоў”*, нібы прадчуваючы абвяшчэнне незалежнасці.

І тут мяне нечакана ў 1981 годзе паклікалі ў ЦКБ, да загадчыка аддзелу культуры Івана Антановіча. Пачуў ад яго прапанову: “Трэба вам на два месяцы паехаць на стыпендыю UNESCO ў «логово империализма». Дакладней, у лонданскія бібліятэку і музей імя Скарыны. Кажуць, што там сабралася многа невядомых раней беларускіх твораў. Трэба іх паглядзець, выбраць, увесці ў літаратурны ўжытак”. — “Дык я ж усё жыццё «грыз» нямецкую мову. Пашліце лепш здольнага літаратара і перакладчыка Леаніда Казыру. Ён добра ведае англійскую”. — “Але Казыры там не ведаюць, у яго няма ўласных кніжак. Нічога: год паходзіце на англійскія акадэмічныя курсы — і паляціце. Трэба!”

Праз год я сапраўды паляцеў. У аэрапорце мяне сустрэў загадчык бібліятэкі і музею айцец Аляксандр Надсан. Ён, вядома, параўнаў мой “фэйс” з ілюстрацыяй у адной з маіх манаграфій, і мы паехалі праз увесь незнаёмы мне начны горад у бібліятэку, у паўночны раён Фінчлі, дзе мне ўжо выдзелены быў на першым паверсе невялікі пакойчык побач з кухняй.

Назаўтра ці на паслязаўтра я ўжо штудзіраваў змястоўныя матэрыялы пра невядомых мне пісьменнікаў у часопісах Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку — у штогодніку “Запісы” і часопісах “Абежнік” і “Конадні” пад агульнай рэдакцыяй доктара навук Вітаўта Тумаша, а потым Вітаўта Кіпеля. Неўзабаве з апошнім пачалася ў мяне перапіска, а затым і абмен выданнямі.

Першая сустрэча з гаспадаром Вітаўтам Кіпелем і яго жонкай, пісьменніцай Зорай, адбылася ў мяне ў знакавым месцы — Ватыкане. Там кананізаваны ўжо сёння Папа Рымскі Ян Павел ІІ арганізаваў вясной 1990 года канферэнцыю вучоных чатырох краінаў — Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны, якія раней уваходзілі ў адзіную Рэч Паспалітую. Мы там часта сустракаліся з Кіпелем — і на ласкавай, аб’яднальнай



На Міжнароднай канфэрэнцыі ў Рыме. Стаяць: Адам Мальдзіс, Юры Туронак, Зора Кіпель, Алеся Кіпель, Янка Запруднік, а. Аляксандар Надсан, Анатоль Грыцкевіч; на пярэднім пляне зьлева – Вітаўт Кіпель. Травень 1990 г.

аўдыенцыі ў Папы, і ў кляштары, дзе праходзілі пасяджэнні, і ў яго кулуарах. Там мы з Вітаўтам і Зорай Кіпелямі і Янкам Запруднікам, айцом Аляксандрам Надсанам, польскімі і ўкраінскімі калегамі абгаворвалі шляхі далейшага супрацоўніцтва.

А восенню таго ж года мы сустрэліся зноў: тагачасны міністр замежных справаў Пётр Краўчанка рашыў узяць мяне на чарговую сесію ААН дзеля вечара ў гонар 500-годдзя з часу нараджэння Францыска Скарыны і праверкі аднаго са шляхоў магчымага знікнення Крыжа Прападобнай Ефрасінні Полацкай. Вітаўт Кіпель, вядома, не прамінуў аказіі арганізаваць у ЗША сустрэчу суайчыннікаў з мінскім госцем. Тады ж у дыскусіі зарадзілася ідэя зрабіць і выдаць энцыклапедычны даведнік “Беларусы ў свеце”. Першы том яго з’явіўся запознена — у 2014 годзе, а другі (“Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў далёкім замежжы”) яшчэ рыхтуецца. Шасцітомны ж біябібліяграфічны даведнік “Беларускія пісьменнікі” пабачыў свет па намечанай схеме ў 1992–1995 гадах і быў успрыняты станоўча (ніводнай адмоўнай рэцэнзіі).

Плённым быў на нашы сустрэчы і 1991 год. У ім прайшлі канферэнцыя “Рым-II” у Любліне (Польшча) і ўстаноўчы Першы Сусветны кангрэс беларусістаў. У час Кангрэсу адбылася другая наша творчая сустрэча ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францыска Скарыны, якім я тады кіраваў. З актыўным удзелам Вітаўта Кіпеля там адкрыўся невялікі музей “Беларусы ў свеце”, дзе даволі



Адам Мальдзіс выступае на паседжаньні БІНіМу ў Фундацыі П. Крэчэўскага. Зьлева Вітаўт Кіпель. Нью-Ёрк, 1990 г.

многа аказалася амерыканскіх экспанатаў. Але адпаведныя здымкі ад падзей таго года, на жаль, у мяне не захаваліся.

Плённым на нашы сустрэчы аказаўся таксама 1993 год. Па чарзе “Рым-IV” павінен быў праходзіць у Беларусі. Месцам для зручнасці мы выбралі памежнае Гродна. І не памыліліся. Старшыня аблвыканкаму Дзмітрый Арцыменя зрабіў усё, каб ён прайшоў арганізавана і згодна, нават дзеля гэтага на дзень вярнуўся з-за граніцы. Вітаўта Кіпеля тады, як і іншых зарубежных удзельнікаў, адзінагалосна выбралі ганаровымі дактарамі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя Янкі Купалы.

“Пяты Рым” прайшоў у наступным, 1994 годзе, каля Вільнюсу — у старажытным Тракайскім замку. На гэтым пасяджэнні паглыбіліся, ахапілі і вільнюскі друк бясплодныя спрэчкі, хто каго “заваяваў” пры заснаванні Вялікага Княства Літоўскага — продкі сённяшніх літоўцаў продкаў сённяшніх беларусаў ці наадварот... Памятаецца, мы з беларусамі — айчыннымі і зарубежнымі — даказвалі, што ніякіх этнічных войнаў ніхто не памятае, што нас злучылі напады агульных ворагаў, пра што сведчаць перамогі пад Сінімі Водамі і Грунвальдам. У выключную дзяржаву ВКЛ нас аб’яднালі агульныя інтарэсы, што прывяло да стварэння першай у Еўропе канстытуцыі — першага, другога і трэцяга Статутаў Княства.

“Пяты Рым”, на жаль, стаў апошнім. Аднак суседскія сувязі з літоўцамі неўзабаве палепшалі. А з амерыканскімі беларусамі яны не абрываліся ніколі. У тым жа 1994 годзе ў Нью-Ёрку прайшла вельмі добра арганізаваная міжнародная канферэнцыя па рэстытуцыі. Пасля пасяджэнняў я выехаў на выступленні перад суайчыннікамі ў суседні штат Нью-Джэрзі. А апошні, трэці здымак зрабіў я на парозе сядзібы БІНіМу, дзе захоўвалася яго ўнікальная кніжна-газетна-часопісна-плакатна-нотная калекцыя. На парозе ж дому стаіць, развітваючыся, яго гаспадыня Зора Кіпель.

*Адам Мальдзіс,*
*Ганаровы старшыня*
*ГА “Міжнародная*
*асацыяцыя беларусістаў”*



Адам Мальдзіс і Зора Кіпель.
Радэрфорд (Нью-Джэрзі), 1996 г.

* * *

Дзейнасць БІНіМу выклікае вялікае ўражанне сваёй шматграннасцю: выданне “Запісаў БІНіМ”, літаратурнай серыі “Беларускія паэты і пісьменнікі”, бібліяграфічнай серыі, серыі “Да гісторыі беларускай эміграцыі”, ангельска-беларускі слоўнік; навуковыя канферэнцыі, мастацкія выставы і інш. Па сутнасці, БІНіМ у ЗША аналагічны Інбелкульту ў Беларусі, якія маюць вялікае значэнне для развіцця беларускай культуры, навукі, адукацыі, нацыянальнага адраджэння.

У верасні 1994 года я з вялікай адказнасцю і хваляваннем рабіў даклад у БІНіМе пра прыродныя рэсурсы і экалогію Беларусі ў прысутнасці маіх даўніх сяброў — старэйшых дзеячаў БІНіМу — дырэктара Вітаўта Кіпеля і Янкі Запрудніка, а таксама некалькіх дзясяткаў уважлівых слухачоў. Добрая памяць і ўдзячнасць БІНіМу за яго выдатную дзейнасць на шляху беларушчыны заўсёды застанецца ў маім сэрцы.

*Радзім Гарэцкі*

* * *

БІНіМу выданні, як цяпер разумею, давяршылі маё беларусаведнае сталенне, уключна з выбаўленнем ад цяжару “саўковае” ЛУХТЫ адносна гісторыі, культуры Краіны Беларусь. “Запісам” № 5, тады крамольна-нелегальным (дзякуй спрыянню Юркі Туронка *“радзецкаму”* дыпламату), наогул публікацыям Тумаша (Брагі, Максімовіча) удзячна абавязаны сваімі росшукамі на Скарынавым палетку. Дарэчы, спадара Вітаўта “Пяць стагоддзяў Скарыніяны” з дарчым аўтографам аўтара (за пасярэдніцтвам Ад. Мальдзіса) свеціцца на маёй кніжнай паліцы. Там жа туляцца шыкоўныя тамы нашае — эміграцыйнае — класікі: Арсеневай (таксама з аўтографам), Салаўя, Антона Адамовіча (за апошняга дзякуй Лявону Юрэвічу), творы Віцьбіча, А. Саковіч (з аўтографам — праз С. Шупу), выданні па гісторыі беларускай дзяржаўнасці — БНР (зноў жа дзякуй пані Гардзіенчысе)...

КІПЕЛІ. Паэты маглі б абыграць на “кіпе́лі” (націск на 2-м складзе). Яны — Ён і Яна — можа не надта кіпе́лі, але ў беларускай гуманістыцы не ведаю лепшага духова-творчага суладдзя-сумоўя Яго і Яе (некалі напішацца раман, паэма — сюжэтна Беларушчына праз любоў...).

Кантакты? Вядома былі — і знаменныя: Першы З’езд беларусаведаў, Купалаўскія чытанні ў Менску, Скарынаўскія — у Полацку, на радзіме

Міколы Касяровіча на Пухаўшчыне... але пхацца ў “сваяцтва” не выпадае. Тым не менш, дзякую Мэтру за ўвагу да постаці Мікалая Улашчыка, памяць аб якім троху было зблізіла нас — беларускага “маскаля” і рашучага сына колішняга наццэма Яўхіма Кіпеля.

*Аляксей Каўка*

* * *

Беларускі інстытут навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку для мяне найперш асацыюецца зь ягоным дырэктарам, адным зь бясспрэчных інтэлектуальных лідэраў нашай эміграцыі Вітаўтам Кіпелем.

Малога Вітаўта, народжанага ў 1927-м у Менску, у сярэдзіне трыццатых гадоў мінулага стагодзьдзя двое дзядзькоў Міколаў вучылі на беразе рэчкі сьпяваць беларускія песьні ды вялі зь ім займальныя гутаркі пра гісторыю і геаграфію. Дзядзькі гэтыя былі яшчэ маладыя, але ўжо вядомыя беларускія вучоныя Мікалай Улашчык і Мікалай Азбукін.

Аднак рэчка, на беразе якой адбываліся сьпеўкі, звалася ня Сьвіслаччу, а Вояй і плыла сярод вяцкіх лясоў, куды па справе “Саюзу вызваленьня Беларусі” быў высланы і Вітаўтаў бацька, асьпірант Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Яўхім Кіпель.

Мне ўяўляецца, што якраз тыя песьні разам зь першымі ўрокамі на беразе Вои і прадвызначылі жыцьцёвы шлях Кіпеля-малодшага, які вось ужо 35 гадоў ачольвае БІНіМ — найбольш аўтарытэтную беларускую інстытуцыю за мяжой.

*Уладзімер Арлоў*

* * *

Пра гэтую таямнічую абрэвіятуру я ўпершыню даведаўся ў канцы 1980-х дзякуючы ліставаньню з Паўлам Урбанам, які даслаў мне зь Мюнхэну адзін са старых нумароў “Запісаў БІНіМ”. А ўжо ў першыя гады незалежнай Беларусі ад шчодрага Вітаўта Кіпеля змог атрымаць камплект гэтага каштоўнага выданьня, штудыяваньне якога тады шмат дало мне як гісторыку. І гэта “Запісы БІНіМ” сталі адным з тых прыкладаў, што натхнялі мяне на заснаваньне “БГА”!

Як па мне, грамадзкая інтэлектуальная інстытуцыя, якую беларусы стварылі на чужыне і змаглі ўтрымліваць столькі дзесяцігодзьдзяў,

найлепш сьведчыць пра нацыянальную дасьпеласьць нашай дыяспары і яе жыцьцёвасьць. У дзейнасьці гэтай установы, найперш сталым выданьні навуковага пэрыёдыку і выдатнай кніжнай сэрыі, мне бачыцца самая пазытывісцкая праца, так важная для ўсіх беларусаў незалежна ад палітычнай эпохі. Таму БІНіМ для мяне заўсёды сымбалізаваў вяршыню ўсёй беларускай эміграцыі.

*Генадзь Сагановіч*



# СТАТУТ
# Беларускага інстытуту навукі й мастацтва

*прыняты на Агульным Зьездзе*
*Інстытуту 14 сьнежня 1952 году*

## I. Назоў і мэты Інстытуту

1. Назоў арганізацыі па-беларуску: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Назоў па-ангельску: Whiteruthenian Institute of Arts and Sciences, Inc.
2. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ёсьць арганізацыяй, якая намагаецца згуртаваць усе навуковыя й творчыя культурныя сілы, што ставяць сабе за мэту навуковае пазнаньне й вывучэньне Беларусі, беларускага народу, ягонае культуры духовае й матэрыяльнае, побач адначасна й творчае працы ў галіне беларускае культуры.
3. Працу сваю Інстытут праводзіць шляхам:
   - арганізацыі й вядзеньня навукова-дасьледчае й творчае культурнае працы;
   - узгадаваньня творчых кадраў у галіне беларускае навукі й культуры;
   - арганізацыі адпаведных бібліятэк, архіваў, музэяў і іншых дапаможных установаў;
   - наладжваньня рэфэратаў, дыскусійных зборак, курсаў, выставаў, мастацкіх і літаратурных выступаў;
   - выданьня навуковых і літаратурна-мастацкіх часопісаў, працаў, кніг;
   - навязаньня культурна-навуковых сувязяў зь іншанацыянальнымі ўстановамі й арганізацыямі навукі й культуры.

## II. Сябры Інстытуту

1. Сябрам Інстытуту можа быць кожны працаўнік беларускае навукі й культуры з працамі й заслугамі ў сваёй галіне.
2. Новых сяброў у Інстытут прымае Ўправа Інстытуту на аснове складзенай адпаведнай заявы.

3. Кожны сябра Інстытуту забавязаны выконваць ускладзеныя на яго сяброўскія абавязкі Статутам, пастановамі Агульнага зьезду ці пастановамі Ўправы. Кожны сябра мае правамоцны голас на Агульным Зьезьдзе й можа быць абраны ва ўлады Інстытуту.
4. Сябра Інстытуту можа быць пазбаўлены сяброўства пастановаю Ўправы з правам апэляцыі да Агульнага Зьезду.
5. За асаблівыя заслугі ў галіне беларускае навукі й культуры Агульны Зьезд можа надаваць ганаровае сяброўства. У вынятковых выпадках ганаровае сяброўства можа надаваць і Ўправа Інстытуту, але яно пазьней мусіць быць зацьверджанае Агульным Зьездам.

## III. Кіраўнічыя органы Інстытуту

1. Кіраўнічымі органамі Інстытуту ёсьць: Агульны Зьезд, Управа й Наглядная Рада.

## АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД

1. Агульны Зьезд Інстытуту ёсьць найвышэйшым пастанаўляльным органам арганізацыі.
2. Агульны Зьезд Інстытуту склікаецца не радзей як раз на два гады для агляду дзейнасьці арганізацыі й ейных кіраўнічых органаў, для плянаваньня будучае працы, для перавыбараў Управы й Нагляднае Рады й для разгляду ўсіх іншых найважнейшых справаў Інстытуту. У выпадку патрэбы можа быць скліканы Надзвычайны Агульны Зьезд.
3. Пра час, месца й парадак Агульнага Зьезду Галоўная Ўправа мае абавязак паведаміць кожнага сябру Інстытуту не пазьней як на месяц наперад.
4. Агульны Зьезд ёсьць правамоцны пры наяўнасьці найменш паловы сяброў Інстытуту або іхных упаўнаважаных. Сябра, які дзеля паважных прычынаў ня можа прыбыць на Агульны Зьезд, можа пісьмова перадаць свой голас іншаму сябру Інстытуту. Такая перадача голасу можа быць зробленая толькі сябрам, які жыве не бліжэй як 100 міляў ад месца Агульнага Зьезду.
5. Пастановы Агульнага Зьезду выносяцца звычайнаю бальшынёю галасоў, за выняткам пастановаў наконт зьмены Статуту й ліквідацыі Інстытуту, на што трэба 2/3 бальшыні ўсіх прысутных.
6. Агульны Зьезд Інстытуту звычайна склікае Ўправа. Управа забавязаная склікаць Агульны Зьезд і на дамаганьне Нагляднае Рады або бальшыні сяброў Інстытуту.

## УПРАВА ІНСТЫТУТУ

1. Управа Інстытуту складаецца з старшыні й чатырох сяброў Управы: заступніка старшыні, скарбніка й архівара.
2. Старшыня абіраецца Агульным Зьездам адумысловым тайным галасаваньнем. Іншыя сябры Ўправы абіраюцца разам паводле бальшыні атрыманых галасоў і дзеляць паміж сабою функцыі на першым паседжаньні новаабранае Ўправы. Тры далейшыя кандыдаты паводле ліку галасоў стаюцца кандыдатамі Ўправы Інстытуту.
3. На выпадак адыходу старшыні Інстытуту перад наступным Агульным Зьездам ягоныя функцыі да Зьезду пераймае заступнік старшыні.
4. Управа кіруе працаю Інстытуту, ягонымі сэкцыямі ды аддзеламі й за сваю дзейнасьць адказвае перад Агульным Зьездам.

## НАГЛЯДНАЯ РАДА

1. Наглядная Рада Інстытуту абіраецца Агульным Зьездам у складзе трох асобаў (старшыні, заступніка старшыні й сакратара) ды двох заступнікаў.
2. Наглядная Рада кантралюе працу Галоўнае Ўправы, аддзелаў і сэкцыяў арганізацыі й праводзіць дакладную праверку грашовае й агульнае дзейнасьці не радзей як раз на год.

## IV. Сэкцыі, аддзелы, афіліяваныя арганізацыі

1. Асноўная практычная праца Інстытуту вядзецца па адпаведных сэкцыях (напр.: гісторыі, эканомікі, літаратуры, мастацтва, г. д.). На чале кожнае сэкцыі стаіць кіраўнік і сакратар, кандыдатуры якіх высоўваюць сябры дадзенае сэкцыі, а зацьвярджае Ўправа Інстытуту.
2. Сэкцыі ў сваёй працы падпарадкаваныя Ўправе Інстытуту й кантролю Нагляднае Рады.
3. У больш далёкіх ад сядзібы Інстытуту мясцовасьцях і за згодаю Ўправы могуць быць закладзеныя аддзелы Інстытуту там, дзе ёсьць ня менш як тры сябры Інстытуту.
4. Пры Інстытуце могуць быць афіліяваныя арганізацыі ці ўстановы навукова-культурнага характару, якія захоўваюць свой назоў і сваю самастойную арганізацыйную структуру, але на аснове адумыслова напісанае ўмовы паміж імі й Інстытутам забавязаныя супрацоўнічаць з Інстытутам і ўзгадняць агульны кірунак свае працы.

## V. Фінансы

1. Фінансы Інстытуту складаюцца:
   - зь сяброўскіх складак, вышыня якіх устанаўляецца Агульным Зьездам;
   - з даходаў ад навуковых дакладаў, канцэртаў, выставаў;
   - з даходаў ад продажу выданьняў Інстытуту;
   - з ахвяраваньняў ад установаў і прыватных асобаў.
2. Фінансамі Інстытуту распараджаецца Ўправа паводле прынятых Агульным Зьездам інструкцыяў у гэтай справе й паводле складзенага бюджэту.

## VI. Канчатковыя пастановы

1. Афіцыйная сядзіба Інстытуту й Управы: Нью-Ёрк, Злучаныя Штаты Амэрыкі. Агульны Зьезд Інстытуту можа, аднак, адбывацца й у іншых мясцовасьцях ЗША.
2. Інстытут мае ўсе правы юрыдычнае асобавасьці ды ўжывае сваю адумысловую пячатку з надпісам: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.
3. Ліквідацыя арганізацыі можа быць пастаноўленая толькі Агульным Зьездам. Ліквідацыйны зьезд вызначае й беларускую арганізацыю ці ўстанову, якой мае быць перададзеная маёмасьць Інстытуту пасьля ягонае ліквідацыі.

# Зьмест “ЗАПІСАЎ” (1952–2016)

## Том 1. Ню Ёрк, 1952. № 1.



## Том 1. Ню Ёрк, 1952. № 2.

*Мікола КУЛІКОВІЧ*. Беларуская музыка (Працяг). С. 88–103.

*Алесь КАРПОВІЧ*. Мікола Равенскі. С. 104–107.

*ЗАЦЕМКІ*

Цар і назовы Літва, Беларусь. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 108–109.

Купала, Міцкевіч, Шэўчэнка й Масква. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 109–110.

*ДЫСКУСЫЯ*

Аб праўніцкіх тэрмінах. (*Леанід Галяк*). С. 111–114.

*КНІГІ Й ЧАСАПІСЫ*

Mykhaylo Drahomanov. A symposium and selected writings. Published by the Ukrainian Academy of Arts and Sciences in the USA, Inc. New York, 1952. P. 225. (*Л[еў] Акіншэвіч*). С. 115–116.

Pitirim A. Sorokin. Social Philosophie of an Age of Crisis. Boston, 1951. P. 345. (*Л[еў] Акіншэвіч*). С. 117–118.

Кондрат Крапива. Задачи белорусской литературы в светле трудов И. В. Сталина — по языкознанию. “Знамя”, № 9, 1951. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 119–121.

Галіна Родзька-Русак. Барбара Радзівілянка. Віці, № 1, Ню Ёрк. 1952. Бачыны 111–116. (*Л[еў] Акіншэвіч*). С. 121.

Хроніка. С. 122–126.

Прысланае й прысыланае ў Рэдакцыю. С. 127.

**Том II. New York, 1953. № 1 (3).**

*Юрка ВІЦЬБІЧ*. У пошуках Альгердавага шляху. С. 1–14.

*Праф. Н[аталья] ПАЛОНСКАЯ-ВАСІЛЕНКА*. Даўнар-Запольскі. Зацемкі да біяграфіі. С. 14–28.

*Мікола КУЛІКОВІЧ*. Беларуская музыка (Працяг). С. 29–43.

*Др. Ул[адзімер] СЯДУРА*. Пётра Мірановіч. С. 44–51.

*ЗАЦЕМКІ*

Пра Жамойць ды Жмудзь. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 52–53.

*АДЫШЛІ*

Мікола Равенскі. (*М[ікола] Кулііковіч*). С. 54–55.

*КНІГІ Й ЧАСАПІСЫ*

Г. П. Федотов. Новый град. Сборник статей. Нью-Йорк, 1952. 377 бач. (*Л[еў] А[кіншэв]іч*). С. 56–57.

Adolf Chybiński. Mieczysłau Karłowicz (1876–1909). Kronika życia artysty i taternika. Kraków, 1949. Бач. 552 + LX. (*М[ікола] Куліковіч*). С. 58–59.

Хроніка. С. 60–64.

**Том II. New York, 1953. № 2 (4).**

*Др. Ігнат ДВАРЧАНІН.* Беларусы на Праскім Унівэрсытэце ад ягоных закладзінаў да паловы XVI стагодзьдзя. С. 65–69.

*Праф Л[еў] АКІНШЭВІЧ.* Пра “Цывілізацыйныя Асновы” беларускага гістарычнага працэсу. С. 70–79.

*Др. Ул[адзімер] СЯДУРА.* Вытокі беларускага мастацтва — Беларускае малярства. С. 80–93.

*Мікола КУЛІКОВІЧ.* Беларуская музыка (Заканчэньне). С. 94–107.

Кароль Альбрэхт і Скарына. Дакумэнты зь Дзяржаўнага Архіву ў Каралеўцы. (*С[ымон] Брага*). С. 108–113.

*ЗАЦЕМКІ*

Забытая кніга. (*Л[еў] А[кіншэві]ч*). С. 114–116.

Народагубства. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 116–117.

Яшчэ пра Жамойць. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 117.

*КНІГІ Й ЧАСАПІСЫ*

Пракоп Каваль. Беларусь у датах, ліках, фактах. Выданьне другое, папраўленае й дапоўненае. Выдавецтва “Моладзь”. Парыж, 1953 г. Бач. 108 + карта Беларусі. (*А. Г.*). С. 118–120.

Dr. Steponas Kolupaila. Nemunas. Chicago, 1950. Бач. 237. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 120–121.

Alexander Gretchaninoff. My Life. New York 1952. Бач. 204. (*А[лесь] Карповіч*). С. 122–123.

Беларускі пэрыядычны друк на эміграцыі ў 1952 г. С. 123.

Хроніка. С. 124–126.

Прысланае й прысыланае. С. 127–128.

**Том III. New York, 1954. № 1 (5).**

*А[ляксандра] САКОВІЧ.* Да гісторыі Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту. С. 1–9.

*Алесь КАРПОВІЧ.* Да праблемы беларускага нацыянальнага стылю ў музыцы. С. 10–17.

*Р[ыгор] МАКСІМОВІЧ.* Да справы беларускай паўдзённай этнографічнай мяжы. С. 18–24.

*Др. Ул[адзімер] СЯДУРА.* Вытокі беларускага мастацтва. С. 25–40.

Аляксандра Ружанец-Ружанцоў. Да 60-годзьдзя жыцьця. (*В[ітаўт] Т[умаш]*). С. 41–43.

*ЗАЦЕМКІ*

Да пытаньня Whiteruthenia ці Byelorussia. (*Др. А[ўген] Дунін*). С. 44–48.

Ягайлавічы й музыка. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 48–50.

*АДЫШЛІ*

Інжынэр Лявон Рыдлеўскі. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 51–52.

*КНІГІ Й ЧАСАПІСЫ*

Мікола Куліковіч. Беларуская музыка. Кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. New York 1953 г. (*Алесь Карповіч*). С. 52–54.

The Law of the Grand Duchy of Lithuania. Background and Bibliography by Leo Okinshevich. Research Program on the U.S.S.R. New York City, 1953. Бач. 53. (*Р[ыгор] М[аксімовіч]*). С. 54–56.

П. Б. Струве. Социальная и экономическая история России с древнейших времен до нашего, в связи с развитием русской культуры и ростом российской государственности. Париж, 1952, 387 бач. (*Л[еў] А[кіншэвіч]*). С. 56–58.

Watson Kirkconnell: Common English Loanwords in East European Languages. Winnipeg, 1952. Праці Інституту Слов’янознавства Української Вільної Академіі Наук. Бач. 20. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 59–60.

Біблія Скарыны ў Лёндане. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 60.

Хроніка. С. 61–64.

**Том III. New York, 1954. № 2 (6)**.

*Р[ыгор] МАКСІМОВІЧ.* Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў Беларусі. С. 65–84.

*М[ікола] ДАРАШЭВІЧ.* Час утварэньня балотаў паўночна-заходняй эўрапейскай часткі СССР. С. 85–103.

*Багдан АНІШЧУК.* Ад Вільні да Кракава. Да дыскусіі пра беларускае малярства ў старой Польшчы. С. 104–111.

*ЗАЦЕМКІ*

Ліквідацыя польскага пытаньня на беларускіх землях. (*Р[ыгор] М[аксімовіч]*). С. 112–117.

*КНІГІ Й ЧАСАПІСЫ*

Nicholas P. Vakar. The Name “White Russia”. The American Slavic and East European Review. October 1949. Volume VIII. (*Р[ыгор] М[аксімовіч]*). С. 117–119.

Dzieje Ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego. Cykl wykladów. Alma Mater Vilenensis. Лёндан, 1953 г. Бач. 400. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 120–124.

Хроніка. С. 125–128.

**№ 1 (7). Мюнхэн, 1962.**

*Андрэй БАГРОВІЧ.* Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 году. С. 9–88.

*Станіслаў СТАНКЕВІЧ.* Русыфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русыфікацыйнаму працэсу. С. 89–137.

*Н. НЕДАСЕК.* Камунізм і “беларускі нацыяналізм” (Гістарычны агляд пачатку дачыненьняў). С. 138–177.

*Ян СТАНКЕВІЧ.* Пскоўскі дыялект. С. 178–202.

*Павал УРБАН.* Стан вывучэньня гісторыі [Беларусі] ў БССР. С. 203–225.

*Мікола КУЛІКОВІЧ.* Тэма сучаснасьці ў творчасьці беларускіх савецкіх кампазытараў. С. 226–252.

*Сымон КАБЫШ.* Сельская гаспадарка Беларускае ССР у сьвятле апошніх статыстычных дадзеных. С. 253–262.

*КНІГАПІС*

Stanisław Kot. Szymon Budny. Der grösste Häretiker Litauens im 16. Jahrhundert. Wiener Archiv für Geschichte des Slaventums und Osteuropas, Bd. II. Studien zur älteren Geschichte Osteuropas, I. Teil. Festschrift für Heinrich Felix Schmid. Graz-Köln, 1956, b. 63–118. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 263–265.

М. А. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Інстытут філазофіі Акадэміі Навук БССР. Менск 1958, б. 146. (*С[ымон] Брага*). С. 265–269.

Атлас Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Акадэмія навук БССР. Галоўнае ўпраўленне геадэзіі і картографіі. МУС СССР.

Мінск — Масква, 1958 г. XIV, 140 картаў. Тыраж: 10.000 у беларускай мове, 15.000 у расейскай мове. (*В[ітаўт] Кіпель*). С. 270–272.

**№ 2 (8). Мюнхэн, 1963.**

*Сымон БРАГА.* Доктар Скарына ў Маскве. С. 9–36.

*Павал УРБАН.* Кастусь Каліноўскі й “Мужыцкая Праўда” (У стагодзьдзе паўстаньня 1863 году). С. 37–73.

*Ант[он] АДАМОВІЧ.* Да пабудовы навуковае гісторыі беларускае літаратуры. С. 74–94.

*Ян СТАНКЕВІЧ.* Хрышчоныя імёны вялікалітоўскія (беларускія). С. 95–127.

*Праф. Я[н] СТАНКЕВІЧ.* Прыстаўное “в” у мове беларускай. С. 128–134.

*МАТЭР’ЯЛЫ*

*Адам ВАРЛЫГА.* Прыказкі й асаблівыя выказы з Лагойшчыны ў Меншчыне. С. 135–180.

*Я[нка] ЗАПРУДНІК.* Да Першага Ўсебеларускага Зьезду 1917 году (Дакумэнты й матар’ялы). С. 181–204.

*КНІГАПІС*

Беларуска-Рускі Слоўнік. Пад рэдакцыяй акадэміка К. К. Крапівы. Акадэмія Навук Беларускай ССР. Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа. Дзяржаўнае Выдавецтва замежных і нацыянальных слоўнікаў. Масква, 1962, каля 90 000 слоў, тыраж 15 000 экз., бач. 1048. (*Ст[аніслаў] Станкевіч*). С. 205–207.

Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Zeszyt 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Opracowali Alodia Kawecka-Gryczowa oraz Krystyna Korotajowa i Wojciech Krajewski. Instytut Badań Literackich Polskiej Akademii Nauk. Wrocław — Kraków 1959, б. XVIII + 274 + фоторэпрадукцыі + карта. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 207–209.

Карта народов СССР. Главное управление геодезии и картографии Министерства геологии и охраны недр СССР. Редактор Е.А. Шишкин. Масштаб 1:10 000 000. Тираж 3 000. Москва, 1962. (*А[ндрэй] Багровіч*). С. 210–213.

**№ 3 (9). Мюнхэн, 1964.**

*ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ*

*Сымон БРАГА.* Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны. С. 9–34.

*Павал УРБАН.* Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага й гістарычны тэрмін “Літва” (У парадку дыскусіі). С. 35–90.

*Станіслаў СТАНКЕВІЧ.* Савецкае асуджэньне “Нашай Нівы” й спробы ейнае рэгабілітацыі. С. 91–116.

*Ант[он] АДАМОВІЧ.* Да пытаньня пра месца Праньцішка Багушэвіча ў гісторыі беларускае літаратуры. С. 117–130.

*МАТАР’ЯЛЫ*

*Я[нка] ЗАПРУДНІК.* Да Першага Ўсебеларускага Зьезду 1917 году (Дакумэнты й матар’ялы) [Макар Краўцоў (Косьцевіч). 20 гадоў назад; Усебеларускі Кангрэс у Менску 18–31 (5–18 ст.ст.) сьнежня 1917 г. (Успаміны дэлегата Кангрэсу). (А[дам]. В[арлыга])] С. 131–176.

*Адам ВАРЛЫГА.* Прыказкі й асаблівыя выказы з Лагойшчыны ў Меншчыне [Працяг]. С. 177–234.

*КНІГАПІС*

Голенищев-Кутузов И. Н. Гуманизм у восточных славян (Украина и Белоруссия). Академия Наук СССР. Отделение литератури и языка. Советский Комитет Славистов. Москва, 1963, б. 94. (*С[ымон] Брага*). С. 235–239.

Немировский Е. Возниновение книгопечатания в Москве. Иван Федоров. Москва, 1964, б. 404. (*С[ымон] Брага*). С. 239–242.

A Bibliohraphy of Slavic Dictionairies. Compiled by Richard C. Lewanski. Volume II. Belorussian, Bulgarian, Czech, Kashubian, Lusatian, Old Church Slavic, Macedonian, Polabian, Serbocroatian, Slovak, Slovenian, Ukrainian. The New York Public Library. New York, 1962, б. XVIII + 366. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 242–246.

Жукевич В. А. Происхождение географических названий (топонимика) Белоруссии. Издательство Белгосуниверситета имени В. И. Ленина. Минск, 1961, б. 80. (*А[ндрэй] Багрович*). С. 246–251.

Дыялектычны Атлас беларускай мовы. Акадэмія Навук Беларускай ССР. Інстытут Мовазнаўства імя Якуба Коласа. Выдавецтва Акадэміі Навук БССР. Менск, 1963. (*Ст[аніслаў] Станкевіч*). С. 251–253.

**№ 4 (10). Мюнхэн, 1966.**

*ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ*

*Станіслаў СТАНКЕВІЧ.* Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-ых гадоў. С. 7–169.

*Янка ЗАПРУДНІК.* Справа аўтаноміі Беларусі ў Першай Думе і “Наша Ніва”. С. 170–183.

*Сымон БРАГА.* Пытаньне імя Доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры. С. 184–216.

*МАТАР’ЯЛЫ*

*Я[нка] ЗАПРУДНІК.* Да Першага Ўсебеларускага Зьезду 1917 г. (Дакумэнты й матар’ялы). С. 217–246.

*ЗАЦЕМКІ*

“Навіны Грозныя” 1563 году (Да гісторыі зачаткаў беларускіх газэтных выданьняў). (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 247–250.

Да справы паходжаньня назову “Белая Русь”. (*С[ымон] Брага*). С. 251.

Факты й праўда. (*А[ндрэй] Багровіч*). С. 252–256.

Справа паходжаньня Сымона Буднага. (*Р. Максімовіч*). С. 256–259.

*КНІГАПІС*

Порецкий Я. И. Симон Будный — передовой белорусский мыслитель XVI века. Издательство Белгосуниверситета им. В. И. Ленина. Минск, 1961, 67 б. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 260–265.

Сидоров А. А. Узловые проблемы и нерешенные вопросы истории русского книгопечатания. “Книга”, сб. IX. Всесоюзная Книжная Палата. Москва, 1964, б. 13–36. (*С[ымон] Брага*). С. 265–268.

**№ 5 (11). Мюнхэн, 1970.**

Ад рэдакцыі. С. 9.

*Сымон БРАГА.* Доктар Франьцішак Скарына 1485?—1540. С. 11–33.

*Вітаўт ТУМАШ*. Скарына ў Падуі. С. 35–79.

*Вітаўт ТУМАШ*. Кнігі Скарыны ў Італіі першае палавіны XVI стагодзьдзя. С. 81–89.

*Янка САДОЎСКІ*. Лексычныя асаблівасьці Кнігі Царстваў Скарыны. С. 91–112.

Скарынавы кракаўскія прывілейныя граматы 1532 году. *Пераклад д-ра Пятра Татарыновіча, уводныя заўвагі Вітаўта Тумаша*. С. 113–120.

*УГОДКАВАВАЯ СКАРЫНІЯНА*

Юбілей беларускага друку. (*С[ымон] Б[рага]*). С. 121–124.

Выстаўка Публічнай Бібліятэкі Ню Ёрку. (*В[ітаўт] З[убкоўскі]*). С. 124–129.

**№ 12. New York, 1975.**

*БІБЛІЯГРАФІЯ*

*Вітаўт КІПЕЛЬ.* Бібліяграфічныя дапаможнікі пры арганізацыі калекцыяў беларусікі. С. 104–111.

*КНІГАПІС*

А. К. Антонович. Белорусские тексты, писанные арабским письмом и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968. 418 б. + 28 ілюстрацыяў; The Byelorussian Tartars and their Writings, by G. M. Meredith-Owens and Alexander Nadson (The Journal of Byelorussian Studies. Vol. II. № 2. London, 1970, pp. 141–176 + illustrations). (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 112–116.

Е. Л. Немировский. Начало славянского книгопечатания. Москва, 1971, б. 272. (*С[ымон] Брага*). С. 118–127.

450 год беларускага кнігадрукаваньня. Акадэмія навук Беларускай ССР. Мінск, 1968, 8°, 436 б. + ілюстрацыі; Scoriniana, 1517–1967 (“Запісы”, кн. 5). Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1970, 4°, 268 б. + ілюстрацыі. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 128–135.

Францыск Скарына. Прадмова й пасьляслоўі. Акадэмія навук БССР. Інстытут літаратуры. Мінск, 1969, 240 б. + ілюстрацыі. (*С[ымон] Брага*). С. 135–140.

Дудар. Зборнік народных песень. Сабраў Я. Г. Другое папраўленае выданьне. Ню Ёрк, выданьне Заранка, 1970, 72 б. (*Алесь Карповіч*). С. 140–141.

З. Можейко. Песенная культура белорусского Полесья. Село Тонеж. Издат. “Наука и техника”. Минск, 1971, 264 б. (*Алесь Карповіч*). С. 141–143.

А. Смагін. Хоры а капэля беларускіх кампазытараў 20-х г. (“Весьці” Акадэміі навук БССР. Сэрыя грамадзкіх навук. Мінск, № 3, 1973). (*Алесь Карповіч*). С. 143–147.

Н. Н. Улащик. Очерки па археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. Академия наук СССР. Институт истории СССР. Москва, Изд. “Наука”, 1973, 303 бб. Паказьнікі. (*Я[нка] Запруднік*). С. 147–149.

Бібліяграфія па гісторыі Беларусі. Феадалізм і капіталізм. Склалі: М. Г. Крэканэ і А. А. Сакольчык. Пры ўдзеле Ю. І. Бібілы. Пад рэд.: К. І. Карнейчыка і С.А. Шчарбакова. Інстытут гісторыі АН БССР, Дзяржаўная бібліятэка БССР, Фундамэнтальная Бібліятэка імя Я. Коласа. Мінск, 1969. 437 б. Паказальнікі. (*Я[нка] Запруднік*). С. 149–151.

С. А. Андраюк. Жыцьцё — Літаратура — Героі. Мінск, Выдав. “Навука і тэхніка”, 1973, 176 б. (*С[таніслаў] Станкевіч*). С. 152–155.

Lavrentij Zizanij. Hramatika slovenska. Wilna 1596. Herausgegeben und eingeleitet von Gerd Freidhof (Specimina Philologiae Slavicae. Herausgegeben von Olexa Horbatsch und Gerd Freidhof. Band 1). Frankfurt am Main. 1972. 4 + XVI + 93 S. (*Т[одар] Вашук*). С. 156.

**№ 13. New York, 1975.**

*ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ*

*Вітаўт ТУМАШ*. Друкарня Пётры Мсьціслаўца (Да 400-годзьдзя віленскага Евангельля). С. 3–29.

*Янка ЗАПРУДНІК*. Беларусь у пару Дзяржаўных Думаў Расеі. С. 30–46.

*Рыгор МАКСІМОВІЧ*. Гістарычная канцэпцыя Вацлава Ластоўскага ў працах сучасных гісторыкаў. С. 47–56.

*УСПАМІНЫ*

*Адам ВАРЛЫГА*. Вясельле на Лагойшчыне. С. 57–66.

*Кветка ВІТАН* (*Ю[льяна] ДУБЕЙКАЎСКАЯ*). Газэта “Гоман”. С. 67–69.

*ЗАЦЕМКІ*

*Вітаўт ТУМАШ*. Друкарня Цяпінскага (Да 400-годзьдзя дзейнасьці). С. 70–76.

*Рыгор МАКСІМОВІЧ*. Спрэчка пра дакумэнты, якіх ніколі ня было. С. 77–81.

*Дзімітры ВЕРАСАЎ*. Роздум пра музыку (З нагоды зборніка Э. Зубковіч “Край мой васількова”). С. 82–86.

*ДАКУМЭНТЫ*

*Янка ЗАПРУДНІК*. Устаўныя граматы Беларускае Народнае Рэспублікі. С. 87–98.

*Янка ЗАПРУДНІК*. Дыпляматычны пашпарт Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі. С. 99–103.

*КНІГАПІС*

Гравюры Францыска Скарыны. Уступны артыкул, сістэматызацыя гравюр і мастацтвазнаўчы аналіз Л. Баразны. Фотарэпрадукцыі і фотарэстаўрацыя П. Захарэнкі. Мінск, выдав. “Беларусь”, 1972, 12 + 148 б. (ненумараваных). (*С[ымон] Брага*). С. 104–109.

Грамоти XVI ст. Упорядковання, вступна стаття, коментарі і словники-покажчики. М. М. Пещак. Академія Наук УРСР. Пам’ятки української

мови. Київ, Видавн. "Наукова думка", 1974, 256 б. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 110–112.

George Y. Shevelov. Belorussian versus Ukrainian: Delimitation of Texts before A. D. 1569 (The Journal of Byelorussian Studies. London, vol. III, № 2, 1974. Pp. 145–156). (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 112–119.

Alexandra Bergman. Antoni Luckiewicz (1884–1946). Szkic biograficzny. ("Przegląd historyczny", Warszawa, zesz. 4. 1974, 667–685). (*А[ндрэй] Багровіч*). С. 119–124.

Czesław Madajczyk. Dokumenty w sprawie polityki narodowościowej władz polskich po przewrocie majowym ("Dzieje najnowsze", Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk. Instytut Historii Polskiej Akademii Nauk, rocznik IV. № 3. 1972, 137–169). (*А[ндрэй] Багровіч*). С. 125–130.

М. Я. Гринблат. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. АН БССР. Минск, 1968, 288 б. (*А[ндрэй] Багровіч*). С. 130–134.

Colours of the Native Country: Stories by Byelorussian Writers. Minsk, "Byelarus Publishers, 1972, 272 pp. (*Томас Э. Бэрд*). С. 134–136.

Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569–1795). Яков Н. Мараш. Минск, издат. "Вышэйшая школа", 1971. 272 б. (*Томас Э. Бэрд*). С. 137–139.

Аўген Калубовіч. Мова ў гісторыі беларускага пісьменства. І. Уводзіны: Лёс помнікаў старога беларускага пісьментсва (Рукапіснага й друкаванага). Мюнхэн — Лёндан, 1974–1975, 86 б. (Адбітка із час. "Божым шляхам", Лёндан, 1974 г., № 1/139 — 4/143). (*В[ітаўт] Кіпель*). С. 139–143.

Вопросы истории. История СССР и БССР. Всеобщая история. Мужвузовский борник. Выпуск первый. Издательство БГУ им. В.И. Ленина, Мінск, 1974. 256 стр. 2300 экз.; Вопросы истории. История СССР и БССР. Всеобщая история. Межвузовский сборник. Выпуск второй. Издательство БГУ им. В. И. Ленина, Мінск, 1975. 224 стр. 800 экз. (*Я[нка] Запруднік*). С. 143–147.

Мікалай Сташкевіч. Непазьбежнае банкруцтва (З гісторыі палітычнага краху нацыяналістычных партый у Беларусі. 1917–1925 гг.). Бібліятэчка газэты "Голас Радзімы". Мінск, 1974, 140 б. (*Я[нка] Запруднік*). С. 148.

*ЗЬ БЕЛАРУСАВЕДНАЕ ХРОНІКІ*

Дні беларусаведных студыяў у Атаве. (*В[ітаўт] Кіпель*). С. 149–150.

Беларуская эміграцыйныя літаратура. (*В[ітаўт] Кіпель*). С. 153–154.

Гісторыя беларускае літаратуры па-ангельску. (*В[ітаўт] Кіпель*). С. 154–155.

На навуковых канфэрэнцыях. (*Я[нка] Запруднік*). С. 155.

**№ 14. New York, 1976.**

*ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ*

*Вітаўт ТУМАШ.* Гэтман Рыгор Хадкевіч і ягонае выдавецтва. С. 3–39.

Фундушовая грамата гэтмана Рыгора Хадкевіча, дадзеная 7 чырвеня 1563 году. С. 40–42.

*Алесь КАРПОВІЧ.* Музычная творчасьць Эльзы Зубковіч. С. 43–50.

*Olga ORECHWA.* Bykau's Search for Moral Imperative (His Novelette "Sotnikau"). С. 51–58.

*ЗАЦЕМКІ*

*Сымон БРАГА.* Пётра Мсьціславец ды Іван Масквіцін. С. 59–66.

*Андрэй БАГРОВІЧ.* Латгальцы — спрадвечныя суседзі. С. 67–75.

*Віктар СЯНЬКЕВІЧ.* Да пытаньня польскае мяншыні на Беларусі. С. 76–84.

*МУЗЭІ*

*Антон ЛУЦКЕВІЧ.* Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча. С. 85–92.

*ДАКУМЭНТЫ*

*Янка ЗАПРУДНІК.* "Мужыцкая Праўда" — набат паўстаньня 1863 году. *Тэксты й ангельскі пераклад — Т. Э. Бэрд і Я. Запруднік.* С. 93–131.

*КНІГАПІС*

С. А. Подокшин. Скорина и Будный. Академия наук БССР. Институт философии и права. Минск, издат. "Наука и техника", 1974, 176 б. (*С[ымон] Брага*). С. 132–138.

У. А. Калеснік, Г. Я. Галенчанка. Скарына, Францыск (Беларуская савецкая энцыклапедыя, т. 9. Мінск, 1973, б. 548–552). (*С[ымон] Брага*). С. 138–141.

Marceli Kosman. Reformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Polska Akademia Nauk. Instztut historii. Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk, 1973, 276 b. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 141–145.

Помнікі старажытнай беларускай літаратуры. Укладаньне, уступны артыкул і камэнтарыі А. Ф. Коршунава. Акадэмія навук БССР.

Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы. Мінск, выд. “Навука і тэхніка”, 1975, 248 б. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 146–150.

Юры Семяняка. Я сэрцам з табой. Песьні. Мінск, Выдавецтва “Беларусь”, 1976, 48 б. (*Алесь Карповіч*). С. 150–151.

*ЗЬ БЕЛАРУСКАЙ ХРОНІКІ*

Беларусіка на навуковых канфэрэнцыях 1976 году ў ЗША й Канадзе. (*Т[омас]. Э. Бэрд*). С. 152–153.

2-я Выстаўка беларускіх мастакоў замежжа. (*Зора Кіпель*). С. 152–153.

Мастацкія выстаўкі 1976 году. (*Зора Кіпель*). С. 154–157.

Першы Беларускі Фэстываль. (*Вітаўт Кіпель*). С. 157–158.

**№ 15. New York, 1977.**

*ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ*

*Янка ЗАПРУДНІК*. Дзяржаўнасьць Беларусі ў дасавецкую пару. С. 3–22.

*Вітаўт ТУМАШ*. Кнігі Скарыны на захадзе Эўропы ў пару ягоную й сяньня. С. 23–53.

*УСПАМІНЫ*

*Яухім КІПЕЛЬ*. Як нас вучылі. С. 54–68.

*ЗАЦЕМКІ*

*Рыгор МАКСІМОВІЧ*. Дзьве папярэдніцы “Мужыцкае Праўды”. С. 69–74.

*АРХІВЫ-МУЗЭІ*

*Рыгор МАКСІМОВІЧ*. Архіў Беларускага Музэю ў Вільні. С. 75–76.

*УГОДКАВАЕ*

*Вітаўт ТУМАШ*. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Да 25-годзьдзя дзейнасьці). С. 77–85.

Рэфэраты, навуковыя канфэрэнцыі, выстаўкі гадоў 1951–1976, ладжаныя Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва. С. 86–102.

Забароненыя ў БССР творы Янкі Купалы. С. 102.

*РЭЦЭНЗІІ*

Мікола Гусоўскі. Песьня пра зубра. Пераклаў з лацінскай мовы Язэп Семяжон. Мінск, Выдав. “Мастацкая літаратура”, 1973, 96 б. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 103–109.

История белорусской дооктябрьской литературы. Академия наук БССР. Институт литературы имени Янки Купалы. Минск, “Наука и техника”, 1977, 640 б. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 110–117.

Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Укладальнік Г. В. Кісялёў. Акадэмія навук БССР. Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы. Мінск, 1977, 544 б. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 117–119.

Fair Land of Byelorussia. An Anthology of Modern Byelorussian Poetry. Translated by Walter May. Compiler Anatol Vyartsinski. Moscow, Progress Publishers, 1976, 368 pp. (*Т[омас] Э. Бэрд*). С. 119–123.

Рыгор Крушына. "Сны і мары". Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1975, 108 б. (*Вольга Арэхва*). С. 123–127.

А. А. Кривицкий, А. Е. Михневіч, А. И. Подлужный. Белорусский язык для небелоруссов. Минск, издат. "Вышэйшая школа", 1973, 272 бач. (*Я[нка] Садоўскі*). С. 127–128.

Л. С. Мухаринская. Белорусская народная песня. Историческое развитие. Минск, "Наука и техника", 1977, 216 б. (*Алесь Карповіч*). С. 129–132.

В. А. Круталевич. Рождение Белорусской Советской Республики (На пути к провозглашению республики. Октябрь 1917 — декабрь 1918 г.). Минск, Издат. "Наука и техника", 1975. 335 б. (*Я[нка] Запруднік*). С. 132–136.

Aleksandra Bergman. Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu. Warszawa, "Ksążka i Wiedza", 1977, 244 б. + ілюстрацыі 32 б. (*А[ндрэй] Багровіч*). С. 136–143.

V. Pashkievich. Fundamental Byelorussian — Беларуская мова. Edited by A. Adamovich. Toronto, Byelorussian-Canadian Coordinating Committee, Book 1, 1974, XII + 332 p; Book 2, 1978, XII + 422 pp. Illustrated. (*Томас Э. Бэрд*). С. 144–148.

В. Н. Рябцевич. О чем рассказывают монеты. Изд. 2-е, переработанное и дополненное. Минск, "Народная асвета", 1977, 400. (*А[ндрэй] Багровіч*). С. 148–150.

*БЕЛАРУСАВЕДНАЯ ХРОНІКА*

Угодкавая беларусаведная канфэрэнцыя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. (*В[ітаўт] Кіпель*). С. 151–152.

Беларускія выстаўкі 1977 году. (*Зора Кіпель*). С. 152–157.

Другі Беларускі Фэстываль у ЗША. (*Вітаўт Кіпель*). С. 157–158.

**№ 16. New York, 1978.**

*ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ*

*Вітаўт ТУМАШ*. Дрэварыты настаўніка Дзюрэра ў Падарожнай Кніжцы Скарыны. С. 3–43.

*Vladimir SEDURO.* Problems of F. M. Dostoyevski's Origin. C. 44–60.

*Alice KIPEL.* The American Refief Administration (ARA) in Byelorussia. C. 61–83.

*УСПАМІНЫ*

*А[палёнія] РАТКЕВІЧ.* Пачаткі беларускага школьніцтва ў Менску. С. 84–91.

*Пётра МІРАНОВІЧ.* Беларусы ў Латвіі, 1919–1944. С. 92–98.

*ЗАЦЕМКІ*

*Вітаўт ТУМАШ.* Акрастыхі Франьцішка Скарыны. С. 99–106.

*Рыгор МАКСІМОВІЧ.* Тры выданьні Трэцяга Статуту Вялікага Княства Літоўскага. С. 107–118.

*Зора КІПЕЛЬ.* Капітан Джон Сміт на Беларусі. С. 119–128.

*РЭЦЭНЗІІ*

Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. Жизнь и деятельность Франциска Скорины. Описание изданий и указатель литературы, 1517–1977. Составитель Е. Л. Немировский. Государственная ордена Ленина Библиотека СССР им. В. И. Ленина. Отдел редких книг. Москва, 1978, 160 б. (*С[ымон] Брага*). С. 129–137.

Mikalojus Husovianas. Giesmé apie Stumbra. Iš lotynu kalbos verté Benedictas Kazlauskas. Vilnius, "Vaga", 1977, 108 p. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 137–139.

The Lithuanian Statute of 1529. Translated and edited with an intrpduction and commentary by Karl von Loewe. Studies in East European History. Vol. XX. Leiden, E. J. Brill, 1976; XIV, 206 pp. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 139–142.

Antologia poezji białoruskiej. Wybrał i opracowal Jan Huszcza. Wstęp napisał Aleksander Barszczewski. Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk, Biblioteka Narodowa, Seria II, Nr 198, 1978, LVIII + 350 б. Тыраж 5300 экз. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 143–146.

Ivan Shamyakin. Snowtime [Snežnye zimy]. Translated by Olga Shartse. Moscow, Progress Publishers, 1973. 486 pp. (*Thomas E. Bird*). C. 147.

The New Jersey Ethnic Expirience. Edited by B. Cunnungham. Union City, N. J. William H. Wise and Co., 1977, pp. 466. (*Томас Э. Бэрд*). С. 148–150.

М. И. Иосько. Николай Судзиловский-Руссель. Жизнь, революционная деятельность и мировоззрение. Минск, Изд. Бел. Гос. Ун-та, 1976, 336 с. (*В[ітаўт] Кіпель*). С. 151–154.

**№ 17. New York, 1983.**

*(Proceedings of the Twenty-fifth Anniversary Symposium of the Byelorussian Institute of Arts and Sciences. February 1977)*

*Halina RUSAK*. Modern Byelorussian Art. (*Сучаснае беларускае мастацтва*). С. 69–81.

*MUSIC*

*Dimitri WERESOW*. Byelorussian Music in the United States. (*Беларуская музыка ў Злучаных Штатах*). С. 82–84.

*ARCHIVAL HOLDINGS*

*Patricia Kennedy GRIMSTED*. Archives and Manuscript Collections in the Byelorussian SSR: Soviet Standards and Documentary Legacy of the Byelorussian Nation. (*Архівы ды зборы манускрыптаў у Беларускай ССР*). С. 85–113.

*HISTORY*

*Vitaŭt KIPEL*. The Early Byelorussian Presence in America. (*Раньняя прысутнасьць беларусаў у Амэрыцы*). С. 113–131.

*Jan ZAPRUDNIK*. Soviet Documentation of Byelorussia's History (1902–1919). (*Савецкая дакумэнтацыя гісторыі Беларусі (1902–1919)*). С. 132–143.

*RELIGION*

*Thomas E. BIRD*. Orthodoxy in Byelorussia: 1917–1980. (*Праваслаўе ў Беларусі: 1917–1980*). С. 144–208.

*EDUCATION*

*Valentyna PASHKIEVICH*. The Teaching of the Byelorussian Language in an English-Speaking Milieu. (*Навучаньне беларускае мовы ў англамоўным асяродзьдзі*). С. 209–213.

*Vasil MELIANOVICH*. Byelorussian Studies in the Secondary Schools and Community Colleges of Maryland. (*Беларусаведа ў сярэдніх школах і двухгадовых каледжах штату Мэрылэнд*). С. 214–218.

*THE PRESS*

*Уладзімер БРЫЛЕЎСКІ*. Польскі замежны друк пра Беларусь. С. 219–226.

*REVIEWS / РЭЦЭНЗІІ*

Knygotyra 7 (14) (Книговедение): Франциск Скорина и некоторые вопросы развития книги в Советском Союзе (Сборник докладов научной конференции, посвященной началу книгопечатания в Литве и Белоруссии и организованной в Вильнюсе 21 ноября 1975 г.). Vilnius, 1979, 133 р. (*С[ымон] Брага*). С. 227–229.

Натальля Арсеньнева. Між берагамі: Выбар паэзіі, 1920–1970. New York — Toronto, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1979, LX 350 б. (*В[ольга] Арэхва*). С. 229–235.

*CHRONICLE / ХРОНІКА*

Трэйці беларускі фэстываль у ЗША. (*Вітаўт Кіпель*). С. 236–238.

Зь беларускае навукова-культурнае хронікі 1979 году. (*В[ітаўт] Кіпель*). С. 239–243.

Зьмест артыкулаў па-беларуску. С. 244–247.

**№ 18. New York, 1988.**

*Сымон БРАГА.* Доктар Ф. Скарына й кароль Фэрдынанд. С. 3–19.

*Вітаўт ТУМАШ.* Люблянская Скарыніяна. С. 20–25.

*Антон ФЛАРОЎСКІ й Вітаўт ТУМАШ.* Скарыніяна ў ліставаньні. Лісты 1965–1968 гг. С. 26–82.

*Янка САДОЎСКІ.* Марфалягічныя асаблівасьці Кнігі Царстваў Ф. Скарыны. С. 83–95.

*Вітаўт ТУМАШ.* Скарынаў каляндар і каляндарная сыстэма Беларусі яго пары. С. 96–121.

Скарынава Паскалія, Вільня, 1522 год. Перадрук тэксту. С. 122–135.

Фотарэпрадукцыя з "Падарожнае кніжкі" д-ра Ф. Скарыны. Вільня, 1522 год. С. 136–182.

*КНІГАПІСІ*

Слоўнік мовы Скарыны. Складальнік У. В. Анічэнка. Выдавецтва "Вышэйшая школа". Мінск, 1977, том I, 476 б.; том II, 364 б. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 183–184.

В. Ф. Шматаў. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Акадэмія навук Беларускай ССР. Істытут мовазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Мінск, "Навука і тэхніка", 1984 г., 184 б. + ілюстрацыі. (*Р[ыгор] Максімовіч*). С. 185–189).

Зь беларускае навукова-культурнае хронікі за гады 1980–1982. (*В[ітаўт] Кіпель*). С. 190–195.

**№ 19. New York, 1989.**

*Thomas E. BIRD.* Nasa Niva. An Introductory Word. С. 3–7

*Віктар СЯНЬКЕВІЧ.* Вытокі беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі і "Наша Ніва". С. 8–26.

*А[ляксандар] БАРШЧЭЎСКІ.* Ігнат Дварчанін — дасьледнік нашаніўскай літаратуры. С. 27–65.

*Вітаўт КІПЕЛЬ.* Эміграцыя зь Беларусі й газэта "Наша Ніва". С. 66–96.

*Guy PICARDA.* Questions surrounding a Byelorussian Liturgy. C. 97–101.

*Г[іпаліт] НЯМІГА.* Беларускае школьніцтва пад нямецкай акупацыяй Беларусі ў вайну 1941–1944 гг. С. 102–112.

*Zinaida GIMPELEVICH-SCHWARTZMAN.* Uladzimir Karatkievič and his Influence on the Contemporary Byelorussian Renaissance. C. 113–124.

*Рыгор МАКСІМОВІЧ.* Пра юрыдычную лексыку старой беларускай мовы. С. 125–127.

*Леў АКІНШЭВІЧ.* Балонкі з успамінаў. С. 128–149.

*Зора КІПЕЛЬ.* Эзра Паўнд — паэта-выгнанец (Ezra Pound 1885–1972). С. 150–157.

*КНІГАПІС / BOOK REVIEWS*

Nil Hilevich. Bread and Musik. Minsk: Holas Radzimy, 1988, 64 pp. Translated from Byelorussian by Anisiya Prokofieva. Edited by Ludmila Cortes. (*Thomas E. Bird*). C. 158–159.

N. F. Vysockaja and T. A. Karpovič. Žyvapis Biełarusi XII–XVIII stahoddziaŭ [Byelorussian Painting of the 12th to18th Centuries]. Minsk: Belaruś Publishers, 1980. (*St[ahanovič] Tamara*). C. 159–165.

Уолт Уітмэн. Лісце травы. Вершы. Мінск, выд. "Мастацкая літаратура", 1978. 159 б. 90 к. Укладаньне і тлумачэньне Янкі Сіпакова. 8 іл. (*Thomas E. Bird*). С. 165–167.

Bulyka, A. M. Leksičnyja zapazyčanni ŭ biełaruskaj movie XIV–XVIII stst. Published in Minsk by "Navuka i technika", 1980. 256 pages, first edition: 1000 copies. (*R[obert] J. Tamušanski*). C. 168–169.

Зь беларускае навукова-культурнае хронікі [1982–1983]. (Вітаўт Кіпель). С. 171–180.

**№ 20. New York, 1992.**

Editorial. (*T[homas] E. B[ird]*). C. 3.

*James DINGLIY.* The Poetry of Natalla Arsiennieva and 'Pierabudova' in Belarusian Literature. C. 4–14.

*Deming BROWN.* The Art of Vasil' Bykaŭ. C. 15–23.

*Zinaida GIMPELEVICH-SCHWARTZMAN.* Belarus: Five Years after Chernobyl. C. 24–29.

**№ 21. New York, 1994.**

*Halina RUSAK.* Saint Euphrosenia of Polacak: Medieval Pioneer in East European Cultural Development. С. 3–24.

*Valancin SIELVIASIUK.* The Portrait of Francis Skaryna. С. 25–51.

*Сяргей ШУПА.* Уступныя нататкі да перакладазнаўчага аналізу “Бібліі” Францішка Скарыны. С. 52–67.

*Сяргей ШУПА.* Гэбрайскія элемэнты ў праскіх выданьнях Францішка Скарыны. С. 68–75.

Кітаб з фондаў Казанскага Ўнівэрсытэту (№ 1446). *Прадмова, апрацоўка тэксту й публікацыя Галіны Александровіч-Мішкінене*. С. 76–111.

З успамінаў пра Вацлава Ластоўскага. *Прадмова й пераклад зь літоўскае мовы Рыгора Максімовіча*. С. 112–124.

Лісты Янкі Чарапука з Амэрыкі (1922–1923). *Прадмова й публікацыя S[iarheja] S[hupy].* С. 125–137.

*Лявон ЮРЭВІЧ.* У пошуках міталягічных гарызонтаў беларускае літаратуры (*Два эсэ*): 1. “Русалчына бальляда”: міталёгія й дэманалёгія ў паданьнях Сьвятаслава Каўша; 2. “Лябірынты” Вацлава Ластоўскага: спроба разгорнутага камэнтара выбраных мясьцінаў. С. 138–166.

Хроніка навукова-культурнага жыцьця. 1991. (*Вітаўт Кіпель*). С. 167–171.

**№ 22. New York, 1996**

*(This volume of Zapisy is dedicated to the seventies birthday of Vasil Bykaй)*

Introductory Word. Thomas E. Bird. С. 1.

Песьня пра зубра Міколы Гусавяніна. *Пераклад Натальлі Арсеньневай*. С. 4–34.

*Eugen von ENGELHARDT.* Ein Apokryph. С. 35–44.

*Vera RICH*. Sluckija tkačychi — A Translator’s View. С. 45–58.

*Zina GIMPELEVICH*. The Tradiction of ‘Poor Folk’ in Bykaй’s Recent Short Stories. С. 59–67.

*Zora KIPEL*. Some Observations on English Translations of Bykaй’s Work. С. 68–72.

*Лявон ЮРЭВІЧ.* Да гісторыі станаўленьня жанру гісторыка-міталягічнае прозы. С. 73–98.

*А. А. СТАНКЕВІЧ.* Заходні моўны ўплыў на беларускія гаворкі. С. 99–115.

Хроніка навукова-культурнага жыцьця (1992). (*Вітаўт Кіпель*). С. 116–120.

**№ 23. New York, 1999.**

*Томас Э. БЭРД*. Злучаныя Штаты Амэрыкі й эміграцыйная тэматыка ў публіцыстыцы й паэзіі “Нашай Нівы”. С. 5–37.

*Віталь ЗАЙКА*. Праблемы расейскай нацыянальнай сьвядомасьці на Беларусі канца XIX — пачатку XX ст. С. 38–46.

*Зьміцер САЎКА*. Балтызмы ў слоўнічку Васіля Стомы “Дыялект Дзісеншчыны”. С. 47–58.

*Lyudmyla SHPYLOVA*. Watercolors of Erast Sukouski in the New York Public Library. C. 59–65.

*Zina GIMPELEVICH*. Two Interviews with Vasil Bykau (1995 & 1998). C. 66–93.

*Васіль БЫКАЎ*. Эквівалент. Гістарычнае апавяданьне. С. 94–102.

*Янка ПАЛОННЫ*. “Прад намі пытаньне: ці жыць, ці ўміраць...” Вершы. *Падрыхтавалі да друку Л[явон] Юрэвіч і Зьм[іцер] Саўка*. С. 103–128.

*Уладзімер ГЛЫБІННЫ*. Сьвітанак над Лахваю. Апавяданьне. *Падрыхтавалі да друку Л[явон] Юрэвіч і Зьм[іцер] Саўка*. С. 129–148.

Літаратурны акалот: Антон Беларусаў-Скалка. (*Юрка Васілеўскі*, *Алеся Сёмуха*). С. 149–164.

*КНІГАПІС*

Белоруссия и Россия: общества и государства / Рэд. Д. Ф. Фурман. Москва: Права человека, 1998. 432 с. Наклад 1000. (*Янка Запруднік*). С. 165–173.

Хроніка навукова-культурнага жыцьця ў замежжы. (*Зьміцер Саўка*). (1993–1995). С. 174–177.

**№ 24. New York, 1999.**

*Васіль ЗАХАРКА*. Галоўныя моманты беларускага руху. С. 5–87.

*Лявон ЮРЭВІЧ*. Зацемкі на маргінэсе найноўшае гісторыі. Новыя імёны да біябібліяграфічнага даведніка “Беларускія пісьменнікі”. С. 88–94.

*а. Леў ГАРОШКА*. Праз навальніцы й нягоды. С. 95–105.

*[а. Леў ГАРОШКА]*. Беларускія сьвятары й рэлігійныя дзеячы Беларусі. С. 106–148.

*Сяргей ХМАРА*. Кароткія даныя аб сабе. С. 149–171.

*Апалёнія САВЁНАК*. Прыпамінаю. С. 172–183.

*Вольга ТАПОЛЯ*. Лісты (1946–1948). С. 184–235.

*Зьміцер САЎКА.* Стараславянска-беларускі слоўнік. Праект. Літара Б. С. 236–252.

*Віталь ЗАЙКА.* Габрайскія мэмарыяльныя кнігі пра гарады й мястэчкі Беларусі. С. 253–273.

*Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ.* Развагі над пошукамі крыжа Эўфрасіньні Полацкай. С. 274–279.

Хроніка навукова-культурнага жыцьця ў замежжы (1996–1997). (*Зьміцер Саўка*). С. 280–283.

**№ 25. Нью Ёрк — Менск, 2001.**

*Галіна СЯРГЕЕВА.* Беларуская дыяспара ў нацыянальнай гістарыяграфіі XX стагодзьдзя. С. 5–40.

*Ян МАКСІМЮК.* Аднаўленьне Рады БНР пасьля Другой Сусьветнай вайны. С. 41–48.

*Alexander NADSON.* The Belarusan Greek Catholic (Uniate) Churche. С. 49–62.

*Генадзь САГАНОВІЧ.* Вітаўт Тумаш як гісторык. С. 63–70.

*Настасься ГУЛАК.* Славянафіл думае пра Беларусь. С. 71–88.

*Уладзімер МАЛЬЦАЎ.* БДТ-2 у тэатральных дыскусіях 1927–1928 гадоў. С. 89–118.

*Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.* Пясьняр волі й харaства: Згадваючы Ўладзімера Дубоўку. С. 119–130.

*Юрась ГАРБІНСКІ.* З эпісталярнае спадчыны Ўладзімера Самойлы. С. 131–138.

*Андрій ДАНІЛЕНКО, Лев ЧАБАН.* Юрій Шевельов як досьліднік українсько-білоруських взаємин. С. 139–148.

*Зьміцер САЎКА.* Стараславянска-беларускі слоўнік. Праект. Літара В. С. 149–166.

*Кветка ВІТАН.* Зацемкі аб будаўляным мастацтве гораду Вільні. С. 167–174.

*Уладзімер ГЛЫБІННЫ.* Тэстамэнт. Апавяданьне. С. 175–188.

*КНІГАПІС*

Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: Жыцьцяпісы. Мартыралогія. Успаміны / Укладальнік Ю. Гарбінскі. Мінск — Мюнхен: Беларускі кнігазбор, 1999. 752 с. (*Ларыса Языковіч*). С. 189–191.

Л. Савёнак. Беларусізацыя пад №... / БІНІМ. Нью Ёрк, 1998. 164 с. (*Лідзія Савік*). С. 192–205.

**№ 26. New York — Miensk, 2003.**

## № 27. New York — Miensk, 2004

**№ 28. New York — Miensk, 2005.**

**№ 29. New York — Miensk, 2005.**

**№ 30. New York — Miensk, 2006.**

Хроніка беларускага навукова-культурнага жыцьця ў замежжы (2005–2007). (*Вітаўт Кіпель*). С. 422–426.

Д-р праф. Уладзімір Ванцэвіч. С. 427.

**№ 32. New York — Miensk, 2009.**

Ад рэдакцыі. С. 6–7.

*ТЭМА НУМАРУ: ТРАВЭЛЁГІ*

*ТЭКСТЫ*

*Лявон ЮРЭВІЧ.* Моваю травэлёгу. С. 8–56.

*Навум ГАЛЯШЭВІЧ.* Травэлёг Уладзімера Дудзіцкага. С. 57–74.

*Эміль ЦЯЎЛОЎСКІ.* Беларусы ў Аргентыне. С. 75–84.

*АРХІВАЛІІ*

*Падарожныя нататкі*

*Генадзь САГАНОВІЧ.* Падарожныя запісы Самуэля Кіхэля пра Горадню й Вільню 1586 г. С. 85–92.

*Зора КІПЕЛЬ.* Падарожжа на Аляску. *Падрыхтоўка да друку Вітаўта Кіпеля.* С. 93–99.

*Лявон ЮРЭВІЧ.* Манастырскі дзёньнік. С. 100–134.

*Эпісталяры*

Падарожныя лісты. *Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі.* С. 135–143.

*Аляксандар АДЗІНЕЦ.* Падарожжа самотнае душы. [Вольга Таполя]. С. 144–178.

*Успаміны*

*Алесь ПАШКЕВІЧ.* Адзін год жыцьця Аляксандра Стагановіча. (Партрэт на фоне эпохі). С. 179–224.

*Аляксандар СТАГАНОВІЧ.* Успаміны пасла. *Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча, рэдагаваньне ды камэнтары Алеся Пашкевіча й Алега Гардзіенкі.* С. 225–330.

*Творы*

*Антон АДАМОВІЧ.* Сэнтымэнтальнае падарожжа. С. 331–355.

*Аўген КАВАЛЕЎСКІ.* Госьці з Тунісу. С. 356–369.

*Павал КАСЬЦЮКЕВІЧ.* Відавочца. С. 370–375.

## № 33. New York — Miensk, 2010.

*Лявон ЮРЭВІЧ.* Малодшы брат. (Ізыдар Плашчынскі). С. 491–497.

*Лявон ЮРЭВІЧ.* На скрыжаваньні вятроў. (Янка Ліманоўскі). С. 498–503.

*МУЗЭЙ*

*Лявон ЮРЭВІЧ.* Made in BNR: Да гісторыі марак і кружэлак на эміграцыі. С. 504–522.

*ДЗЕЦІ ЭМІГРАЦЫІ*

*Алеся СЁМУХА.* Гутарка з Алесяй Кіпель. С. 523–531.

*ВЫДАНЬНІ*

“Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі”. *Падрыхтоўка да друку й прадмова Лявона Юрэвіча.* С. 532–541.

*ПУБЛІКАЦЫІ*

*Алег ГАРДЗІЕНКА.* Беларуская Цэнтральная Рада (1977–1995). С. 542–546.

*КНІЖНАЯ ПАЛІЦА*

*Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ.* Дойлід паветраных замкаў. (Рыгор Крушына). *Крушына, Р. Кантата самотных: вершы і паэмы / Уклад. М. Скобла; прадм. А. Сідарэвіча. — Мінск: Кнігазбор, 2007. — 308 с.* С. 547–553.

*Яна СЛАВІНА.* Кніжны агляд (2008–2010). С. 554–570.

**№ 34. New York — Miensk, 2011.**

Ад рэдакцыі. С. 5–7.

*ТЭМА НУМАРУ: БЕЛАРУСЫ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ*

*Лявон ЮРЭВІЧ.* Краіна Ды-Пі: замалёўкі побыту й нораваў зь лягерных часоў. С. 8–147.

*Барыс ДАНІЛЮК.* Лісты пра остаўцаў і дыпістаў у францускай зоне. *Камэнтары Алеся Пашкевіча й Натальлі Гардзіенкі.* С. 148–162.

*Надзея ЗАПРУДНІК.* Блуканьне па лягерах у паваеннай Нямеччыне (1945–1950). *Аповед запісаў Янка Запруднік.* С. 163–175.

*Вітаўт КІПЕЛЬ.* Моладзь у лягерах Ды-Пі. *Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча, камэнтары Натальлі Гардзіенкі.* С. 176–184.

*Алесь МАРГОВІЧ.* Шлях беларускіх дзяцей у вапошняю вайну. *Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча, камэнтары Натальлі Гардзіенкі.* С. 185–215.

*Івонка СУРВІЛЛА.* Ды-Пі-лягеры ў Даніі. С. 216–218.

*УГОДКІ*

*Лявон ЮРЭВІЧ.* Наш першы: Язэп Варонка. С. 563—584.

*ПУБЛІКАЦЫІ*

*Макс ШЧУР.* Віктар Вальтар, альбо Самазабойчы тэракт запаволенага дзеяньня. С. 585—656.

*Андрэй БЛІНЕЦ.* Яшчэ раз пра Наваградзкі эскадрон. С. 657—681.

*КНІЖНАЯ ПАЛІЦА*

*Яна СЛАВІНА.* Кніжны агляд. С. 682—705.

Зьвесткі пра аўтараў. С. 706—708.

**№ 35. New York — Miensk, 2012.**

Ад рэдакцыі. С. 6—7.

*ТЭМА НУМАРУ: ЛІТАРАТУРА*

*Макс ШЧУР.* Адзін лёс і "дзьве" літаратуры. (Міхась Кавыль). С. 8—48.

*Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ.* Вакол цьвёрдае формы (ліставаньне Антона Адамовіча й Міхася Кавыля). С. 49—103.

*БУДУЧЫЯ КНІГІ*

*Тамаш ГРЫБ.* Два артыкулы. *Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча.* С. 104—180.

*АРХІВАЛІІ*

*Н. НЕДАСЕК [Антон АДАМОВІЧ].* Палітыка правакацыі й разгону ў Крывіі (Беларусі) *Падрыхтоўка да друку й камэнтары Ціхана Чарнякевіча.* С. 181—193.

*Юрка ВІЦЬБІЧ.* Цьвілікае шэранькі верабейчык. *Падрыхтоўка да друку й камэнтары Ціхана Чарнякевіча.* С. 194—203.

*Віктар ЖЫБУЛЬ.* "І ўвесь падцягнуты і стройны...": Уладзімер Сядура ў згадцы Зьмітра Віталіна. С. 204—211.

Антыбальшавіцкія паўстаньні: тэма, якая не адпускала. *Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча.* С. 212—222.

З спадчыны Францішка Кушаля, вайскоўцы й мэмуарыста. *Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча.* С. 223—230.

*Ларыса ГЕНІЮШ.* Лісты да Натальлі Арсеньневай. *Падрыхтоўка да друку Натальлі Гардзіенкі.* С. 231—239.

*Алесь КАРПОВІЧ.* Гісторыя музыкі. *Падрыхтоўка да друку Марыны Чарнякевіч.* С. 240—254.

**№ 36. New York — Miensk, 2013.**

*БІБЛІЯГРАФІІ*



*ПУБЛІКАЦЫІ*



*УГОДКІ*



*КНІЖНАЯ ПАЛІЦА*

**№ 37. New York — Miensk, 2014.**

**№ 38. New York — Miensk, 2016.**

# БІНіМіяна ў БДАМЛМ

У 2014 г. у Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва ў Менску паўстаў навукова-творчы Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа. За гэты час фонды архіву-музэю папоўніліся новымі каштоўнымі дакумэнтамі беларусаў замежжа (інфармацыю пра новыя паступленьні можна знайсьці тут: http://www.bdamlm.by/new_docs). Актывізавалася й праца зь перададзенымі раней эміграцыйнымі архівамі. Цалкам экспэртызу каштоўнасьці й першаснае апрацоўваньне прайшлі фонды Юльяны Вітан-Дубейкаўскай, Уладзімера Дудзіцкага, Міхася Кавыля, Антона Коршуна, Алеся Салаўя, Вітаўта Тумаша. Працягваецца агляд дакумэнтаў сямейнага фонду Кіпеляў — Савёнкаў, фондаў Янкі Запрудніка, Натальлі Арсеньневай ды інш., а таксама архіву й калекцый Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.

Ніжэй пададзеныя апісаньні фондаў, што прайшлі першаснае апрацоўваньне. Пасьля заканчэньня навукова-тэхнічнай экспэртызы гэтых дакумэнтаў фонды будуць цалкам даступныя для дасьледнікаў.

## Фонд Юльяны Вітан-Дубейкаўскай

Дакумэнты з асабістага архіву Юльяны Вітан-Дубейкаўскай захоўваліся ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва (Нью-Ёрк) і былі перададзеныя ў БДАМЛМ большай часткай у верасьні 1999 г. Вітаўтам Кіпелем. Некаторыя дакумэнты былі дасланыя Янкам Запруднікам, а таксама перададзеныя разам зь іншымі дакумэнтамі БІНіМу ў красавіку 2014 г.

У выніку экспэртызы каштоўнасьці й першаснага апрацоўваньня дакумэнтаў у вопісе склаліся разьдзелы: “Біяграфічныя дакумэнты”, “Творчыя дакумэнты”, “Перапіска”, “Дакумэнты пра Ю. Вітан-Дубейкаўскую”, “Выяўленчыя матэрыялы”, “Дакумэнты, што адкладаліся ў фондзе”.

У першым разьдзеле, “Біяграфічныя дакумэнты” (разам 29 дакумэнтаў), сабраныя пасьведчаньні асобы, даведкі, выпіскі з рэгістрацыйных

кніг паліцыі, квітанцыі й іншыя асабістыя дакумэнты, выдадзеныя Ю. Вітан-Дубейкаўскай у Вільні, Бэрліне, Малерсдорфе, Нюрнбэрзе ў 1935–1954 гг.

У разьдзеле "Творчыя дакумэнты" ўтрымліваюцца рукапісы ўспамінаў і артыкулаў Ю. Вітан-Дубейкаўскай "Мае ўспаміны", "Рыцар Пагоні", "Чаму Іван Луцкевіч не аставіў па сабе пісьменных працаў" і інш. Тэксты пераважна публікаваныя: або асобна (як "Мае ўспаміны"), або на старонках газэты "Бацькаўшчына". Большыя рукапісы суправаждаюцца лістамі з аўтарскімі заўвагамі да выдаўцоў. У разьдзел уключана 16 дакумэнтаў.

"Перапіска" складаецца зь лістоў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай да Натальлі Арсеньневай, Яніны Каханоўскай, Валянціны Пашкевіч, Вітаўта Тумаша ды інш. Асобна захаваныя лісты й паштоўкі, дасланыя фондаўтваральніцы Алесем Вініцкім, Раісаю Жук-Грышкевіч ды іншымі, а таксама лісты Элізабэт Бакмунд (пляменьніцы Юльяны Вітан-Дубейкаўскай) да розных асобаў з нагоды сьмерці цёткі. У разьдзеле захавалася 25 лістоў.

У разьдзел "Дакумэнты пра Ю. Вітан-Дубейкаўскую" зьмешчаныя машынапісы й газэтныя выразкі з тэкстамі: Станіслава Станкевіча "У 75-ую гадавіну нараджэньня Юльяны Дубейкаўскай", Валянціны Пашкевіч "Жыцьцёвы шлях Юльяны Дубейкаўскай" ды іншымі артыкуламі й нэкралёгамі.

У "Выяўленчых матэрыялах" (36 дакумэнтаў) сабраныя індывідуальныя фатаграфіі Вітан-Дубейкаўскай, здымкі са сваякамі (найперш зь сястрой Ляляй), а таксама зь іншымі асобамі, у тым ліку з Вальтарам Егерам. Захаваліся й індывідуальныя фатаграфіі сваякоў фондаўтваральніцы ды дзеячаў Івана Луцкевіча, Лявона Дубейкаўскага й іншых, а таксама 11 паштовак з выявамі беларускіх мясьцінаў. Выглядае, што фатаграфіі й паштоўкі былі сабраныя аўтаркай для публікацыі "Маіх успамінаў", пра што сьведчаць надпісы на адваротах. Часткова фатаздымкі былі выкарыстаныя ў віленскім кніжным выданьні (1994).

У разьдзел "Дакумэнты, што адклаліся ў фондзе" вынесеныя асабістыя дакумэнты Лявона Дубейкаўскага (мужа Юльяны Вітан-Дубейкаўскай): пасьведчаньні асобы, візітоўка.

Разам у здатачным вопісе захоўваюцца 113 дакумэнтаў. Да іх дадаюцца рэчы з кватэры Юльяны Вітан-Дубейкаўскай: абрус і два ручнікі, што трапілі, магчыма, разам з дакумэнтамі дзяячкі да Яніны Каханоўскай у ЗША. Зь сям'і апошняй праз Маргарыту Пярову рэчы

былі перададзеныя Галіне Дзягілевай і выкарыстоўваліся ў якасьці рэквізыту ў спэктаклі “Віленскія мроі”. У 2010 г. на юбілеі гэтыя рэчы былі падараваныя БДАМЛМ.

Дакумэнты й рэчы маюць навуковую ды гістарычную каштоўнасьць і склалі фонд № 505 “Вітан-Дубейкаўская, Юльяна, грамадзка-культурная дзяячка”.

## Фонд Уладзімера Дудзіцкага

Большую частку дакумэнтаў з асабістага архіву Ўладзімера Дудзіцкага перадаў у БДАМЛМ у 1999 г. Вітаўт Кіпель. Асобныя аўтографы й здымкі са збораў БІНіМу дадаліся ў красавіку 2014 г. Пераважна матэрыялы былі атрыманыя Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ад сям’і пісьменьніка для падрыхтоўкі да выданьня збору твораў паэта “Напярэймы жаданьням” (Нью-Ёрк, 1994).

У выніку экспэртызы каштоўнасьці й першаснага апрацоўваньня дакумэнтаў у вопісе склаліся разьдзелы: “Творчыя дакумэнты”, “Перапіска”, “Дакумэнты пра Ў. Дудзіцкага” й “Выяўленчыя матэрыялы”.

У першым і найвялікшым паводле колькасьці адзінак захоўваньня разьдзеле “Творчыя дакумэнты” захоўваюцца аўтографы, машынапісы з аўтарскімі праўкамі, газэтныя выразкі, ксэракопіі твораў Уладзімера Дудзіцкага. Усе матэрыялы сабралі й сыстэматызавалі Лявон і Алена Юрэвічы — для першага выданьня збору твораў пісьменьніка “Напярэймы жаданьням” (Нью-Ёрк, 1994). Варта зьвярнуць увагу, што некаторыя вершы захаваліся менавіта ў рэдактарскіх аўтографах (пераважна Алены Юрэвіч). Разьдзел утрымлівае багата варыянтаў некаторых вершаў Уладзімера Дудзіцкага, што адлюстроўвае працэс рыхаваньня збору твораў і выбару канчатковых варыянтаў для публікацыі.

Сярод творчых дакумэнтаў ёсьць машынапісы, рукапісы ды газэтныя выразкі “Ўспамінаў” Дудзіцкага, яго апавяданьняў, артыкулаў. Тут жа можна знайсьці зробленыя пісьменьнікам пераклады вершаў Тараса Шаўчэнкі ды пераствораныя на нямецкай, украінскай і польскай мовах уласныя творы фондаўтваральніка. Разам у разьдзел вопісу ўключаныя 585 творчых дакумэнтаў.

“Перапіска” складаецца зь лістоў фондаўтваральніка да пісьменьніка Міхася Кавыля, а таксама лістоў ад беларускага дзеяча з Аргентыны Кастуся Мерляка (з дадаткам лістоў іншых асобаў). Захаваўся і ліст В. фон Доп да дырэктара БІНіМу Вітаўта Кіпеля ў сувязі з падрыхтоўкай да друку збору твораў пісьменьніка.

У разьдзеле “Дакумэнты пра Ў. Дудзіцкага” сабраныя ангельскамоўныя ўспаміны пра бацьку А. Крэйн (дачкі пісьменьніка), а таксама непадпісаныя нататкі пад назвай “Справа Дудзіцкага” (1957), што, відавочна, паходзяць зь Беларускай рэдакцыі радыё “Вызваленьне”.

У разьдзеле “Выяўленчыя матэрыялы” ўтрымліваюцца індывідуальныя здымкі Ўладзімера Дудзіцкага канца 1940-х гг., дасланыя з Вэнэсуэлы сябру, пісьменьніку Юрку Віцьбічу (з адпаведнымі аўтографамі).

Усяго ў вопіс уключаныя 600 дакумэнтаў, якія маюць навуковую й гістарычную каштоўнасьць і склалі фонд № 507 “Дудзіцкі, Уладзімер (сапр. Гуцька), паэт, празаік, публіцыст, перакладнік, грамадзкі дзеяч”.

## Фонд Міхася Кавыля

Дакумэнты з асабістага архіву Міхася Кавыля перадаў у БДАМЛМ Вітаўт Кіпель. Матэрыялы сабраныя ў часе падрыхтоўкі да выданьня Беларускім інстытутам навукі й мастацтва збору выбраных твораў пісьменьніка “Міжагнёўе” ў 1990 г.

У выніку экспэртызы каштоўнасьці й першаснага апрацоўваньня дакумэнтаў у вопісе склаліся разьдзелы: “Біяграфічныя дакумэнты”, “Творчыя дакумэнты”, “Перапіска”, “Дакумэнты пра М. Кавыля”, “Выяўленчыя матэрыялы” й “Дакумэнты, што адклаліся ў фондзе”.

Першы разьдзел утрымлівае толькі два біяграфічныя дакумэнты: аўтограф заявы аб прыёме ў Літаратурнае згуртаваньне “Шыпшына” (1946) і запрашэньне на вясельле Міхася Кавыля.

У разьдзеле “Творчыя дакумэнты” захоўваюцца машынапісы з аўтарскімі праўкамі, ксэракопіі й газэтныя выразкі з творамі фондаўтваральніка, пісанымі таксама пад псэўданімамі Язэп Маёвы, А. Зарэцкі. Некаторыя п’есы ніколі не публікаваліся. Адметную частку складаюць творы, што, на жаданьне аўтара, не ўвайшлі ў найпаўнейшы на сёньня збор выбранага “Міжагнёўе” (Нью-Ёрк, 1990). Сярод захаванага можна знайсьці й розныя варыянты ўспамінаў Міхася Кавыля, а таксама выразкі артыкулаў, у тым ліку аўтабіяграфічных, з газэты *“Новое Русское Слово”* (Нью-Ёрк). Акрамя таго, у разьдзеле “Творчыя дакумэнты” ёсьць працоўныя матэрыялы да збору твораў Міхася Кавыля “Міжагнёўе”, матэрыялы да бібліяграфіі пісьменьніка, складзенай Зорай Кіпель. Разам у разьдзеле — 184 дакумэнты.

“Перапіска” складаецца зь лістоў фондаўтваральніка да Вітаўта й Зоры Кіпеляў у справе выданьня ягонага збору выбраных твораў,

лістоў да Лявона Юрэвіча, а таксама карэспандэнцыі Алеся Вініцкага, Аўгена Каханоўскага, Вячаслава Сэлях-Качанскага (разам — 25 дакумэнтаў).

У разьдзеле “Дакумэнты пра М. Кавыля” сабраныя: машынапіс ангельскамоўнай прадмовы Томаса Бэрда да зборніка “Міжагнёўе”, а таксама прысьвечаныя пісьменьніку й ягонай творчасьці артыкулы Янкі Золака, Рыгора Шэўчука й інш.

У разьдзеле “Выяўленчыя матэрыялы” ўтрымліваецца невялікая колькасьць фатаграфіяў Міхася Кавыля індывідуальных і ў групах зь Юркам Віцьбічам, Уладзімерам Сядурам-Глыбінным, Лявонам Юрэвічам.

Да “Дакумэнтаў, што адклаліся ў фондзе” аднесены верш-пародыя на твор Міхася Кавыля “Грэх на сэрцы цяжкі”, апублікаваны ў газэце “Голас Радзімы”, аўтарам якога (на думку пісьменьніка) мог быць Максім Танк.

Разам у здатачным вопісе — 225 дакумэнтаў, да якіх далучаныя 4 кнігі з асабістай бібліятэкі Міхася Кавыля (ягоныя паэтычныя зборнікі).

Уключаныя ў вопіс дакумэнты маюць навуковую й гістарычную каштоўнасьць і склалі фонд № 504 “Кавыль, Міхась (Лешчанка, Язэп), пісьменьнік”.

## Фонд Алеся Салаўя

Большую частку дакумэнтаў з асабістага архіву Алеся Салаўя перадаў у БДАМЛМ у верасьні 1999 г. Вітаўт Кіпель. Асобныя аўтографы й здымкі са збораў БІНіМу дадаліся ў красавіку 2014 г. Пераважна матэрыялы былі сабраныя ў часе падрыхтоўкі да выданьня Беларускім інстытутам навукі й мастацтва збору твораў паэта “Нятускная краса” (Нью-Ёрк — Мэльбурн, 1982).

У выніку экспэртызы каштоўнасьці й першаснага апрацоўваньня дакумэнтаў у вопісе склаліся разьдзелы: “Біяграфічныя дакумэнты”, “Творчыя дакумэнты”, “Перапіска”, “Дакумэнты пра А. Салаўя”, “Выяўленчыя матэрыялы” й “Дакумэнты, што адклаліся ў фондзе”.

Першы разьдзел, “Біяграфічныя дакумэнты”, утрымлівае адзіны дакумэнт: копію заявы Алеся Салаўя на прыняцьце ў сябры Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.

У разьдзеле “Творчыя дакумэнты” зьмяшчаюцца каштоўныя аўтографы зборніку “Сіла гневу” ды асобных вершаў Алеся Салаўя зь іншых зборнікаў, а таксама копіі аўтографаў, выразкі й ксэракопіі з газэтаў

і часопісаў зь вершамі, апавяданьнямі, сцэнічнымі абразкамі. Зьвяртае на сябе ўвагу копія аўтарскага варыянту рукапісу зборніку "Нятускная краса", які ня быў выдадзены пры жыцьці аўтара. У разьдзеле таксама захоўваюцца копіі апавяданьняў, апублікаваных пад псэўданімамі (Тодар Быльнюк, Тамара Залеская, Антон Дабрыдзень), ды кароткага жыцьцяпісу Алеся Салаўя. Важнае месца займаюць пераклады, зробленыя паэтам, а таксама пераклады ягоных вершаў аўтарства ўкраінскіх пісьменьнікаў Барыса Александрава (Александрыва), Ігара Качуроўскага. З гэтымі пісьменьнікамі Алесь Салавей пазнаёміўся ў часе паваеннага побыту ў Аўстрыі.

Асобную групу ў разьдзеле "Творчыя дакумэнты" складаюць матэрыялы, зьвязаныя з выдаваньнем й распаўсюдам пасьмяротнага збору твораў Алеся Салаўя "Нятускная краса". Кніга рыхтавалася ў БІНіМе спачатку пад кіраўніцтвам Вітаўта Тумаша, а пазьней (у сувязі з хваробай дырэктара БІНіМу) — пад кіраўніцтвам Зоры й Вітаўта Кіпеляў. Сярод згаданых матэрыялаў: звароты да суайчыньнікаў у справе фінансаваньня выданьня, запісы пра ахвярадаўцаў, падпісныя лісты й працоўныя нататкі з падрыхтоўкі кнігі.

Разьдзел "Перапіска" складаецца зь дзьвюх частак. У першую ўвайшло асабістае ліставаньне Алеся Салаўя зь Вітаўтам Тумашам, Юркам Віцьбічам, Міколам Ганьком, Алесем Грыцуком, Аляксандрам Міцкевічам, Алесем Лашуком ды інш., што вялося пераважна зь лягераў для перамешчаных асобаў у Аўстрыі пасьля Другой сусьветнай вайны Ёсьць лісты да Антона Адамовіча пазьнейшага часу. Захавалася і невялікая колькасьць лістоў да Алеся Салаўя ад Юркі Віцьбіча, Аўгена Кавалеўскага ды інш.

Другую частку разьдзелу "Перапіска" складае карэспандэнцыя, зьвязаная з выданьнем і распаўсюдам збору твораў паэта "Нятускная краса". Тут захаваліся лісты Зінаіды Кадняк (жонкі паэта) да Антона Адамовіча, які рэдагаваў творы Алеся Салаўя. Вялікую частку перапіскі складаюць лісты Вітаўта Тумаша, Вітаўта й Зоры Кіпеляў, якія рыхтавалі выданьне, Міколы Прускага, што ажыцьцяўляў тэхнічную працу, Аляксандра Калодкі, Міколы Скабея ды іншых беларусаў з Аўстраліі, Канады, ЗША, якія дасылалі матэрыялы для кнігі ды дапамагалі зь фінансаваньнем і распаўсюдам выданьня.

У разьдзеле "Дакумэнты пра А. Салаўя" сабраныя прысьвечаныя паэту вершы, успаміны, нэкралёгі, артыкулы ў беларускім і ўкраінскім эміграцыйным друку, а таксама тэксты прадмовы й пасьлямовы да выдадзенага БІНіМам збору "Нятускная краса".

У разьдзеле “Выяўленчыя матэрыялы” ўтрымліваюцца індывідуальныя здымкі Алеся Салаўя з пачатку 1950-х гг., фатаграфіі ягонай сям’і, здымак зь ведамымі беларускімі літаратарамі за часоў Другога Ўсебеларускага кангрэсу 1944 г. Таксама ў разьдзеле захаваныя ілюстрацыі да зборнікаў Алеся Салаўя.

Разьдзел “Дакумэнты, што адклаліся ў фондзе” складаюць уласнаручна перапісаны Алесем Салаўём зборнік вершаў Вацлава Ластоўскага, а таксама зроблены Алесем Зарыцкім пераклад вершу Крысьціёнаса Данялайціса. Тут жа захоўваецца копія брашуры “25-лецьце Беларускае Гімназіі ў Вільні. 1919–1944”, выдадзенай у Вільні ў 1944 г.

Разам у здатачны вопіс уключаныя 386 дакумэнтаў, якія маюць навуковую й гістарычную каштоўнасьць і склалі фонд № 503 “Салавей, Алесь (Радзюк, Альфрэд), паэт”.

## Фонд Вітаўта Тумаша

Дакумэнты з асабістага архіву Вітаўта Тумаша захоўваліся ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва (Нью-Ёрк), асноўнай часткай былі перададзеныя ў БДАМЛМ разам зь іншымі дакумэнтамі БІНіМу ў красавіку 2014 г., а таксама ў чэрвені 2014 г. Генадзем Сагановічам і асобнымі паступленьнямі цягам 2015 г.

У выніку экспэртызы каштоўнасьці й першаснага апрацоўваньня дакумэнтаў у вопісе складіся разьдзелы: “Біяграфічныя дакумэнты”, “Творчыя дакумэнты”, “Перапіска”, “Дакумэнты, сабраныя фондаўтваральнікам для сваіх прац і па цікавячых пытаньнях”, “Дакумэнты пра В. Тумаша” й “Выяўленчыя матэрыялы”.

У разьдзеле “Біяграфічныя дакумэнты” захоўваюцца копія анкеты ў БІНіМ, запрашэньні на імя фондаўтваральніка, памінальныя карткі з нагоды ягонай сьмерці.

Разьдзел “Творчыя дакумэнты” складаецца зь некалькіх варыянтаў машынапісу з аўтарскімі праўкамі працы Вітаўта Тумаша “На Захад і Ўсход”, копіі працы “Аўхім Карскі. Жыцьцё, навуковая спадчына, пагляды 1861–1931”, аўтографаў і машынапісаў артыкулаў “Адмаўленьне раману”, “Аб беларускіх уплывах на польскую мову”, “Балцкі элемэнт пры паўстаньні сучаснага беларускага народу”, “450-годзьдзе друку на беларускай зямлі: Угодкі выхаду “Малой падарожнай кніжкі” доктара Ф. Скарыны”, бібліяграфія Вітаўта Тумаша.

Вялікую каштоўнасьць уяўляюць зь сябе дакумэнты з разьдзелу “Перапіска”. Тут сабраныя важныя й цікавыя лісты Вітаўта Тумаша

да паэткі Натальлі Арсеньневай, пісьменьніка Ўладзімера Сядуры, навукоўца Янкі Садоўскага, сьвятароў Лява Гарошкі, Аляксандра Надсана, Часлава Сіповіча, Пётры Татарыновіча, грамадзкіх дзеячаў Вінцэнта й Раісы Жук-Грышкевічаў, рэдактара Станіслава Станкевіча ды інш. Асабліва трэба адзначыць 60 лістоў да пісьменьніка Юркі Віцьбіча, што ўтрымліваюць важную інфармацыю ў галіне скарыназнаўства, гісторыі й культуры Беларусі й дыяспары.

Вялікую каштоўнасьць маюць і лісты перакладніка твораў Максіма Багдановіча на нямецкую мову барона Аўгена фон Энгельгарта й ягонай жонкі да Вітаўта Тумаша. Захаваліся ў разьдзеле таксама пісьмы грамадзкай дзяячкі Ніны Абрамчык, навукоўца Часлава Будзькі, сьпевака Пётры Конюха, мастака зь Сіднэю (Аўстралія) Аляксандра Рамаоўскага, пісьменьнікаў Уладзімера Сядуры, Масея Сяднёва, перакладніка Яна Пятроўскага, бібліёграфа Аляксандра Ружанцова ды інш. Разам у фондзе захоўваюцца 311 лістоў і паштовак.

У разьдзеле “Дакумэнты, сабраныя фондаўтваральнікам для сваіх прац і па цікавячых пытаньнях” перахоўваюцца ў аўтографах (перакладніка), машынапісах і друкаваных выданьнях творы Максіма Багдановіча ў перакладзе на нямецкую мову, зробленым Аўгенам фон Энгельгартам, а таксама выпіскі з кніг і пэрыядычных выданьняў, выразкі з газэтаў і часопісаў, сабраныя Вітаўтам Тумашам.

У разьдзеле “Дакумэнты пра В. Тумаша” — машынапісы й копіі ўспамінаў Вітаўта Кіпеля “Аб настаўніку, супрацоўніку, прыяцелю”, Яры Тумаш “Пахвала майму бацьку”, Раісы Жук-Грышкевіч “Мае ўспаміны пра Доктара Вітаўта Тумаша”.

Разьдзел “Выяўленчыя матэрыялы” складаюць як індывідуальныя здымкі фондаўтваральніка, гэтак і нешматлікія ягоныя фатаграфіі ў групе з Натальляй Арсеньневай, Вітаўтам Кіпелем, Сяргеем Шупам ды інш.

Да дакумэнтаў далучана таксама копія пасьведчаньня маці Вітаўта Тумаша Петранелы, зробленая з арыгіналу, што захоўваецца ў зборах краязнаўцы Міхася Казлоўскага.

Разам у здатачны вопіс уключаныя 396 дакумэнтаў. Да іх дадаюцца тры нумары часопісу “Мэдычная думка”, што выдаваўся ў Нямеччыне ў 1946–1950 гг. і які рэдагаваў Вітаўт Тумаш.

Дакумэнты, уключаныя ў вопіс, маюць навуковую й гістарычную каштоўнасьць і склалі фонд № 508 “Фонд Вітаўта Тумаша, грамадзкага дзеяча, навукоўца”.

## Біяграфічны даведнік

**АБЛАЖЭЙ Макар** (1894–1984, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч. На пачатку 1920-х гг. прыехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. У 1923 г. увайшоў у кіраўніцтва Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай асацыяцыі. У 1935 г. — у Беларуска-Амэрыканскім грамадзянскім задзіночаньні, у 1941 г. — у Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай радзе. Быў актывістам парафіі Сьв. Юрыя ў Чыкага. Пахаваны на *Elmwood Cemetery* ў заходнім прадмесьці Чыкага.

**АБРАМЧЫК Мікола** (06.08.1903, в. Сычавічы Вялейскага пав. Віленскай губ. (сёньня Маладзечанскі р-н Менскай вобл.) — 29.05.1970, Парыж, Францыя), палітык, грамадзкі дзеяч, публіцыст, прэзыдэнт Рады БНР (1947–1970). З 1921 г. браў удзел у нацыянальным руху, быў прадстаўніком Рады БНР на Вялейскую акругу, навучаўся ў Радашкавіцкай беларускай гімназіі, на Вышэйшых настаўніцкіх курсах у Вільні. З 1924 г. вучыўся ў Чэхіі: скончыў эканамічна-каапэратыўны факультэт Украінскай гаспадарчай акадэміі ў Подзебрадах (*Poděbrady*) з дыплёмам інжынэра-эканаміста, а таксама факультэт гісторыі і сацыялёгіі Карлава ўнівэрсытэту ў Празе. Актывіст Аб’еднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацыяў у Чэхаславаччыне. Па сканчэньні навучаньня разам з найбліжэйшым сябрам Лявонам Рыдлеўскім апынуўся ў Парыжы, дзе ў 1932 г. заснаваў першую беларускую арганізацыю ў Францыі “Хаўрус” і пачаў выданьне яе пэрыёдыка “Рэха”. У 1941 г. перабраўся ў Бэрлін, дзе працаваў у Беларускім камітэце самапомачы, дапамагаў у выданьні газэты “Раніца”. Каля 1943 г. атрымаў ад прэзыдэнта БНР Васіля Захаркі тастамэнт на перайманьне пасады кіраўніка БНР і архіву. У кастрычніку 1943 г. быў арыштаваны гестапа й адпраўлены пад хатні арышт у Парыж. З 15.08.1945 быў старшынём Беларускага нацыянальнага цэнтру. З 1946 г. працаваў у Эўропе па лініі *IRO*. У сьнежні 1947 г. афіцыйна аднавіў і ўзначаліў Раду БНР. Жыў у прадмесьці Парыжу Вільпэнце (*Villepinte*), займаўся актыўнай антыкамуністычнай дзейнасьцю. Быў адным з ініцыятараў стварэньня ды ў 1954–1969 гг. нязьменным кіраўніком Лігі вызваленьня народаў

СССР (Парыскага блёку). Пахаваны ў Парыжы на *Cimetière du Père-Lachaise.*

**АДАМОВІЧ Антон** (26.06.1909, Менск — 12.06.1998, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар. Навучаўся ў Беларускім пэдагагічным тэхнікуме. У 1928 г. паступіў у Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Уваходзіў у літаб'яднаньне "Ўзвышша". У 1930 г. арыштаваны ў справе "Саюзу вызваленьня Беларусі" й высланы ў Глазаў, у 1934 г. пераведзены ў Вятку (Кіраў), дзе працаваў у навучальных установах. Арыштаваны паўторна ў 1937, вызвалены ў 1938 г., вярнуўся ў Менск, працаваў у школе, скончыў БДУ. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадзкой управе, "Беларускай газэце", галоўным рэдактарам выдавецтва "Менск", уваходзіў у Цэнтральную раду Беларускай народнай самапомачы, выконваў абавязкі рэфэрэнта ў справах прэсы й прапаганды Генэральнага камісарыяту Беларусь. Увосень 1943 г. выехаў у Нямеччыну. Па вайне працаваў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбурзе, быў адным з заснавальнікаў газэты "Бацькаўшчына", яе рэдактарам. Радны БНР, у розныя часы ўваходзіў ва ўрад і Раду БНР. З 1949 г. жыў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў ва ўправу Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Займаўся навуковымі дасьледаваньнямі, аўтар вялікай колькасьці літаратуразнаўчых працаў. Супрацоўнічаў з Інстытутам вывучэньня СССР у Мюнхэне. Працаваў на радыё "Свабода". Адзін з заснавальнікаў БІНіМу. Пахаваны ў Іст-Брансўіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**АКІНШЭВІЧ Леў** (25.01.1898, г. Санкт-Пецярбург, Расея — 07.11.1980, Нью-Ёрк, ЗША), гісторык, публіцыст, крытык. Навучаўся на юрыдычным факультэце Кіеўскага ўнівэрсытэту, актыўны дзеяч беларускага жыцьця ў Кіеве. У 1918 г. прыняў грамадзянства БНР. У 1920-х гг. працаваў ва Ўкраінскай акадэміі навук, супрацоўнічаў з Інбелкультам (потым БелАН). У 1928 г. абараніў дысэртацыю "Генэральная рада на Гетманшчыне". З 1933 г. — прафэсар Нежынскага пэдынстытуту. Быў абвінавачаны ў беларускім і ўкраінскім нацыяналізьме й звольнены. Уладкаваўся на працу юрыстам на Балхаскім прамкамбінаце ў Казахстане. Праз тры гады зь сям'ёй перабраўся ў Смаленск. З пачаткам нямецка-савецкай вайны быў мабілізаваны на фронт, трапіў у палон, вызваліўшыся адкуль выкладаў у Кіеўскім унівэрсытэце. Пераехаў у Львоў, адкуль скіраваўся далей на Захад. Выкладаў гісторыю ўкраінскага права ва Ўкраінскім вольным унівэрсытэце ў Празе, затым у Мюнхэне, выдаў некалькі падручнікаў. З 1949 г. жыў у ЗША. У 1951–1954 гг.

выкладаў у Калюмбійскім унівэрсытэце. Пазьней працаваў у Цэнтры вывучэньня СССР у Вашынгтоне, у 1954–1969 гг. — у бібліятэцы Кангрэсу ЗША. Займаўся дасьледаваньнем праблемаў нацыянальных меншасьцяў, савецкай юрыдычнай сыстэмы, гісторыі Беларусі й Украіны XVI–XVII стст. З 1952 г. быў сябрам БІНіМу. Супрацоўнічаў з Украінскім навуковым таварыствам імя Т. Шаўчэнкі. Публікаваўся ў беларускіх і ўкраінскіх эміграцыйных выданьнях. Аўтар успамінаў "Пракляты стэп" (на ўкраінскай мове).

**АКУЛА Кастусь** (да эміграцыі **Аляксандар Качан**; 16.11.1925, в. Верацеі Дзісенскага пав. Віленскага ваяв. (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 29.01.2008, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік. Падчас нямецкай акупацыі скончыў настаўніцкія курсы ў Глыбокім і настаўнічаў у в. Порплішча (Докшыцкі р-н). Зь вясны 1944 г. — курсант Менскай афіцэрскай школы БКА, разам з навучэнцамі якой улетку 1944 г. пакінуў Беларусь. Быў далучаны да 30-й дывізіі СС Зыглінга, перайшоў на бок саюзьнікаў, у складзе 2-га Польскага корпусу ваяваў супраць нацыстаў. У 1946–1947 гг. жыў у Вялікай Брытаніі. Сябра Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. У чэрвені 1947 г. пераехаў у Канаду. Адзін з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў Канады й першы яго старшыня. Жыў у Таронта. У 1948–1954 гг. рэдагаваў газэту "Беларускі эмігрант". У 1974–1997 гг. выдаваў часопіс беларускіх вайскоўцаў "Зважай". Аўтар раманаў "Змагарныя дарогі" (1962), "Гараватка" (1965–1981), *"Tomorrow is Yesterday"* (1968), "За волю" (1991), ганаровы сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Пахаваны ў Таронта на *Pine Hills Cemetery*.

**АЛЕХНІК Алесь** (31.07.1929, уроч. Перунова, каля в. Лахва (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 03.12.2006, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Паходзіў зь сялянскай сям'і. Навучаўся ў Перуноўскай школе й польскай гімназіі ў Лахве. У 1944 г. разам зь сям'ёй выехаў у Нямеччыну, дзе жыў у лягеры Ізармос каля Дынгольфінгу, працаваў на заводзе. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны навучаўся на каморніцкіх курсах у Мюнхэне. У 1947 г. перабраўся ў беларускі лягер Міхэльсдорф (*Michelsdorf*). У сьнежні 1950 г. прыехаў у Аўстралію (Сыднэй). Працаваў на будаўніцтве Сьнежнагорскай гідратэхнічнай сыстэмы. Хутка далучыўся да беларускага грамадзкага жыцьця. Быў сябрам і доўгагадовым сакратаром Беларускага аб'яднаньня ў Аўстраліі, ад імя якога рэпрэзэнтаваў беларусаў на разнастайных міжнацыянальных форумах у Аўстраліі (удзельнічаў у дзьвюх Аўстралійскіх грамадзянскіх канвэнцыях, быў назіральнікам у парлямэнце й г. д.)

і па-за яе межамі (на канфэрэнцыях Антыкамуністычнай лігі народаў Азіі й Сусьветнай антыкамуністычнай лігі). Пры канцы 1950-х гг. займаўся выданьнем Інфармацыйнага бюлетэню Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі "Новае Жыцьцё". У 1969—1982 гг. — кіраўнік Краёвага штабу Беларускага вызвольнага фронту ў Аўстраліі. Аўтар кнігі ўспамінаў "Пад бел-чырвона-белым" (Вільня, 1999). Ягоны архіў, у які ўвайшлі дакумэнты Беларускага аб'еднаньня й шматлікае ліставаньне, якое А. Алехнік вёў як сакратар арганізацыі, перахоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва (Менск). Пахаваны ў Сыднэі ў беларуска-ўкраінскай частцы *Rookwood Cemetery*.

**АРСЕНЬНЕВА Натальля** (у шлюбе **Кушаль**; 20.09.1903, Баку, Азэрбайджан — 25.07.1997, Рочэстэр, ЗША), паэтка, грамадзкая дзяячка, жонка Францa Кушаля. Нарадзілася ў расейскай дваранскай сям'і. З 1905 г., за выняткам 1915—1919 гг., жыла ў Вільні. Скончыла Віленскую беларускую гімназію. У 1922 г. узяла шлюб з вайсковым дзеячам Францам Кушалем. Жыла ў Польшчы. У 1940—1941 гг. разам з сынамі Яраславам і Ўладзімерам перабывала ў высылцы на поўначы Казахстану. У траўні 1941 г. атрымала дазвол вярнуцца ў Беларусь. У 1942—1944 гг. працавала ў "Беларускай газэце", перакладала лібрэта для Менскага гарадзкога тэатру. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку была ў Нямеччыне, дзе ўдзельнічала ў беларускім культурным жыцьці ў лягерах *DP*, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. пераехала ў ЗША. У 1952—1954 гг. рэдагавала газэту "Беларус", потым працавала ў нью-ёрскім офісе Беларускай рэдакцыі радыё "Свабода". Была сябрай Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, управы БІНіМу. У 1967 г. пасьля сьмерці нявесткі, Натальлі Куліковіч-Кушаль, разам з мужам пераехала да сына Ўладзімера ў Рочэстэр. Аўтарка шэрагу паэтычных зборнікаў, а таксама словаў гімну "Магутны Божа". Пахаваная ў Рочэстэры (штат Нью-Ёрк, ЗША).

**АРЦЮХ Мікола** (у ЗША **Артон**; 25.07.1924, в. Казловічы Слонімскага пав. (сёньня Зэльвенскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 26.02.1984, Дэтройт, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1943 г. быў сябрам СБМ. У 1944 г. навучаўся ў Менскай афіцэрскай школе БКА, разам з фармаваньнямі якой летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок саюзьнікаў з антыгітлераўскай кааліцыі. З канца 1944 г. — у 2-м Польскім корпусе, у якім адслужыў чатыры гады, у тым ліку і ў Вялікай Брытаніі. З 01.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. З 1949 г. — сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1955 г. скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт у Бэльгіі з ступеньню

магістра эканамічных навук. Сьпяваў у Беларускім студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам Міколы Равенскага. Вярнуўся ў Вялікую Брытанію, працаваў у турыстычнай фірме Томаса Кука. У ЗБВБ займаў розныя пасады, у 1956 г. — старшыня арганізацыі. Пры канцы 1950-х гг. выехаў у Канаду. Жыў у Таронта, адкуль перабраўся ў Дэтройт (ЗША). Працаваў у банку. Быў актывістам парафіі Сьв. Духа БАПЦ, сябрам управы Дэтройцкага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, сябрам Задзіночаньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Пахаваны ў Іст-Брансўвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**АРЦЮХ Язэп** (? — 2013), грамадзкі дзеяч. Служыў у 2-м Польскім корпусе. Інжынэр паводле адукацыі. На пачатку 1950-х апынуўся ў ЗША, займаўся скаўтынгам. У 1959 г. заснаваў і стаў старшынём Лос-Анджэлескага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Быў сябрам Рэспубліканскага клюбу. У 1981 г. як старшыня Беларускага рэспубліканскага клюбу ў Каліфорніі атрымаў ад прэзыдэнта ЗША Р. Рэйгана падзяку за заслугі перад рэспубліканскай партыяй. З 1989 г. — адзін з стваральнікаў і выдаўцоў ангельскамоўнага часопісу *“Belarusian Review”*. Жыў у г. Торанс (*Torrance*, Каліфорнія).

**АРЭХВА Вольга** (29.12.1918–05.02.2003, ЗША), грамадзкая дзяячка, навукоўца, жонка Аркадзя Арэхвы. Скончыла Мюнхэнскі ўнівэрсытэт. Працавала ва ўнівэрсытэце Паўднёвага Іліною. Займалася дасьледаваньнем беларускай літаратуры. Апошнія гады жыла ў Сільвэр-Спрынгу (*Silver Spring*) у Мэрылэндзе.

**АСІПЧЫК Аляксандар** (01.04.1909, Слонім Гарадзенскай губ. (сёньня Гарадзенская вобл.) — 14.03.1990, Джэксан (*Jackson*), Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. У часе нямецкай акупацыі працаваў у рамеснай школе ў Слоніме, быў дырэктарам мясцовай бібліятэкі й Народнага дому. Прыхільнік беларусізацыі Праваслаўнай царквы, удзельнік Беларускага царкоўнага сабору 1942 г. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Спачатку шчыльна супрацоўнічаў зь беларускімі япіскапамі, а ў 1946 г. пасьля пераходу іх у склад Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой (РПЦЗ) стаў іх праціўнікам. У 1947 г. у Заходняй Нямеччыне заснаваў Беларускае праваслаўнае таварыства Жыровіцкай Божай Маці, што мела суполкі ў розных краінах. У 1948–1965 гг. выдаваў часопіс “Сіла веры”. У 1950 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, потым у Таронта (Канада), Чыкага, Кліўлэндзе. З 1950-х гг. быў зьвязаны з Расейскім аб’яднаньнем таварыства ўзаемадапамогі (РООВА). Аўтар шматлікіх публікацыяў у эміграцыйных пэрыёдыках. Пахаваны ў Джэксане на могілках “Фармы РООВА”.

**АСТРОЎСКІ Радаслаў** (06.11.1887, хут. Запольле Слуцкага пав. (сёньня Слуцкі р-н Менскай вобл.) — 17.10.1976, Бэнтан-Гарбар (*Benton Harbor*), Мічыган, ЗША), грамадзкі дзеяч, пэдагог, прэзыдэнт БЦР. У нацыянальным руху — з рэвалюцыі 1905–1907 гг. У 1917 г. стварыў у Слуцку першую беларускую гімназію. У 1924–1936 гг. — дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, адначасова ў 1930–1932 гг. — Беларускай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі імя Ф. Багушэвіча. У другой палове 1920-х гг. выконваў абавязкі старшыні Таварыства беларускай школы, быў віцэ-старшынём Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ). Пасьля разгрому БСРГ — прыхільнік "палянафільскага кірунку", супрацоўніцтва з польскімі ўладамі дзеля папулярызацыі беларускай культуры й школьніцтва. У 1936 г. быў высланы ў Лодзь (Польшча) настаўнікам матэматыкі й фізыкі. У 1939–1941 гг. — старшыня Беларускага камітэту самапомачы ў Лодзі. У ліпені—верасьні 1941 г. быў старшынём Менскага намесьніцтва, потым арганізоўваў беларускую адміністрацыю ў Бранскай, Смаленскай, Магілёўскай акругах. З 21.12.1943 — прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Зь ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. У верасьні 1945 г. з прычыны неспрыяльнай палітычнай сытуацыі прыпыніў дзейнасьць БЦР. 30.12.1947 заснаваў Беларускае цэнтральнае прадстаўніцтва сусьветнай эміграцыі, а пасьля аднаўленьня Рады БНР 25.03.1948 аднавіў дзейнасьць БЦР. Жыў у Нямеччыне, у 1944–1948, 1950–1954 гг. — у Швайцарыі, у 1948–1950, 1954 гг. — у Аргентыне. У 1954 г. прыехаў у Вялікую Брытанію да сына Віктара, пасяліўся ў доме, набытым для арганізацыі Хрысьціянскае аб'еднаньне беларускіх работнікаў (ХАБР). Заснаваў Беларускі вызвольны фронт. У 1962 г. з прычыны хваробы пераехаў у ЗША да дачкі й зяця Галіны й Мікалая Мінкевічаў. У 1962 г. прыпыніў дзейнасьць БЦР, аднавіўшы яе ў 1974 г. Ягоны ад'езд зь Вялікай Брытаніі справакаваў крызіс і раскол у ХАБР. Памёр у горадзе Бэнтан-Гарбар, дзе жылі Мінкевічы. Паводле тастамэнту, пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках праваслаўнай царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**АЎДЗЕЙ Тамара** (дзяв. **Карповіч**; 27.08.1929, Клецк — 18.11.2011, Мінэапаліс (*Minneapolis*), Мінэсота, ЗША), грамадзкая дзяячка. Разам з бацькамі ў 1944 г. апынулася ў Нямеччыне. Пасьля Другой сусьветнай вайны ў Рэгенсбурзе ўдзельнічала ў арганізацыі беларускага скаўтынгу. У 1949 г. скончыла Беларускую гімназію імя Янкі Купалы. У 1950 г. выехала ў ЗША. Скончыла Ратгерскі ўнівэрсытэт, а таксама Нью-Ёрскі гарадзкі ўнівэрсытэт па спэцыяльнасьці гуманістыка й мовы. У 1950-х гг. пабралася шлюбам зь беларусам Іванам Аўдзеем. Ва

ў ЗША. Узначальваў катэдру сучасных моваў і расейскай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Політэхнічнага інстытуту імя Рэнсэліра, што ў Троі (*Troy*, штат Нью-Ёрк). Аўтар кніг: “На берагох пад сонцам” (1964), “На Сьвятой зямлі” (1972), “Паэта з Божае ласкі. Успамін і роздум пра паэта Язэпа Пушчу” (1979), “Пад лебядзіным знакам. Аповесьць пра Максіма Багдановіча” (1983), “Вялікія дарогі” (1997). Пахаваны ў Джорданвіле (*Jordanville*, Нью-Ёрк) на могілках манастыра Сьв. Тройцы.

**СЯНКЕВІЧ Аляксандар** (01.02.1884, Мікалаеўшчына (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 29.06.1938), грамадзкі дзеяч, пэдагог, мэдык. У 1902 г. скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю, разам зь Якубам Коласам. Быў актыўным удзельнікам беларускага нацыянальнага руху і адным з арганізатараў Беларускага настаўніцкага саюзу. У 1906 г. быў сакратаром першага нелегальнага сходу беларускіх настаўнікаў, а пасьля вымушаны быў зьехаць у ЗША. У 1913 г. скончыў Мэрылэндзкі ўнівэрсытэт у Балтымары з дыплёмам лекара. Тады ж актыўна ўлучыўся ў палітычны, сацыялістычна-анархісцкі рух. Разам з жонкаю Ганнай заснаваў колькі гурткоў землякоў-беларусаў, дзе выкладаў ім асновы палітычнае ідэалёгіі, рэвалюцыйнае дзейнасьці. Пасьля рэвалюцыйных падзеяў 1917 г. вярнуўся ў Расею. Быў сябрам Прыморскай земскай управы. Арганізаваў мэдычную службу савецкіх узброеных сілаў на Далёкім Усходзе. Быў чальцом выканкаму й кіраўніком аховы здароўя савецкага Прымор’я. Пэўны час узначальваў ваенна-рэвалюцыйную следчую камісію. На пачатку 1920-х гг. вярнуўся ў Беларусь. З 1921 г. — наркам аховы здароўя БССР. З 1923 г. — на партыйнай працы ў Менску, Барысаве й Віцебску. З 1926 г. — дацэнт БДУ, з 1928 г. — рэктар Камуністычнага ўнівэрсытэту Беларусі імя Леніна, адначасова загадчык аддзелаў друку, культуры й прапаганды ЦК КП(б) Беларусі. У 1931–1932 гг. працаваў у Інстытуце літаратуры й мастацтва Беларускай АН. З 1932 г. — дырэктар Інстытуту гігіены й санітарыі Наркамату аховы здароўя РСФСР, з 1935 г. — ва Ўсесаюзным радыёкамітэце. У 1938 г. арыштаваны й расстраляны.

**СЯНКЕВІЧ Аляксей** (15.11.1904, Новы Сьвержань Менскага пав. (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 12.12.1991, Саўт-Рывэр, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1930-х гг. быў адным з стваральнікаў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі, якая працавала ў Заходняй Беларусі. Напярэдадні Другой сусьветнай вайны быў вымушаны выехаць у Нямеччыну, кіраваў аддзелам Бэрлінскага беларускага камітэту ў Белай Падляскай. У 1942–1943 гг. рэдагаваў менскую газэту “Голас

вёскі". Зь вясны 1944 г. — афіцэр прапаганды БКА. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры, браў удзел у грамадзкім жыцьці, быў сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады, актывістам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**СЯНКЕВІЧ Віктар** (19.01.1926, в. Гірстуны (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч, гісторык, журналіст. У часе нямецкай акупацыі быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам зь якой улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, пайшоў добраахвотнікам у 2-гі Польскі корпус. У 1946 г. апынуўся ў Вялікай Брытаніі. Адзін з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. У 1947 г. быў абраны на пасаду сакратара Галоўнай управы арганізацыі. Жыў у Оксфардзе. У 1953 г. выехаў вучыцца ў Гішпанію. У 1958 г. скончыў філязофскі факультэт Мадрыдзкага ўнівэрсытэту, абараніў дысэртацыю "Пачаткі Вялікага Княства Літоўскага". У 1958–1961 гг. працаваў у Беларускай сэкцыі Нацыянальнага гішпанскага радыё. Супрацоўнічаў зь Беларускай рэдакцыяй радыё "Вызваленьне" й радыё "Ватыкан". Напісаў каля дзьвюх тысячаў гутарак-артыкулаў "Гаварыў Язэп Барэйка". Пісаў для беларускіх эміграцыйных пэрыёдыкаў "Зважай!", "Бацькаўшчына", "Беларус". Чытаў лекцыі ў Каталіцкім унівэрсытэце г. Памплёна (*Pamplona*). З 1992 г. жыў у Сан-Францыска (ЗША). Зьнік бязь вестак.

**СЯНЬКОЎСКІ Юры** (06.05.1926, в. Залесьсе (сёньня Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 13.02.1995, Мюнхэн, Нямеччына), грамадзкі дзеяч, журналіст. У часе акупацыі быў сябрам СБМ, потым служыў у батальёне "Дальвіц". Па сканчэньні вайны апынуўся ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце. Актыўны ўдзельнік скаўтынгу, у 1949 г. прызначаны кіраўніком Беларускага скаўтынгу на чужыне. Сябра рэдкалегіі часопісу "Напагатове". У 1950–1956 гг. навучаўся ў Лювэнскім унівэрсытэце на эканамічным факультэце. Адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага згуртаваньня, удзельнік Беларускага хору, створанага Міколам Равенскім. Па сканчэньні ўнівэрсытэту пераехаў у Мюнхэн, дзе працаваў у Беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне" ("Свабода"), а зь сярэдзіны 1980-х гг. быў яе кіраўніком.

**ТАРАСЭВІЧ Ян** (20.10.1892, в. Клешнякі (сёньня Шчучынскі р-н Гарадзенскай вобл. — 11.06.1978, Лайл (*Lisle*, Іліной), ЗША), рэлігійны

й грамадзкі дзеяч. З 1911 г. жыў у ЗША. У 1917–1918 гг. вывучаў тэалёгію ў Манрэалі (Канада), у 1925 г. скончыў Фрыбурскі каталіцкі ўнівэрсытэт у Швайцарыі. У 1923 г. быў рукапакладзены на сьвятара. У 1926 г. выкладаў у сэмінарыі ў Нью-Ёрку. З 1937 г. працаваў у кляштары ў Лайле каля Чыкага. У 1941 г. стаў адным з заснавальнікаў і старшынём (да 1948 г.) Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады ў Чыкага. Аўтар шэрагу філязофска-тэалягічных трактатаў, друкаваўся на старонках міжваенных заходнебеларускіх і паваенных эміграцыйных рэлігійных пэрыёдыкаў. Пахаваны на могілках кляштару Сьв. Пракопа ў Лайле (Іліной).

**ТАТАРЫНОВІЧ Пётра** (02.06.1896, в. Гайнін Слуцкага пав. (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 03.09.1978, Рым, Італія), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, пэдагог, перакладнік, публіцыст. У 1921 г. рукапакладзены ў сьвятары. Працаваў у парафіях Заходняй Беларусі. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945–1949 г. навучаўся ў Рыме, абараніў доктарскую дысэртацыю, прысьвечаную Кірылу Тураўскаму. У 1950 г. заснаваў беларускі каталіцкі часопіс *“Źnič”*, які й рэдагаваў цягам 1950–1975 гг. Заснаваў Беларускую рэдакцыю радыё “Ватыкан” й быў галоўным яе працаўніком.

**ТРУСЭВІЧ Лявон** (1924, в. Паланая Наваградзкага пав. (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 2000, Тампа, Флорыда, ЗША), грамадзкі дзеяч. За палякамі навучаўся ў роднай вёсцы, у Карэлічах, за саветамі — у Наваградку. У 1942 г. скончыў настаўніцкія курсы, пасьля чаго ў якасьці настаўніка гісторыі й геаграфіі скіраваны на Лідчыну. З прычыны дзейнасьці Арміі Краёвай і савецкіх партызанаў мусіў вярнуцца ў Наваградак. З 1944 г. — на эміграцыі. Навучаўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбурзе й Міхэльсдорфе. У 1946–1950 гг. навучаўся Марбурскім унівэрсытэце Філіпа (Нямеччына). У 1950 г. прыехаў у ЗША. Рэдагаваў “Інфармацыйны бюлетэнь Беларускага студэнцкага таварыства ў ЗГА”. Старшыня Чыкагаўскага аддзелу Згуртаваньня беларусаў у штаце Іліной. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Загінуў у часе пажару.

**ТУЛЕЙКА Міхась** (08.09.1915, Нясьвіж (сёньня Менская вобл.) — 06.03.1998, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1936 г. скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю, адкуль адразу быў забраны ў польскае войска на падрыхтоўчыя афіцэрскія курсы. Працаваць настаўнікам пачаў у 1937 г. у Нясьвіжы, пазьней — у Снове. У 1939 г. быў зноў мабілізаваны, пад Варшаваю паранены. Працаваў у Нясьвіжы —

спачатку настаўнікам, пасьля заступнікам дырэктара настаўніцкай сэмінарыі. Пазьней працаваў у Баранавіцкай настаўніцкай сэмінарыі. Кіраваў камітэтам Беларускай народнай самапомачы на Баранавіцкую акругу. Быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага кангрэсу. З 1944 г. — на эміграцыі. У Бэрліне ў 1944 г. у рангу афіцэра быў далучаны да кадравага батальёну, што фармаваўся ў школе на *Lychenerstrasse*. У сфармаваны ў пачатку 1945 г. у Баварыі батальён, аднак, пасланы ня быў. Замест таго вербаваў добраахвотнікаў у беларускае войска. Студыяваў у Мюнхэнскім унівэрсытэце *UNRRA* і Ўкраінскім вольным унівэрсытэце ў Рэгенсбурзе. Заснавальнік Беларускага студэнцкага згуртаваньня. У 1949 г. выехаў у ЗША. Быў абраны першым старшынём Згуртаваньня беларуска-амэрыканскай моладзі. Уваходзіў у рэдакцыйную калегію часопісу "Віці". Зарганізаваў першы беларускі скаўтынгавы атрад у Амэрыцы. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у тым ліку пэўны час кіраваў Нью-Ёрскім і Нью-Джэрзійскім аддзеламі арганізацыі. Найбольш часу аддаваў працы на пасадзе старшыні парафіяльнай рады БАПЦ у Брукліне, быў рэгентам хору. Пазьней, пераехаўшы ў Нью-Джэрзі, працягваў сваю грамадзка-рэлігійную дзейнасьць у Гайлэнд-Парку. Пахаваны ў Іст-Брансўіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ТУМАШ Вітаўт** (20.12.1910, в. Сьпягліца, Вялейскага пав. Віленскай губ. (сёньня в. Сьвяцілавічы Смаргонскага р-ну Гарадзенскай вобл.) — 27.04.1998, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, лекар, навуковец (скарыназнаўца), муж Ксеніі Тумаш. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. У 1933–1938 гг. навучаўся на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюзу й Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Па сканчэньні навучаньня працаваў у этнічнай Польшчы. Пасьля верасьня 1939 г. працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце ў Варшаве. У 1940–1941 гг. быў старшынём Беларускага камітэту ў Лодзі. З пачаткам нямецкай акупацыі Беларусі ў ліпені — лістападзе 1941 г. быў кіраўніком цывільнай адміністрацыі Менску. Напрыканцы 1941 г. выехаў у Нямеччыну, займаўся лекарствам, уваходзіў у рэдакцыі бэрлінскіх газэтаў "Раніца" й "Беларускі работнік", працаваў у бэрлінскім аддзеле Беларускай народнай самапомачы. У 1948 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Меў лекарскую практыку, а ўвесь вольны час прысьвячаў грамадзкай і навуковай дзейнасьці. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, старшынём Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Адзін з заснавальнікаў БІНіМу й яго кіраўнік у 1955–1982 гг. У 1979–1982 гг.

быў старшынём Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Аўтар шэрагу навуковых працаў, найперш скарыназнаўчай тэматыкі. Пахаваны ў Іст-Брансўіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ТУМАШ Ксенія** (дзяв. **Грыгарчук**; 05.08.1913, в. Стойлы (сёньня Пружанскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 25.09.1989, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка Вітаўта Тумаша. Скончыла польскую гімназію імя А. Міцкевіча ў Пружанах. Вучылася на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Належала да Беларускага студэнцкага саюзу. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны, у лягеры *DP* у Ватэнштэце. Самадзейная мастачка. У 1948 г. выехала ў ЗША. Была сябрай Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывісткай Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. З прычыны цяжкое хваробы адышла ад грамадзкае дзейнасьці. Пахаваная ў Іст-Брансўіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**УРБАН Павал (Паўла)** (27.03.1924, в. Закаліўе (сёньня Лепельскі р-н Віцебскай вобл.) — 02.02.2011, Мюнхэн, Нямеччына), гісторык, грамадзкі дзеяч. У 1940 г. паступіў у школу фабрычна-заводзкага навучаньня ў Віцебску. Падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі ў Лепелі. У 1944 г. разам з аддзелам дапаможнай паліцыі пакінуў Беларусь, быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перабываў ў Францыі. Пазьней апынуўся ў Арміі Ўласава, па раззбраеньні якой трапіў у лягер *DP* у Інгальштаце. Навучаўся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У 1948 г. разам зь сябрамі з "Дванаццаткі" выехаў у Вялікую Брытанію на працу ў вугальных капальнях. З 12.03.1948 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, а таксама з 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Уваходзіў у Беларускае хрысьціянскае акадэміцкае аб'еднаньне "Жыцьцё". У 1950 г. выехаў вучыцца ў Бэльгію. Навучаўся на гістарычным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту. Быў сакратаром і скарбнікам беларускай студэнцкай арганізацыі ў Лювэне, а таксама сакратаром Саюзу беларусаў Бэльгіі. У 1954 г. абараніў дысэртацыю пра дзейнасьць вялікага князя літоўскага й польскага караля Аляксандра. З 1955 г. жыў у Мюнхэне, працаваў у Інстытуце вывучэньня СССР, пісаў матэрыялы для радыё "Свабода", быў сурэдактарам газэты "Бацькаўшчына". Быў скарбнікам і адміністратарам выдавецтва "Бацькаўшчына". У 1974–1989 гг. быў сталым супрацоўнікам Беларускай рэдакцыі радыё "Свабода".

**УРБАНОВІЧ Міхал** (30.10.1890, м. Астрына (сёньня Шчучынскі р-н Гарадзенскай вобл. — 04.08.1973, Чыкага, ЗША), каталіцкі сьвятар.

У 1910 г. паступіў у Варшаўскую каталіцкую сэмінарыю. 24.01.1915 г. рукапакладзены на сьвятара. Служыў у Віленскай япархіі. У 1922 г. уступіў у ордэн марыянаў. У 1924 г. выехаў у ЗША. Выкладаў у каталіцкай сэмінарыі каля Чыкага. Ва Ўнівэрсытэце імя І. Лаёлы абараніў магістэрскую дысэртацыю па багаслоўі. У 1926 г. прыняў манаства. Служыў у касьцёле Вострабрамскай Божай Маці ў Чыкага. Дзякуючы веданьню літоўскай мовы шмат працаваў для мясцовых летувісаў. Быў знаёмы зь Янам Тарасэвічам, удзельнічаў у жыцьці беларускай грамады ў Чыкага. У 1944–1950 гг. зноў навучаўся ва Ўнівэрсытэце імя І. Лаёлы, атрымаў ступень магістра псыхалёгіі. Друкаваўся ў беларускіх эміграцыйных пэрыёдыках “Божым Шляхам”, “Зьніч” і інш. Пахаваны на могілках Сьв. Казіміра ў Чыкага.

**ХАНЯЎКА Часлаў** (26.05.1909, Рыга, Латвія — 02.07.1988, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Навучаўся ў Віленскай беларускай гімназіі й на агранамічным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Браў актыўны ўдзел у Беларускім студэнцкім саюзе. Падчас Другой сусьветнай вайны працаваў у Камітэце беларускай самапомачы ў Бэрліне, Беларускім камітэце ў Варшаве. Займаўся вызваленьнем беларусаў, што трапілі ў нямецкі палон. У паваеннай Нямеччыне займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. У 1950-х выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, адзін з заснавальнікаў і сябра ўправы Нью-Джэрзійскага аддзелу арганізацыі. Пахаваны ў Іст-Брансўіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ХМАРА Сяргей** (сапр. **Сіняк**, на эмігр. **Марыян Зіняк**; 25.05.1905, в. Казлоўшчына Слонімскага пав. (сёньня Дзятлаўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 04.09.1992, Таронта, Канада), паэт, публіцыст, грамадзкі дзеяч, выдавец. У час польскай акупацыі Заходняй Беларусі працаваў настаўнікам. У 1927 і 1939 гг. яго арыштоўвала дэфэнзыва. У часе нямецкай акупацыі працаваў у Беларускай народнай самапомачы ў Слоніме. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У Бэрліне заснаваў палітычную суполку пад назвай “Двупагоня”. У 1948 г. прыехаў у Канаду. Жыў у Таронта. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, потым Беларускага нацыянальнага аб’яднаньня. Выдаваў газэту “Беларускі голас”, часопіс “Баявая ўскалось”, таксама шэраг літаратурных і сатырычных выданьняў. Стваральнік Канадыйскага клюбу этнічных журналістаў і пісьменьнікаў. Аўтар кніг: “Аб багох крывіцкіх сказы” (1946, 1948, 1986), “Сказы Бацькаўшчыны” (1949), “Мы” (1949). Пахаваны ў Таронта на *York Cemetery*.

**ЦЕЛЕШ Мікола** (25.06.1900, в. Зазер’е Барысаўскага пав. (сёньня в. Заазер’е Лепельскага р-ну Віцебскай вобл.) — пасьля 1976 г.), літаратар, перакладнік. Навучаўся ў Бялыніцкай народнай вучэльні. З 1916 г. жыў на поўдні Расеі, працаваў на Данбасе (Украіна). У 1919 г. уступіў у Чырвоную Армію, адкуль дэмабілізаваўся ў 1924 г. З 1929 г. пачаў друкавацца ў пэрыёдыках. Перад вайной працаваў у часопісе “Паляўнічы Беларусі”, выдаў чатыры кнігі прозы. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Зарабляў фізычнай працай. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва яго Нью-Ёрскага аддзелу. У 1976 г. зьнік бязь вестак. Аўтар выдадзеных на эміграцыі кніг: “Дзесяць апавяданьняў” (1965) і “Хмары над Бацькаўшчынай” (1995).

**ЦЬВІКЕВІЧ Аляксандар** (22.06.1888, Берасьце — 30.12.1937, Менск), палітык, навукоўца, публіцыст. У 1921—1923 гг. — міністар замежных справаў ва ўрадзе БНР Вацлава Ластоўскага, у 1923 г. узначаліў альтэрнатыўны ўрад БНР. На II Усебеларускай канфэрэнцыі ў Бэрліне ў 1925 г. прызнаў дасягненьні культурнага будаўніцтва ў БССР і ліквідаваў урад БНР, неўзабаве пераехаў у Менск. У 1930 г. быў арыштаваны ў справе “Саюзу вызваленьня Беларусі” і асуджаны да 5 гадоў высылкі. Паўторна арыштаваны ў 1937 г. і расстраляны.

**ЦЬВІРКА Ўладзімер** (да эмігр. **Вадзім Сурко**; 02.01.1928, в. Бержное (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 15.03.1992, Мюнхэн, Нямеччына), грамадзкі дзеяч, журналіст. Жыў у Міры. У 1947 г. скончыў гімназію імя Я. Купалы ў Міхэльсдорфе. Быў скаўтмайстрам у беларускіх лягерах *DP* у Герэнбурзе й Майнлёйзе. У 1948 г. разам зь іншымі сябрамі “Дванаццаткі” прыбыў на працу ў вугальных капальнях у Вялікай Брытаніі. Браў актыўны ўдзел у выданьні часопісу “Наперад!”. З 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, а таксама з 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Сябра Беларускага хрысьціянскага акадэміцкага аб’еднаньня “Жыцьцё”. У 1950–1954 гг. навучаўся ў Лювэнскім унівэрсытэце. З 1954 г. працаваў у Беларускай рэдакцыі радыё “Вызваленьне” ў Мюнхэне. У 1959–1968 гг. — галоўны рэдактар Беларускай службы радыё “Вызваленьне”. Супрацоўнічаў таксама з рэдакцыяй газэты “Бацькаўшчына”. Пахаваны ў Мюнхэне на *Westfriedhof*.

**ЦЯЎЛОЎСКІ Эміль** (каля 1910, Стаўпеччына — ?), навуковы дзеяч, публіцыст. Магчыма, служыў у Арміі Андэрса. У 1948 г. прыбыў

зь Вялікай Брытаніі ў Аргентыну. Жыў у Буэнас-Айрэсе. Адзін з працаўнікоў мясцовага каталіцкага ўнівэрсытэту, аўтар тэкстаў для Беларускай рэдакцыі радыё “Свабода”, а таксама газэты “Беларус” пра жыцьцё ў Аргентыне.

**ЧАЙКОЎСКІ Зьміцер** (20.10.1912, Клецк (сёньня Менская вобл.) — 2002, Мюнхэн, Нямеччына), мастак, вайсковы дзеяч. Навучаўся ў Клецкай беларускай гімназіі, у 1937–1939 гг. — у Кракаўскай акадэміі мастацтваў. У 1942–1943 гг. у рангу лейтэнанта быў камандзірам роты беларускага чыгуначнага батальёну ў Менску. Пасьля эвакуацыі зь Беларусі, у лістападзе 1944 г. атрымаў ранг надлейтэнанта. Да 27.11.1944 быў ад’ютантам камандуючага БКА Францa Кушаля. Служыў у 1-м Кадравым батальёне БКА ў Бэрліне ў складзе афіцэрскай школы, быў сябрам Статутовай камісіі Галоўнага камандаваньня вайсковымі сіламі БЦР. З пачатку 1945 г. камандаваў 2-м стралковым батальёнам у 1-й грэнадэрскай брыгадзе “Беларусь”. У канцы красавіка 1945 г. разам з брыгадай перайшоў праз фронт да амэрыканцаў. Выкладаў малюнак і фізычнае рыхтаваньне ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбурзе. Пасьля вайны жыў у Мюнхэне. Працаваў у газэце “Бацькаўшчына”, на радыё “Вызваленьне” (“Свабода”), быў сябрам БІНіМу. Вядомы майстра партрэту й сакральнага жывапісу. Ягоныя палотны выстаўляліся на розных экспазыцыях у Эўропе й Амэрыцы.

**ЧАРАПУК Антон** (каля 1878 (?) — ?, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч, бацька Янкі Чарапука. У 1919 г. прыехаў у ЗША. Быў сярод стваральнікаў першых беларускіх арганізацыяў у Чыкага.

**ЧАРАПУК Янка** (псэўд. **Змагар**; 24.08.1896, Новы Двор Сакольскага пав. Гарадзенскай вобл. (сёньня Падляскае ваяв., Польшча) — 16.11.1957, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч, сын Антона Чарапука. Навучаўся на юрыдычным факультэце Пецярбурскага ўнівэрсытэту. У 1918 г. — супрацоўнік Міністэрства замежных справаў Украінскай Народнай Рэспублікі, чалец Беларускай рады ва Ўкраіне. З канца 1918 г. — на Гарадзеншчыне, быў сакратаром Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны й Гарадзеншчыны. З канца 1919 г. жыў у Рызе, працаваў сакратаром Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі й Эстоніі, сябра Народнай Рады БНР. У 1922 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Адзін з ініцыятараў стварэньня Беларускага народнага камітэту ў штаце Іліной, Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады. Уваходзіў у міжнародную каталіцкую арганізацыю “Рыцары Калюмба” (меў найвышэйшую ступень).

**ЧАРНЯЎСКІ Францішак** (03.11.1893, в. Чухны Ашмянскага пав. Віленскай губ. (сёньня Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 31.05.1979, Амстэрдам, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, выдавец, дзядзька беларускага сьвятара а. Уладзіслава Чарняўскага. Навучаўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай сэмінарыі. У 1920 г. атрымаў сьвятарскія пасьвячэньні. У 1924–1927 гг. навучаўся ў Рыме ў Папскім грыгарыянскім унівэрсытэце й Усходнім інстытуце. З 1929 г. жыў у Францыі. Абслугоўваў рэлігійныя патрэбы работнікаў вугальных капальняў. Пераехаў у Бэльгію, у 1953–1955 гг. — у кляштары бэнэдыктынаў. Рэдагаваў бюлетэнь “Божае слова”. У 1957 г. выехаў у ЗША. Выдаваў часопіс “Сяўбіт”. Пахаваны ў Форт-Эдўардзе (*Fort Edward*, штат Нью-Ёрк).

**ШАБОВІЧ Сьвятаслаў** (нар. 17.11.1932, фальв. Марцінова (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.), грамадзкі дзеяч, аўтар успамінаў. У маладым веку страціў бацькоў і пад апекаю сям’і дзядзькі — сьвятара Яна Жарскага – празь Нямеччыну ў 1949 г. апынуўся ў ЗША. Быў сябрам БАЗА. Жыў у Масачусэтсе, потым у Дэтройце, дзе скончыў Заходне-Мічыганскі ўнівэрсытэт з ступеньню магістра бібліятэказнаўства. Працаваў унівэрсытэцкім бібліятэкарам у Тэхасе, Паўночнай Караліне, Індыяне. Жыве ў Фармінгтан-Гілзе (*Farmington Hills*, Мічыган). Аўтар успамінаў “З фальварку Марцінова да Фармінгтонгскіх узгоркаў” (Менск, 2015).

**ШАКУН Янка** (01.05.1916–03.03.1993, ЗША), пісьменьнік. Жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны.

**ШУКЕЛОЙЦЬ Антон** (19.07.1915, хут. Якелеўшчына (сёньня Ашмянскі р-н Гарадзенскае вобл. — 07.01.2017, Нью-Ёрк), грамадзка-культурны дзеяч. У 1935 г. скончыў Ашмянскую павятовую гімназію, дзе захапіўся сацыялістычнымі ідэямі. У 1935–1939 гг. навучаўся ў Віленскім унівэрсытэце на спэцыяльнасьці этнаграфія й філялёгія. Належаў да Беларускага студэнцкага саюзу, старшыняваў у Таварыстве прыяцеляў беларусаведы, сьпяваў у беларускім студэнцкім хоры Рыгора Шырмы. Уваходзіў у Польскую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. З 1939 г. працаваў у сыстэме адукацыі, у т. л. інспэктарам-мэтадыстам Ашмянскага р-ну, займаўся адкрыцьцём беларускіх школаў. З 1940 г. быў дэпутатам Ашмянскага гарадзкога савету. 23.06.1941 арыштаваны НКВД і пасаджаны ў менскую турму. Пры пераводзе ў турму ў м. Крупкі ўцёк. Працаваў у гарадзкой адміністрацыі Менску, адказваў за захаваньне

гістарычных і архітэктурных помнікаў. З канца жніўня 1941 г. прызначаны дырэктарам Менскага гістарычнага музэю, пазьней таксама загадваў аддзелам Беларускага культурнага згуртаваньня. Зь лютага 1944 г. працаваў у аддзеле краязнаўства й музэяў пры БЦР. Зь ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне працаваў у гаспадарцы баварскага баўэра. Па вайне два гады вывучаў археалёгію ва ўнівэрсытэце *UNRRA* і Вольным украінскім унівэрсытэце ў Мюнхэне. У 1952 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку. Працаваў таваразнаўцам пры Інстытуце тэхналёгіі моды, на прыняцьці тавараў у вялікім гандлёвым доме *Orbach*. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывіст і пэўны час старшыня Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Пры канцы 1960-х — на пачатку 1970-х гг. быў дырэктарам беларускай школы ў Нью-Ёрку. Доўгі час быў сябрам рэдкалегіі газэты "Беларус". Радны БНР. Сябра БІНіМу.

**ШУПА Сяргей** (нар. 02.10.1961, Менск), філёляг, перакладнік, журналіст. Скончыў Менскі дзяржаўны пэдагагічны інстытут замежных моваў. У 1985–1987 гг. навучаўся ў асьпірантуры Інстытуту мовазнаўства АН БССР. У 1987–1991 гг. працаваў рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура". З пачатку 1980-х гадоў удзельнічаў у нацыянальным руху, быў сябрам моладзевага аб'яднаньня "Беларуская Майстроўня", адным з заснавальнікаў нефармальнага таварыства перакладнікаў "Бабілён", сябрам літаратурнага таварыства "Тутэйшыя". У 1991 г. быў навуковым супрацоўнікам Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Ф. Скарыны. З 1991 г. браў удзел у выданьні газэты "Наша Ніва" ў Вільні. З 1996 г. — супрацоўнік Беларускай рэдакцыі радыё "Свабода". Жыве ў Празе.

**ШЧОРС Мікола** (1913, Новы Сьвержань (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 22.12.1995, Маўнт-Дора, Флорыда, ЗША), грамадзкі дзеяч, лекар. Скончыў мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, займаўся актыўнай грамадзкай дзейнасьцю. У 1935–1937 гг. — старшыня Беларускага студэнцкага саюзу. У 1939 г. выехаў у Варшаву. З 1940 г. — старшыня Беларускага камітэту ў Варшаве. Кіраўнік г. зв. "групоўкі Шчорса", якая цесна супрацоўнічала зь нямецкім Абвэрам і разглядала падзеі будучай акупацыі як магчымасьць стварыць беларускую дзяржаву пад нямецкім пратэктаратам. На паседжаньні беларускага актыву ў Бэрліне 19.06.1941 быў выбраны старшынём Беларускага нацыянальнага цэнтру, які разглядаўся як урад будучай Беларусі. Аднак праз тры тыдні, пасьля наведаньня Беларусі, адмовіўся ад палітычнай дзейнасьці. Вярнуўся ў Варшаву, дзе цягам пяці гадоў

узначальваў Беларускі камітэт. З восені 1944 г. — у Нямеччыне. У 1946–1947 гг. узначальваў Беларускае праваслаўнае аб'еднаньне, падтрымаў аднаўленьне БЦР. У 1949 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку. У 1950–1951 гг. узначальваў Злучаны беларуска-амэрыканскі дапамаговы камітэт. Ініцыятар стварэньня Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, яго першы старшыня (1951–1955). У 1955 г. падаў у адстаўку з пасады старшыні. Быў адным з стваральнікаў Камітэту незалежнай Беларусі. У 1958 г. — адзін з стваральнікаў Беларуска-Амэрыканскага зьвязу. Пры канцы 1950-х адышоў ад актыўнай грамадзкай дзейнасьці, выехаў у Плэтсбург (штат Нью-Ёрк), дзе меў клініку. Быў віцэ-прэзыдэнтам Амэрыканскай асацыяцыі хірургаў. Пасьля выхаду на пэнсію пераехаў у Флорыду.

**ШЧОРС Таіса** (20.03.1920–01.07.1992, ЗША), жонка грамадзкага дзеяча Барыса Шчорса. Пахаваная ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ШЧЭЦЬКА Васіль** (15.03.1923, в. Апечкі (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 27.05.2011, ЗША), грамадзкі дзеяч. З 1942 г. навучаўся ў Мэдычнай школе ў Баранавічах. У 1944 г. выехаў на эміграцыю ў Нямеччыну. У 1947 г. скончыў Беларускую гімназію імя Я. Купалы. Працаваў сакратаром старшыні лягеру, актыўна займаўся скаўтынгам. У 1948 г. разам зь іншымі сябрамі "Дванаццаткі" выехаў на працу ў вугальных капальнях у Вялікую Брытанію. З 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, а таксама з 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Браў удзел у дзейнасьці Беларускага хрысьціянскага акадэміцкага аб'еднаньня "Жыцьцё". У 1950 г. выехаў на навучаньне ў Бэльгію. У 1955 г. скончыў факультэт палітычных і сацыяльных навук Лювэнскага ўнівэрсытэту. Выехаў у ЗША. У 1959–1988 гг. працаваў у бібліятэцы Калюмбійскага ўнівэрсытэту. Быў сакратаром Галоўнай управы БАЗА, належаў да кіраўніцтва парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. У 1965 г. разам з К. Мерляком і паплечнікамі заснаваў Беларуска-Амэрыканскае аб'еднаньне ў Нью-Ёрку, а ў 1968 г. — прыход Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Як сябра БАА й парафіі браў удзел у кангрэсах беларусаў Амэрыкі, належаў да ўраду Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, у 1980-х — прадстаўнік БККА на штат Нью-Ёрк. Жыў у Манэлапане (*Manalapan*), штат Нью-Джэрзі. Пахаваны ў Іст-Брансўіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ШЫМАНЕЦ Уладзімер** (15.05.1911, Рыга (Латвія) — 27.08.1977, Сартрувіль (*Sartrouville*), Францыя), грамадзкі дзеяч, інжынэр, бацьк-

ка Івонкі Сурвілы. У 1932 г. скончыў Віленскую тэхнічную школу. Працаваў у Стоўпцах. Зь лета 1944 г. разам зь сям'ёй — на эміграцыі. Жыў у Капэнгагене, дзе арганізаваў Згуртаваньне беларусаў Даніі. У 1948 г. пераехаў у Францыю. З 1952 г. жыў у Сартрувілі пад Парыжам, браў удзел у працы Аб'яднаньня беларускіх работнікаў у Францыі, дзейнасьці ўраду БНР (міністар фінансаў).

**ЮРЭВІЧ Алена** (22.10.1928, Менск — 02.12.2006, Нью-Ёрк, ЗША), мовазнаўца, бібліёграф, пэдагог, кандыдатка філялягічных навук, маці Лявона Юрэвіча. Скончыла філялягічны факультэт БДУ (1954). У 1960 г. абараніла кандыдацкую дысэртацыі на тэму "Катэгорыя граматычнага роду назоўнікаў у беларускай мове". У 1958–1967 гг. працавала ў сэктары гісторыі мовы Інстытуту мовазнаўства Акадэміі навук БССР. Займалася бібліяграфіяй беларускага мовазнаўства, гісторый беларускай мовы. У 1967 г. перайшла на катэдру беларускай мовы ў Беларускі дзяржаўны пэдагагічны інстытут. У 1993 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку. Была сябрай БІНіМу, займалася ўкладаньнем бібліяграфіяў беларускіх пісьменьнікаў-эмігрантаў.

**ЮРЭВІЧ Лявон** (нар. 30.06.1965, Менск), архівіст, бібліятэкар, дасьледнік беларускай эміграцыі, сын Алены Юрэвіч. Скончыў Менскі пэдагагічны інстытут (1990), навучаўся ў асьпірантуры Інстытуту літаратуры Акадэміі навук Беларусі (1990–1993). З 1993 г. жыве ў ЗША. Працуе ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы. Мае дзьве навуковыя ступені: у філялёгіі і бібліятэказнаўстве. Сябра Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, а таксама рэдакцыйнай калегіі часопісу "Запісы БІНіМ" і кніжнай сэрыі "Беларуская мэмуарная бібліятэка". Аўтар і суўкладальнік некалькіх дзясяткаў кніг, прысьвечаных беларускай эміграцыі.

**ЮХНАВЕЦ Янка** (03.11.1921, в. Забродак Бягомельскага р-ну Барысаўскай акругі (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 06.01.2004, Нью-Ёрк, ЗША), літаратар, мастак. У часе нямецкай акупацыі быў вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Пасьля вайны навучаўся ў Вольным унівэрсытэце ў Мюнхэне. Пачаў друкавацца ў 1947 г. у беларускіх пэрыёдыках. У 1949 г. выехаў у ЗША. Працаваў у галіне электронікі. Жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, яго Нью-Ёрскага аддзелу. Аўтар кніг "Шорах моўкнасьці" (1955), "Новая элегія" (1961), "Калюмбы" (1967), "Творы" (Т. 1–3, 1987–1990), "Дань майго часу" (1993), "Драматычныя начыркі" (1996).

**ЯГАЎДЗІК (ЯГОЎДЗІК) Мікола** (15.02.1926, в. Галынка (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — 08.03.1989, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч. Скончыў тры курсы настаўніцкай сэмінарыі. Быў курсантам Менскай камандзірскай школы БКА, адкуль трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС. Перайшоў на бок саюзьнікаў, быў у 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікую Брытанію. З 16.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, а таксама з 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1951 г. выехаў у Бэльгію, дзе ў 1955 г. скончыў факультэт палітычных і сацыяльных навук Лювэнскага ўнівэрсытэту. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага студэнцкага згуртаваньня, у 1952–1954 гг. — яго адміністратар У 1956 г. перабраўся ў ЗША. Пасяліўся ў Кліўлэндзе, працаваў бухгальтарам. Быў сябрам рэвізійнай камісіі Кліўлэндзкага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Узначальваў Згуртаваньне беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Пахаваны ў Кліўлэндзе.

**ЯЦЭВІЧ Аляксандар** (псэўд. **Алесь Змагар**; 01.03.1903, в. Цароўка (сёньня в. Кірава Слуцкага р-ну Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, выдавец. Браў удзел у Слуцкім паўстаньні й антысавецкай партызанцы. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам. Быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага кангрэсу. З 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Аўстрыі. У 1949 г. пасяліўся ў Францыі, быў сябрам Рады БНР. У 1956 г. выехаў у ЗША. Быў актывістам Беларускага вызвольнага руху. Сябра Літаратурнай сустані “Баявая ўскалось”. Аўтар кніг: “Рэпка” (1946), “Случчакі” (1947), “Да згоды” (1962, 1963), “Змагарны шлях” (1962), “Дзень маці” (1964), “Вызвольныя шляхі” (1965), “Лесавікі” (1973), “Мае ўспаміны” (1985), “Случчына ў вагні” (1986).

# Паказнік асобаў

# ЗМЕСТ

12+

Навукова-папулярнае выданне

Бібліятэка Бацькаўшчыны

Кніга 33

**Гардзіенка** Наталля

**Юрэвіч** Лявон

**ХРОНІКІ БІНіМу**

**Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў дакументах, лістах і ўспамінах**

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*

Рэдактар *Н. Гардзіенка*

Дызайн вокладкі *А. Лазар*

Вёрстка *В. Нога*

Карэктар *Настасся Мацяш*

Падпісана ў друк 09.08.2017. Фармат 60×84 1/16. Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 22,1. Ул.-выд. арк. 21,0. Наклад 200 асоб. Заказ 336.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.